Аляксандар Лукашук

# ТАМ, ДЗЕ НЯМА ЦЕМНАТЫ: РАДЫЁ СВАБОДА

**Нататкі дырэктара**
**Беларускай службы**
**Радыё Свабода**
**(1998 – 2023)**

Прага · Вясна · 2024

**Аляксандар Лукашук.**
**Там, дзе няма цемнаты: Радыё Свабода.**
Вясна, Прага, 2024. 376 с.

Рэдактура, карэктура
*Аляксандра Полех*
*Сяргей Шупа*

Аляксандар Лукашук узначальваў Беларускую службу Радыё Свабода з 1998 да 2023 году і расказвае, як рабілася Свабода, што яна рабіла з аўдыторыяй, журналістамі і зь ім самім.

**Ад аўтара**. Дзеля бясьпекі ў тэксьце не называюцца імёны маіх цяперашніх калег, безь якіх не было б ні гэтакай кнігі, ні такога яе стваральніка. Імёны цяперашняга начальства апушчаныя, бо кніжка не пра яго і ягоную працу, якая выклікае павагу, хоць не заўсёды згоду.

Трыццаць год на Свабодзе аўтар адчувае як адзін дзень, таму храналёгія кнігі не каляндарная, а танцавальная: крок наперад — два назад, направа — налева, уцёкі…

**ISBN 978-80-909134-3-1**

— *Are you OK?* Усё добра?..

Каму гэта? Оў... мне. Пасажыр з суседняга крэсла ўжо клікаў бортправадніцу — я самлеў у самалёце, які рыхтаваўся да ўзьлёту пад дажджом у аэрапорце Рыгі. Рэйс затрымалі, пакуль ехала хуткая дапамога, дактары рабілі свае працэдуры, потым я пераконваў, што магу ляцець — і пераканаў, і паляцеў у Вільню. Я вёз з Прагі абсталяваньне для нашых журналістаў у ручным багажы, у аэрапорце была перасадка, трэба было падымацца па крутых лесьвіцах з гэтым грузам, і абвастрыліся старыя праблемы. Глыбокае дыханьне не дапамагло, сэрца не супакойвалася, і я страціў прытомнасьць.

У начным балтыйскім небе я падумаў: гэта ня першы званок. Хопіць адкладваць.

Галоўны дзень журналістыкі, і ня толькі, — пятніца. Што выклікае пытаньне, ці ўсё ў аўтара ў парадку з арыентацыяй у часе, і ня толькі.
Але што паробіш, калі пачаў я гэтыя нататкі ў пятніцу, 15 ліпеня 2022 году, і скончыў у пятніцу, 30 верасьня 2022. Калі пятніцы раптам сталі выскокваць і патрабаваць асобных разьдзелаў, то як дзень нараджэньня самай незвычайнай перадачы, калі ў нашым этэры адначасна загаварылі па-беларуску былыя прэзыдэнты ЗША і Чэхіі, альбо як дзень, калі апошні слухач напісаў ліст на Свабоду, ці як дзень, які запатрабаваў падзяліць сябе на сем пятніц, каб хоць неяк зьмясьціць яго плынь. Ня кажучы ўжо пра пятніцу, калі ў абед мне прапанавалі звольніцца і яшчэ давалі за гэта грошы, а ўвечары не адпусьцілі нават у адпачынак за свой кошт. Што, вядома, выклікае пытаньне, ці ўсё ў аўтара ў парадку зь іншымі днямі, і ня толькі.
Семдзесят разоў апошні працоўны дзень тыдня сустракаецца ў тэксьце і фігуруе ў загалоўках. Хоць які ён апошні, калі навіны не спыняюцца 24/7.
Марна шукаць нагоду адсьвяткаваць пятніцу. Пятніца — сама нагода. Што, на думку аўтара, не выклікае пытаньняў.

## Пятніца, 15 ліпеня 2022. 05:09

Сонца ўзыходзіла, калі цьвякнуў тэлефон — дачка пісала, што дзень нараджэньня ў нядзелю адмяняецца, пазытыўны ковід-тэст. У адказ на спачуваньні пацікавілася, чаму я ня сплю, можа, што здарылася? Доўгая гісторыя, кароткая ноч.

Я пачынаю гэтую кнігу ў канцы доўгага дня, сонца ўжо заходзіць, але першае, што напісаў у гэты дзень, — пасланьне сваім калегам.

«Дарагія сябры,

год таму адбыўся напад улады на наша бюро ў Менску, прайшлі ператрусы, канфіскацыі і арышты Іны, Алеся і Алега, якія апынуліся за кратамі. Валянцін перамог спэцслужбы, якія ўварваліся ў кватэру, але ня здолелі яго затрымаць. Тайфун пераменаў з таго часу раскідаў нашых калег па розных краінах, трое з нас за кратамі, чацьвёра яшчэ ў Менску.

Вашы асабістая стойкасьць, мужнасьць, адвага, салідарнасьць і ахвярнасьць, адданасьць журналістыцы — залатыя старонкі новай гісторыі Беларусі, якую мы штодня пішам. Вашы сем'і, блізкія людзі дзеляць гэты цяжар і гонар з вамі.

Адзначце гэты ліпеньскі дзень чым-небудзь асаблівым — ён варты і малітвы і тосту, паштоўкі ў турму і ўспамінаў для будучай кнігі, можна пайсьці ў парк ці на канцэрт, занесьці кветку да помніка, запаліць сьвечку ў вакне, узьняць келіх.

Шчыры дзякуй вам.

За нашу і вашу Свабоду!»

Лічыцца, што гісторыя Беларусі мае дакладную дату новага пачатку — 9 жніўня 2020 году, калі людзі паўсталі за свае права выбіраць і з насельніцтва ператварыліся ў народ. Усе дакладнасьці — толькі мэтафары, якія хоць і дакладныя, але па-іншаму і пра іншае.

Ужо на пачатку лета, калі пачаліся першыя перадвыбарчыя сустрэчы, у паветры зьявіўся новы гук, які лавілі мікрафоны і камэры Свабоды. Сказы сталі даўжэйшыя, лягічныя, аргумэнтацыя пераканаўчая, ацэнкі разгорнутыя, зьмянілася нават артыкуляцыя. Твары разгладзіліся і пасьвятлелі, зьнікла звыклая насьцярожанасьць — быццам у краіну ўпусьцілі кісларод. Да мікрафонаў Свабоды станавіліся ў чаргу — было што сказаць, хацелася гаварыць, быць пачутым. Новая гісторыя нараджалася праз мову. Свабода заўсёды нараджаецца праз мову.

Калі 25 чэрвеня 2020-га тузін істотаў у бронекамізэльках і масках уварваліся ў кватэру журналіста і блогера Ігара Лосіка ў Баранавічах, калі пачаліператрус на вачах жонкі і аднагадовай дачкі, а потым забралі Ігара — гэта таксама было пачаткам.

Вайна супраць свабоды заўсёды пачынаецца з вайны супраць слова.

## Перад турмой

Калі чалавек правярае свой тэлефон дзьвесьце разоў на дзень, гэта называецца залежнасьць, абсэсія, мэдычная праблема, якая замінае нармальна існаваць і эфэктыўна працаваць.

Бывалі дні, калі я правяраў свой тэлефон часьцей — ці не арыштавалі яшчэ каго-небудзь з нашых карэспандэнтаў, ці не ідзе ператрус, ці ня зьбілі, ці ня зьнішчылі тэхніку, ці ня зьнік чалавек. Навіны пра затрыманьні журналістаў, знаёмых і незнаёмых, у Менску і рэгіёнах ішлі няспынным патокам.

Журналістаў хапалі, судзілі, саджалі на суткі, штрафавалі, запалохвалі, псавалі тэхніку і раней. У 2020 годзе гвалт ператварыўся ў дзікае паляваньне.

Аднаго калегу схапілі пасьля выбарчага рэпартажу, зьбілі, зламалі нос, закінулі ў аўтобус і прымусілі кленчыць ва ўласнай крыві. У камэру да другой нашай арыштанткі выплёхвалі вядро хлёркі і затыкалі ўсе шчыліны — газавая атака выклікала хімічныя апёкі сьлізістых абалонак. У трэцяга на вачах выцягнулі жонку з аўтамабіля, самога пратрымалі ноч на каленях, тварам у асфальт, без вады і лекаў. Калі ён выйшаў і мы хацелі абмеркаваць няспынную хвалю зьверстваў за круглым сталом, ён адмовіўся: усё, што зможа сказаць, гэта што трэба разбамбіць казармы АМАПу. А гэта не аналітыка.

Рэдакцыя працягвала працаваць. Нашых карэспандэнтаў пазнавалі на вуліцах і прапаноўвалі дапамогу, таксісты бясплатна падвозілі апэратараў з камэрамі, у кафэ частавалі кавай, незнаёмыя людзі пускалі ў свае кватэры, каб адтуль здымаць шматтысячныя дэманстрацыі на плошчах і вуліцах.

У другой палове жніўня 2020-га была пастаўлена кропка на нашай частковай легальнасьці: пазбавілі акрэдытацыі і заблякавалі сайт. Далей рабілася толькі горш.

Журналістам, як і вайскоўцам, уласьцівая пэўная бравада перад небясьпекай — гэта частка псыхалягічнай трываласьці, і ў гэтым ёсьць рацыя. Менш увагі надаецца кошту і наступствам. А яны несуцяшальныя: рэпрэсіі працуюць, іх эфэктыўнасьць і разбуральны вынік неаспрэчныя.

Калі журналіст у турме, ягоная праца ня робіцца, калі сайт заблякаваны, навіны не даходзяць да спажыўца, калі радыё глушаць, перадачы ідуць не ў этэр, а ў архіў. Але гэта ня ўсё: выдаткі на адвакатаў, на дапамогу сем'ям, на пошук новых сродкаў, на нарады пра тое, што рабіць далей, забіраюць час, увагу і энэргію. Ты не ствараеш, ня рухаесься наперад, а бароніська.

Свабода мэдыяў заўсёды была тэмай Свабоды, як і тэма турмы, бо гэта галоўныя тэмы жыцьця ў прэзыдэнцкай Беларусі. У 2011 годзе мы пачалі штотыднёвую перадачу «Свабода ў турмах», пра жыцьцё за кратамі, і тады ж разам зь Беларускім ПЭНам заснавалі прэмію за турэмную літаратуру імя Францішка Аляхновіча, і колькасьць твораў, паўсталых з уласнага досьведу аўтараў, на жаль, толькі расьце*.

Але рэпрэсіі апошніх двух гадоў адрозьніваліся ад ранейшых. Яны не спыняліся пасьля разгрому СМІ і грамадзянскай супольнасьці, пасьля задушэньня супраціву, бо са сродку захаваньня ўлады зрабіліся ладам жыцьця гэтай улады. Зьнікла вонкавая лёгіка, засталася толькі ўнутраная. Заканадаўства было перабудавана

* Назвы кніг «Бібліятэкі Свабоды» гавораць самі за сябе: «Адзін дзень палітвязьня» (два тамы, 2009, 2011), «Справа Бяляцкага» (2012), «Турма і здароўе» (2013), «108 дзён і начэй у засьценках КДБ» (2013), «Турма, мужчына і жанчына» (2018), «Тантамарэскі» (судовы працэс мытнікаў, 2019), «Мае турэмныя муры» (2023).

пад гвалт, дыгіталізацыя стала інструмэнтам дыктатуры, таталітарызм завяршыў сваё фармаваньне. Хоць таталітарызм — занадта мадэрны сынонім для барбарства.

Цяпер, калі я пішу гэтыя радкі, на сайце Свабоды ёсьць разьдзел, які называецца коратка і вычарпальна: «За кратамі, бо журналісты». Там больш за тры дзясяткі імёнаў, і першым ідзе імя журналіста Свабоды Ігара Лосіка.

## За кратамі: Ігар

— Ігар!

Галава адрываецца ад кампутара, быццам вынырвае з марскога бяздоньня, і я паказваю рукой — сядзь роўна, а то хутка за пяткі з экрана выцягваць давядзецца.

У 2013 годзе Ігар Лосік прыехаў у Прагу на стыпэндыю Вацлава Гаўла, якой узнагароджваюцца маладыя таленавітыя журналісты краінаў Усходняга партнэрства Эўразьвязу, і дзевяць месяцаў правёў у рэдакцыі. Лепш было б напісаць — ягонае цела правяло амаль год у рэдакцыі, гаварыла мала і няголасна, глядзела ўважліва і ціха ўсьміхалася, пакуль сам Ігар вёў свае дыгітальныя дывізіі ў атаку, адбіваўся ад троляў, пасылаў прыцэльныя і важкія, як балістычныя ракеты, твіты.

Я ня ведаю, што Ігар адчуў, калі пабачыў артыкул у *The New York Times* пра пачатак расейскай вайны ў Данбасе ў 2014 годзе, які канчаўся заклікам «перашліце гэты твіт» — бо гэта было пра ягоны твіт. Уначы ў Баранавічах ён сачыў за расейскім войскам, што пачало рух на Ўкраіну, і першы паведаміў пра гэта — а сярод яго падпісчыкаў была адміністрацыя прэзыдэнта Ўкраіны, дыпляматы, палітыкі, журналісты. Артыкул Хрысьці Фрылэнд, канадыйкі ўкраінскага паходжаньня, якая неўзабаве стала

міністрам замежных справаў Канады, быў у топе *The New York Times*.

Мы ведалі, што Ігар у небясьпецы, — яркія пасьпяховыя прафэсіяналы заўсёды пад падазрэньнем у Беларусі, ад бізнэсмэнаў і мэдыкаў да мастакоў і праграмістаў. Бо немагчыма быць пасьпяховым прафэсіяналам без свабоды. А калі ён яшчэ і працуе на радыё з такой назвай…

Увесну 2020-га я зноў запрасіў Ігара ў Прагу, на некалькі самых небясьпечных месяцаў, прынамсі да выбараў. Ягоная праца ў сацыяльных сетках была надзвычай плённая і каштоўная, сотні тысяч падпісчыкаў чыталі яго навіны, дасьціпныя камэнтары ў суполках *Facebook* і на іншых плятформах. Ігар не хацеў пакідаць Беларусь — малое дзіця, трэба дапамагаць жонцы, дома ўсё ўладкавана. Пасьля некалькіх размоваў быццам пагадзіўся, мы зарэзэрвавалі яму кватэру, я паслаў яму адрас, каб паглядзелі з жонкай на карце *Google*, дзе будуць жыць, але трэба было памяняць пашпарт, зрабіць прышчэпку, потым яшчэ нешта…

Яго трымалі спачатку ў турме Жодзіна, без абвінавачаньня, у перапоўненых камэрах, спрабуючы зламаць псыхалягічна. Ён двойчы абвяшчаў галадоўку, адмаўляўся ад ежы больш за сорак дзён. Здолеў завастрыць засьцёжку і на допыце ўзрэзаў руку — яго ўратавалі.

Ігара судзілі разам з самымі вядомымі праціўнікамі рэжыму, Міколам Статкевічам і Сяргеем Ціханоўскім, як адну групу, у якую ўключылі яшчэ трох блогераў. У турме Гомля жонка Дар’я змагла пабачыць яго ўпершыню праз год пасьля арышту. Дачка больш ня бачыла. Злачынцы былі настолькі небясьпечныя, што рытуальную паслугу пад назвай «суд» аказвалі ў самой турме, бяз доступу дыпляматаў, журналістаў, сям’і. Дар’я дзяжурыла пад сьценамі вязьніцы штодня. Кожны тыдзень на працягу году яна садзілася за стырно «Шкоды» і выпраўлялася

да мужа — паўтысячы кілямэтраў у адзін бок, затым паўтысячы назад, да дачкі*.

Ігар у абвінаваўчых дакумэнтах і судовым выраку амаль ня згадваўся, але ягоная роля была ацэнена другім паводле велічыні прысудам, 15 гадоў зьняволеньня ў калёніі строгага рэжыму. Толькі Сяргей Ціханоўскі, лідэр народнай падтрымкі, чыя жонка Сьвятлана заступіла на ягонае месца пасьля арышту і набрала найбольш галасоў на прэзыдэнцкіх выбарах, атрымаў больш, 18 гадоў.

На турэмную робу нашыты жоўты лапік лямінаванай паперы зь лічбамі *з/к Лосіка*: код схільнасьці да экстрэмізму і суіцыду, артыкулы Крымінальнага кодэксу і час вызваленьня, 07.07.2036.

Прысуд Ігару — найдаўжэйшы тэрмін зьняволеньня журналісту ў гісторыі Беларусі і ў гісторыі ўсяго Радыё Свабода.

Мы дачакаемся.

## За кратамі: Андрэй

Пакуль я пішу гэтыя радкі, яшчэ двое маіх калег пішуць лісты са зваротным адрасам «турма». Вэб-рэдактара Андрэя Кузьнечыка арыштавалі 16 лістапада 2021 году. Група налётчыкаў у пагонах захапіла доступ да тэлеграм-каналу, які Андрэй рэдагаваў, і разьмясьціла радасны камэнтар і пагрозы падпісчыкам. Радасьць была нядоўгай — праз чвэрць гадзіны мы заблякавалі ім доступ. Істоты ў масках забралі з дому ўсе грошы, тэхніку, спачатку Андрэя

* Дар’я Лосік была арыштаваная 18 лістапада 2022 году і засуджаная на 2 гады калёніі «за садзеяньне экстрэмісцкай дзейнасьці», бо ў інтэрвію назвала сябе жонкай палітвязьня. Дачку даглядаюць Дар’іны бацькі. Перапіска з мужам забароненая. Ігар цяжка перанёс арышт, быў неаднаразова пакараны, пераведзены ў крытую турму, сувязі зь ім няма.

асудзілі на дзесяць сутак за непадпарадкаваньне, потым зноў, за дрэнныя паводзіны. Затым абвясьцілі галоўнае: Радыё Свабода — экстрэмісцкае фармаваньне. І цяпер супраца зь ім — злачынства, якое для Андрэя аціанілі на 6 гадоў зьняволеньня ў калёніі строгага рэжыму.

За дзень да арышту Андрэй паслаў ліст сябру, дзе тлумачыў, чаму ня хоча зьяжджаць зь Беларусі. Ён пісаў пра ўласны выбар, бо гэта быў менавіта выбар.

«Я з трынаццаці гадоў жыву беларушчынай, паступіў на філфак дзеля яе, жыў і працаваў з арыентацыяй на яе, цяпер мне за сорак, але рэч ня ў тым, што позна пачынаць з нуля, рэч у тым, што я не хачу збочваць зь сьцежкі працы на карысьць беларушчыны.

У цяперашніх умовах мне здаецца меншай пакутай адбыць у вязьніцы прыдуманы тэрмін, чым разьвітацца з радзімай на няпэўны (аж да скону) час (хоць тут я магу фатальна памыляцца ў тым, наколькі далёка могуць зайсьці рэпрэсіі).

Я лічу, што дзеці, узгадаваўшыся ў небеларускім асяродзьдзі, стануць носьбітамі каштоўнасьцяў гэтага асяродзьдзя, а Беларусь — адзінае месца на Зямлі, дзе гэтае асяродзьдзе мы маем, можам ствараць і разьлічваць на яго.

Я бачу, што суседнія краіны ствараюць свой гістарычны міт на падмурку, часам адрозным і нават супярэчным беларускаму.

Я бачу, што перад суседнімі зь Беларусьсю краінамі стаяць выклікі, якія могуць запатрабаваць ня меншай ахвярнасьці, чым цяперашняя сытуацыя патрабуе ад беларусаў сёньня».

Жонка Алеся засталася адна даглядаць васьмігадовую Яніну і двухгадовага Мацьвея. Сябры стараюцца рабіць усё, каб яны не былі адны. Але цану, якую сям'я Андрэя плаціць за ягоную працу, ведаюць толькі яны самі.

Наўпроставай сувязі з Андрэем даўно няма, лісты ён атрымлівае толькі ад сям'і, здараюцца рэдкія спатканьні

з жонкай і маці. Але сыгналы, якія даходзяць, ня могуць ня ўразіць.

«Трымаецца ён бадзёра, мяркуючы зь лістоў і словаў адваката. На ўмовы ня скардзіцца. У камэры шасьцёра чалавек, людзі часта мяняюцца. Курцы ходзяць курыць да выцяжкі. Народ дружны, дзеліцца ўсім. Піша, што жыць можна».

«Пачуваецца для сваёй сытуацыі ён цяпер нядрэнна, ёсьць з кім пагаварыць, у турме добрая бібліятэка, ёсьць радыё, чакаецца тэлевізар. Паводле яго расповедаў, у Магілёве камэры і двары большыя, "сонца ёсьць, і птушак чуваць"».

«Суседзі ў яго розныя, давялося нават пасядзець з кілерам, кажа, што трапляюцца і "вельмі незвычайныя кадры", але калі сам ты нармальны і спакойны, то праблем асаблівых не ўзьнікае, бо і добрых людзей там дастаткова, асабліва цяпер».

Лісты Андрэя — гатовая кніга, і ня толькі прозы, але і паэзіі, якую ён піша для Яніны і Мацьвея:

*Неяк я па небе ехаў.*
*Праплывалі міма стрэхі.*
*І вяскоўцы-землякі*
*Гаманілі каля весьніц:*
*«Бачыш, чый унук уверсе?*
*Вось табе і гарадзкі!»*
*Сьвет быў, як пялёсткі кветкі,*
*Як бліскучка ад цукеркі,*
*Цёплым ветрам казытаў,*
*Зь лісьця промнямі пуляўся,*
*Па-сяброўску пасьміхаўся,*
*Клікаў, вабіў, чараваў.*
*А наўкол, як на далоні,*
*Абдымала рэчку поле,*
*Лес рассоўваў далягляд, —*

*Каб ня даць блакітам зьліцца,*
*Каб у возера ўваліцца*
*Аблачынка не магла.*
*Пада мной быў зьлітак лета —*
*Сена цэлая плянэта!*
*І ўяўляў я, што той воз*
*Павязе праз захапленьні,*
*Праз адкрыцьці і натхненьні*
*Ў мой далёкі дзіўны лёс.*

Даю ўвесь верш, бо хачу, каб голас стрыманага, негаваркога, сьціплага рэдактара пачулі. Андрэй — эталён асабістай моцы, аптымізму, стойкасьці, узор таго, як бяспраўны вязень можа дапамагаць людзям па гэты бок кратаў.

Я б ужыў і больш высокія словы, але рэдактар Кузьнечык не прапусьціў бы.

## За кратамі: Алег

Я напісаў гэты разьдзел у ліпені і перарабляю ў канцы верасьня, бо Алег нечакана, пасьля намаганьняў прэзыдэнта радыё і міжнароднай супольнасьці, трапіў на волю.

На першай сустрэчы з рэдакцыяй я задаў яму пытаньне: што значыць быць журналістам Свабоды ў турме? Алег згадаў, як у калёніі грамадзянін начальнік, пабачыўшы ягоныя дакумэнты, аж закалаціўся і выгукнуў: «Журналіст Радыё Свабода — адкажаш за ўсё!!!»

Ён ня ведаў, што Алег — рэцыдывіст і адказвае за ўсё ўжо даўно. Пятнаццаць сутак у турме ў Баранавічах у лістападзе 2020 году, дзесяць на Акрэсьціна ў ліпені 2021-га. І апошні раз — 23 сьнежня. Турма на Валадарскага, перавод у Магілёў, суд, паўтара года калёніі.

У 2010 годзе яго затрымалі падчас рэпартажу пра маўклівыя пратэсты і кінулі ў аўтазак да іншых вязьняў,

але відэакамэру не забралі. І Алег стаў здымаць — арыштаваных, іхныя гісторыі, потым праз вакенца зьняў канваіраў у кабіне. Пасьля публікацыі на нашым сайце гэтыя кадры падхапілі іншыя мэдыі, а расейскае тэлебачаньне (здаецца, НТВ) паказала і пракамэнтавала іх як першы ў гісторыі рэпартаж з аўтазака, зьняты затрыманым.

Я ведаў Алега яшчэ да ягонага прыходу на Свабоду ў 1995 годзе, мы разам працавалі ў Доме друку, гулялі ў футбол, Алег быў адным з найлепшых форвардаў сярод журналістаў. У 1991-м ён працаваў адказным сакратаром самай масавай газэты ў Беларусі, «Знамя юности», і ўзначаліў супраціў камуністычнаму путчу ў рэдакцыі.

Ён быў зь Берасьця, як і я, нашы бацькі ведалі адны адных, і маці заўсёды ў мяне пыталася пра Алега. У прафэсійным асяродку да Алега ставіліся зь нязьменнай сымпатыяй і павагай. Пасьля арышту пра яго шмат пісалі, згадвалі ягоную выдатную дакумэнтальную кнігу пра тэракт у менскім мэтро, цытавалі натхняльныя допісы з турмы і калёніі. Ён пісаў штодня, жонка атрымала сто сорак тры лісты з малюнкамі, у калёніі ў яго заставалася яшчэ сто пяцьдзясят чыстых капэртаў з маркамі — хапіла б не на адзін эпісталярны раман.

Калі яго арыштавалі ў сьнежні 2021-га, ён аказаўся ня толькі найстарэйшым журналістам Свабоды за кратамі, а найстарэйшым з усіх зьняволеных беларускіх журналістаў. Двойчы перанёс ковід, затым двойчы, зь перапынкам на дзень, пражыў штрафны ізалятар у калёніі. А калі выйшаў на волю, выглядаючы як вязень канцлягеру, ці ня першае, што паведаміў, — што пасьля ШІЗА падцягваўся на перакладзіне толькі тры разы, а цяпер ужо дзевяць.

Алег раскажа пра ўсё сам — адкажа на ўсё і за ўсё*.

---

* Успаміны Алега Грузьдзіловіча «Мае турэмныя муры» ў 2023 годзе былі ўганараваныя прэміяй імя Францішка Аляхновіча за найлепшую турэмную літаратуру.

## Пятніца, 15 ліпеня 2022. 08:00

Апошні дзень тыдня пачаўся як заўсёды: а восьмай раніцы з рэдактарамі абмеркавалі плян дня. Галасы гучалі зь Вільні, Варшавы, Прагі — у нас больш няма нікога ў Беларусі, занадта небясьпечна, праца на Свабоду абвешчаная крымінальным злачынствам. На ранішняй нарадзе кожны падаў свае пляны, ідэі, удакладнілі расклад у выходныя. Усё толькі па справе, сыстэмна, сьцісла.

Нарады вядзе выканаўчы рэдактар, і я стараюся ніводнай не прапусьціць, хоць, калі розьніца ў часе зь Менскам была дзьве гадзіны, мусіў удзельнічаць а сёмай раніцы. А дырэктарскі дзень у Празе часам канчаецца з завяршэньнем працоўнага дня ў Вашынгтоне. Абмеркаваньні кароткія, тон зычлівы, інтанацыя рабочая, рашэньні прымаюцца адразу.

Я атрымліваю сапраўдную асалоду ад такога дзелавога стылю, на працягу тыдня больш такога магу і не сустрэць, хоць нарадаў будзе вышэй за галаву. У канцы выканаўчы рэдактар заўсёды дае мне слова, і сёньня я гаварыў пра скандал з твітам: напярэдадні нехта на радыё паслаў твіт пра вайну ва Ўкраіне, які палічылі абразьлівым, і твіт прыбралі. Галоўная рэдактарка пісала ў вечаровым мэйле пра здарэньне і патрабавала пільнавацца прафэсійнага кодэксу. Нічога канкрэтнага з допісу ня ўведаеш: ні хто паслаў, ні хто скардзіўся, ні якая гэта рэдакцыя, ні што там было крыўднага, ні чаму гэта няправільна…

Такая культура звышасьцярожнай камунікацыі выкліканая ня столькі практыкай сацыяльных сетак, дзе кожны чых можа быць апублікаваны, колькі тэорыяй — магчымымі судовымі пазовамі.

Напярэдадні на двары радыё рабілі летняе сьвята для супрацоўнікаў і сем’яў, з музыкай, закускамі, працаваў бар. Аддзел кадраў разаслаў папярэджаньне, што час, праве-

дзены на сьвяце, ня будзе лічыцца рабочым, што піва і віно будуць прадаваць толькі дзьве гадзіны і выпіць можна ня больш за два келіхі, і нельга зусім, калі хто працуе ў вечаровую зьмену ці наступнай раніцаю, і таксама нельга, калі вы зьбіраецеся ехаць дадому на аўтамабілі. Няясна, чаму адсутнічала забарона калупацца ў носе.

Не мінула пасьля нашай ранішняй нарады і дзесяці хвілінаў, яшчэ афіцыйна не пачаўся працоўны дзень, як прыйшоў запыт ад майго непасрэднага начальства: тэрмінова адказаць на пытаньні прэзыдэнта радыё наконт нашай працы з крыніцамі.

У Баранавічах асудзілі на два з паловай гады зьняволеньня мясцовага журналіста, якога абвінавацілі ў адсыланьні на Радыё Свабода фатаздымкаў вайсковай тэхнікі з Расеі, якая з тэрыторыі Беларусі вяла вайну супраць Украіны.

Хто вінаваты ў ягоным арышце? Хто не абараніў крыніцу? Мы?

## Нявыкрутка

Я ўжо сутыкаўся аднойчы, дзесяць гадоў таму, з пытаньнем пра крыніцы і іх абарону. І добра запомніў пошукі адказу.

Выбар перада мной стаяў цікавы: калі паслухаюся парады юрыста радыё, трэба звальняцца. Калі не паслухаюся, таксама давядзецца звольніцца. Прычым тое ня будзе мець ніякага значэньня для трох зацікаўленых бакоў.

Бакі ў замкнёным трохкутніку, у якім я апынуўся, былі наступныя: КДБ, бюро Свабоды ў Менску і мая крыніца.

Летам 2012 году я прыляцеў у Менск і наступнай раніцай, калі зьбіраўся на працу ў бюро, пабачыў у сваім тэлефоне мэйл ад слухача Свабоды: на Менскім мэтрапалітэне

здарыўся акт сабатажу. Нехта пасек кабэлі высокага напружаньня, працуюць службы надзвычайнага рэагаваньня, прыпынены рух цягнікоў. Чытач пісаў, што лічыць здарэньне грамадзка значнай навіной і таму паведамляе Свабодзе, якая шмат займалася тэмай мэтро.

Допіс быў па-беларуску, адрасаваны мне асабіста (мой адрас быў на сайце), дасланы з пошты *Gmail*, падпісаны, давалася прафэсія — інжынэр. Імя мне нічога не казала.

Мы ўвесь час зьвяртаемся да аўдыторыі па дапамогу, падказкі, і нічога незвычайнага ў самім факце допісу не было. Незвычайны быў кантэкст. Год перад тым пятнаццаць чалавек загінулі ў Менскім мэтро ад выбуху бомбы. Двух падазраваных хутка асудзілі як тэрарыстаў на сьмяротнае пакараньне. Наш калега Алег Грузьдзіловіч, які не прапусьціў ні дня суду, ніводнага меркаваньня экспэртаў і сьведак, правёў уласнае расьсьледаваньне, якое мы выдалі кнігай. Генэральная пракуратура вынесла з нагоды яе публікацыі афіцыйнае папярэджаньне, у якім абвінаваціла Свабоду ў «падрываньні даверу да сыстэмы правасудзьдзя ў Беларусі»*.

Мэтро было ранай, якая не загаілася.

Я пераслаў мэйл рэдактарам і папрасіў знайсьці другую крыніцу, як патрабуюць правілы журналістыкі. Неўзабаве крыніца знайшлася: сусед аднаго з нашых рэпартэраў займаў начальніцкую пасаду ў мэтро і неафіцыйна пацьвердзіў, што так, кабэль быў пасечаны, рух спынялі. Мы зьвярнуліся па афіцыйны камэнтар, адказу, як заўсёды, не атрымалі, і апублікавалі кароткую нататку пра здарэньне. У тэксьце цытаваўся допіс нашага чытача, але без імя аўтара.

Нататку перадрукавалі іншыя мэдыі, каціліся іншыя навіны, нарады, сустрэчы, і мы ўжо забыліся пра мэтро, як у другой палове дня зазваніў тэлефон. Загадчыка бюро

---

* Алег Грузьдзіловіч. «Хто ўзарваў Менскае метро?» (2013).

выклікалі ў КДБ, тэрмінова, без тлумачэньня прычынаў. Ён адмовіўся.

— Тады мы зараз прыйдзем да вас, і вам гэта моцна не спадабаецца.

Загадчык сказаў — праз дзьве гадзіны, у канцы дня. У яго было правіла — не саступаць, ні на што не пагаджацца адразу, не гаварыць лішняга.

Мы перабралі магчымыя прычыны. Нашу карэспандэнтку напярэдадні груба затрымалі на мяжы з Украінай, куды яна паехала зрабіць рэпартаж пра арыштаваных актывістак з руху «Фэмэн». Пасьля акцыі пратэсту ў Менску іх схапілі, каго пагалілі, каму пафарбавалі валасы і выкінулі ў полі. Радыё выступіла з пратэстам супраць затрыманьня акрэдытаванай журналісткі. Можа, гэта? Мы ўзгадалі іншыя магчымыя нагоды, абмеркавалі пазыцыі, як адбівацца, — але пра мэтро ня думалі.

Загадчык бюро адправіўся ў КДБ, хутка і я спусьціўся ў мэтро, ехаць на прэзэнтацыю сваёй новай кнігі, якая выйшла ў незалежным выдавецтве.

Мабільны тэлефон зазваніў у падземным пераходзе.

— Я званю з КДБ, з кабінэту таварыша палкоўніка, — сказаў загадчык бюро. — Таварыш палкоўнік хоча ведаць імя чалавека, які даслаў нам допіс пра выпадак у мэтро. Мы маем гэтае імя?

Голас гучаў роўна. Гэта была ня першая яго сутычка зь сілавікамі, але я адчуў напружанасьць. Палкоўнік патлумачыў, што калі ён не атрымае імя, дык зь іншымі таварышамі прыйдзе ў бюро, яны канфіскуюць усе кампутары і знойдуць яго самі.

І тое была не пустая пагроза — у шмат якіх недзяржаўных арганізацыяў падчас такіх рэйдаў канфіскавалі ўсё абсталяваньне, разам з кампутарамі, атрыманымі ў лізінг ад амбасады ЗША. Іх ніхто не вярнуў.

Імя інжынэра ня згадвалася на нашым сайце. Але яго ведаў «Белтэлекам», які кантраляваў увесь электронны

трафік у краіне. КДБ рэгулярна публікаваў перапіску апазыцыі, падслуханыя размовы, узломваў сацыяльныя сеткі і мог знайсьці імя і бяз нашага ўдзелу. Толькі гэта запатрабавала б больш часу і рэсурсаў.

Я ўявіў свайго калегу ў кабінэце КДБ і даў адказ, які ён мог дастаткова пераканаўча паўтарыць:

— Я ня памятаю імя, ня ўпэўнены нават, ці быў мэйл падпісаны. Трэба праверыць. Але я ў мэтро і дабяруся да кампутара толькі заўтра. Сувязь зараз можа перарвацца.

Я пачуў, як ён паўтарыў мой адказ і адключыў тэлефон.

Праз пару гадзін мы сустрэліся. КДБ выставіў ультыматум: альбо а дзявятай раніцы мы называем імя, альбо пачнеццаператрус у бюро.

Я патэлефанаваў нашаму юрысту ў Вашынгтон, дзе яшчэ быў працоўны дзень, ён дэталёва ўсё распытаў, паабяцаў параіцца з начальствам і перазваніць.

Выбар быў просты: альбо мы выдаём імя крыніцы, альбо страчваем бюро. Уся наша наладжаная праца, умовы для журналістаў будуць зьнішчаныя. Мы ня зможам выконваць сваёй місіі.

Пасьля яшчэ некалькіх размоваў з Прагай і Вашынгтонам, пытаньняў і ўдакладненьняў юрыст пазваніў, каб паведаміць рашэньне.

Аўтар падпісаў свой мэйл, мы не абяцалі ананімнасьці, і КДБ усё адно можа яго знайсьці, празь «Белтэлекам» ці разграміўшы наша бюро і захапіўшы кампутары. І яшчэ адна акалічнасьць: сабатаж у мэтро — справа грамадзкай бясьпекі. Паліцыя ва ўсім сьвеце дапытвае людзей, якія паведамляюць пра злачынствы. Бо часам гэта робяць самі злачынцы, часам ад сьведкі можна ўведаць дадатковыя дэталі, акалічнасьці. Імя давядзецца назваць.

Мяне прыдушыла, як надмагільным каменем.

## Дарагая паўза

Я шмат гадоў займаўся гісторыяй савецкага таталітарызму, напісаў кнігі на гэтую тэму, быў сябрам камісіі Вярхоўнага Савету Беларусі ў справах рэпрэсіяў. КДБ для мяне быў ня проста сілавой структурай на тры літары — гэта быў рак пухліна, горшая за турму*.

Наш слухач давярае Свабодзе. Паведаміў грамадзка значную навіну. Інфармацыя была праўдзівая. Выдаць імя азначала здрадзіць.

Таксама гэта было б здрадай прафэсіі. Журналісты не выдаюць сваіх крыніцаў, уся амэрыканская журналістыка пабудаваная на гэтым базавым прынцыпе.

Але тады мы страцім бюро, згубім магчымасьць увогуле працаваць. Выйсьця не заставалася. Мне трэба будзе пайсьці ў адстаўку ў любым выпадку: і калі назавем імя, і калі я ня выканаю рашэньня кіраўніцтва і мы страцім бюро.

За вакном было цёмна, гадзіньнік паказваў палову адзінаццатай. Я любіў сваю працу, даражыў калегамі, паважаў сваё кіраўніцтва, хацеў яшчэ шмат чаго зрабіць для нашай аўдыторыі. Якая мая віна? Віны не было, але была адказнасьць — адказнасьць дырэктара.

І тут у маю затлумленую галаву прыйшла думка: а што, калі наша крыніца, інжынэр — сам пагодзіцца назвацца?

Чым больш думаў, тым больш слушным гэта выглядала. Ён пацьвердзіць, што шчыра клапаціўся пра грамадзкі інтарэс. Бюро ня будзе разгромлена. І мне не давядзецца выдаваць КДБ імя крыніцы.

Заставалася маленькая праблема — інжынэра трэба знайсьці, а набліжалася поўнач. У мяне быў адрас яго электроннай пошты — раней я не хацеў нічога пісаць зь

---

* «Здзек» (1989), «За кіпучай чэкісцкай работай» (1997), «Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста» (1997, 2014), сцэнары фільмаў «Дарога на Курапаты» (1990), «Жаўрукі Беларусі» (1991), інш.

меркаваньняў бясьпекі, але гэта ўжо ня мела значэньня. Я папрасіў аўтара тэрмінова са мной зьвязацца, у любы час. Аднак нармальныя людзі не правяраюць пошту апоўначы.

Я пачаў хутка тэлефанаваць розным актывістам, раптам хто ведае такога чалавека, беларускамоўнага інжынэра з мэтрапалітэну, слухача Свабоды. Прозьвішча было распаўсюджанае, ніхто ня ведаў. Апоўначы я спыніўся.

Заснуў на некалькі гадзінаў, усхапіўся перад пятай. І вырашыў зьвярнуцца ў службу тэлефоннай даведкі. На сувязі была адна апэратарка, я назваў імя і прозьвішча, яна спытала адрас. Абанэнтаў з такім прозьвішчам была цэлая старонка.

Даведка была платная, так рана ніхто не тэлефанаваў, і я ўгаварыў апэратарку даць мне першае імя са сьпісу.

Імгненна набраў, чалавек аказаўся ня той і вельмі незадаволены, што яго пабудзілі. Перазваніў апэратарцы, атрымаў другое імя — падняла нейкая бабка, падазрона пыталася маё імя. Яшчэ праз пару званкоў жаночы голас адказаў, што не, чалавека, якога я шукаю, няма, ён там болей не жыве. Я сказаў, што пільная справа, зьвязаная з працай, тэрмінова трэба, і затаіў дыханьне. Праз хвіліну я набіраў мабільны нумар майго інжынэра.

Мы сустрэліся а сёмай раніцы на далёкай станцыі, ён ехаў на працу ў першую зьмену. Гэта быў чалавек сярэдняга ўзросту, ціхі, трохі зьдзіўлены нашай сустрэчай. Сайту ўчора ён не чытаў, электроннай пошты не правяраў. Я спытаўся, ці не пагодзіцца ён даць інтэрвію для радыё і назваць сябе. І патлумачыў, што яго, верагодна, будзе шукаць КДБ, бо мы апублікавалі ягоную інфармацыю, хоць і бяз подпісу.

Адкрыта назвацца — найлепшая абарона. Ён зрабіў тое, што зрабіў, бо лічыць, што грамадзтва мусіць ведаць пра такія здарэньні. Ён не тэрарыст, ня мае асабістай выгады, не было намеру пасеяць паніку. Нармальныя грамадзянскія паводзіны.

Ён пагадзіўся, і мы запісалі аўдыёінтэрвію.

Я падзякаваў і на разьвітаньне даў параду: калі да яго прыйдуць, казаць усё, як было. Як ён даслаў мэйл, як я пазваніў раніцай, як мы сустрэліся і запісалі інтэрвію. Нічога не прыдумляйце. Сьледчыя больш спрактыкаваныя і зловяць на супярэчнасьцях і замоўчваньнях, кажыце праўду. (Так потым і сталася. Інжынэра дапыталі, пераканаліся ў тым, што ня хлусіць, паўшчувалі за непатрыятычныя паводзіны і адчапіліся.)

Мы паціснулі рукі, і я пасьпяшаўся ў бюро, здымаць тэкст. Ён быў апублікаваны а палове дзявятай.

На пачатку дзясятай зазваніў тэлефон у кабінэце загадчыка бюро. Таварыш палкоўнік чакаў імя. Загадчык спытаўся, ці ў КДБ ужо чыталі навіны на нашым сайце, і параіў зірнуць.

Павісла доўгая паўза. Потым пачуўся нейкі гук і ляскат з размаху кінутай слухаўкі.

Гэта была найлепшая паўза ў маім прафэсійным жыцьці.

## Пятніца, 15 ліпеня 2022. 06:00

Турэмны тэрмін чытачу за сувязь са Свабодай скалануў радыё.

Я хацеў бы так напісаць — але так не было і быць не магло, калі ва Ўкраіне ідзе вайна, калі новы дом шукаюць афганскія журналісты, калі Расея капіюе вынаходзтвы беларускага дыктатара.

Ужо два гады запар міжнародная арганізацыя «Рэпартэры бязь межаў» вызначае Беларусь як самую небясьпечную краіну для журналістаў у Эўропе. Рашэньне спыніць працу з журналістамі ў Беларусі прэзыдэнт радыё прыняў

у сьнежні 2021-га. Тры асобы ў турме. Абараніць іх мы ня можам.

Але працу працягваем. Мы заклікалі падпісвацца на наш тэлеграм-канал, дасылаць фота, удзельнічаць у дыскусіях Свабоды — і стала нарастаць пагроза для аўдыторыі.

Настаўніца гісторыі з Наваполацку, прафсаюзны лідэр, студэнт — іх захопліваюць, арыштоўваюць, штрафуюць за тое, што яны чытачы Свабоды. Гестапа пад назвай ГУБАЗіК дэманстравала відэа з пакаяньнем пасьпяховага 35-гадовага бізнэсоўца, мэнэджэра замежнай аўтакампаніі, які прызнаваўся, што ён гей, быў падпісаны на тэлеграм-канал Свабоды і ня раіць нікому так рабіць.

Турма за допіс на Свабоду была новай ступеньню рэпрэсіяў, і ў чацьвер я паведаміў пра гэты прысуд нашаму аддзелу вонкавых камунікацыяў, які робіць прэс-рэлізы, рыхтуе заявы ад імя радыё, працуе з праваабарончымі арганізацыямі. Прэзыдэнт радыё таксама прачытаў паведамленьне і а шостай ранку ў пятніцу запатрабаваў зрабіць аналіз таго, што адбылося.

Ці сапраўды той чалавек нешта нам прыслаў? На якой плятформе? Гэты быў наш сталы аўтар? Ці зрабіла служба ўсё магчымае, каб абараніць крыніцу? Калі так, якім чынам улады ўведалі пра яе сувязь з намі? Ці патрэбныя зьмены ў працоўных пратаколах службы?

Мы селі пісаць адказы.

Так, чытач прыслаў на наш тэлеграм-канал фота расейскіх баявых самалётаў на ўзьлёце.

Не, гэта ня наш сталы аўтар, гэта *UGC* («кантэнт, створаны карыстальнікамі», як груваста называецца ўсё, што прысылаюць чытачы і гледачы). Аўтары не пакідаюць імя, выкарыстоўваюць мянушкі, мы ня ведалі ягонага прозьвішча да суду. Мы атрымлівалі падобныя зьвесткі, падпісаныя рознымі мянушкамі.

Трэцяе пытаньне, пра абарону крыніцы, было самае важнае, але тая крыніца не была нашай крыніцай.

Мы ня выкарысталі ягоных фота — карцінка самалётаў у небе як такая не навіна, яна ня мела інфармацыйнай вагі, не было візуальнага кантэксту, спраўдзіць яе было немагчыма, і яна нічога не дадавала да тэмы. Нашы рэдакцыйныя стандарты не дазвалялі рабіць публікацыі, не было з чаго. Інфармацыя так і засталася ў разьдзеле камэнтароў у стужцы тэлеграм-каналу, дзе аўтар іх разьмясьціў і дзе яе мог бачыць той, хто хацеў. Гэтыя самыя фота, дарэчы, ён паслаў і іншым мэдыям.

А вось пра тое, як улады даведаліся пра сувязь са Свабодай, мы маглі здагадацца. Хутчэй за ўсё, аўтара, мясцовага журналіста, затрымалі зь іншай прычыны, праверылі яго тэлефон і кампутар і там знайшлі падпіску на Свабоду і дасланыя матэрыялы. Магчыма, раскрылі ягоны псэўданім. «Экстрэмісцкі канал» быў дастатковай падставай для перадачы справы ў суд і паказальнага турэмнага зьняволеньня.

Якраз у гэтыя дні ў Баранавічах выклікалі на допыт жонку Ігара Лосіка Дар’ю, быццам на заданьне зь Менску ў нейкай іншай справе, але першыя пытаньні былі пра яе крыніцы навінаў: якія тэлеграм-каналы яна чытае. Выглядала, што гэта стала абавязковай часткай кожнага допыту, незалежна ад справы. Дар’я адказала, што яе крыніцы такія, як ва ўсіх: каналы ГУБАЗіКу, дзяржаўных прапагандыстаў. Міліцыянты сьмяяліся разам зь ёй.

Я адаслаў адказ а палове дзясятай. Больш да гэтай тэмы ў той дзень не вярталіся — хоць самы апошні з больш як ста мэйлаў, якія я атрымаю ў пятніцу, будзе таксама ад прэзыдэнта.

Наш чытач з Баранавічаў меўся стаць нашым ананімным аўтарам, а зрабіўся героем публікацыяў, прадметам увагі прэзыдэнта радыё, клопатам міжнароднай праваабарончай супольнасьці.

Ён прызнаны палітычным вязьнем. Пасьля сьнежня 2021 году, калі радыё абвясьцілі экстрэмісцкім фармаваньнем, усе нашыя чытачы сталі палітычнымі.

Зрэшты, так было заўсёды.

## Маё начальства. Вячка Станкевіч

Я перажыў сямнаццаць зьменаў прэзыдэнцкай улады на радыё і толькі адну дырэктарскую.

Але ня толькі дзеля гэтага важнейшым за ўсіх начальнікаў для мяне быў і застаецца шосты дырэктар Беларускай службы Вячка Станкевіч. Менавіта Вячка запрасіў мяне на працу ў Мюнхэн у красавіку 1993-га і перадаў дырэктарства ў Беларускай службе ў кастрычніку 1998 году.

Я быў фрылансэрам Свабоды з 1990-га, пару разоў на тыдзень надыктоўваў праз тэлефон свае матэрыялы ў рэдакцыю, супрацоўнічаў зь іншымі заходнімі і ўсходнімі мэдыямі. У 1992-м мяне паклікалі на працу ў Лёндан на Бі-Бі-Сі, прыслалі кантракт. Калі Вячка ўведаў, папрасіў не сьпяшацца і прапанаваў працу ў Мюнхэне. У Лёндане не было беларускай рэдакцыі, і я выправіўся ў Мюнхэн.

Вячка, ён жа *Walter*, вырас у Амэрыцы, але паходзіў зь беларуска-чэскай сям'і — ягоны бацька быў вядомы лінгвіст, аўтар арыгінальнага слоўніка, дзеяч беларускага палітычнага жыцьця ў міжваенны пэрыяд. Інжынэр паводле адукацыі, выдатны арганізатар, заўсёды з усьмешкай на твары, часта зь нейкай мэлёдыяй на вуснах, Вячка выпраменьваў сьвятло і аптымізм. Для яго не было невырашальных праблемаў, ён меў высокі парог здаровага сэнсу і яшчэ вышэйшы аўтарытэт.

Як я цяпер разумею, Вячку было зусім ня проста з двума дзясяткамі новых карэспандэнтаў у Беларусі — не праз арганізацыйныя ці фінансавыя акалічнасьці, гэтаму ён

даваў рады з эфэктыўнасьцю амэрыканскага інжынэра, а праз нашую савецкую (хоць і антысавецкую) мэнтальнасьць, звычкі, норавы.

Дый журналістыка наша была даволі спэцыфічная: ня столькі рэпартажы, колькі камэнтары, процьма эпітэтаў, «яканьне», пыха. Такая была і наша аўдыторыя, яна такое чакала і любіла, і трэба прызнаць, гэты стыль тады даваў плён.

Не лягчэй было і са штатнымі супрацоўнікамі рэдакцыі. Радыё месьцілася ў ціхім кутку Мюнхэну, на ўскрайку вялізнага парку, *Der Englische Garten*, каля піўной рэстарацыі, дзе зьбіраліся сотні аматараў узьняць «*Maß*» — цяжкі літровы куфаль.

Аднак справа была не ў алькагалізьме. У рэдакцыі працавалі савецкія эмігранты, як тады казалі, паводле габрэйскай лініі, польскія беларусы зь Беласточчыны, дзеці паваеннай эміграцыі зь Нямеччыны і Амэрыкі. Я быў першым на радыё штатным супрацоўнікам з пашпартам краіны вяшчаньня, на якім быў яшчэ герб СССР, — не пасьпеў памяняць на новы з Пагоняй.

Таксама я быў першым у штаце прафэсійным журналістам з досьведам галоснасьці. На час прыезду ў Мюнхэн у мяне быў ужо дзесяцігадовы газэтны стаж (некаторыя мае публікацыі чыталі па Свабодзе, дзеля чаго аднойчы ледзь ня звольнілі). Я друкаваўся ў цэнтральным савецкім і мясцовым антысавецкім друку, быў аўтарам тузіну дакумэнтальных фільмаў, сябрам Камітэту ў дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь — сакратаром журналісцкай сэкцыі, апошняя пасада перад радыё — галоўны рэдактар самага вялікага ў краіне выдавецтва.

Што выклікала падазрэньне.

Неўзабаве я ўведаў, што я агент КДБ, што мая беларуская мова занадта савецкая, а ангельская занадта брытанская, што я не журналіст, а самазванец.

Яно было зразумела — канкурэнцыя ня толькі натхняе, але і палохае.

Я сапраўды не вучыўся на журналіста, проста вельмі хацелася. Яшчэ ў ін'язе схадзіў у бібліятэку, знайшоў падручнікі журфаку, законспэктаваў, хоць і мала што зразумеў. Узорам журналістыкі для мяне быў Хэмінгуэй, які ў сваіх інтэрвію ня раз дзяліўся практычнымі парадамі з падручніка стылю газэты «Зорка Канзасу». Некаторыя зь іх спрацоўвалі і ў беларускай «Звяздзе». У канцы 1980-х мяне абралі намесьнікам старшыні менскай гарадзкой арганізацыі Саюзу журналістаў, тады ж рэдакцыі паўтузіну газэт і часопісаў вылучылі маю кандыдатуру ў дэпутаты парлямэнту. Іншымі словамі, калегі ў Менску мяне ведалі (ведалі і ўлады, якія не зарэгістравалі на выбары), але ў Мюнхене трэба было знаёміцца ад пачатку.

Вячка пра звады і кансьпіралягічныя тэорыі звычайна казаў: «Пустое», і пераходзіў на практычныя тэмы. А клопатаў яму хапала — апроч складаньня штодзённай праграмы, працы зь нямецкай і амэрыканскай бюракратыяй, трэба было шукаць і вучыць новых карэспандэнтаў, арганізоўваць дастаўку матэрыялаў, перадачу нямецкіх марак у Беларусь. Ён езьдзіў на сустрэчы з журналістамі ў суседнія краіны, запрашаў дадому, падтрымліваў сувязь з дыяспарай, арганізоўваў беларускае жыцьцё ў Мюнхэне.

Першы раз Вячка перадаў мне кіраўніцтва службай увесну 1995-га. Радыё пераяжджала зь Мюнхэну ў Прагу, і кіраўніцтва папрасіла Вячку, які гаварыў па-чэску і меў інжынэрны досьвед, каардынаваць пярэбары. Пераезд, як вядома, прыраўноўваецца да двух пажараў. Пераезд радыё, якое ня можа спыніць вяшчаньня ні на хвіліну, дакладней параўнаць зь землятрусам. Вячка са сваім роўным характарам, заўсёднай усьмешкай, арганізатарскім талентам і дзелавітасьцю, здаецца, не заўважыў ні пажару, ні землятрусу — і сваім прыкладам пераканаў у гэтым іншых. Мы пераехалі, ня страціўшы ні хвіліны этэру.

Хоць не, страцілі — але не праз тэхналягічныя збоі. У Мюнхэне засталіся пару чалавек, якія, пакуль мы запісвалі асноўную праграму ў Празе, выходзілі ў жывы этэр з навінамі зь міні-студыяў са старой сядзібы. Выпускі тады былі на дзесяць хвілінаў. Адзін калега, бэльгійскі беларус, не разьлічыў часу і недзе на сёмай хвіліне дачытаў апошнія радкі. Разгубіўшыся, ён шчыра прызнаўся ў мікрафон, што навінаў больш няма, бо скончыліся. Гэтую паўзу мы таксама запомнілі надоўга.

Сваё першае, на просьбу Вячкі, кіраваньне службай я згадаў праз пяць гадоў. У 2000 годзе ў Гувэраўскім інстытуце ў Каліфорніі пачалася стыпэндыяльная праграма для журналістаў, я стаў першым стыпэндыятам. Вячка тады ўжо дзяліў свой пэнсійны час паміж Амэрыкай і Эўропай, і я папрасіў яго вярнуць доўг — замяніць мяне на пасадзе дырэктара на час адсутнасьці. Ён лёгка пагадзіўся, супрацоўнікі ўзрадаваліся, і стабільнасьць рэдакцыі была забясьпечаная.

Можна сказаць, што першая кніга, дзе расказваецца пра Беларускую службу Радыё Свабода, мае на вокладцы імя Станкевіч — але ня Вячкі, а Джаэн, ягонай жонкі, якая напісала ўспамін пра гэты пэрыяд іхнага жыцьця ў Эўропе. Кніга мае падзагаловак «Эўрапейскія прыгоды падчас падзеньня камунізму». Станкевічы падарожнічалі па ўсёй Эўропе ў сваім доме на колах — вялікім караване, я напісаў прадмову, у якой раіў чытачам «прышпіліць рамяні — бо зараз будзе заносіць на паваротах»*.

Менавіта дзякуючы Вячку ў 1993 годзе мяне занесла на Свабоду, а праз пяць гадоў у дырэктарскі кабінэт. У кастрычніку 2018-га я даслаў свайму першаму і апошняму дырэктару мэйл:

---

* Joanne Stankievich. Living With A Scent Of Danger (Outskirts Press, 2012).

«Дарагі Вячка, віншую з дваццацьцю гадамі на свабодзе! 30 верасьня 1998-га ты спыніў працаваць і зажыў разам з Джаэн вольна і шчасьліва. Твая праца на карысьць Беларусі ніколі не спынялася, як і твайго бацькі, як і ўсіх, каго ты падтрымаў і каму давяраў. Сёньня дваццаць год, як я дырэктарствую на Свабодзе, — дзякуй за ўсё!»

І за гэтую кнігу таксама. Кожны падымаецца на вяршыню сам, але ніхто не падымаецца ў адзіночку*.

## Мюнхэнскі фэст

Пасьля Менску кожны заходні горад падаецца сьвятам.

У Мюнхэне мне шмат чаго было знаёма — годам раней, у 1992-м, я там жыў і працаваў некалькі месяцаў у Дасьледным інстытуце пры радыё, рэгулярна публікаваў артыкулы пра Беларусь у інстытуцкім часопісе, адным з самых аўтарытэтных выданьняў пра былы Савецкі Саюз.

Мюнхэн быў горадам-фэстам ня толькі дзеля знакамітага піўнога сьвята, якое праходзіць у кастрычніку. Вабілі ваколіцы з казачнымі замкамі і барочнымі цэрквамі, карцела дакрануцца да сьнежных шапак Альпаў, клікалі ў дарогу аўтабаны. Каву, якую ў Мюнхэне з раніцы захацеў выпіць у Вене, піў там па абедзе, на вячэру ў Парыж можна было пасьпець, калі выехаць адразу пасьля сьнядanку, да Вэнэцыі было шэсьць гадзінаў.

* Хоць гэтая кніга не гісторыя Беларускай службы Радыё Свабода, дарэчы згадаць імёны папярэднікаў на пасадзе дырэктара: Вінцэнт Жук-Грышкевіч (1953–1956), Уладзімер Дудзіцкі (1956–1962), Уладзімер Цьвірка (1962–1968), Майсей Сяднёў (1968–1983), Юрка Сяньkoўскі (1983–1991), Вячка Станкевіч (1991–1998). У пэрыяды маёй часовай адсутнасьці службай кіравалі Багдан Андрусышын, Ян Максімюк.

Падчас працы ў Дасьледным інстытуце я заходзіў, канечне, у Беларускую службу, запісваў перадачы, браў удзел у круглых сталах — здаецца, усё было знаёма, калі ў 1993 годзе зноў падняўся на другі паверх і заняў месца штатнага супрацоўніка.

Але адна рэч была навіною — гэта занятасьць, аб'ём працы.

Рэдакцыя мела пяцьдзясят хвілінаў этэру ў запісе, ад пятай да шостай вечара, якія пазьней паўтараліся. Плюс выпуск навінаў, дзесяць хвілінаў, жыўцом. Інтэрнэту тады не было, гэта была адзіная плятформа — і ўсім дзесяці супрацоўнікам проста не хапала працы.

Я рабіў дзённае заданьне за гадзіну. Некаторыя навучыліся напружана працаваць упрытык да этэру. Была, вядома, розная праца, некаторыя функцыі займалі ўвесь дзень, тэхніка была аналягавая. Калі параўнаць сёньняшнюю журналістыку з умовамі трыццацігадовай даўніны, дык розьніца ў прадукцыйнасьці як паміж аратым з сахой і фэрмэрам на трактары *John Deere*, а ў інтэнсіўнасьці — наадварот.

Але людзі за трыццаць гадоў не зьмяніліся, а замкнёны сьвет эміграцыі тады быў нашмат больш закрыты. Вячку даводзілася разьбірацца са скаргамі, абвінавачаньнямі, апэляцыямі, якія пачаліся яшчэ да яго. Мяне неяк запрасілі на піва два былыя супрацоўнікі, старыя эмігранты, і паклалі перада мной тоўстую тэчку. Гэта былі матэрыялы судовай справы, ліставаньне з рознымі інстанцыямі, дзе адзін з супрацоўнікаў абвінавачваў іншых у розных грахах, потым каяўся, выбачаўся — каб я ведаў, быў асьцярожны.

У Мюнхэне я пазнаёміўся зь пятым дырэктарам Беларускай службы Юркам Сянькоўскім. Гэта быў зацяты беларус, які сабраў вялізную бібліятэку беларускіх выданьняў замежжа, якую пазьней першы карэспандэнт Свабоды ў Беларусі, Алесь Ліпай, грузавіком перавёз у Менск. Юрка

быў жанаты зь немкай, ні яна, ні дзеці па-беларуску не гаварылі, і ён прыходзіў у рэдакцыю, каб пачуць родную мову. Калі праз пару год ён трапіў у шпіталь, я заехаў адведаць — ён ляжаў з заплюшчанымі вачыма, закручаны ў трубкі і драты, я нешта расказваў. Уначы ён памёр, я быў апошні, ад каго ён мог пачуць беларускую мову, галоўную музыку свайго жыцьця.

Я хутка пасябраваў з самым вядомым супрацоўнікам Беларускай службы Багданам Андрусышыным. Данчык быў легендай — амэрыканец, які гаворыць па-беларуску, сябар «Песьняроў» і алімпійскай чэмпіёнкі Вольгі Корбут, сьпявак з асабістым фан-клюбам у Беларусі, адрасат бясконцых марных лістоў ад беларускіх дзяўчат з прапановамі рукі й сэрца.

У 1990-я нават амэрыканскія геі ня надта афішавалі сваю арыентацыю — знакаміты фільм «Філадэльфія» з Томам Гэнксам і Дэнзэлам Вашынгтонам пра дыскрымінацыю геяў выйшаў толькі ў 1993 годзе.

Ад Данчыка я ўведаў, што ня ведаю ангельскай мовы. Пасьля заканчэньня Менскага інʼязу я быў перакананы ў адваротным — пакуль Данчык не прынёс мне папраўлены тэкст, які я пісаў для аналітычнага часопісу. Я, верагодна, стаў такога колеру, як мае аркушы, — чырвоным. Не было ніводнага сказу, дзе б не была выпраўленая лексыка ці граматыка.

Мы працавалі разам больш за чвэрць стагодзьдзя, Данчык быў маім намесьнікам, безь якога я б ня здолеў заставацца дырэктарам так доўга і з такімі вынікамі. У спрэчных пытаньнях, якія датычылі дачыненьняў, паводзінаў, праблемаў, скаргаў супрацоўнікаў, канфліктаў з начальствам, ягоная думка была для мяне вырашальная. Ён быў аўтарытэтам, эталёнам абʼектыўнасьці і, вядома, амэрыканскай культуры працы і культуры ўвогуле.

І ўвесь гэты час, што б я ні даў адрэдагаваць па-ангельску, ён знаходзіў, што паправіць. Дзеля апраўданьня

скажу, што справа ня толькі ў граматыцы — Данчык пэрфэкцыяніст з моцным асабістым стылем, які ён выпрацаваў падчас вучобы ў Нью-Ёрскім унівэрсытэце.

Таксама аказалася, што трэба падвучыцца і беларускай мове.

## Трымайся, Алесь

Упершыню жыўцом беларускую мову за мяжой я пачуў якраз ад свабодаўцаў, але ня ў Мюнхене, а ў Амэрыцы. У канцы 1980-х мы з жонкай выпраўляліся ў першае падарожжа да сваякоў за акіян. Я шукаў тады сьляды крыжа Эўфрасіньні Полацкай, і прафэсар Адам Мальдзіс параіў пагаварыць з дырэктарам Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку Кіпелем. Госьці зь Беларусі, якія не баяліся сустракацца з палітычнымі эмігрантамі, былі яшчэ рэдкасьцю. Зора і Вітаўт Кіпелі запрасілі ў свой гасьцінны дом супрацоўнікаў першага складу Свабоды Янку Запрудніка, Яніну Каханоўскую, былі Юля Андрусышына і Ала Орса-Рамана, усяго чалавек дваццаць — букет гісторыяў і фэервэрк успамінаў.

І ўсе лічылі патрэбным зрабіць камплімэнт, як добра мы гаворым па-беларуску. Асабліва падабалася мова жонкі. Сьвятлана нарадзілася ў Нясьвіжы і вырасла пад Маладэчнам у Радашкавічах, а гэты рэгіён — крыніца літаратурнай беларускай мовы. Вокны яе дома выходзілі на касьцёл, дзе хрысьцілі Янку Купалу, па суседзтве была сядзіба Браніслава Тарашкевіча, аўтара клясычнай беларускай граматыкі, у ваколіцах памяталі выдаўца «Нашай Нівы» Аляксандра Ўласава, знакамітую гімназію і тэатар. Сьвета часам кпіла з маёй берасьцейскай гаворкі, і небеспадстаўна. Ёй вельмі спадабался фраза Вітаўта Кіпеля, якую той паўтараў на разьвітаньне: «Трымайся,

Алесь, трымайцеся!» Гэта быў выдатны адпаведнік амэрыканскаму пажаданьню «*Take care!*», які прыжыўся і нават набыў новыя адценьні. «Трымайся, Алесь!», трохі іранічна будзе казаць жонка, калі я буду занадта пераймацца тым, чым пераймацца ня варта.

Радыё — гэта мова, але ў Мюнхене я хутка ўведаў, што мова большая за радыё. Асабліва беларуская.

Вячка Станкевіч гаварыў іначай, чым у Менску, лексыка была багацейшая, сынтаксіс не зрусіфікаваны, фанэтыка аўтэнтычная. Трэба было вучыцца нанова і пісаць, і вымаўляць. І было ў каго.

Пасажыры кожнага авіярэйсу, якія ляцелі зь Нямеччыны ў Менск на пачатку 1990-х, былі шакаваныя, калі раптам чулі абвестку па-беларуску: «Шаноўнае спадарства, авіякампанія “Люфтганза” вітае вас на борце рэйсу Франкфурт — Менск…» Аксамітны голас з сонечнай бурштынавай інтанацыяй належаў Ларысе Урбан, намесьніцы дырэктара Беларускай службы.

Голас зачароўваў, яго можна было слухаць як музыку. Менавіта Ларыса запісала першае інтэрвію з будучым першым кіраўніком незалежнай Беларусі Станіславам Шушкевічам яшчэ ў 1990 годзе, потым дапамагала фонду Генадзя Грушавога «Дзеці Чарнобылю». Я сябраваў зь яе былым мужам і колішнім супрацоўнікам рэдакцыі Паўлюком Урбанам. Ён быў вядомы як дасьледчык гісторыі Беларусі, але кожную сустрэчу пачынаў зь лінгвістычнага тролінгу — пераліку моўных хібаў у этэры.

Свая мова была і ў дваіх сымпатычных калег зь Беластоку. З Валянцінай Лаеўскай, далікатным, прыемным чалавекам, мы папрацавалі нядоўга, а Кастусь Бандарук, праваслаўны сьвятар, таленавіты рэлігійны аўтар, быў вядомы слухачам найперш праз свае суботнія казаньні. Ян Максімюк ня толькі дапамог Джэймзу Джойсу загаварыць па-беларуску, але стварыў граматыку сваёй мовы Падляшша. Унікальная прасодыя і адметная віцебская

лексыка вылучалі паэта і барда Сержука Сокалава-Воюша, віртуоза наватвораў і бел-чырвона-белых рыфмаў.

Ёсьць адна інтэрнацыянальная прымаўка, на якую прэтэндуюць усе нацыі: дзе два латышы, там тры партыі, дзе два ўкраінцы, там тры гетманы. Ну, а дзе два беларусы, там ня толькі тры партыі і тры старшыні, там і тры беларускія мовы. Як мінімум. Пра мову на Свабодзе можна выдаць асобную кнігу толькі лістоў слухачоў, там спэктар ад Эдэму да Апакаліпсісу. Мова сама была тэмай перадачаў, рэпартажаў, кніг*.

Быў у Мюнхене яшчэ адзін беларускі голас, які некалі ведалі далёка за межамі Беларусі. Ён належаў супрацоўніцы самага першага складу Беларускай службы Галіне Руднік. Менавіта яна некалі ў Нью-Ёрку пазнаёміла Юлію Кахаnоўскую і Паўло Андрусышына, і дзякуючы гэтаму на сьвет зьявіўся Данчык. Калі мы пазнаёміліся ў 1993-м, Галіна займала мэнэджэрскую пазыцыю ў Расейскай службе.

Ад яе я ўведаў клясычную для дваццатага стагодзьдзя гісторыю. Аднойчы, у канцы 1960-х, яе папрасілі на пробу прачытаць старонку тэксту пад запіс, стужку зь Мюнхэну паслалі ў Нью-Ёрк. Аказалася, дачка Сталіна Сьвятлана Алілуева прынесла свае «Дваццаць лістоў да сябра» на Свабоду, і рэдакцыя шукала дыктара. Паспрабавалі дачку расейскага сьпевака Фёдара Шаляпіна Тацяну, але Алілуева не ўхваліла, занізкі голас, амаль бас. Беларускі голас ёй спадабаўся.

Бацьку Галіны арыштавалі ў 1930-я, потым выслалі маці, і Галя зайздросьціла тады толькі адной дзяўчынцы на сьвеце — дачцэ Сталіна Сьвятлане, вось у яе маму не

* «Слоўнік Свабоды: XX стагодзьдзе ў беларускай мове» (2012), «Жывая мова» (2013), «Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам» (2016), «Не сьмяшыце мае прыназоўнікі» (2017).

адбяруць. Цяпер успаміны дачкі тырана вярталіся на радзіму праз голас дачкі ахвяры.

Мы паспрачаліся з Галінай, калі выдавалі кніжку яе ўспамінаў: я прапаноўваў назву «Дачка Сталіна выбрала мой голас», яна разглядала тое чытаньне як эпізод і параўноўвала свой лёс з птушкай, хоць беларускія птушкі ў Амэрыку, здаецца, ня лётаюць*.

Давялося Сталіна адправіць у прадмову. Прэзэнтацыю кнігі ў Бабруйску, дзе нарадзілася і вырасла Галіна, рабілі бяз аўтаркі. Амбасада Беларусі ў Бэрліне адмовіла ў візе.

Але ўвесь наклад разабралі за пару дзён. Мове візы не патрэбныя.

Трымаецца.

## Маё начальства. Кевін Клоўз

Мой першы працоўны дзень у Мюнхэне быў 19 красавіка 1993 году. Дзень 18 красавіка наступнага 1994-га меўся стаць апошнім.

Справа была ў тым, што ўжо канчаўся дванаццаты месяц працы, а мой гадавы кантракт ня быў працягнуты. Вячка падаў дакумэнты, але іх не падпісалі. Чаму — я ня ведаў, але адпаведныя інстанцыі адмовіліся працягнуць кантракт. У мяне заставаўся нявыкарыстаны адпачынак, і Вячка сказаў, што я магу не хадзіць на працу.

Было шкада дзяцей, якія толькі-толькі перажылі самы цяжкі першы год навучаньня ў нямецкіх школах, з нуля, бяз слова нямецкай. Тэарэтычна можна было паспрабаваць неяк застацца — маці маёй жонкі, мая цешча, была вязьнем фашысцкага канцлягеру, і нямецкія ўлады разглядалі гэта як гуманітарны фактар, калі дзеці

* «Птушкі пералётныя» (2011).

ахвяраў хацелі перабрацца жыць у Нямеччыну. Цешча атрымлівала кампэнсацыю ад нямецкага ўраду, была такая праграма на пачатку 1990-х. Але карыстацца гэтай старонкай сямейнай гісторыі не хацелася, была ў гэтым нейкая няёмкасьць.

Мы езьдзілі ў Альпы, падымаліся на фунікулёры на вяршыні, гулялі сярод горных лугоў, рэчак і азёраў — Тэгерн, Шлір, Шпіцынг. Ад краявіду на паўсьвету ў Гарміш-Партэнкірхэне дагэтуль нешта замірае ў грудзях. Ён дапамагае, калі трэба ад нечага адключыцца, напрыклад, у крэсьле дантыста ці на апэрацыйным стале. Менавіта яго я стараўся ўзнавіць у памяці, калі самлеў у самалёце ў Рызе, але не пасьпеў.

18 красавіка прыпала на панядзелак. Дзень скончыўся без навінаў, трэба было пакаваць рэчы. Назаўтра раніцай патэлефанаваў Вячка і спытаўся, чаму я не на працы.

Аказалася, увечары ён дазваніўся да прэзыдэнта радыё Кевіна Клоўза, які тады быў у Вашынгтоне. Пра што яны гаварылі, ня ведаю, але Клоўз асабіста падпісаў новы кантракт да заканчэньня працоўнага дня — розьніца ў часе зь Мюнхэнам была шэсьць гадзінаў.

Маё знаёмства з Клоўзам адбылося паўтара году перад тым, позьнім восеньскім вечарам 1992 году. Я сядзеў адзін у сваім офісе ў будынку радыё і працаваў над артыкулам для аналітычнага часопісу. Калідоры былі пустыя, калі раптам дзьверы адчыніліся, зайшоў нейкі чалавек, стаў за плячыма і пачаў углядацца ў мой тэкст на экране, а потым спытаўся, што я раблю. Мне гэта не спадабалася, і я спытаўся ў адказ, што робіць ён. Аказалася, што працуе прэзыдэнтам, гэта яго ці ня першы працоўны дзень, і ён так знаёміцца з радыё.

Я дагэтуль цешуся, што мяне ўзяў на сталую працу Кевін Клоўз. Ён пачаў журналісцкую кар’еру ў *The Washington Post*, у 1977–1981 гадах працаваў загадчыкам карпункту ў Маскве, напісаў кнігу пра свой досьвед.

Яго самога на працу браў Бэн Брэдлі, самае легендарнае імя амэрыканскай журналістыкі, галоўны рэдактар Ўотэргейцкага расьсьледаваньня і мой асабісты герой. Кнігу ўспамінаў Брэдлі «Добрае жыцьцё» я чытаў і перачытваю з алоўкам. Клоўз сваю кнігу яшчэ піша, і там будзе пра ягоную працу на чале ўсяго амэрыканскага замежнага вяшчаньня, і шматгадовае кіраўніцтва *NPR* — Нацыянальным грамадзкім радыё, самай буйной і самай прафэсійнай радыёарганізацыяй ЗША. Мы потым пасылалі туды Данчыка, які, пабыўшы там, прывёз безьліч ідэяў і практык, якія мы зьбеларушчылі.

А тады, у 1994 годзе, праблема з кантрактам была, як мне патлумачылі, ува мне самім. У Нямеччыне абавязковы пэнсійны ўзрост — у 65 гадоў трэба зыходзіць, і Вячка набліжаўся да гэтага рубяжу. Адзін пэрсанаж, якому яго сябры ў кіраўніцтве паабяцалі пасаду дырэктара службы, вырашыў пазбавіцца ад канкурэнта. Я пра гэтыя інтрыгі нічога ня ведаў, захоплены сьвятам свабоды і яе спакусаў. Першы год жыцьця на Захадзе, новыя людзі, кнігі, фільмы, сталіцы, набыцьцё першага аўтамабіля, першая паездка ў Вэнэцыю — не да таго.

Маё прозьвішча трапляла на стол Клоўза яшчэ двойчы. Праз пару месяцаў пасьля пачатку працы я папрасіўся на тыдзень назад у Менск, на суд. Камуністычная газэта, якая выдавалася ў Беларусі, абрынулася на мяне з эпітэтамі і лексыкай, за якія заканадаўства адназначна прадугледжвала пакараньне.

У той час Вярхоўны Савет Беларусі ўжо цалкам ачомаўся ад разгрому путчу і кароткага трыюмфу дэмакратыі 1991-га і забараніў у 1992 годзе рэфэрэндум аб новых выбарах. А 3 лютага 1993 году зрабіў наступны крок — аднавіў у правах камуністычную партыю.

Я быў адным са стваральнікаў Мартыралёгу Беларусі, дзе мы вярталі памяць пра сталінскія злачынствы, быў сябрам камісіі Вярхоўнага Савету ў справах ахвяраў

таталітарызму, і апраўданьне самай пачварнай палітычнай арганізацыі дваццатага стагодзьдзя мяне амаль расплюшчыла. Я выступіў з эмацыйным камэнтаром на Свабодзе, а мой сябар потым здолеў надрукаваць яго ў газэце «Звязда», дзе мы некалі разам працавалі.

«Мы засталіся з нашымі мёртвымі сам-насам», — так пачынаўся той кароткі тэкст і канчаўся поглядам у будучыню:

«Нашы мёртвыя цяпер могуць пакінуць нас, бо мы не абаранілі іх ад пасьмяротнае зьнявагі. І тады гэта знак непапраўнае бяды. Бо так, бяз памяці, без аховы продкаў загінем, сыдзем у нябыт з карты Эўропы, і толькі кампартыйныя пацукі будуць лётаць ненажэрнымі зграямі па чарнобыльскіх абшарах таго, што некалі звалася Беларусяй».

Камуністычныя публіцысты адказалі лаянкай, я вырашыў суччыным дзецям не спускаць, суд прыняў справу аб абароне годнасьці да разгляду, і мне трэба было прыехаць на пасяджэньне.

Клоўз быў незадаволены. Журналіст не павінен быць суб'ектам падзеі, ягонае месца — на дыстанцыі, ён мусіць ня ўдзельнічаць, а асьвятляць. Мы дамовіліся, што я асьвятляць сябе ў судзе ня буду, гэта зробяць іншыя. Суд я выйграў, спагнаныя грошы пайшлі на патрэбы Мартыралёгу.

Другі раз я меў справу з Кевінам Клоўзам праз факс, калі я прапанаваў сваю адстаўку. У канцы 1994 году дэпутат Вярхоўнага Савету Сяргей Антончык выступіў з антыкарупцыйнай справаздачай, скіраванай супраць новага аўтарытарнага прэзыдэнта. Назаўтра газэты выйшлі зь белымі плямамі замест тэксту справаздачы, радыё і тэлебачаньне выступ не перадалі.

Я быў тады ў Менску, займаўся адкрыцьцём нашага першага бюро, арганізацыйных клопатаў было вышэй галавы, і не адразу заўважыў, што Свабода выступ Антончыка

таксама не перадала. Быў рэпартаж, але для мяне было відавочна, што трэба прачытаць у этэры ўвесь тэкст. Я пагаварыў пра гэта з Ларысай, зь Вячкам, але яны выказалі засьцярогу, што гэта будзе падтрыманьнем апазыцыі, што правілы амэрыканскай журналістыкі не дазваляюць займаць аднабаковую палітычную пазыцыю. Мае аргумэнты, што гэта наша місія, што чыталі па Свабодзе «Архіпэляг Гулаг» не падзейнічалі (я потым уведаў, што і чытаньне Салжаніцына выклікала ў свой час супраціў).

Я раззлаваўся, выклаў аргумэнты і адправіў у Мюнхэн факс, у якім прапанаваў прэзыдэнту радыё сваю адстаўку.

Клоўз аднойчы, шмат пазьней, расказваў мне пра пачатак сваёй працы ў *The Washington Post*. Яго нататка пра нейкую авіяцыйную аварыю выклікала скаргу, і да яго працоўнага месца ў сярэдзіне вялікага рэпартэрскага пакоя з разьюшаным выглядам ішоў загадчык аддзелу. Загадчык вылучаўся крутым норавам і багацьцем ненарматыўнай лексыкі, у чым Кевін, убраўшы галаву ў плечы і ўтаропіўшыся ў незакончаны артыкул, змог хутка пераканацца сам.

Загадчык стаяў ззаду і кляў на чым сьвет стаіць неахайную працу, няспраўджаную крыніцу, лянівых працаўнікоў, пустагаловых рэпартэраў, нікчэмных рэдактараў, няздараў і гультаёў, якім трэба вуліцы месьці, а не журналістыкай займацца. Потым наступіла паўза, і Кевін пачуў бясстраснае «Окей» — аказалася, уся тырада адрасавалася ягонаму суседу, які слухаў яе, не выпускаючы цыгарэты, цэдзячы каву і стукаючы на друкарцы.

З маім факсам Клоўз абышоўся прыкладна гэтаксама*.

* Кевін Клоўз вярнуўся на РСЭ/РС падчас унутранага крызісу ў 2013 годзе і больш за год зноў выконваў абавязкі прэзыдэнта. Калі ён увайшоў у залю на першую сустрэчу з супрацоўнікамі, мы абняліся.

## Зараза КДБ

У 1994 годзе Радыё Свабода ў Мюнхэне адведаў былы старшыня КДБ СССР Вадзім Бакацін. Ён быў апошні, хто насіў такі тытул. У Нямеччыну яго запрасілі на нейкую канфэрэнцыю, і сустрэча на радыё была прысьвечаная распаду СССР, нясконченым рэформам Гарбачова, нешта такое. Калі перайшлі да пытаньняў, я падняў руку і спытаўся, ці ня мог бы ён, як жэст добрай волі, сказаць, колькі агентаў КДБ меў і мае на радыё.

Усе напружыліся, Бакацін памаўчаў і адказаў, што ён нічога пра гэта ня ведае, але думае, што агентаў КДБ на радыё няма.

Цалкам магчыма, што адказаў праўдзіва: ня мог жа былы старшыня ведаць такія дробязі. Я потым задаваў розныя пытаньні былому дырэктару ЦРУ Бобу Гейтсу, які адведваў радыё, — адказ быў прыкладна такі самы.

Сьпісы агентаў — самая сакрэтная інфармацыя спэцслужбаў. Я неяк езьдзіў у Нюрнбэрг, дзе экспэрты разьбіралі архівы Штазі, тайнай паліцыі ГДР. Архівы ўяўлялі сабой мяхі тонка нарэзанай паперы — перад падзеньнем рэжыму ўсё кідалі ў паперарэзкі, каб пазьней спаліць. Архівісты сядзелі месяцамі, складаючы абрэзкі ў чытэльныя дакумэнты. Я спытаўся аднаго з працаўнікоў, які ў ягонай практыцы быў самы цяжкі выпадак, — ён расказаў пра аркуш, што складаўся з сарака фрагмэнтаў. Гэта быў сьпіс сэксотаў.

Спэцслужбы заўсёды засылаюць сваіх людзей у варожыя ці важныя для ўлады асяродкі. Выйшлі ў сьвет тамы на гэтую тэму, дасьледаваў яе і я ў сваіх кнігах, публікаваў дакумэнты, інструкцыі вярбоўкі, сьпісы агентаў. Гэта рэальнасьць. Рэальнасьць таксама палягае ў тым, што гэтая трасца заразная.

Яшчэ пры Андропаву КДБ эфэктыўна ўжываў тактыку абгавору, прадстаўляючы таго ці іншага дысыдэнта сваім

агентам. Апраўдацца было амаль немагчыма. Даказаць нават праз гады, калі закрытыя ўсе архівы, таксама.

Найлепшы адказ — найлепшым чынам рабіць сваю працу. Не апраўдвацца, не дадаваць кіслароду ў полымя чутак. Не марнаваць часу і сілаў на крыўды і абвяржэньні, канцэнтравацца на ўласнай справе. Захоўваць правілы бясьпекі, камунікацыяў, не даваць падставаў для шантажу. І ўмець глядзець не на словы, а на справы і іх наступствы ў доўгатэрміновым кантэксьце. Гэта вы жывяце і працуеце, а яны цярпліва чакаюць.

Калі ўзяць за норму Хрыста і яго апосталаў, дык на тузін чалавек прыпадаюць два ці тры здраднікі, адзін актыўны, іншыя проста слабыя. У нас, паводле майго адчуваньня, суадносіны былі лепшыя.

Было некалькі выпадкаў, калі былыя супрацоўнікі раптам пачыналі кампанію бруду. Нагодай звычайна выступала звальненьне, мовай нападак заўсёды была расейская — быццам каналізацыю ў галаве прарывала. Я, дарэчы, упэўнены, што менавіта мова служыла нам абярэгам, не падпускала розных зданяў у пагонах і без. Беларуская мова цураецца адкрытай варажнечы і нянавісьці. Думаю, зусім не выпадкова новая генэрацыя карнікаў не гаворыць па-беларуску.

Скаргі ў Вашынгтон ішлі адразу ў прафэсійным перакладзе. На радыё да такіх допісаў ставіліся прафэсійна, выслухоўвалі другі бок, глядзелі дакумэнты, разьбіралі і слалі ветлівыя адказы. Наступстваў такія акцыі ніколі ня мелі. Дый у Беларускай службы іх было вобмаль у параўнаньні зь некаторымі іншымі.

Ці маюць спэцслужбы дыктатарскіх краінаў сваіх агентаў на Радыё Свабода ці, шырэй, у апазыцыйных асяродках — адкажу, як Бакацін. Незалежных крыніцаў ня маю. Выключыць не магу. Але буду бараніць кожнага, пакуль не пераканаюся ў адваротным.

Прэзумпцыя невінаватасьці — занадта вялікае дасягненьне цывілізацыі, каб аддаваць яго на пацеху спэцслужбам.

У абодвух сэнсах.

## Такая любоў

Толькі пачаўшы працаваць у Мюнхэне, я зьдзівіўся, як шмат людзей маюць заўвагі і прапановы — што ня так і як трэба рабіць іначай. Ад мовы да раскладу вяшчаньня, ад кадраў да тэмаў, ад музыкі да паўтораў.

Парады былі як парады — разумныя і дурнаватыя, рэалістычныя і фантастычныя, часта супярэчлівыя і заўсёды эмацыйныя.

Эпісталярныя стасункі рэдакцыі і аўдыторыі дасягнулі піку недзе гадоў дванаццаць таму, каб з паштовай скрынкі 111, якую мы мелі ў Менску і якая дала назву папулярнай штотыднёвай праграме, перамясьціцца на дыгітальныя плятформы.

Не магу сказаць дакладна, колькі рэдакцыя атрымала лістоў на паперы за ўсе гады, тысячаў пад дзесяць.

Мы выдалі аж дзьве кніжкі выбранага ліставаньня, дзе цытуюцца меркаваньні слухачоў на ўсе тэмы і з усім спэктрам эмоцыяў, ад любові да рэўнасьці, ад кпінаў да малітваў. Можна выдаць яшчэ дзесяць*.

«…падчас слуханьня Свабоды я адчуваю сябе пасапраўднаму свабодным чалавекам» (Міхась Д., Давыд-Гарадок).

«…хачу атрымаць кнігу Свабоды “Як? Азбука паводзінаў”, каб зь яе дапамогай выхоўваць сваіх бацькоў і асабліва — дзядоў. Яе тэксты з маіх вуснаў яны ўжо будуць слухаць напэўна!» (Ірына А., Астравецкі раён).

---

* «Лісты на Свабоду» і «Лісты пра Свабоду» (2014).

«...я ўкраінец, але дзякуючы Беларускай Свабодзе, слухаючы вас, вывучыў беларускую мову. Вашыя перадачы мне вельмі падабаюцца, яны надзвычай цікавыя. Нават цікавейшыя за футбольны чэмпіянат сьвету. Таму я нават падчас сусьветнага футбольнага першынства слухаў вас штодня і ўвечары, і раніцай» (Ігар Земляны, Днепрапятроўская вобласьць).

Нават ня ведаю, які камплімэнт паставіць на першае месца, папярэдні, дзе мы перамаглі футбол, ці наступны, дзе ўзьняліся да самага ўсенароднага занятку:

«...слухаць вас гэта ўсё роўна што пасьля лазьні выпіць кілішак гарэлкі: і сьветла, і весела, і радасна» (Васіль З., Маладэчна).

Давалі мы слова і іншым зацятым слухачам (тут у перакладзе з расейскай):

«…Лукашэнка — правадыр беларускага народу і ўсяго славянскага сьвету. Яго абагаўляюць і любяць па ўсёй сьвятой Русі — у Беларусі, Украіне і Расеі. Гэта сапраўдны трыбун трыадзінай рускай нацыі — беларусаў, маларосаў і велікаросаў. На выбарах прэзыдэнта Бацька атрымаў большасьць галасоў, бо ён плоць ад плоці беларускага народу. І мы, беларусы, за свайго бацьку вам, ЦРУшным наймітам, глотку перагрызём. Вашу Свабоду слухае менш як паўпрацэнта насельніцтва рэспублікі — дый тое маргінальная частка грамадзтва» (Эдуард К., Баранавічы).

«…Паводле нашых падлікаў, Свабода штотыдзень атрымлівае дзясятак лістоў. А вы зачытваеце толькі дватры. Прытым асобныя зь іх напісаныя стукачамі, якія пішуць, што раней, за камуністамі, было ўсё добра. А калі ў лісьце ў адказ іх абвергнеш, дык пра гэта ня згадваеце. У выніку многія настолькі не задаволеныя Свабодай, што гатовыя пісаць у Кангрэс ЗША» (Іван А., Горадня).

«…у зрыве масавых акцыяў апазыцыі актыўную ролю іграе менавіта Беларуская Свабода, паколькі не дае інфармацыі пра месца і час збору людзей. Я слухаю Сва-

боду штодня, але толькі сёньня, 10 сакавіка, даведаўся, дзе будуць зьбірацца людзі 12 сакавіка. Інакш як наўмысным зрывам акцыі апазыцыі гэта назваць нельга» (Мікалай С., Менск).

«…сумна вас слухаць, Беларуская Свабода. Што вы ўсё адным і тым жа людзям слова даяце — Лябедзька, Пазьняк, Вячорка, Грыб, Шушкевіч…» (Дзяніс К., Баранавічы).

«…слухаю вас са студзеня 2001 году. Інфармацыя ваша тэндэнцыйная, накіраваная на падбухторваньне грамадзтва да псыхозу і рэвалюцыі. Супрацоўнікі вашай радыёстанцыі заражаныя фантазіяй прыходу да ўлады, і іхная фантазія ўжо перайшла ў фанатызм. Гэта небясьпечна, бо колькасьць вашых слухачоў вельмі шматлікая і ахоплівае ў значнай ступені ўсю Беларусь» (Павал В., Гомель).

Калі рабіць рэпрэзэнтатыўную выбарку, дык яна б выглядала куды больш кампліментарна: «праўдзівая інфармацыя», «непрычасаныя пытаньні», «заслужаны давер», «калі слухаеш, уцякаеш ад жыцьцёвай марнасьці і панаваньня расейшчыны»…

Але наступны ліст хачу працытаваць больш разгорнута:

«…Мне дваццаць пяць гадоў, я інвалід першай групы з хваробай вачэй, таму пад маю дыктоўку вам піша мама. Некалькі гадоў таму выпадкова натрапіў на хвалю Беларускай Свабоды, і з таго часу мне вельмі падабаецца слухаць вашы перадачы. Потым мне ў рукі трапіла кніга на беларускай мове, і зь яе дапамогай, як мне здаецца, я вельмі някепска вывучыў беларускую мову. Часам мне нават падаецца, што я больш беларус, чым украінец. Напісаў нават вось такі кароткі верш на беларускай мове:

*Я вывучаю мову лясоў,*
*Мову вёсак і гарадоў,*
*Мову зялёнай травы і балот...*
*І дзень, і месяц, і год*».

Подпіс — Якаў Зінчанка, вёска Іскра, Данецкая вобласьць.

Сяло Іскра месьціцца ў Вяліканавасёлкаўскім раёне, і калі я браў гэтую цытату з нашай даўняй перадачы, паглядзеў, якая там цяпер улада, — аказалася, тэрыторыя свабоды, на здымках над сельскай радай лунае блакітна-жоўты сьцяг.

Адзін з найважнейшых, як для мяне, адказаў на пытаньне, чаму вы слухаеце Свабоду, прыйшоў з радзімы Васіля Быкава:

«...з той самай прычыны, зь якой я пішу назву радыёстанцыі без двукосься, успрымаючы яе не як радыёстанцыю, а як форму існаваньня, як стан маёй душы» (Кастусь С., Вушачы).

Можна працягваць цытаваць старонкамі, але, далібог, чым цытаваць, лепш самім прачытаць, абедзьве кнігі «Бібліятэкі Свабоды» даступныя ў інтэрнэце. Любоў дрэнна паддаецца пераказу.

Чытаю ў нядаўна надрукаваным дзёньніку аднаго вядомага літаратара, як ён абмяркоўвае з калегай трывожную навіну: іхную заяву пра нешта Свабода перадала толькі аднойчы, а выступ іншага сумнеўнага паэта паўтаралі. І выснова — бо двурушнікі і кар’ерысты. Прычым абое — частыя госьці ў нашым этэры.

Рэч ня ў тым, што тая іх заява гучала некалькі разоў (усе перадачы на кароткіх хвалях паўтараліся), а ў напале.

Слухачы ўспрымалі Свабоду як сваё радыё. Беларускае, нацыянальнае, дэмакратычнае, антысавецкае, дрэннае, добрае, але перш за ўсё — сваё.

Ну, а са сваім у нас часам абыходзяцца па-свойску.

А часам гатовыя зрабіць табурэтку ў падарунак. Нават дзьве.

## Табурэтка для Свабоды. Пятніца, 29 ліпеня 2016

Без разьвітаньня не бывае сустрэчы. Гэты ліст ад апошняга слухача мы атрымалі летам 2016 году, калі завяршалася эра радыё, — скончылася вяшчаньне на кароткіх хвалях.

«Паважаныя сябры — супрацоўнікі Радыё Свабода!

Шчырае вам прывітаньне. Добрага вам здароўя і плёну ў працы. Слухаў я вас многа гадоў. Майму прымачу «Акіян-209» пайшоў трыццаць сёмы год. Вядома, ён знасіўся, адпрацаваў свой век.

Да 25 чэрвеня яшчэ добра прымаў вашы сыгналы. Асабліва перадачу «Трайны ўдар». Цяпер на сярэдніх хвалях вас ня чую, таму і пішу разьвітальнае пісьмо. Вядома, бяз вашай перадачы сумна. Але што зробіш.

«Трайны ўдар» цікавая перадача, але яна, на мой погляд, з палітычнай рыторыкай. Вы мяркуеце, аналізуеце, выказваеце погляды. Яны правільныя, а карысьці слухачу мала, які чытае «Народную Волю», «Нашу Ніву» ці іншыя апазыцыйныя газэты.

Вось ваш Іван М. раз даў інтэрвію зь нейкім беларусам Андрэем, які крыху «хуліганіў» з уладай і пераехаў у Чэхію. Там прыжыўся ў вёсцы, завёў сям’ю, гаспадарку, нават паляваньнем займаецца. Гэта жыцьцё-быцьцё. Цікава было слухаць. Цікавая інфармацыя, слушная, карысная, павучальная. Больш перадавайце пра быт, умовы, гаспадараньне за мяжой. Чаму там людзі жывуць лепш. Колькі зарабляюць, якая там мінімальная заработная плата. Вы не перадавалі пра чыноўнікаў. Ну, скажам, колькі іх у Польшчы, Славакіі, Румыніі, іншых краінах. Чуў я па радыё «Рацыя» раней, што ў Польшчы цяпер на пяць сярэдніх школаў — адзін дырэктар. Колькі там у раёне над настаўнікамі інспэктараў? У нашым Рагачове ў райана больш за дзьвесьце службоўцаў. Нават лічбу ня хочуць

даць. У нас вельмі многа міліцыянэраў, розных ідэолягаў, камсамольскіх работнікаў. А гэта ўсё нахлебнікі.

Аднойчы Лукашэнка заявіў, што, маўляў, вазьму і замкну райвыканкам. І работа будзе ісьці. Тут ён праў. Ды толькі гэта таксама рыторыка — балбатня.

Было ў нас у 1972 годзе два чалавекі ў сацыяльным забесьпячэньні. Налічвалі пэнсію без кампутараў. А цяпер там у новым двухпавярховым будынку цэлае ўпраўленьне. Так і ў міліцыі — службоўцаў не зьлічыць. А ў аблвыканкамах, Савеце Міністраў, адміністрацыі прэзыдэнта? Гэтая армія праядае народныя грошы. І ніколі нам ня быць багатымі.

У вашага Зьмітра Б. у перадачах няма палітыкі. Там кіпіць жыцьцё, у яго старыя жанчыны, якім за восемдзесят гадоў, жартуюць, сьмяюцца. Шкада, што яны ня чуюць яго перадачаў. Гэта рэдкая зьява.

Вашыя перадачы часта слухаў і выступаў на вашым радыё народны пісьменьнік Янка Брыль, Васіль Быкаў і многія іншыя. Многа раз вы давалі выступленьні Віктара Казька. У яго сацыялістычны рэалізм, а раман «Неруш» расьцягнуты-раскатаны, як цеста на локшыну. Ён многа напісаў на тэму прыроды. А карысьці? Машэраў асушыў балоты і спраміў рэчкі. Нанёс вялікі ўрон прыродзе Беларусі. І пра гэта пісьменьнікі — ні слова. І вы мала давалі такіх матэрыялаў. Стаяць шлюзы на рэках Ала, Дабысна… А як рыбе нераставаць?

О, як вы цудоўна вялі рэпартаж са Швэцыі пра Сьвятлану Алексіевіч! І яна малайчына. Выступала без эмоцыяў, культурна, з павагай да ўсіх прысутных. Яе кніга, «Цынкавыя хлопчыкі» — вялікая праўда пра вайну ў Афгане. Толькі загаловак ня трапны і вобразны. Цынкавыя могуць быць труны, а не чалавек. У гулагах хто паміраў, казалі: апрануў сасновы бушлат, хаця хавалі без дамавіны.

Алена Ц. вельмі таленавіты дыктар-журналіст. Умее разгаварыць субяседніка, задаць злабадзённае пытаньне,

не зьбіваецца з тэмы, на хаду робіць патрэбны паварот ці падказку, б’е ў дзясятку. Валянцін Ж. нядрэнна аналізуе пісьмы, талкова камэнтуе, расшырае тэму слухача, прыводзіць факты.

Нельга не пахваліць Міхася С. У апошняй перадачы, якую я яшчэ слухаў, ён гутарыў з Настай Кудасавай, своеасаблівай паэткай. У яе сабакі «нявыгаўканы сьвет». Гэта ж прыдумаць трэба сказаць так: вобразна, недасягальна, своеасаблівa. Пасьля такога інтэрвію хочацца бегчы ў бібліятэку, прачытаць твор. Значыць, журналіст выканаў сваю задачу, задаволіў слухача, прынёс яму карысьць, радасьць.

Вы вяшчаеце на добрай беларускай мове. Прыемна і радасна чуць такое. Хвала вам і ўдзячнасьць. Добрыя ўрокі мовы дае Вінцук В. Працягвайце такія перадачы, расшырайце наш кругагляд у моўных формах сэмантыкі.

Ваш Валодзя Г. да перадачы адносіцца сур’ёзна, рыхтуецца, праглядае газэты, часопісы, іншыя матэрыялы. Гэта можна сказаць і пра ўсіх вашых супрацоўнікаў. Я ўдзячны ім.

Раіць вам што-небудзь баюся, бо душа стрымлівае. Але некалькі думак выкажу. Раней вы давалі агляд газэты «Народная Воля». Пажадана, каб працягвалі такое. Маглі б раз на месяц паведаміць, што піша брытанскі *The Economist*, якая-небудзь амэрыканская газэта, нямецкая. Там ёсьць чаму павучыцца, нешта ўзяць важнае, павучальнае.

Ва Ўкраіне другі год ідзе вайна. Адурэлі расяяне на чале з Пуціным. А вінаваты ня ён. Дзяржаўная Дума. Яна дазволіла Пуціну ўвесьці армейцаў ва ўсходнюю Ўкраіну, анэксаваць Крым. Кожны дзень акупанты дваццаць-сорак разоў абстрэльваюць украінскія пазыцыі. Не выконваюцца менскія пагадненьні. Ці слухаеце вы сусьветную службу ўкраінскага радыёвяшчаньня? Там жывая інфармацыя пра жыцьцё і сьмерць. Мне здаецца, Эўрасаюзу трэба

ўвесьці санкцыі супраць членаў расейскага парлямэнту, нават самога Пуціна. Ці я памыляюся?

Стаўце перад нашымі беларусамі такія пытаньні: чаму мы з кожным годам бяднеем? Хто ў гэтым вінаваты? Раскажыце слухачам, чаму Літва, Латвія, Эстонія паляпшаюць эканамічныя паказчыкі, павышаюць зарплаты, пэнсіі. Якіх посьпехаў дабілася Польшча? Зрабіце інтэрвію з доктарам эканамічных навук Лешэкам Бальцэровічам. Ці давалі вы калі-небудзь слова спэцкарэспандэнту расейскай Свабоды Віталю Портнікаву?

Цікава ведаць, колькі паліцэйскіх у Вялікай Брытаніі, колькі ў Беларусі. Якая зарплата ў настаўнікаў Амэрыкі, Германіі. Я стары чалавек. Не сябрую з кампутарам, нават мабільніка ня маю. А хочацца ведаць.

Ванга варажыла Гітлеру. Ад яе ён выйшаў з сумным тварам. Вазьміце фатаздымкі Захаранкі, Ганчара, Красоўскага, Завадзкага. Пакажыце французскай дзяўчыне, што замяніла Вангу. Зьдзівіцеся. Атрымаецца ў вас, можа, супэрперадача. Не жартую.

Заданьне вашым супрацоўнікам. Няхай паспрабуюць у Менску купіць дазімэтар ці ў якім абласным ці раённым цэнтры. Ці ёсьць ён у Зьмітра Б.? Гэта жывая тэма для перадачы.

Слова пра штучныя кветкі, якіх завезьлі, можа, з Кітаю мільярды ў Беларусь. Яны не патрэбныя ні жывым, ні мёртвым. Забрудзяць ваду і зямлю. І прыйдзе такі час, што ня стане радзіць часнык і цыбуля, і ня стануць людзі піць малако ад кароў. Спытайце ў францускай празорцы пра гэта, ці пацьвердзіць яна думку Вангі.

Прабачце, што расьцягнуў пісьмо. Здаецца, вы выдалі кнігу выказваньняў, пісьмаў, заўваг С. Алексіевіч. Ці можаце падараваць?

І, як кажуць вашыя журналісты, апошняе пытаньне. Яно асабістае. Пра веласіпед. Ці шануюць гэты від транспарту супрацоўнікі Радыё Свабода? Ці прысьвячалі яму

перадачы? Гэта геніяльнае вынаходзтва. Найлепшы транспарт для здаровых людзей. Ну, папрабуйце пераканаць мяне. Зьезьдзіце ў Галяндыю, палічыце веласіпеды — і скажаце, што галяндцы вельмі разумны народ. У цёплы час яны дабіраюцца на работу толькі на веласіпедах. Новы мэр Лёндану, кажуць, езьдзіць на працу на ровары.

Мой дзядзька, калі служыў у ГДР, купіў там веласіпед фірмы *Renak*. Езьдзіў пяць гадоў, потым мне аддаў. Больш за дзесяць гадоў я зь яго ня злажу. Залатая машына. Колы не завасьмярылі, служаць спраўна, пэдалі таксама. Толькі зьмяніў пакрышкі — падыходзяць нашы. Ровар знакаміты, просты, дарожны, без скарасьцей, зь вядучымі ролікамі. Ехаць на ім — адна любата, ідзе як па масьле. І вось узьнікла праблема. Зьвёздачка зработалася на нішто, і ўчора адказаў тормаз. Я засумаваў, як па вашай перадачы.

Нідзе запчастку не магу знайсьці ці купіць новую ў поўным зборы ўтулку. Пamажыце. Я гатовы прафінансаваць. Акажыце гуманітарную дапамогу. А я — вам (хай калі-небудзь заедзе Зьміцер Б.). Ён некалькі разоў быў у Рагачове і даў цудоўную перадачу пра Валодзю Караткевіча. Помню нават зь перадачы, што шпалеры прапахлі дымам у доме яго дзядзькі, дзе, магчыма, Валодзя пісаў раман «Каласы пад сярпом тваім» і з зацяжкамі курыў. Бо вада падмывае берагі. І яна (дадам я) праз пэўныя гады стане пагражаць нашаму гораду.

А я вам, калі дапаможаце, зраблю табурэтку ручной работы. На памяць. Разыграйце ў лятарэю сярод супрацоўнікаў. Магу не пашкадаваць і дзьве. А Зьмітру сьпяю беларускую народную песьню «Я хаджу па зялёным лугу», якую пры здачы экзамэнаў па вуснай народнай творчасьці пеў у 1961 годзе прама ў аўдыторыі свайму настаўніку, народнаму паэту Беларусі Нілу Сымонавічу Гілевічу — апошняму з магікан. Там радкі такія: «Да крыніцы дайшла, зачарпнула паўвядра, дадому ішла і

сьлязамі даліла…» Гілевіч сказаў: «Якая народная вобразнасьць. Запішыце мне гэтую песьню».

Здаецца, яшчэ жывы Янка Запруднік. І яму прывітаньне. І Галіне Руднік, якая чаравала слухачоў незабыўнай мэлёдыяй на акардэоне.

Шаноўны спадар Лукашук, даражэнькі Саша! Я ўдзячны вам за кніжку «Прыгоды АРА ў Беларусі», якую вы даслалі мне ў 2005 годзе зь цёплым аўтографам.

Мне, старому дзядзьку, сорамна прасіць вас вырашаць праблему зь нямецкім веласіпедам. Але такое ў нас жыцьцё, такая ў нас краіна. Нічога не паробіш. Таму канькаю, малю Бога. Можа, ён пачуе мяне, зьміласьцівіцца.

Утулка ці хоць старое кола падыдзе і зь веласіпеднай нямецкай фірмы «Тарпэда». Толькі зь вядучымі ролікамі на конусе. За новае я заплачу, але з колам вам марока. Як яго даставіць? Утулку можна прыслаць, толькі простую, без скарасьцей, у поўным зборы.

Купіў бы я і новы прымач. Грошай хапае, ды талковага няма. О, каб вы прыслалі такі, якія даравалі за найлепшы «званочак»! Назвы ня помню. Толькі як вам пераслаць грошы?

У Рагачове ў верасьні пройдзе Дзень беларускага пісьменства. Можа, хто з вашых журналістаў прыедзе на сьвята. Хай заходзіць, запрашаю ў госьці, будзе дарагім госьцем. Пачастую беларускім віном. А закусім — чым Бог пашле.

Усім вам зычу здароўя і жыцьця год доўгіх.

Ваш старэйшы слухач Пётар А.

29 ліпеня 2016 году.

P.S. У вас пазыўны на песьню Канстанцыі Буйло. Прысьвяціце і ёй перадачу, каб мы яшчэ больш любілі «свой край, старонку гэту», шанавалі мову родную, людзьмі зваліся».

Слухач пакінуў свой адрас і тэлефон.

Дарэчы, абсалютная большасьць лістоў на Свабоду была з подпісамі і адрасамі. Мне ўдалося арганізаваць вываз лістоў, і цяпер тысячы допісаў на Свабоду захоўваюцца ў рэдакцыі ў Празе.

Напісанае на Свабоду застаецца на свабодзе.

## Ровар ад Свабоды

Ёсьць адна рэч, якая робіць Свабоду ўнікальнай. У сьвеце не было больш радыё, якое б пачынала кожны выхад у этэр сыгналам любові. Літаральна:




Музыка Міколы Равенскага на верш Канстанцыі Буйло была геніяльным выбарам сыгналу радыёстанцыі.

Гэты скачок на актаву, ад «до» да «до», як самалёт, які вырываецца з аблокаў і пераносіць у сьвет празрыстай чысьціні і бясконцага блакітнага небакраю.

Бясконцы край — супярэчлівая мэтафара, як і вызначэньне посьпеху. Галоўная мэта Радыё Свабода — змоўкнуць. Працаваць так, каб стаць непатрэбным, закрыцца. Сурагатнае вяшчаньне мусіць завяршыцца, калі выкананая яго місія — у краіне вяшчаньня запанавала свабода прэсы. На пачатку 1990-х закрыліся польская, вугорская і румынская службы, на пачатку нулявых на маіх вачах адбывалася разьвітаньне з баўгарскай, славацкай, літоўскай, латыскай, эстонскай рэдакцыямі.

Аднак за апошнія тры гады вярнуліся тры службы: румынская, баўгарская і вугорская, у інтэрнэце. Ці варта, чаму гэтыя краіны, а ня іншыя, ці вернуцца астатнія закрытыя службы, ці зьявяцца новыя — гэта палітычныя

пытаньні і палітычныя рашэньні. Лёгіку шукаць марна, як марна лічыць чужыя грошы ці судзіць чужую любоў.

Кароткія хвалі імкліва скарачаліся пад націскам інтэрнэту. Свабода прэсы, нават адносная, задавальняла першасны інфармацыйны голад, старыя прымачы нельга было адрамантаваць, новых не выпускалі, рэтрансьляцыя перадачаў на кароткіх хвалях каштавала мільёны даляраў. Спачатку Бі-Бі-Сі адмовілася ад кароткіх хваляў, затым спынілася і амэрыканскае замежнае вяшчаньне ў Эўропе.

Мы зьнялі фільм пра апошні дзень на кароткіх хвалях, які паказалі па «Белсаце» і выставілі ў *YouTube*, разьвіталіся са слухачамі.

Кароткае вяртаньне адбылося восеньню 2020 году, калі ў Менску заблякавалі сайт svaboda.org, — нашы калегі з Расейскай службы пацясьніліся, і мы зноў на пару гадзінаў у дзень загучалі на сярэдніх хвалях зь перадатчыка ў Літве. Мы маглі рабіць кругласутачны этэр, у часы крызісу людзі прагнуць навінаў, якім давяраюць, але патрабаваўся дадатковы бюджэт, а не было нават неабходнага.

Увогуле, у Беларусі слухаюць FM-станцыі, наша аўдыторыя на кароткіх хвялях была анамаліяй, выключэньнем з трэнду. Сёньня вяртаньне да кароткахвалёвых прымачоў ня больш рэалістычнае, чым вяртаньне да факсаў ці камунікацыі праз азбуку Морзэ. Хіба што штучны інтэлект ці адна суседняя імпэрыя адключаць сьвятло, тады давядзецца перастуквацца.

Час ад часу на радыё пачынаюцца дыскусіі — як нам называцца, мы ж ня толькі радыё, нават ужо зусім ня радыё. У Вашынгтоне палітыкаў, якія галасуюць за бюджэт, асабліва бянтэжыць поўная назва, Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. А хіба Эўропа не свабодная, зусім не наіўна пытаюцца кангрэсмэны са штату Канзас ці Місысыпі, дзе пасьля тарнада ці ўрагану патрэбныя сродкі на аднаўленьне дарог і гарадоў. Адміністрацыя Трампа тройчы прапаноўвала Кангрэсу рэзка скараціць

выдаткі на замежнае вяшчаньне, але заканадаўцы пакуль не пагаджаюцца.

Мо таму, што радыё, якое можа дапамагчы пазбавіць дыктатара ядзернай зброі, выдатная інвэстыцыя.

31 траўня 2016 году ў дыяпазонах 41 і 31 мэтар апошні раз прагучалі нашы пазыўныя на кароткіх хвалях. Але радыё, якое кожны выхад у этэр пачынала з прызнаньня ў любові, ня можа скончыцца. Уяўляеце, колькі людзей нарадзілася, пакуль электрамагнітныя хвалі несьлі вакол зямной кулі гэты сыгнал гармоніі і ласкі.

Вядома, можна запярэчыць, што слухачы нараджаліся і да Свабоды, што ўся партытура гэтага разьдзелу ня больш чым мэтафара, а сьцьверджаньні — ненавуковыя. Але не навуковыя ня значыць ня слушныя. Музыка не патрабуе навуковага абгрунтаваньня, гэта навука павінна правяраць сябе гармоніяй.

До-фа-ля-до-ля-соль-сі-сі-ля…

Ня ведаю, наколькі я выканаў заданьне з Рагачова расказаць пра пазыўныя. А зь пярэдняй утулкай выйшла такая гісторыя: нямецкую кампанію, якая іх вырабляла, перакупілі кітайцы, зьмянілася намэнклятура. На аўкцыёне можна набыць ровар фірмы *Torpedo* аж стогадовай даўніны, але асобна пярэднюю ўтулку ці кола зь вядучымі ролікамі на конусе не змаглі знайсьці нават зацятыя раварысты Свабоды на чале з Андрэем Кузьнечыкам, які дзесяць год, да арышту, езьдзіў на ровары з дому на вуліцы Ангарскай да офісу Свабоды каля парку Чалюскінцаў. Нашы раварысты параілі не рамантаваць тармазы, а набыць новую машыну. Што мы і зрабілі.

Зьміцер Б. загрузіў падарунак у сваю баявую «Волгу» і адправіўся ў Рагачоў. Што там Бог паслаў на закуску, невядома, але песьняў было ад душы.

## Маё начальства. Джэфры Трымбл

— Камрад, разьмяняй траячку!

Джэф дастае з партманэта складзеную напалам трохрублёўку — памяць пра Маскву, дзе ён пазнаёміўся з будучай жонкай, амэрыканскай студэнткай. Гэта была так званая шчасьлівая купюра — тры тройкі ці тры васьмёркі ў сэрыйным нумары банкнота.

Джэф быў «журналісцкім журналістам» — працаваў у газэтах, загадваў карпунктам часопісу *U.S. News &World Report* у Рыме і Маскве, браў інтэрвію ў Міхаіла Гарбачова, сустракаў на пэроне акадэміка Андрэя Сахарава, калі той вяртаўся з высылкі. Ніхто ня ведаў вагона, і натоўп карэспандэнтаў пабег у галаву цягніка, а Джэфу нешта, можа, шчасьлівая траячка, падказала пайсьці ў канец — і ён быў першы, хто пабачыў акадэміка. Алена Бонэр у мэмуарах узгадвае яго візыты да іх дадому, а сам ён памятае яе катлеты з тварагу — сырнікі.

У Празе ён быў дырэктарам вяшчаньня, як тады называлася пасада галоўнага рэдактара РСЭ/РС. У Джэфа былі два сабакі, якіх ён выгульваў кожную раніцу, і ён любіў казаць, што так выглядае ягоная праца: хадзіць і прыбіраць за журналістамі. Бо скаргаў заўсёды хапала — ад слухачоў, ад дыяспары, ад палітыкаў, ад амбасадаў у краінах вяшчаньня.

Пасьля сыходу прэзыдэнта Тома Дайна (1997–2005) Трымбл каля году кіраваў радыё, а потым стаў адным з кіраўнікоў Амэрыканскага замежнага вяшчаньня ў Вашынгтоне, шмат гадоў займаў найвышэйшую пасаду ў фэдэральнай службовай лесьвіцы. Некалькі разоў ён быў у Менску, я заўсёды сустракаюся зь ім у Вашынгтоне. Яго прафэсійны аўтарытэт і веды ня толькі не ствараюць дыстанцыі, а наадварот, прыцягваюць і прымушаюць задаваць пытаньні і прасіць парады. Ён пазнаёміў мяне са

сваім мэнтарам, вядомым амэрыканскім тэлевядоўцам і аўтарам дакумэнтальных кніг Марвінам Колбам, які выкладаў у Гарвардзкім унівэрсытэце.

Я спытаўся, што пачытаць пра амэрыканскую журналістыку, і прафэсар Колб назваў некалькі кніг, якія сталі маімі настольнымі. «Добрае жыцьцё» Бэна Брэдлі, галоўнага рэдактара *The Washington Post,* пра газэтную працу, сяброўства з Джонам Кенэдзі, Ўотэргейт і яго зорак, Боба Вудварда і Карла Бэрнстайна. «Асабістая гісторыя» Кэтрын Грэм, першай жанчыны — уласьніцы сталічнай газэты, была ня толькі асабістай: яна не адступала ні пад пагрозамі адміністрацыі Ніксана, ні ад шантажу друкароў-страйкоўцаў. «Хлопцы Марава» былі прысьвечаныя радыё- і тэлежурналісту Эдварду Мараву, які стварыў першую глябальную карэспандэнцкую сетку, што працавала падчас Другой сусьветнай вайны і пасьля. Мараву належыць формула журналістыкі, якая быццам спэцыяльна адрасавалася Радыё Свабода: «Праўда — найлепшая прапаганда».

У 2019 годзе РСЭ/РС упершыню атрымала самую прэстыжную прафэсійную ўзнагароду амэрыканскага тэле- і радыёвяшчаньня, якая носіць імя Марава, — і сярод адзначаных матэрыялаў быў толькі адзін, падрыхтаваны не Цэнтральнай службай навінаў радыё, якая працуе на ангельскай, а створаны ў моўнай службе. Гэта было расьсьледаваньне журналісткі Беларускай службы пра сэксуальныя дамаганьні да алімпійскай гімнасткі Вольгі Корбут і іншых. Я страшна ганарыўся нашым Маравам, прынамсі больш, чым сваёй узнагародай Нью-Ёрскай акадэміі мастацтваў за відэафільм пра Освальда.

Сярод рэчаў, якім я навучыўся ад Джэфа, ёсьць і мастацтва надзяваньня камэрбанда — нешта кшталту папругі, якую зашпільваюць пад смокінг.

Мы былі запрошаныя на прыём для журналістаў, які ладзіў Белы дом, і ісьці трэба было ў смокінгу. Увесь

камплект уключна з туфлямі я ўзяў напракат за пару гадзін да прыёму, прынёс у наш вашынгтонскі офіс і пачаў разьбірацца з францускімі манжэтамі, штанамі зь лямпасамі, але без рамяня. Што рабіць зь дзіўным складчатым кавалкам тканіны з матузкамі, я паняцьця ня меў і начапіў, як мог.

Калі мы селі за стол і я расшпіліў смокінг, Джэф заўважыў, што камэрбанд надзеты дагары нагамі і ня тым бокам. Заўважыў ня толькі ён, пераадзявацца было позна, і Джэф патлумачыў суседзям за сталом, што комрад зь Беларусі, і там такая традыцыя ад часоў Вялікага Княства.

Прыём прайшоў нармальна, Біл Клінтан пра мой камэрбанд нічога не сказаў.

Менавіта Джэф прызначыў мяне дырэктарам.

Паводле закону, на ўсе пасады на радыё абвяшчаецца адкрыты конкурс, і жаданьне кіраваць Беларускай службай выказала даволі вялікая колькасьць кандыдатаў, ад прафэсара Лёнданскага ўнівэрсытэту да дыск-жакея сельскай радыёстанцыі, які ніколі не выяжджаў за межы штату Агаё.

Я выконваў абавязкі дырэктара, быў заняты адкрыцьцём вэб-сайту, новымі праграмамі і сваёй кандыдатуры не падаў. У апошні дзень конкурсу зайшоў Джэф і папрасіў разьмяняць трохрублёўку.

Давялося напісаць заяву, а астатняе, як кажуць, проста гісторыя.

Якая некалькі разоў магла перарвацца.

Неяк, на першым годзе дырэктарства, мяне запрасілі ў Гарвардзкі ўнівэрсытэт выступіць на адкрыцьці канфэрэнцыі пра Беларусь. У залі былі лідэры беларускай апазыцыі, праваабаронцы, амэрыканскія дыпляматы, палітыкі, кіраўнікі міжнародных НДА, журналісты — увесь цьвет.

Не падумаўшы, я выступіў як думаў. Калі тое, што я думаў пра мінулыя падзеі, супала з думкамі прысутных,

дык тое, што я думаў пра будучыню, ня тое што не зайшло, але найшло як каса на камень.

Я думаў, што рэжым ня крохкі, а вязкі, што апазыцыя ў заганным коле, што донары не разумеюць ролі мовы і культуры, а дыпляматы пераацэньваюць ролю Захаду і Ўсходу, што заўтра будзе, як учора, толькі горш…

Скаргі на мяне былі такія, што Джэф вырашыў абмеркаваць іх не ў сваім кабінэце, а пайсьці ў рэстаран.

Нягледзячы на працоўны час, ён замовіў віна, узьняў келіх і прапанаваў тост:

«Комрад, думай, калі кажаш, што думаеш».

Я ня стаў спрачацца. Я так і думаў.

Гэта як зашпільваць камэрбанд.

## Больш чым радыё

Кароткія хвалі — доўгая памяць.

Першае, што я зрабіў, заступіўшы на пасаду дырэктара 1 кастрычніка 1998-га, — паставіў задачу выйсьці ў інтэрнэт. Традыцыйныя мэдыі ў той час яшчэ насьцярожана прыглядаліся да сусьветнага павуціньня. Мы былі радыё, сродкаў на пабудову сайту ніхто не вылучаў, сваіх спэцыялістаў не было — але, як кажуць, было б жаданьне.

Сайт www.svaboda.org афіцыйна нарадзіўся 10 сьнежня 1998 году, у Міжнародны дзень правоў чалавека. Гэта быў, здаецца, другі паводле ліку сайт на ўсім радыё.

Чакаць, пакуль будуць усе ўмовы для пачатку, — самая бясьпечная тактыка і самая небясьпечная стратэгія для дырэктара. Прарыў у інтэрнэт быў удалы.

Але трэба было рухацца далей. Завяршаліся першыя тры месяцы майго дырэктарства, канчаўся 1998 год, стагодзьдзе і тысячагодзьдзе. Пачыналася новае. Трэба было рабіць нешта новае і нам, і за нейкі тыдзень мы прыдумалі «Слоўнік Свабоды».

Кожны дзень 1999 году ў этэры гучала эсэ на слова, якое было важным у дваццатым стагодзьдзі: ад акцябронка да джынсаў, ад касманаўта да міні-спадніцы. Наступны гадавы праект называўся «Ўспамін стагодзьдзя» — слухачы расказвалі гісторыі са свайго жыцьця, і кожны дзень 2000 году гэтыя аповеды гучалі ў этэры.

Гадавы мега-трыптых у 2001 годзе завяршыла перадача, адрасаваная ў будучыню: мы папрасілі нашых слухачоў напісаць і прыслаць верш на свабоду — яе адчуваньне і разуменьне на пачатку новага тысячагодзьдзя. Рэдакцыя атрымала больш за тысячу лістоў. І ўвесь год кожную раніцу пад музыку Вэрдзі з опэры «Набука» гучалі вершы, якія чыталі 9-гадовыя паэткі і 90-гадовыя акадэмікі.

Арыю *«Va, pensiero…»* — ляці, думка — выконвае ў трэцім акце опэры хор рабоў, што прагнуць свабоды. Радыё — гэта гук, і біблейская сіла і ўзьнёслая прыгажосьць гэтай харальнай фрэскі, якая суправаджала штодня нашу праграму, мела эфэкт ня меншы за вершы. Мы атрымлівалі прызнаньні слухачоў, што яны ўставалі, калі на хвалі Свабоды пачыналася *«Va, pensiero…»*.

У 2001-м нам удалося ўдвая павялічыць этэр, з чатырох да васьмі гадзінаў — без павелічэньня бюджэту.

Удалося, бо мы ўжо былі іншыя і жылі зь іншай хуткасьцю. Складвалася ўражаньне, што ў Беларускай службе твары супрацоўнікаў мяняліся часьцей, чым ва ўсіх астатніх, разам узятых. Ад пачатку дырэктарства я ўвёў ратацыі — запрашаў журналістаў зь Беларусі на год-два папрацаваць у Празе, а таксама пакідаў адкрытымі вакансіі ў Празе і выкарыстоўваў гэты бюджэт, каб рэгулярна на тры месяцы, як дазвалялі візы, запрашаць на часовую працу тры-чатыры чалавекі. Супрацоўнікі аддзелаў кадраў, падарожжаў, адміністрацыйных справаў, фінансаў глядзелі на нашы карусэлі з жахам — такога больш ніхто не рабіў. Але не перашкаджалі.

Агульная атмасфэра была сьвяточная — і ня толькі з-за супольных вечарынак і паходаў у праскія кафэ і клюбы. Начная каманда магла пазваніць мне а сёмай раніцы з прапановай новай перадачы, у нядзелю ўвечары я мог патэлефанаваць мадэратарцы ранішняга этэру, каб абмеркаваць чарговую геніяльную ідэю, бо ня мог дачакацца панядзелка. Пры сустрэчах за півам, на днях народзінаў ці на беларускіх сьвятах толькі і гаворкі было, што пра новыя рубрыкі, ідэі, гасьцей этэру, нават, памятаю, спрабавалі былі ўвесьці правіла не гаварыць пра працу па-за працай, але дзе там.

Праз год была завершаная архітэктура вяшчаньня: імклівая ранішняя праграма адразу пасьля ўзыходу сонца, потым грунтоўны інфармацыйны этэр ад 18:00 да 22:00, а пасьля, да поўначы, стылёвая гіпстэрская «Начная Свабода». Ну і нон-стоп інтэрнэт.

Кароткія хвалі — дарагая ўвага. Слухачы нешта адчулі, і ўзьнікла энэргетычнае поле паміж рэдакцыяй і аўдыторыяй, як бывае на ўдалых спэктаклях у тэатры ці на футбольным матчы.

У 2002 годзе выйшла першая кніга «Бібліятэкі Свабоды», зборнік, які склалі 365 вершаў на тэму свабоды. Узрост аўтараў вагаўся ад 9 да 92 гадоў, зваротныя адрасы былі з усёй Беларусі і трох дзясяткаў краін з трох кантынэнтаў (ПЭН-Цэнтар дапамог далучыць замежных аўтараў). Легендарная лёнданка Вера Рыч пераклала яе на ангельскую. Хоць яшчэ раней часопіс «ARCHE» выпусьціў асобны нумар, які склаў «Слоўнік Свабоды» — як мне казаў тады яго рэдактар, ці ня самы пасьпяховы нумар. Яго выкарыстоўвалі на занятках ва ўнівэрсытэтах, кралі ў бібліятэках*.

Нашую кніжную калекцыю, якая на гэты момант налічвае пад сотню выданьняў і сабрала ўсе магчымыя

---

* «Верш на Свабоду» (2002), «Poems on Liberty: Reflections for Belarus» (2004).

незалежныя ўзнагароды, можна знайсьці на тысячах прыватных паліцаў, у бібліятэках ад Беларусі да Кангрэсу ЗША і, вядома, у сеціве.

Потым мы сталі тэлебачаньнем — пачалі супрацу з нованароджаным «Белсатам». Патрэбны быў слоган, які б упрыгожваў заднік круглых сталоў, і мы спыніліся на простым: «Больш чым радыё».

Свабода заўсёды была большая за радыё.

## Анёлы Быкава

У нядзелю 22 чэрвеня 2003 году я быў з гасьцямі на Карлавым мосьце, калі зазваніў тэлефон: у Менску памёр Васіль Быкаў. На мосьце выключылі гук, застыла Влтава, толькі чэрвеньскае сонца сьляпіла промнямі, якія былі пасланыя на зямлю восем хвілін таму, калі Быкаў быў яшчэ жывы.

Празь дзьве гадзіны мы з калегамі сядзелі ў студыі ў жывым этэры. Навіны, першыя рэакцыі зь Беларусі і сьвету, спробы зразумець маштаб страты і ацаніць месца ў гісторыі — і, канечне, голас самога пісьменьніка.

Я думаю, Свабода мае найвялікшую калекцыю запісаў Быкава — ён ніколі не адмаўляў у інтэрвію, браў удзел у круглых сталах, мы вялі рэпартажы зь ягоных публічных выступаў, ён сам дыктаваў камэнтары. Падчас аднаго з прыездаў Быкава ў Прагу я папрасіў яго адабраць і начытаць некалькі фрагмэнтаў сваіх аповесьцяў, у нас таксама было шэсьць гадзінаў яго запісу «Доўгай дарогі дадому».

Мы пазнаёміліся ў 1988 годзе, калі Быкаў напісаў прадмову да маёй першай кніжкі, якая расказвала пра сталінскі тэрор у Беларусі. Узьніклі праблемы з цэнзурай, і патрабаваўся аўтарытэтны голас у падтрымку*.

---

* «Здзек», Менск, 1989.

Гэты тэкст, «Кроў і праклён», Быкаў потым уключыў у свой шасьцітомны збор твораў. Я баюся яго перачытваць, такія там словы.

Быкаў быў дарагім аўтарам і ўважлівым слухачом Свабоды; адным з чыньнікаў яго пераезду на жыцьцё ў Прагу ў 2002 годзе стала шматгадовае сяброўства з рэдакцыяй. Мы сустракаліся па-за працай, дапамагалі з фармальнасьцямі, разам езьдзілі ў амбасаду Беларусі, бо ў жонкі Ірыны Міхайлаўны скончыўся пашпарт, гулялі па Празе, адведвалі яго ў шпіталі, выдатна разумеючы, з кім мы побач.

Калі ў красавіку 2003-га Быкавы вырашылі паляцець у Менск, я быў у камандзіроўцы ў Амэрыцы і, калі вярнуўся, пазваніў у Менск. У Быкавых быў зваротны квіток, але вяртаньне адкладвалася: высьветлілася, што пасьля замены пашпарта іх выпісалі з кватэры. Пачалася цяжкая трасяніна, я таксама званіў у беларускую амбасаду і абвінавачваў дыпляматаў у саўдзеле ў апэрацыі спэцслужбаў, яны апраўдваліся. Неўзабаве Быкаву пагоршала, ён трапіў у шпіталь.

Празь дзень пасьля ягонай сьмерці я адлятаў на пахаваньне. З сабой вёз бел-чырвона-белы значок, які прыкалоў потым да смокінга, у якім хавалі. Пасьля сустрэчы з Ірынай Міхайлаўнай з кватэры Быкавых паехаў у Саюз пісьменьнікаў. Калі заходзіў у прыёмную старшыні, раптам пачуў сваё імя: раздражнёны голас абураўся, што вось прыляцеў Лукашук з Прагі і будзе тут зараз камандаваць. Я ня ведаў асабіста міліцэйскага генэрала Мікалая Чаргінца, якому Быкаў некалі напісаў прадмову да кніжкі дэтэктываў, але здагадваўся, чаму былы кіраўнік выбарчага штабу Лукашэнкі так пераймаўся. Я назваўся, але рукі падаваць ня стаў.

Дзяржаўную камісію пахаваньня ўзначальваў міністар культуры, вяліся няспынныя перамовы, тузалі Ірыну Міхайлаўну, спрачаліся, каму даць слова, каму не, ці мож-

на несьці труну па вуліцы, ці дазволеная нацыянальная сымболіка, успыхвалі і гасьлі чуткі, панаваў звычайны ў такіх справах туман. Які расьсеяўся, калі старэйшы сын Быкава Сяргей адмовіўся прыбраць з труны бел-чырвона-белы сьцяг, якім два малодшыя сябры-пісьменьнікі пакрылі нябожчыка, і дзяржаўная камісія ўцякла як чорт ад ладану.

Ці ад анёла.

Я неяк папрасіў Быкава адказаць на гэтак званую анкету Пруста, і там ёсьць пытаньні пра сьмерць. Быкаў адказваў, што сьмерць — натуральная зьява, і стаўленьне да яе павінна быць натуральным. Наконт таго, якой сьмерцю хацеў бы памерці, быў ляканічны: раптоўнай. На пытаньне, ці ёсьць у яго анёл-ахоўнік, Быкаў сказаў, што некалькі разоў меў магчымасьць пераканацца, што ёсьць: «Як ён выглядае, як завецца, я ня ведаю. Але напэўна ёсьць, таму што некаторых момантаў свайго жыцьця я не магу растлумачыць як толькі ўмяшаньнем, пакравіцельствам іменна анёла-ахоўніка».

«Анёл зьявіўся ў Беларусі», — так, нечакана для мяне самога, я пачаў свой выступ на паніхідзе. Разьвітальныя прамовы трансьляваліся ў этэры Свабоды, іх слухалі на вуліцы перад Домам літаратара. Усе яны апублікаваныя ў кнізе «Быкаў на Свабодзе» — бо мы іх, як і шмат што іншае ў той дзень, запісалі.

Рэпартэры Свабоды працавалі нон-стоп, слухачы і чытачы ведалі ўсё, што адбываецца. Людзі зьбіраліся каля Дому літаратара, ехалі з усёй Беларусі, каб пад бел-чырвона-белымі сьцягамі годна ў смутку прайсьці жалобным шэсьцем праз увесь горад, дзе сілы зла раптоўна адступілі перад нейкай вышняй сілай.

Калі час ператвараецца ў гісторыю, місія журналістыкі — гэтую трансфармацыю зафіксаваць, захаваць, каб асэнсаваць і так фармаваць будучыню. Я так разумеў сваю ролю і ролю Свабоды. Генэрал Чаргінец быў недалёка ад ісьціны, калі думаў, што я буду камандаваць: толькі ня

тым, што і як павінна адбывацца, а каб захаваць праўду пра тое, што адбываецца. Праўдай камандаваць нельга, яна сама камандуе.

Паніхіду адкрывалі блізкія сябры пісьменьніка, гаварылі замежныя госьці, я завяршаў. Магчыма, гэта проста журналісцкі інстынкт — даць слова герою, але мне падавалася надзвычай важным, каб на разьвітаньні прагучаў голас самога Васіля Ўладзіміравіча.

Я прывёз з сабой аўдыёзапіс і дамовіўся, каб уключылі падчас майго выступу. Быкаў адказвае на пытаньне, навошта пісаць: «Усё ж яшчэ пакуль што можна чуць, што пішуць мастакі, ствараюць мастакі. Але справа нават ня ў гэтым. Нават калі нічога ніхто не пачуе, усё роўна наш абавязак творцаў — гэта тварыць, памятаючы, што ісьціна ўсё-такі за намі. За імі, тымі, хто выступае супраць, — перамога, а за намі — ісьціна. Вельмі важнае даўняе выслоўе "Рабіце што трэба, і хай будзе што будзе". Вось у гэтым ёсьць абавязак і, можа быць, апошняе спадзяваньне мастака ў наш час».

І журналіста таксама.

## Як вам дапамагчы

Я ніколі ня быў на прэзыдэнцкіх выбарах у Беларусі. У тым сэнсе, што ў 1994-м быў у Мюнхэне, а потым ужо выбараў не было — была ярмошынская спэцапэрацыя.

Але дні і ночы галасаваньня, як правіла, праводзіў у Менску.

У 2020 годзе выглядала, што я змагу ўпершыню ў жыцьці паўдзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбарах у Беларусі, і на пачатку жніўня я паляцеў у Менск. Дзень выбараў правёў у паездках па горадзе, ад аднаго ўчастку да другога, гаварыў з назіральнікамі, людзьмі ў доўгіх чэргах, якія гадзінамі чакалі, каб прагаласаваць. Увечары вярнуўся ў бюро, і

да глыбокай ночы мы вялі жывы відэаэтэр, які глядзелі больш за сто тысяч чалавек адначасна.

Недзе а другой гадзіне раніцы, на завяршэньне, я сеў перад відэакамэрай, каб у жывым этэры падвесьці драматычныя вынікі дня. Потым пералічылі сваіх людзей: здаецца, нікога ня страцілі. Разьвітаўся з калегамі, некаторыя засталіся начаваць у бюро. Таксі не было, да кватэры дабраўся каля трэцяй. Неба над цэнтрам гораду палыхала, грымелі выбухі.

Пра тое, што адбывалася ў наступныя дні, лепш прачытаць на сайце Свабоды. Праз чатыры дні я адлятаў у Прагу — ня ведаючы, што вярнуцца ня ўдасца.

Цунамі гвалту накрыла ўсю краіну. Журналістаў толькі што не адстрэльвалі: арышты, зьбіцьцё,ператрусы, зьдзекі, блякаваньне сайтаў, пазбаўленьне акрэдытацыі, зноў арышты, зьдзекі… Інакш, чым героямі, рэпартэраў незалежных мэдыяў, якія працягвалі працаваць, назваць нельга.

Але назваць некага героем не дастаткова — героям патрэбная дапамога.

Праз пару дзён пасьля вяртаньня зь Менску са мной захацеў сустрэцца міністар замежных справаў Чэхіі Томаш Пэтршычэк. Прапанаваў, што сам прыедзе на радыё. Час выбраў цікавы — 7:30 раніцы. Прыехаў не адзін, а з камандай, чалавек шэсьць.

Усе ў масках, лічбы пандэміі тады білі рэкорды, усе ў гальштуках, мы з галоўнай рэдактаркай па адзін бок стала, міністар насупраць, фота, пратакол, усё як належыць. Распытваў пра падзеі, пра нашу працу, а потым задаў пытаньне:

— Чым вам дапамагчы?

Гэтае пытаньне наступныя два гады я буду чуць яшчэ шмат разоў і ўсё менш і менш разумець.

## Чэскія беларусісты

Чэскія палітыкі заўсёды мелі сантымэнт да Беларускай службы Радыё Свабода.

Апошні прэзыдэнт Чэхаславаччыны і першы Чэхіі Вацлаў Гавэл мог сам прапанаваць інтэрвію, мог зайсьці на нашу вечарыну ў памяць Васіля Быкава, зачытваў імёны палітвязьняў у нашым этэры, пісаў навагодняе віншаваньне палітзьняволеным у Менску — гэта быў апошні допіс у ягоным жыцьці, праз тры дні яго ня стала. А пару тыдняў перад тым мы атрымалі ад яго ліст — рэкамэндацыю нашаму першаму кандыдату на стыпэндыю ягонага імя. Рэкамэндацыя была ў жанры, блізкім да абсурдызму: «Я, грамадзянін Вацлаў Гавэл, рэкамэндую на стыпэндыю імя Вацлава Гаўла Франака Вячорку…»

Яго сябар Карэл Шварцэнбэрг, калі быў міністрам замежных справаў, мог запрасіць на піва, каб абмеркаваць сытуацыю ў Беларусі. Аднойчы ён прыляцеў у Менск і запрапанаваў інтэрвію — мы сустрэліся на паўдарозе з аэрапорту ў горад і запісалі ягоныя заявы на апярэджаньне: «Вам жа трэба, а ў мяне ня будзе часу».

Сяброўкай рэдакцыі была беларусістка Францішка Сокалава, дачка старэйшага паплечніка Гаўла легендарнага філёзафа Яна Патачкі, які загінуў за камуністычным часам пасьля сэрыі няспынных допытаў. Менавіта Патачку прысьвечанае самае важнае эсэ Гаўла «Сіла бясьсільных». Сокалава магла стаць першай у сьвеце першай лэдзі, якая гаварыла па-беларуску. Яе муж, Ян Сокал, таксама падпісант «Хартыі-77», быў кандыдатам на пасаду прэзыдэнта Чэхіі адразу пасьля Вацлава Гаўла.

У Празе шырока, з удзелам чэскіх палітыкаў і навукоўцаў, сьвяткавалі 500-годзьдзе Скарыны, дакладней, выхаду Бібліі па-беларуску, адзначалі 100-годзьдзе БНР. Не была забытая і дапамога, якую ў Чэхаславаччыне

атрымлівалі беларускія студэнты і эмігранты ў міжваенны пэрыяд.

Неяк я дамовіўся на інтэрвію са Шварцэнбэргам — здаецца, гэта было, калі ён займаў пасаду міністра другі раз. Ён прыехаў на радыё трохі раней і не сьпяшаўся заходзіць, стаяў на двары, курыў люльку.

— Які агідны будынак, — сказаў ён, паказваючы на шкляныя мінарэты эклектычнага гатэлю «Дон Джавані», які ўзвышаўся побач, насупраць магілы Франца Кафкі. — Тут людзі ходзяць. Мы зь сябрамі казалі, што калі прыйдзем да ўлады, зьнясем гэтую пачвару.

Міністэрства замежных справаў Чэхіі месьціцца ў палацы, побач таксама радавы палац Шварцэнбэргаў, помнік рэнэсанснай архітэктуры, канфіскаваны дзяржавай. Шварцэнбэрг меў права на рэстытуцыю, але адмовіўся ад сваіх палацаў і земляў на карысьць дзяржавы, пакінуўшы толькі радавы замак Орлік з магіламі продкаў. Можа, гэта настройвала міністра на філязофскі лад. Гатэль ня зьнесьлі, гэта было па лініі міністэрства іншых справаў.

Хартыст, а потым міністар унутраных справаў Чэхіі Ян Румл прыходзіў на нашы імпрэзы, прыяжджаў у Беларусь, аднойчы мы выпадкова сустрэліся ў Менску на Чарнобыльскім шляху. На адкрыцьцё помніка Францішку Скарыну на Градчанах Румл, які быў тады міністрам, прыйшоў зь сябрамі, гэта была афіцыйная ўрачыстасьць, з аркестрам, з урадавай дэлегацыяй зь Менску, і старыя чэскія дысыдэнты скарысталі нагоду, каб падтрымаць дэмакратыю ў Беларусі. Калі яны скончылі патрабаваць свабоду палітвязьням, Румл спытаўся ў мяне, што яшчэ, — я сказаў пра свабоду прэсы. Ён махнуў рукой, і гвардыя «Хартыі-77» дружна выгукнула: «Свабоду ціску ў Беларусі!»

Я ледзь ня ўпаў. Нават беларускі віцэ-прэм’ер выглядаў агаломшаным (прэса па-чэску *tisk*).

Шварцэнбэрг, якому я потым пераказаў канфуз, быў усьцешаны — усё выглядала як сцэна з п'есы Гаўла, ён любіў такія гісторыі і сам іх расказваў.

Мы з калегамі прыйшлі ў яго парлямэнцкі офіс, каб урачыста ўручыць мэдаль да 100-годдзя БНР. Сакратарка варыла каву, а Яго Сьветласьць дванаццаты князь Шварцэнбэрскі (першы маярат) і сёмы князь Шварцэнбэрскі (другі маярат), граф Зульц, княжацкі ляндграф Клетгаў, герцаг Крумлаўскі Карэл Ян Нэпамук Ёзэф Норбэрт Бэдржых Антанін Вратыслаў Мэнас драмаў у глыбокім крэсьле, цярпліва чакаючы, пакуль мы прышпілім мэдаль і зробім фота.

За кавай наш калега спытаўся, хто лепш перадаў нацыянальны характар, Яраслаў Гашак ці Франц Кафка.

Шварцэнбэрг прачнуўся і расказаў пра свайго бацьку, адзінаццатага князя. Пасьля прыходу да ўлады камуністаў сям'я пакінула свае палацы ў Чэхіі і пераехала ў палацы ў Аўстрыі. У Зальцбургу бацька працаваў у Амэрыканскім культурным цэнтры. У 1950-я гады ў сьвеце ўзьнікла хваля інтарэсу да Кафкі, і дасьледчыкі ланцугом цягнуліся на сустрэчу з сучасьнікам пісьменьніка, нямецкамоўным пражанінам. Аднойчы бацька прыйшоў дадому, сеў за стол, абхапіў галаву рукамі і прастагнаў:

— Немагчыма! Яны ўсе пытаюцца, хто быў Кафка — экзыстэнцыяліст, марксіст, ідэаліст, фрэйдыст, абсурдыст. Кафка быў рэаліст!

Ці беларусіст*.

---

* У Чэхіі інтарэс да Беларусі працягвае падтрымліваць сяброўка рэдакцыі Сьвятлана Вранава, якая пераклала на чэскую кнігі Паўла Севярынца, Зьмітра Дашкевіча, Ларысы Геніюш. На радыё выдатна загаварыла па-беларуску Івэта Крамплава, якая апроч адміністрацыйнай працы дапамагае зь перамовамі і кантактамі з праскімі ўладамі, бібліятэкамі, друкарнямі, выставамі і таксама займаецца перакладам. Сябры Беларускай службы працуюць у МЗС, у Міністэрстве культуры, у тэатрах, НДА і СМІ. Іскры Скарыны ня згасьлі.

## Няхуткая дапамога

Пытаньне пра дапамогу а сёмай раніцы ад міністра замежных справаў Чэхіі не засьпела мяне зьнянацку.

Тэхніка замест канфіскаванай, аплата адвакатаў, падтрыманне сем'яў зьняволеных, лячэньне, выезд з краіны, ратаваньне блізкіх, умовы для навучаньня за мяжой — патрэбы людзей у бядзе аднолькавыя, з прэс-карткамі і без.

Чэхія ў 2020–2021 гадах зрабіла для Беларусі столькі, колькі ніводная эўрапейская краіна. Мэдычная эвакуацыя, лекаваньне і ўладкаваньне ахвяраў, якія пачыналі новае жыцьцё на чужыне, практычная падтрымка беларускай апазыцыі, барацьба за палітвязьняў — усё гэта заслугоўвае глыбокай удзячнасьці.

Праца зь беларусамі падрыхтуе Чэхію да новага акту салідарнасьці з ахвярамі расейскай агрэсіі супраць Украіны.

Але тады, у жніўні 2020 году, міністар Пэтршычэк пытаўся канкрэтна пра нашых журналістаў. Я згадаў візы. Увогуле, самая эфэктыўная дапамога самая простая: грошы. Але неяк не выпадала прасіць 20 тысяч даляраў наяўнымі ў міністра замежных справаў, і я папрасіў дваццаць айфонаў.

Рэч ня ў тым, што скрынку айфонаў ад міністэрства нам не прывезьлі. Я ўдзячны за іншую, профільную дапамогу. За візы, лягістыку, парады, за тое, што амбасадары прыходзілі на прэзэнтацыі нашых кніг, выступалі на нашых імпрэзах. Таксама за тое, што міністар паслаў амбасадара Томаша Пэрніцкага да дому Сьвятланы Алексіевіч, калі ёй пагражаў арышт. У артыкуле пра Пэтршычка ў чэскай вікіпедыі з гонарам напісана, што Алексіевіч — адзіная сяброўка Каардынацыйнай рады, якая не была арыштаваная ў Беларусі.

Наконт дапамогі — я не павінен быў яе прасіць. Мы — амэрыканская кампанія са шматмільённым бюджэтам.

Мы — частка амэрыканскага замежнага вяшчаньня, на якое Кангрэс ЗША вылучае амаль утрая большую суму, чым замежны бюджэт невялікай эўрапейскай краіны. Бюджэт кампаніі быў адным з самых вялікіх за апошняе дзесяцігодзьдзе — пытаньне было не ў адсутнасьці грошай, а ў разьмеркаваньні. У прыняцьці рашэньняў.

Але 2020-ты быў незвычайным годам ня толькі для Беларусі, а для ўсяго радыё: у Вашынгтоне адміністрацыя Трампа прызначала новага кіраўніка Агенцтва глябальных мэдыяў, які ў чэрвені раптоўна, без тлумачэньня, адным махам звольніў усіх прэзыдэнтаў амэрыканскага замежнага вяшчаньня, ад Голасу Амэрыкі да РСЭ/РС. Пасьля першага шоку пачалася барацьба ў адказ з удзелам Кангрэсу, прэсы, працаўнікоў абезгалоўленых арганізацый. Фокус увагі перамясьціўся з выкананьня місіі на ўнутраную палітыку.

Але не для мяне. Так, мне падабаўся малады новы прэзыдэнт, які прыйшоў ў 2019 годзе, я лёгка знайшоў зь ім агульную мову, ён адведаў Менскае бюро, мы рэгулярна перазвоньваліся. У жніўні, на агульным разьвітаньні, я выступіў першым, назваўшы яго гвалтоўнае звальненьне шкодным рашэньнем і сумнай памылкай Вашынгтону. Але маёй галоўнай адказнасьцю была Беларуская служба.

У кастрычніку ў Амэрыцы пачынаўся новы фінансавы год. Я разьлічваў, што наш бюджэт будзе заўважна павялічаны. Перад радыё ў Беларусі паўсталі выклікі і задачы, якіх нельга было вырашыць у старых рамках, на старых умовах.

Кіраўніцтва якраз рабіла рэформу бюджэтнага працэсу — цэлы год пра гэта гаварылі, рыхтаваліся, расьпісвалі, упісвалі, па-новаму аформілі бюджэтную табліцу (у маёй было 125 пазыцыяў, якія дзяліліся на 15 калёнак). Зьмянілі лексыку, цяпер дырэктары іменаваліся *budget owners* — уласьнікамі бюджэту, кожны дырэктар тройчы праводзіў абмеркаваньне свайго бюджэту з удзелам фінансавых

спэцыялістаў з Вашынгтону і праскага начальства, але для мяне ўсё гэта было як у зачараваным сьне.

Новы бюджэт Беларускай службы адрозьніваўся ад старога — але ня ў больш, а ў менш бок. Нязначна, але менш. А патрабавалася хаця б напалову больш.

Патрабаваўся ваенны бюджэт — але аказалася, што нашую вайну ня бачылі.

У 2020 годзе не было расейскай вайны супраць Украіны, талібы яшчэ не захапілі Кабул. Пратэсты ў Беларусі і зьверствы ўлады, падтрыманыя Расеяй, былі галоўнай палітычнай падзеяй у Эўропе. Заблякаваны сайт, пазбаўленьне акрэдытацыі, зьбіцьцё і арышты журналістаў на радыё адбываліся толькі зь Беларускай службай. Але прэзыдэнт радыё быў звольнены, а выканаўца яго абавязкаў іх старанна выконвала — але, як вядома, розьніца паміж добрым мэнэджэрам і лідэрам палягае ў тым, што першы робіць рэчы правільна, а другі робіць правільныя рэчы.

Перафразуючы ўжо легендарную фразу ўкраінскага прэзыдэнта Ўладзіміра Зяленскага, нам патрабаваліся ня новыя працэдуры і маральная падтрымка — патрабавалася амуніцыя. Бюджэт, які дазваляў бы вырашаць двуадзіную задачу: бясьпеку людзей і магчымасьць выконваць місію.

У лістападзе ў Амэрыцы прайшлі прэзыдэнцкія выбары, Трамп прайграў, але новая адміністрацыя пачынала працу толькі ў канцы студзеня, а да таго часу шмат чаго магло памяняцца — і памянялася.

Каманда Трампа прызначыла нам свайго прэзыдэнта і зьмяніла статут радыё. Пачаліся пратэсты, барацьба за незалежнасьць рэдакцыйнай палітыкі, якую ўзначаліла галоўная рэдактарка, — я падтрымліваў, падпісаў агульны ліст пратэсту ў Вашынгтон, адрасаваны таксама кіраўнікам Кангрэсу.

Трохі зьбянтэжыла навагодняе віншаваньне, адрасаванае ўсім супрацоўнікам: пад ім стаялі ўжо два подпісы, галоўнай рэдактаркі і новага прэзыдэнта. Дамовіліся, заключылі саюз? *WTF*, як кажуць у такіх выпадках амэрыканцы.

Але ўся мая ўвага была ў Беларусі, дзе за кратамі заставаўся Ігар Лосік, пад пагрозай арышту хадзілі ўсе нашы журналісты.

І калі 29 сьнежня 2020 году Кангрэс ухваліў «Акт аб дэмакратыі, правах чалавека і сувэрэнітэце Беларусі», я завучыў тэкст напамяць. Гэта была музыка для маіх дырэктарскіх вушэй.

Закон быў пра дапамогу. Дапамогу нам. Мне.

## Кангрэс думае пра Беларусь

«Сьвятар зь беларускага мястэчка піша на Свабоду: “Калі я слухаю вашы праграмы, я думаю, што гэта Бог гаворыць праз вашы хвалі да беларусаў”».

Падвойнае двукосьсе тут таму, што я цытую гэта не з арыгінальнага ліста, які мы атрымалі два дзесяцігодзьдзі таму, а з дакумэнта на ангельскай мове, які называецца «Справаздачы Кангрэсу ЗША». Дата — 19 траўня 2004 году, выступ называецца «50 гадоў вяшчаньня РСЭ/РС на Беларусь».

Выступоўца расказвае пра сытуацыю ў краіне, ролю вяшчаньня, цытуе слухачоў, якія слухалі Свабоду за кратамі, згадвае адметныя расьсьледаваньні і завяршае зваротам: «Спадар сьпікер, я запрашаю маіх калег далучыцца да мяне ў пахвале Беларускай службе РСЭ/РС за яе ўпартасьць і прафэсіяналізм. Слухачы ў Беларусі чуюць сапраўдны голас свабоды — аб’ектыўнае асьвятленьне падзеяў у Беларусі і сьвеце і, магчыма, што яшчэ

больш каштоўна, — пачуцьцё салідарнасьці са сьветам дэмакратыі і надзею на свабоду».

У Кангрэсе ЗША заўсёды былі сябры Беларусі — пра гэта здаўна клапацілася паваенная дыяспара, беларуская апазыцыя часоў незалежнасьці эфэктыўна наладжвала свае сувязі, і дэмакратычная Беларусь мела саюзьнікаў і ў Белым доме, і сярод заканадаўцаў.

Кіраўнікі беларускай грамады ў Нью-Ёрку паказвалі мне сьцяжкі і значкі ў падтрымку і рэспубліканцаў, і дэмакратаў — яны хадзілі на перадвыбарчыя сустрэчы і заяўлялі аб падтрыманьні і тых і тых. Палітыкі, адно слова.

У 2004-м, калі Беларуская служба рыхтавалася адзначыць 50-годзьдзе, я падумаў уголас, што добра было б, калі б нас павіншаваў Кангрэс. А энцыкліку ад папы ня хочаш, пацікавіўся адзін калега. Я адказаў, што гэта няхай Радыё Ватыкан просіць. Але *with a little help from my friends*, як сьпявалі «Бітлз», усё атрымалася.

Кангрэсмэн ад Каліфорніі Том Лантас быў старшынём Камітэту замежных справаў. Лантас перажыў Галакост у Вугоршчыне і ўратаваўся дзякуючы швэдзкаму дыплямату Раулю Валенбэргу, які зьнік потым у ГУЛАГу. Лантас разумеў, што мы робім і з чым маем справу.

Тэкст ягонага выступу ўнесены ў аналы Кангрэсу. Гэта было першае такое віншаваньне ў гісторыі РСЭ/РС, і Беларуская служба першая, хто яго атрымаў. Прычым своечасова — мы адзначалі юбілей у Менску, у Доме літаратара, я быў на сувязі з памочніцай кангрэсмэна ў Вашынгтоне, і яна пасьпела прыслаць мне тэкст за гадзіну да нашага сьвяткаваньня.

Я зачытаў яго на вечарыне.

Мы раздрукавалі выступ, узялі ў рамку і павесілі на сьценку. Напісанае застаецца, калі пра яго не забываць.

Аднак новы «Акт аб дэмакратыі» ў рамку я ня ўзяў і на сьценку не павесіў.

## Прывітаньне ад Рэйгана. Пятніца, 30 красавіка 2021

Неяк я быў у камандзіроўцы ў Вашынгтоне, забегаўся, і калі прыйшоў час вяртацца, уздыхнуў з палёгкай. Гатэль выклікаў таксіста, які паводле дамовы абслугоўваў гасьцей, ён дапамог пагрузіць валізкі і адвёз мяне з жонкай і сынам у аэрапорт. Там высьветлілася, што я пераблытаў даты: адлёт быў заўтра. Давялося вяртацца. Што я пачуў з гэтай нагоды, тут апушчу. У гатэлі пасялілі ў той самы нумар, ён быў аплачаны.

Назаўтра мы зноў чакалі з валізкамі перад гатэлем, калі пад'ехаў той самы таксіст. Бедны кіроўца выйшаў і аслупянеў. Перад ім стаялі людзі і чамаданы, якіх ён учора завёз у аэрапорт і яны адляцелі ў Эўропу.

Да самага аэрапорту ён час ад часу паварочваўся, ня верачы сваім вачам.

Прыкладна такі эфэкт зрабіў на мяне новы «Акт» для Беларусі.

Першы «Акт аб дэмакратыі Беларусі» быў прыняты за прэзыдэнтам Джорджам Бушам у 2004 годзе, потым ён некалькі разоў працягваўся. Спачатку ён выклікаў вялікі энтузіязм і, прынамсі, маральны і палітычны эфэкт меў. Радыё там толькі згадвалася ў шырокім кантэксьце, нічога канкрэтнага не абяцалася, і ніколі ніякага практычнага эфэкту для нас не было.

Але новы «Акт» прадугледжваў наўпроставую дапамогу радыё для вяшчаньня на Беларусь. Не прадугледжваў — патрабаваў.

«Разьдзел 5. Міжнароднае вяшчаньне, свабода інтэрнэту, доступ да інфармацыі ў Беларусі.

Кангрэс лічыць, што:

— Прэзыдэнт павінен падтрымаць і пераразьмеркаваць рэсурсы на радыё, тэлебачаньне і інтэрнэтнае вяшчаньне для народу Беларусі на мовах, якімі размаўляюць у Беларусі, для Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода.

— Прэзыдэнт павінен прадставіць Агенцтву глябальных мэдыяў ЗША дадатковыя рэсурсы для павелічэньня праграмаў і дзейнасьці ў Беларусі.

— Пашырыць незалежнае радыё, тэлебачаньне, стрымы і камунікацыі ў сацыяльных сетках у Беларусі, менавіта па-беларуску, каб забясьпечыць даставерныя, поўныя і дакладныя навіны і інфармацыю».

Закон патрабаваў, каб праз 120 дзён кіраўнік Агенцтва глябальных мэдыяў і Дзяржсакратар ЗША разам прадставілі Кангрэсу цэласную стратэгію, уключна з ацэнкай выдаткаў.

Мяне павінны былі насьцярожыць чатыры месяцы на тое, што не патрабавала чатырох дзён. Яшчэ больш павінна было напалохаць патрабаваньне стратэгіі.

Калі тваіх журналістаў перасьледуюць, кідаюць у турмы, не даюць працаваць, плян відавочны: стварыць бясьпечныя ўмовы для эфэктыўнай працы, у нашым выпадку — за мяжой. Не бінОм Ньютона, як казаў адзін літаратурны пэрсанаж.

У Беларусі сьціскалася кола вакол незалежнай прэсы. Дрэнна было зь Ігарам. Працяглая галадоўка, спроба парэзаць вены, адсутнасьць камунікацыі.

Я чакаў, як збавеньня, канца красавіка, калі заканчваліся 120 дзён, дадзеных Кангрэсам на падрыхтоўку да дзеяньня.

У пятніцу 30 красавіка я нарэшце зразумеў, чаму Роналд Рэйган называў самымі жахлівымі словамі паангельску «Я з ураду, і я тут, каб дапамагчы».

Мы нічога не атрымалі.

Камітэт, які на практыцы разьмяркоўвае грошы, не асыгнаваў пад «Акт» ніякіх сродкаў. Але гэта тэхнічнае тлумачэньне. Палітычнае — ні само радыё, ні наша галаўная структура, Агенцтва глябальных мэдыяў, нічога дадаткова не зрабілі, каб атрымаць гэтае фінансаваньне.

Паны б’юцца, а ў дырэктара бюджэт трашчыць.

## Пятніца, 15 ліпеня 2022. 19:00

У гэтую пятніцу я атрымаў на свой працоўны адрас сто пятнаццаць службовых мэйлаў — звычайны дыгітальны дзень, бывае і больш. Апошні допіс, на пачатку 12-й ночы, як і першы, прыйшоў ад прэзыдэнта радыё. Гэта была рэакцыя на навіны пра палітвязьняў, якія я рэгулярна дасылаў начальству.

Вось як выглядаў мой допіс, адпраўлены ў той дзень:

*« Лосік — міліцыя прыйшла ў кватэру Ігара і Дар'і і наклала арышт на маёмасьць. Суд пастанавіў, што шасьцёра абвінавачаных, сярод якіх Ігар, мусяць сплаціць дзяржаве каля 1 мільёна даляраў за нанесеную шкоду, а таксама судовыя выдаткі, каля 50 тысяч».*

У якасьці кантэксту: судовыя выканаўцы апісалі тэлевізар, крэсла, стол, прас і паабяцалі прыходзіць рэгулярна, пакуль уся сума ня будзе выплачаная. Дар'я не працавала, была ў дэкрэтным адпачынку, даглядала дачку і ўсе сілы аддавала на падтрымку Ігара, які моцна пакутаваў у зьняволеньні. Лісты амаль не даходзілі, пасьля пераводу ў калёнію ён адразу атрымаў вымову — быццам быў дрэнна паголены, а дзьве вымовы ўжо цягнулі за сабой пакараньні і абмежаваньні.

*«Сёньня ў Менску адбыўся суд над Алегам Грузьдзіловічам, яго з калёніі не даставілі, адваката не было. Менская ўправа транспарту нечакана адклікала свой пазоў на 6 тысяч рублёў, бо гэтую суму ўжо сплацілі іншыя абвінавачаныя. Судзьдзя абвясьціў, што прысуд будзе вынесены 25 ліпеня, калі адбудзецца трэці суд на Алегам. Разам ад яго патрабуюць 56 тысяч рублёў».*

У якасьці кантэксту: Алег працаваў на акцыях пратэсту ў 2020 годзе як акрэдытаваны журналіст Свабоды, і цяпер яму інкрымінавалі парушэньні руху грамадзкага транспарту. Першы раз яго арыштавалі ў ліпені 2021 году, у дзень разгрому бюро, і асудзілі на 15 сутак. Паўторна

арыштавалі ў сьнежні і далі паўтара году калёніі, дзе ён і адбываў свой тэрмін, калі нечакана былі прызначаныя яшчэ тры суды. Было няясна, яго толькі аштрафуюць ці дададуць гады да тэрміну.

*«Амэрыканская юрыдычная кампанія Dechert вырашыла заняцца справай Лосіка на добраахвотнай аснове. Да мяне зьвярнулася Сафія А., я даў ёй кантакты Дар'і. Міс А. сказала, што яна вельмі ўражаная відэазваротамі Дар'і, якія яна бачыла на сайце РСЭ/РС».*

У якасьці кантэксту: вызваленьня Ігара Лосіка дамагаліся ўсе і ўсё: гэтага патрабавалі кангрэсмэны і сэнатары ЗША, Дзярждэпартамэнт, Эўразьвяз, прэм'ер-міністар і міністар замежных справаў Чэхіі, велізарны партрэт Ігара лунаў над Прагай, яго звароты разглядалі ў Ватыкане, юрыдычныя фірмы вывучалі яго сытуацыю.

*«Я падрыхтаваў і паслаў заяўкі на дапамогу зьняволеным у фундацыю "Людзі ў бядзе", дзе паабяцалі іх хутка разгледзець».*

У якасьці кантэксту: за апошнія паўтара году я напісаў і падпісаў больш заявак на дапамогу беларускім журналістам, чым за ўсе папярэднія гады працы. Донары ў Амэрыцы і Эўропе адгукаліся апэратыўна і вылучалі істотныя сродкі хутка і ўсім, за каго прасіў. Гэта дапамагло ня толькі перажыць першы год рэпрэсіяў, пераездаў, але і дазваляла журналістам працягваць прафэсійную дзейнасьць.

Я быў уражаны эфэктыўнасьцю, спагадлівым стаўленьнем працаўнікоў гэтых арганізацыяў, і стаў слаць падзячныя лісты — але ня ім, а іх начальству. Начальства такой удзячнасьці раней, відаць, не атрымлівала, бо мне напісалі, што мой ліст павесілі ў Вашынгтонскім офісе на сьценку ў рамцы.

*«У суботу будзе гадавіна разгрому Менскага бюро і арышту трох нашых журналістаў, калі ў іх дома прайшліператрусы, была канфіскаваная тэхніка, яны былі зьняволеныя на 10–15 сутак. Адважны загадчык нашага бюро перамог,*

*перайграў спэцслужбы, ня даў сябе арыштаваць, а потым зьдзейсьніў рызыкоўныя і небясьпечныя ўцёкі праз Расею ва Ўкраіну. Крымінальныя справы супраць трох затрыманых журналістаў не былі закрытыя, і яны засталіся пад падпіскай аб нявыезьдзе. Аднаго зь іх арыштавалі ў сьнежні 2021-га. Другая здолела пакінуць краіну. Трэці застаецца ў Беларусі і ня можа выехаць».*

Гэты апошні абзац я ўключыў у сваю рассылку навінаў палітвязьняў дзеля напамінку. У якасьці кантэксту да яго можна напісаць асобную кнігу.

Але спачатку пра напамінак. Гаркаваты прысмак гэтага слова ідзе ад таго, што маецца на ўвазе, быццам пра нешта істотнае забыліся ці забудуцца.

У ліпені 2021 году я паслаў кіраўніцтву радыё нешта кшталту кароткага нэкралёгу па бюро: згадаў гасьцей, якія там бывалі, ад нобэлеўскай ляўрэаткі да палітзэкаў, прыпомніў імёны трох прэзыдэнтаў РСЭ/РС, якія сустракаліся там з нашымі журналістамі, нагадаў пра лямпавы прымач легендарнага слухача Свабоды Сяргея Ханжанкова, выстаўлены ў прыёмнай… «Спачывай зь мірам» — так роспачна скончыўся мой допіс.

— Не адчайвайся, — напісаў мне тады прэзыдэнт. — Мы вернемся! Гэта толькі справа часу, і мы пастараемся, каб наступнае бюро было лепшае, мела больш магчымасьцяў.

Не скажу, што пра разгром забыліся, — амаль усе журналісты выехалі за мяжу, працягвалі працаваць зь пяці краінаў, потым тузін калегаў атрымалі працоўныя месцы ў Кіеўскім бюро Свабоды, пасьля, перад самым нападам Расеі на Ўкраіну, перабраліся ў Вільню.

Але… Але як дырэктар я адчуваў і горыч, і злосьць, і бясьсільле, і гэтыя разбуральныя эмоцыі выклікалі ня менскія карнікі — на зло ня крыўдзяцца, зь ім змагаюцца. Крыўдзяцца на сваіх, на сваё, на самога сябе.

Я ўзгадаў у ранішнім допісе падзеі гадавой даўніны, каб нагадаць пра драматычную сытуацыю, у якую трапіла

рэдакцыя. І драма зусім не завяршылася. Была патрэбная дапамога, якая б адпавядала сытуацыі. Рашэньні, якія скіравалі б плынь падзеяў у трывалае рэчышча. Стабілізавалі будучыню для людзей, для службы, са мной ці безь мяне.

Прэзыдэнт адказаў перад поўначчу — даручыў мне ўзгадняць юрыдычную дапамогу з аддзелам вонкавых зносінаў, а гэтаму аддзелу — нагадаць пра гадавіну разгрому бюро падпісчыкам у Вашынгтоне. Больш нічога ў допісе не было.

Не да сну.

## Нашыя бюро: 1, 2, 3, 4

Разгромлены офіс Свабоды ў Менску на праспэкце Незалежнасьці, 95, на шостым паверсе белай вежы гадзіньнікавага заводу, быў ужо чацьверты.

Першы, у 1994 годзе, я адкрываў у двухпакаёвай кватэры ў доме насупраць тэатру імя Янкі Купалы. Адзін пакой мы пераабсталявалі пад студыю, у другім цясьніліся журналісты, маленькая кухня была працоўным месцам яшчэ для некалькіх чалавек. Гаспадар кватэры дамовіўся з суседзямі, і мы атрымалі другі тэлефон — так званы спараны. Ён меў асобны нумар, але працаваў толькі тады, калі быў вольны, калі суседзі не званілі самі. Для журналістаў гэта быў вялікі здабытак — мабільных тады ні ў кога не было.

Другое бюро выглядала цалкам прафэсійна — мы зьнялі офісныя плошчы ў новым будынку рэстарану «МакДоналдз» на Прывакзальнай плошчы. Праз пару год Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт распачаў будаўніцтва новага корпусу над «МакДоналдзам», і нам прыйшлося тэрмінова высяляцца. Аднойчы будоўлю, якую вяла сэрбская кампанія сяброў Лукашэнкі, прыйшоў праінспэктаваць тагачасны ўсёмагутны рэктар Аляк-

сандар Казулін. Я падышоў, прадставіўся, спытаўся пра магчымасьць часовай арэнды ва ўнівэрсытэцкіх памяшканьнях. Казулін адказаў ветліва, быццам пацьвердзіў. Але справа нічым ня скончылася, і мы пераехалі ў іншае месца грамадзкага харчаваньня, на беразе Сьвіслачы.

Будынак рэстарану «Журавінка» належаў турэцкім інвэстарам, і ім было ўсё адно, каму здаваць офісныя памяшканьні. Папярэднія арандатары гандлявалі нафтай, праблемы ў іх узьніклі такія, што яны зьніклі безь сьлядоў уначы і пакінулі мэблю, якая каштавала, верагодна, палову нашага гадавога бюджэту.

Праз пару гадоў аказалася, што хоць Турцыя — сябра NATO, і інвэстыцыі гарантаваныя законам, распараджацца сваёй маёмасьцю туркі могуць толькі са згоды іх куратараў у КДБ. Новых арандатараў не было, але нас папрасілі вызваліць памяшканьне.

Тады мы і перабраліся ў вежу гадзіньнікавага заводу на праспэкце Незалежнасьці. Прыватны ўласьнік аднаго з паверхаў не ўстаяў перад нашай арэнднай платай, а калі ў яго адабралі плошчы і вярнулі заводу, там таксама ацанілі памер і рэгулярнасьць банкаўскіх пераводаў ад сумнеўных жыльцоў. «Луч» перажываў цяжкі час, і наша арэнда дазваляла выплачваць зарплату частцы калектыву. Ці то прамысловыя прадпрыемствы курыраваў іншы аддзел КДБ, ці ролю адыграла сацыяльная значнасьць рэгулярнай выплаты зарплаты рабочым, але тут мы затрымаліся.

За паўтара дзясятка гадоў пабудавалі сваю тэлестудыю, кампутарную сетку, паставілі кандыцыянэры, набылі мэблю, абсталявалі зручныя памяшканьні для журналістаў. Цесьляры легендарнага абаронцы Курапатаў і нашага героя Зьмітра Дашкевіча зрабілі выдатны стол і паліцы, сюды прыходзіла нобэлеўская ляўрэатка Сьвятлана Алексіевіч, прыяжджалі амбасадары, адсюль працавалі карэспандэнты замежных СМІ, якія нярэдка зьвярталіся па дапамогу.

Юрыдычна бюро Свабоды ў Беларусі не было — мы ня мелі рэгістрацыі, банкаўскага рахунку, бухгальтэрыі і іншых атрыбутаў юрыдычнай асобы. Спрабавалі адкрыць афіцыйны карпункт, раіліся зь юрыстамі, але ўрэшце я сьвядома спыніў усе спробы рэгістрацыі. Нязручнасьці куды як кампэнсаваліся перавагамі: калі ваша імя адсутнічае ў сьпісах, вас няма як правяраць, патрабаваць справаздачы, праводзіць інспэкцыі, рэвізіі, выносіць прадпісаньні.

Палітычна бюро Свабоды ў Беларусі заставалася ў шэрай зоне паміж сілавікамі, Міністэрствам замежных справаў і Міністэрствам інфармацыі: часам загадчыка выклікалі, выносілі папярэджаньні ці пагражалі забраць акрэдытацыю адны, часам дапытвалі і ставілі ўльтыматумы другія, зрэдку запрашалі на афіцыйныя прыёмы трэція. Гнеў выклікалі то публікацыі, то аўтары, то ўвогуле зварот да нейкай тэмы. Нам расказалі, як адзін генэрал на Савеце бясьпекі патрабаваў закрыць Свабоду за сатырычны цыкль *#давайпака.* У адказ мы сабралі ўсе гамэрычныя дыялёгі ўнікальнага фэйсбучнага цыклю ў кнігу. На прэзэнтацыю ў Траецкім прадмесьці заглянуў пасол Расеі і прасіў асобнік, але ўжо не было — давай, пака*.

Былі сур’ёзныя прад’явы, як гэта завецца на іхнай мове, і з нагоды нашых памылак, неправеранай ці недаказанай інфармацыі. Асабліва крыўдлівыя былі міліцыя і армія, Мінінфарм перасылаў іх скаргі.

Пры гэтым даўно ўжо было практычна немагчыма ні ўзяць камэнтар, ні запісаць інтэрвію, ні запрасіць на праму лінію ніводную афіцыйную асобу любога ўзроўню.

Загадчык бюро выдатна трымаў удар, і ягоныя адказы прымушалі адступаць розных цэнзараў у пагонах і без, яўна ня звыклых да такіх паводзінаў.

---

* «Казкі па целефоне» (2019).

Прававой абароны ад палітычных рашэньняў у Беларусі няма. Але ёсьць салідарнасьць. Я глыбока ўдзячны Белапану, «Народнай Волі», «Новаму Часу», БАЖу, іншым калегам, якія адважна дзяліліся сваёй сьціплай легальнасьцю, прыкрывалі нашых журналістаў. Партнэрскія адносіны склаліся з ТБМ, Саюзам пісьменьнікаў, беларускім ПЭНам, Прэс-клюбам. Наш адрас і род заняткаў ні для кога не былі сакрэтам, але пакуль не гучала наўпроставай каманды, атака на амэрыканскую кампанію адкладалася. Гульня паміж Захадам і Ўсходам стварала тэрыторыю свабоды для мэдыяў.

А любая тэрыторыя свабоды — зьява ня колькасная, а якасная. Гісторыя адбываецца там, дзе ёсьць свабода, — нават калі гэта толькі сьціплая двухпакаёўка. Што і засьведчыў візыт старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі генэрала Мечыслава Грыба ў нашае самае першае бюро.

У 1995 годзе колішні дэпутат, а цяпер прэзыдэнт Лукашэнка спрабаваў перайсьці да кіраваньня дэкрэтамі і не хацеў, каб адбыліся выбары ў новы парлямэнт. Ягоны публічна заяўлены аргумэнт — навошта галасаваць, усё адно падмануць, — аказаўся дакладнай інструкцыяй на ўсе наступныя выбары падчас ягонага кіраваньня. Дзяржаўныя прэса і тэлебачаньне дружна высьмейвалі нікчэмны парлямэнтарызм, які займаецца пустым славагаварэньнем і перашкаджае ўсенародна абранаму лідэру.

Існавала пагроза, што выбары не адбудуцца, бо проста ня прыйдзе дастаткова людзей, і краіна пяройдзе да ручнога рэжыму кіраваньня, адвольнымі дэкрэтамі. Сьпікеру парлямэнту не давалі слова на дзяржаўным радыё, не пускалі на тэлебачаньне, ён паспрабаваў заклікаць на выбары праз расейскія СМІ, але іх тыраж не надрукавалі. І тады адзіным месцам, куды ён мог зьвярнуцца, аказалася бюро Свабоды.

Спачатку целаахоўнікі праверылі бясьпеку, а затым зайшоў другі па пасадзе чалавек у Беларусі. Мы ўзялі

інтэрвію, і Мечыслаў Грыб асобна запісаў зварот да выбарнікаў: прыходзьце і прагаласуйце!

Мы паўтаралі гэты запіс у этэры некалькі дзён запар, раніцай і ўвечары. Яўка на выбары перакрочыла неабходныя 50% удзельнікаў, і ЦВК паведаміла, што «выбары адбыліся». Быў створаны новы парлямэнт, істотны фактар законнасьці і падзелу ўлады, які адтэрмінаваў усталяваньне аднаасобнай дыктатуры да канца 1996 году. Гэтага часу хапіла, каб закрыць адзін магчымы варыянт разьвіцьця гісторыі.

Беларусь выканала свае міжнародныя абавязаньні і вывела са сваёй тэрыторыі ядзерную зброю. Апошні, як потым памылкова казалі, дыктатар Эўропы, не атрымаў ядзернай кнопкі.

Калі гэтаму паспрыяла наша першае бюро, дык усе затраты ня толькі на яго арэнду, але на ўсё Радыё Свабода акупіліся на дзесяцігодзьдзі наперад.

## Агностыка па-беларуску

Усе кажуць, што Беларусь — краіна паэтаў. З большым правам можна сказаць, што Беларусь — краіна нонфікшн. Першая і адзіная ў сьвеце Нобэлеўская прэмія за нон-фікшн мае беларускі адрас (шэсьць тамоў мэмуараў Ўінстана Чэрчыля пра Другую сусьветную вайну ўсё ж трохі іншая гісторыя. Ён нават засмуціўся, калі ўведаў, што прэмія за літаратуру, а не за мір)*.

У Беларусі нарадзіліся дакумэнтальныя споведзі з вогненных вёсак, на гэтай глебе ўзьнікла самае вядомае вызначэньне такой зьявы: звышлітаратура.

* Шэсьць тамоў нашай «Бібліятэкі» прысьвечаны вайне за свабоду: «91», «92», «93», «94», «95», «96». Гэты гістарычны цыкль у звышкаштоўным, як ў Чэрчыля, жанры «вачыма ўдзельніка», выходзіў з 2013 па 2021 год.

«Звышрадыё», «больш чым радыё» — не тэлебачаньне, не інтэрнэт, не сацсеткі, а, канечне, кнігі.

«Бібліятэку Свабоды» ўдалося стварыць дзякуючы адмаўленьню, што гэта бібліятэка.

Апошнім маім месцам працы перад пераездам у Мюнхэн было выдавецтва «Беларусь», дзе я быў галоўным рэдактарам. Гэта асобная гісторыя, ня тут і цяпер. Скажу толькі, што першая кніга, якую я як галоўны рэдактар ініцыяваў, называлася «Іншадумцы», была прысьвечаная нефармалам, як тады называлі людзей будучыні, і атрымала дзяржаўную прэмію тады яшчэ дэмакратычнай Беларусі. Новую выдавецкую сэрыю эсэістыкі я назваў «Плошча свабоды», і адкрывала яе кніга Васіля Быкава «На крыжах», потым ішоў «Апакаліпсіс па графіку» Алеся Адамовіча, «Агонія намэнклятуры» дэпутата Івана Герасюка, творы Анатоля Вярцінскага, Ніла Гілевіча…

Я думаў кнігамі. На радыё трэба было думаць радыё. Але як быць беларусам, жыць у Празе і не выдаваць кнігі? Скарына нават мэдычны дактарат, атрыманы ў самой Падуі, прамяняў у Празе на найноўшую тэхналёгію шаснаццатага стагодзьдзя — друк.

— Мы не кнігавыдавецтва, — са шкадаваньнем гледзячы на мяне, казаў начальнік аддзелу маркетынгу Фрэнк Ўільямз, калі я прыйшоў па грошы. Фрэнк раней працаваў на Бі-Бі-Сі, займаўся трэнінгам, як намесьнік дырэктара кіраваў Расейскай службай і быў самым прафэсійным радыёрэдактарам, якога я калі-небудзь сустракаў.

— Гэта ня кнігі, — нахабна гледзячы ў вочы барадатаму валійцу (Фрэнк паходзіў з Ўэльсу і ніколі не называў сябе англічанінам), адказваў я. — Гэта альтэрнатыўны спосаб дастаўкі кантэнту.

Рэч была ў тым, што цалкам ягоны дэпартамэнт называўся «Маркетынг і філіялы», і Фрэнк адказваў за рэтрансьляцыю РСЭ/РС. Ён заключаў дамовы зь мясцовымі радыёстанцыямі, якія трансьлявалі нашыя праграмы на

FM-хвалях у Расеі, Казахстане, Грузіі, Малдове, Украіне. Усюды, апроч Беларусі. Беларусь была адзінай краінай на постсавецкай прасторы, дзе Свабода ніколі ня мела мясцовай рэтрансьляцыі і працягвала працаваць, як у часы халоднай вайны, — на кароткіх хвалях, зь перадатчыкамі ў Гішпаніі, Нямеччыне і Марока.

Хвалі мяняліся двойчы на год, прыём залежаў ад сонечнай актыўнасьці, часу дня, магутнасьці перадатчыкаў, якасьці прымачоў і цярплівасьці слухачоў. Палова майго часу ішла на выбіваньне зручных частотаў, лепшых перадатчыкаў, маніторынг сыгналу, на адказы на скаргі аўдыторыі.

Аднойчы ў начны жывы этэр дазваніўся слухач са скаргай, што ня можа злавіць наш сыгнал, нічога не чуваць. Вядучая пацікавілася, які ў яго прымач, можа ў гэтым праблема.

— Мой прымач большы за вашу студыю, — абурыўся слухач. — Я званю з радыёрубкі майго карабля, мы ідзем цяпер каля Грэцыі, я капітан.

Вядучая спалохана спыталася, хто ж тады кіруе суднам, як бы не напароліся на скалы, — інтэрвію з капітанам, які быў родам з Гомельскай вобласьці і любіў беларускія перадачы, атрымалася незабыўнае.

Але кароткімі хвалямі займаўся Вашынгтон, і мая супраца з Фрэнкам была спачатку абмежаваная рэклямнымі кампаніямі ў беларускім друку, потым мы патроху пашырылі яе на выраб каляндарыкаў з раскладам вяшчаньня і карцінамі беларускіх мастакоў, выпуск паштовак, постэраў — іншымі словамі, я паціху пасьвіўся на ягоным бюджэтным полі. Аднак кнігі на полі маркетынгу і рэтрансьляцыі не вадзіліся.

Але якраз у той час пачала мяняцца прафэсійная лексыка — папулярнасьць набыў тэрмін «плятформа», як сталі называць і радыёчастоты, і інтэрнэт-сайты, і тэлебачаньне. Кантэнт, ён жа зьмест, адвязваўся ад формы

нараджэньня і фармату канкрэтнага носьбіта і разьмяшчаўся на «плятформах». Нават уладальнік *The New York Times*, самай газэтнай з газэтаў, заявіў, што ён агностык што да плятформаў.

Агнастыцызм, як вядома, рэч філязофская, эпістэмалягічная і тэалягічная — іншымі словамі, цьмяная, і таму дзейсная. Пытаньне было толькі ў тым, наколькі сам начальнік маркетынгу быў агностыкам. Пачуўшы пра «дастаўку кантэнту», Фрэнк задумаўся на сэкунду — і здаўся.

Кажуць, што журналістыка жыве адзін дзень. Радыё да дыгіталізыцыі жыло яшчэ менш — пакуль гучала ў этэры. Але дзень ці хвіліну, журналістыка, як і ўсё жывое, робіць адну справу — змагаецца з энтрапіяй. «Бібліятэка Свабоды» перамагае яе ўжо дваццаць гадоў.

Тэксты, песьні, чытанкі, малюнкі, створаныя на Свабодзе, дастаўляліся аўдыторыі на плятформах радыё, тэле, інтэрнэту. Потым кантэнт разьмяшчаўся на плятформе папяровых аркушаў і дастаўляўся паводле прызначэньня — у рукі чытачоў, у хатнія, навучальныя, дзяржаўныя бібліятэкі, рэдакцыі, розныя ўстановы, на прыватныя і ня надта адрасы па ўсёй краіне і за мяжой.

Мы выпусьцілі дзясяткі кніг, ад сучасных мэмуараў да судовых рэпартажаў, ад турэмных хронік да сатыры, ад мэдычных парадаў да літаратурных эсэ, ад моўных падручнікаў да гістарычных энцыкляпэдыяў, ад аўдыёкніг да дыскаў з сотнямі бардаўскіх песень. Ёсьць там і кнігі пра Скарыну*.

На выданьні «Бібліятэкі» спасылаюцца ў дысэртацыях, манаграфіях, падручніках, у Вікіпэдыі. Гэтая брама скарбаў заўсёды расчыненая (svaboda.org/library).

У Беларусі трэба быць агностыкам.

---

* «Высьпятак ад Скарыны» (2017), «Нечаканы Скарына» (2018).

## Панарама эпіграмаў

Лічыцца, што журналіст павінен быць незаўважным у сваіх рэпартажах, не станавіцца часткай гісторыі, якую расказвае. Але сапраўднага стылю інструкцыямі не задушыш, дый ня трэба, і пра карэспандэнтаў Свабоды можна напісаць асобную кнігу.

Калі Радыё Вызваленьне пачынала вяшчаньне на пачатку 1950-х, карэспандэнтаў у сталінісцкай краіне быць і не магло. На радыё працавалі эмігранты, і так працягвалася да 1990 году, калі ўпершыню з 20 траўня 1954-га ў этэры беларускай Свабоды прагучаў голас Яся Валошкі зь Менску.

Алесь Ліпай, які абраў гэты мілагучны псэўданім, працаваў тады ў самай папулярнай газэце Беларусі «Знамя юности». Супрацоўнік мюнхэнскай рэдакцыі набраў нумар менскага тэлефону газэты, каб папрасіць камэнтар — а раптам галоснасьць дайшла і да сталіцы Вандэі, як тады называлі Беларусь? Адказаў Алесь — і астатняе ўжо гісторыя, у тым ліку і стварэньне першага незалежнага інфармацыйнага агенцтва БелаПАН.

За трыццаць наступных гадоў дзясяткі чалавек супрацоўнічалі са Свабодай у Беларусі. Карэспандэнты былі ва ўсіх абласных цэнтрах, сярод супрацоўнікаў былі як прафэсійныя журналісты — выпускнікі БДУ, эўрапейскіх і амэрыканскіх унівэрсытэтаў, — гэтак і гісторыкі, філёлягі, матэматыкі, адзін прафэсар эканомікі і адзін кандыдат магічных навук. Прынамсі, меў, здаецца, і такое пасьведчаньне.

Афіцыйна акрэдытацыю ў МЗС меў толькі тузін чалавек. Што замінала, але не перашкодзіла стварыць паўнацэнную творчую арганізацыю, якая разьвівалася, расла, мянялася і мяняла жыцьці супрацоўнікаў і аўдыторыі, — і ўсё па-беларуску, ад навінаў у радыё і тэлеэтэры і на інтэрнэт-плятформах да кніг. І само сабой — не само сабой, а людзьмі, свабодаўцамі.

«Бібліятэка Свабоды» хоць і пачалася з кнігі паэзіі, уяўляе сабой калекцыю перш за ўсё дакумэнтальнай літаратуры. Але ёсьць у «Бібліятэцы» адна кніга, якая спалучыла паэзію і нон-фікшн.

У 2004 годзе мы прыдумалі гадавы цыкль эсэ на тэму, як беларусы нешта робяць па-беларуску: ходзяць у госьці і сябруюць з суседзямі, ваююць і сэксам займаюцца. Аўтарам апошняга скандальнага эсэ быў паэт Рыгор Барадулін, і мы вырашылі выдаць гэты і іншыя ягоныя выступы на Свабодзе кніжкай. Але выдаваць кнігу паэта бязь вершаў было б непрыстойна. У той год мы адзначалі юбілей — 50-годзьдзе выхаду ў этэр, і я папрасіў Барадуліна, майстра імправізацыі, напісаць эпіграму на кожнага нашага калегу.

Віртуоз рыфмаў ведаў палову калектыву, дасьціпны рэдактар кнігі Саша У. ахарактарызаваў паэту другую палову — так зьявілася самая неверагодная ў беларускай журналістыцы і беларускай паэзіі партрэтная галерэя, семдзесят эпіграмаў на журналістаў Свабоды, створаных народным паэтам Беларусі.

У Барадуліну ўжываліся дзьве душы, як відаць зь ягоных дзёньнікаў, дзе чорныя чалавечыя слабасьці часам засьцяць вочы. Але эпіграмы нарадзіла сьветлая частка. Усе яны надрукаваныя ў кнізе «Дуліна ад Барадуліна»*.

*Свабодаўцы!*
*Вяшчуйце сьветлы дзень,*
*Каб ён не затрымаўся*
*У дарозе.*
*Каб зь Беларусі сплыў*
*Калючы цень.*
*І падарыце ўсьмешкі*
*Перамозе…*

* «Дуліна ад Барадуліна» (2004). Спачатку аўтар пагадзіўся на множны варыянт, «Дуліны ад Барадуліны», але потым вырашыў, што будзе занадта.

У верасьні 2022-га, калі я цытую гэтыя радкі з нашай даўняй кніжкі, з усьмешкамі складана. Але перамога, як і параза, — ня вынік, а стан. Кніга свабоды ня мае канца.

## ***Nobel*** **і** ***Google***

Самая важкая і самая важная кніга ў нашай «Бібліятэцы» называецца «Імёны Свабоды». Яна энцыкляпэдычна дакладная і гістарычна пазачасовая, гэта біблія веры ў краіну, народ і будучыню. Там пад тысячу старонак, яна ўжо вытрымала пяць выданьняў, і сьпіс герояў — людзей, якія сваім ужо завершаным жыцьцём павялічвалі свабоду Беларусі, увесь час расьце*.

А самая рэдкая кніга «Бібліятэкі» — адначасна і самая рэдкая ў сусьветнай спадчыне нобэлеўскіх ляўрэатаў. На яе вокладцы імя Сьвятланы Алексіевіч, і яна выйшла ў лістападзе 2015 году, празь месяц пасьля абвяшчэньня ляўрэатаў, але яшчэ перад Нобэлеўскай лекцыяй. Наклад — адзін асобнік.

На паліцах «Бібліятэкі» цяпер яшчэ тры кнігі ляўрэаткі, апошняя — «100 цытатаў на Свабодзе», адразу на чатырох мовах, па-беларуску, па-ўкраінску, па-расейску і па-ангельску.

Але шлях да іх пралёг праз Стакгольм — літаральна.

Калі было абвешчанае імя ляўрэаткі ў кастрычніку 2015 году, мы адразу вырашылі выдаць кнігу, сабраць усё, што было сказана ёй і пра яе на нашых хвалях і сайце. Я паслаў Сьвятлане віншаваньне і паведаміў пра наш намер. Яна падзякавала і адмовілася. Ня бачыць сэнсу ў зборы сваіх выказваньняў для журналістаў.

Пару год перад тым я напісаў быў любоўны, але трохі іранічны агляд часопісу «Дзеяслоў», дзе быў надрукаваны

---

* «Імёны Свабоды» (2007, 2012, 2015, 2020, 2023).

яе «Час second hand», і параўнаў Алексіевіч з Джойсам, бо абое не атрымалі Нобэля. Агляд перадрукавала адна папулярная газэта, зьмяніўшы загаловак на «Аляксандар Лукашук зьнішчальна крытыкуе Сьвятлану Алексіевіч». Артыкул пайшоў гуляць па расейскамоўным інтэрнэце зь перакладам *Google*: «Александр Лукашук истребительно критикует Светлану Алексиевич».

Я ведаў Сьвятлану з канца 1980-х, хадзіў падтрымаць яе на судах за афганскія публікацыі. У выдавецтве, дзе я быў галоўным рэдактарам, мы выпусьцілі яе «Цынкавых хлопчыкаў» па-беларуску. Яна таксама ведала мае антысталінскія публікацыі, якія падтрымлівалі Быкаў і Адамовіч, як некалі падтрымлівалі Сьвятлану. Ці была яе адмова ў супрацоўніцтве зьвязаная з маёй «истребительной» крытыкай — ня ведаю. Хутчэй не, Сьвятлана сапраўды скептычна ставілася да прамоўленага слова, якое на паперы выдае сябе за напісанае. Верагодна, на яе ўплывала яе ўласная практыка пяць-шэсьць разоў распытваць суразмоўцу пра тое самае, каб дакапацца да праўды.

Ляўрэатка відавочна недаацэньвала саму сябе. Сабраныя за некалькі дзесяцігодзьдзяў інтэрвію, камэнтары і тэксты пра яе складаліся ў цікавую драму. І ўсё ж выдаваць кнігу насуперак волі першай нобэлеўскай ляўрэаткі зь Беларусі мая «истребительная» рука не падымалася.

Зь нявыкруткі ёсьць толькі адзін шлях — нешта зрабіць. Мы аддрукавалі адзін асобнік і перадалі* сяброўцы Сьвятланы Юліі Чарняўскай, якая ляцела ў Стакгольм на Нобэлеўскую цырымонію.

Прайшлі ўрачыстасьці, мінуў тыдзень, другі. І раптам — мэйл: я прачытала кнігу, сама зьдзівілася, як цікава, вельмі добра папрацаваў рэдактар, Сяргей Н., я ня супраць, друкуйце.

---

* «Перадалі» — у гэтым дзеяслове хаваецца гісторыя начной перапіскі Сяргея Ш. зь Менскам, вартая асобнай радыёперадачы.

Радасьці не было межаў. Сьвятлана прадэманстравала нобэлеўскую клясу.

Мы дапоўнілі кнігу нобэлеўскімі рэпартажамі, і другое выданьне кнігі «Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе» выйшла масавым накладам спачатку па-беларуску, потым па-расейску.

Пераклад ня *Google**.

## Узяць тэлеграф

Кожная кніга «Бібліятэкі Свабоды» мела сваю прэм'еру на сцэне — прэзэнтацыю. Менскія адрасы кніжнай свабоды — Палац мастацтва, Дом літаратара, сядзібы БНФ, «Вясны», музэй Багдановіча, амбасада ЗША, Кнігарня «Ў», « Галерэя Ў», крэатыўныя прасторы ОК, «Гарызонту», карчма ў Траецкім прадмесьці, канфэрэнц-залі гатэляў… Поўныя залі і сьціплыя кватэрнікі, менскія двары і летнікі пад адкрытым небам, ня толькі ў сталіцы, але і ва ўсіх рэгіёнах і за мяжой, жывыя трансьляцыі, чэргі па аўтографы, выступы аўтараў і чытачоў — усё гэта было сьвятам.

Некаторыя адрасы былі сакрэтныя: на спэктакль Свабоднага тэатру паводле кнігі «Быў у пана верабейка гаварушчы» аўдыторыю дастаўлялі адмысловыя праваднікі: забіралі гледачоў ва ўмоўленым месцы і вялі дварамі на паказ**.

---

* «Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе» (2015), «Светлана Алексиевич на Свабодзе» (2016), «100 цытатаў на Свабодзе» (2019).

** Трылёгія «Быў у пана верабейка гаварушчы» (2016), «Клініка кітайскага дантыста» (2018), «Забіць упалмінзага» (2022) нарадзілася зь перадачы «Падарожжы Свабоды». Гэтая праца была ўганараваная прэміямі імя Ежы Гедройця, імя Алеся Адамовіча, імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў. Прэм'ера спэктаклю Свабоднага тэатру адбылася ў 2017 годзе.

Але два сьвяточныя адрасы стаяць асобна — імі распараджаліся ўлады. Кнігу «Як. Азбука паводзінаў» прэзэнтавалі ў Дзяржаўнай філярмоніі. Адкрываў імпрэзу хор «Унія», заля была перапоўненая, унізе ахоўнікі не прапускалі жадаючых з прычыны пажарнай небясьпекі — гэтым разам рэальнай, правілы не дазвалялі займаць усе праходы. На фуршэце пасьля прэзэнтацыі адзін госьць з марксісцкай адукацыяй сфармуляваў пытаньне: Свабода ўзяла філярмонію, што наступнае — пошта, тэлеграф, масты?

Цяпер ніхто артыкулаў Леніна не вывучае, але тады ягоныя «парады збоку», як браць уладу, зубрылі перад экзамэнамі.

Выступ у філярмоніі сапраўды быў маленькай рэвалюцыяй — хоць узялі мы будынак на плошчы Якуба Коласа звычайнай настойлівасьцю. Там нават дырэктара не зьнялі.

Для прэзэнтацыі зборніка адзінай у Беларусі нобэлеўскай ляўрэаткі мы з Саюзам пісьменьнікаў шукалі сцэну месяц — СП меў афіцыйную рэгістрацыю і банкаўскі рахунак, зь якога аплаціць арэнду. Нам адмовілі ў шасьці месцах, выглядала, што па ўсім Менску адбываліся катастрофы: замыкала праводку, прарывала трубы, лютавала санэпідэмстанцыя, пачынаўся рамонт. Напружанасьць нарастала, мы ўжо думалі пра сустрэчу пад голым красавіцкім небам, не было толькі адказу з Палацу рэспублікі — і раптам палац здаўся. У арэнду.

Мы выставілі пару соцень запросінаў на ўваход у інтэрнэце, і іх разьмялі за хвіліны. Дыпляматы, творчыя саюзы, журналісты асаджалі просьбамі — гэта была першая шырокая публічная сустрэча зь першай нобэлеўскай ляўрэаткай.

Трансьляцыю з гэтага сьвята можна знайсьці ў *YouTube*. На наступны дзень я напісаў свае нататкі пра тое, што ня

трапіла ў этэр, якія я назваў «Шэсьць ручак Алексіевіч». Нататкі, натуральна, складаліся з шасьці частак.

### Частка 1. Нобэлеўская арэнда

— Чаму вам далі Палац рэспублікі? — гэтае пытаньне задаюць знаёмыя, малазнаёмыя і незнаёмыя.

— Далі, бо Саюз беларускіх пісьменьнікаў — аўтарытэтная арганізацыя, — аўтарытэтна адказвае старшыня саюзу Барыс П., які падпісваў дамову арэнды ад імя СБП.

Я спрабую пажартаваць пра душу, якую прадалі д’яблу, але журналісты аказваюцца атэістамі, адразу пытаюцца пра камэрцыйную таямніцу — за колькі.

Палацавае начальства шматлікае і разнастайнае, і вэрсіі адказу мяняюцца ад неверагоднага зьдзіўленьня («А што тут такога, у нас вось нават гурт «Рамштайн» выступаў!»), да канстатацыі відавочнага («Пустуюць залі, няма чым запоўніць, на траціну ўжо штат скарацілі...»). У канцы нават даходзіць да намёкаў («Мы самі прымаем рашэньне цалкам самастойна, але было яшчэ некалькі інстанцый, ня ведаем колькі»).

Не пытаецца адна Сьвятлана, яна адразу адказвае: відаць, усё ж хочуць у Эўропу.

### Частка 2. Нобэлеўская расчоска

Таксі са Сьвятланай не прапускаюць праз шлягбаўм, і мы з Барысам П., пісьменьніцай і яе сяброўкай абыходзім Палац вакол. Даволі доўга ісьці. Вецер, дождж, на агульным уваходзе натоўп, знаёмыя — і кожнаму (адмысловая рыса Алексіевіч) яна знаходзіць час, слова, задае пытаньні. Выслухоўвае, прычым усё гэта нejак безь мітусьні, спакойна, здаецца, нават павольна. Але ўсё ж праходзім у грымёрку, і нават не спазьняемся. І тут Сьвятлана кажа, што забылася расчоску.

Першы з краю ў залі сядзіць вядомы крытык Ціхан Чэ, і я спрабую пазычыць у яго расчоску. У крытыка расчоскі няма.

— У нашым саюзе крытыка непрычасаная, — аўтарытэтна тлумачыць Барыс. — А ў другім усе лысыя.

Выратоўвае дзяўчына ў бэзавай кофтачцы. Сьвятлана прычэсваецца перад люстэркам, потым я вяртаюся ў залю — але дзяўчыны няма. Аддаю расчоску Ціхану Чэ. Што-та цяпер будзе з крытыкай?

**Частка 3. Нобэлеўскае фае**

Як толькі была абвешчана аўтограф-сэсія, палова залі апынулася на сцэне, і жывая чарга апляла Сьвятлану злева, справа, ззаду, сьпераду, а некаторыя асабліва энэргічныя асобы наладзілі чаргу зьверху, над ляўрэаткай.

— Высокага палёту людзі, — аўтарытэтна тлумачыць Барыс. — Гэта нічога, галоўнае, каб з падпольля не палезьлі.

Час арэнды сканчаецца праз гадзіну, становіцца відавочна, што нават палова ахвочых не атрымае аўтограф, і я прапаноўваю людзям у канцы чаргі паставіць факсымільны аўтограф — Сьвятлана дазволіла зрабіць пячатку зь ейным подпісам. Падыходзяць некалькі чалавек, якія больш ня могуць чакаць, трэба на цягнік ці аўтобус, — я стаўлю можа з два дзясяткі пячатак. Рэшта на спакусу не паддаецца і стойка працягвае чакаць цуду.

І невялікі цуд здараецца: нам даюць бонус, дваццаць хвілін, а потым даюць дазвол працягнуць сэсію ў фае.

— Дажыліся, — кажа адна жанчына. — Нобэлеўская ляўрэатка падпісвае кнігі ў калідоры.

— Не ў калідоры, а ў фае, — аўтарытэтна папраўляе Барыс. — Потым шыльду павесяць: тут працавала Сьвятлана Алексіевіч.

Над вяртаньнем у Эўропу, хочацца дадаць мне.

**Частка 4. Нобэлеўскія абдымкі**

Сьвятлана падпісвае кнігі, быццам у чарзе ня сотні людзей, а адзін чалавек.

Пытаецца імя, адкуль, дзе вучыцца, на каго. Адна дзяўчына кажа, што вывучае статыстыку. І як потым, ці можна пражыць з такой адукацыяй, пытаецца Алексіевіч з такім шчырым зацікаўленьнем, што ў мяне на сэкунду ўзьнікае думка, можа, яна сама хоча зьмяніць прафэсію.

— Падпісвае кнігі так, як іх піша, — аўтарытэтна тлумачыць Барыс. — Для аднаго і пра аднаго. Галоўнае, каб абдымаліся па адным.

І расказвае, як пасьля вяртаньня са Стакгольму адзін сябра саюзу ў парыве пачуцьцяў так сьціснуў ляўрэатку, што тая потым тыдзень з хаты не магла выйсьці. Я з жахам узгадваю, што калі сустракаў Сьвятлану ля шлягбаўма на вуліцы, таксама абняў яе.

— Ты ж у касьцюме выскачыў, Сьвятлана бачыла, што замёрз, — аўтарытэтна тлумачыць Барыс. — Здалёк можна было падумаць, што гэта яна цябе абняла.

Я яму веру.

**Частка 5. Нобэлеўскія ахоўнікі**

Трэцяя гадзіна аўтограф-сэсіі падыходзіць да канца, апошнія дзьве кнігі Сьвятлана падпісвае свайму любімаму карэспандэнту Свабоды Зьмітру Б., які, аказваецца, стаў у чаргу другі ці трэці раз, бо першы раз народ закрычаў, каб больш дзьвюх кніжак у адны рукі не падпісвалі. Сьвятлана ізноў цытуе Бартосікава падарожжа ў яе вясковую школу — яна пераняласа ягоным прызнаньнем, што пасьля гутарак зь яе настаўніцамі Зьміцер ледзь не звар’яцеў.

Але ў гэты момант я падумаў, што звар’яцеем мы: з-за вугла і калёнаў на нас рушыць група супрацоўнікаў службы бясьпекі ў спэцформе. Будуць браць, з жахам думаю я, — і не памыляюся. Прыйшлі браць аўтографы.

У кожнага некалькі кніг «Бібліятэкі Свабоды» ў руках, просяць сабе, дзецям, маці, адзін кажа, што для бацькі, той быў дырэктарам школы.

— І мой бацька быў дырэктарам школы, — кажу я.

— Праўда? І мой таксама быў дырэктарам школы, — Сьвятлана глядзіць на мяне і ахоўніка з салідарнасьцю, пакуль я зьбіраюся зрабіць фота двух дырэктарскіх дзяцей.

— Нас фатаграфаць забаронена, прыбярыце камэру, — раптам строга кажа ахоўнік.

— Таму іх так і завуць у народзе — байцы нявідзімага фронту, — аўтарытэтна тлумачыць Барыс.

**Частка 6. Нобэлеўскія ручкі**

Зусім магчыма, што ў гэты дзень нараджаецца новы нобэлеўскі рэкорд. Людзі прыйшлі на сустрэчу з кнігамі ляўрэаткі розных гадоў выданьня, на розных мовах, плюс кожны яшчэ атрымаў у падарунак асобнік «Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе». Гэта была першая ў Беларусі публічная сустрэча набэліянткі з чытачамі пасьля цырымоніі ў Стакгольме, і Сьвятлана наладзіла маратон — падпісвае ўсім усё. Адну гадзіну, другую, трэцюю...

Потым я пытаю, ці ўмее яна даіць карову — проста каб ручку трымаць столькі часу, трэба мець вельмі моцную руку. Ну як у даяркі. Сьвятлана кажа, што ніколі не даіла, нічога практычнага рукамі рабіць ня ўмее, бярэ маю руку і з усіх сілаў паціскае — але нобэлеўскі поціск не сакрушальны, проста ўпэўнены, нармальны такі поціск. І я так магу. Нават мацней.

— Пісьменьнікі пішуць не рукой, — аўтарытэтна тлумачыць Барыс.

— Ручкай! — здагадваюся я. Дакладней, ручкамі. Адзін з рэкордаў дня — шэсьць сьпісаных нобэлеўскіх ручак. У Сьвятланы было дзьве ці тры, сьпісаліся, пазычылі яшчэ адну, потым зноў, і ў канцы на стале ляжалі шэсьць сьпісаных ручак.

Я іх сабраў і паклаў сабе ў кішэню — па-першае, каму трэба сьпісаныя ручкі. Па-другое — а раптам там яшчэ штосьці засталося. Спатрэбяцца для наступнага разу.

***

У гэтай гісторыі пакуль няма сёмай часткі, але яна абавязкова будзе.

Я нават ведаю дзень, калі тое адбудзецца. Як і абедзьве згаданыя прэзэнтацыі, у філярмоніі і Палацы рэспублікі, — у пятніцу.

## Дырэктар і яго месца

З 2004 да 2010 году я займаў найлепшы кабінэт у Празе.

Дзьве сьцяны майго офісу ў куце чацьвертага паверху былога парлямэнту Чэхаславаччыны былі шкляныя. Падымеш вочы ад кампутара — на залатых трубах граюць і танчаць анёлы на даху дзяржаўнага тэатру опэры і балету, помніка нэаракако. Адразу за тэатрам расхінуў залатыя крылы арол на самым вялікім помніку ар-дэко ў Чэхіі, будынку вакзалу. Ажурныя аркі са шкла і чыгуну вісяць над бліскучымі сталёвымі рэйкамі. Унізе дзьве плыні аўтамабільнага патоку абцякаюць будынак радыё і зьліваюцца на мосьце праз Влтаву.

А першае, што бачылі наведнікі, якія заходзілі ў мой кабінэт, была адна з самых казачных панарамаў сьвету — тысячагадовы Град, адзін з найвялікшых у Эўропе замкавых комплексаў, сядзіба імпэратараў Сьвятой Рымскай імпэрыі, каралёў і прэзыдэнтаў Чэхіі. Нэагатычныя шпілі касьцёлу Сьвятога Віта праколвалі неба на блізкім гарызонце, які складаўся зь фігурных крыжоў, зубчатых вежаў, медных купалаў, чырвоных дахаў сярэднявечнай Прагі.

Адразу праз дарогу масіўным шэрым кубам стаяў нэаклясыцыстычны палац Пэтшэка, пабудаваны як мадэрны банк, які пазьней набыў сумную славу як сядзіба гестапа. Празь яго падвалы прайшлі 37 тысяч асобаў. На сьцяне можна прачытаць заклік да пільнасьці закатаванага там журналіста Юліюса Фучыка.

— Наш мэта — Градчаны, сядзіба Вацлава Гаўла, а шлях да яе вядзе праз палац Пэтшэка, — як падсумаваў маршрут беларускай дэмакратыі адзін мой калега.

Пасьля пераезду зь Мюнхэну гэты пакой паводле права гаспадароў заняла Славацкая служба — парлямэнт быў усё ж чэхаславацкі. Калі празь некалькі гадоў яе закрылі, мне ўдалося, пасьля кароткай вайны з суседзямі, захапіць свабодную тэрыторыю для Беларускай службы.

Наступная фраза сама пішацца клявіятурай: хто тут толькі ня быў! Васіль Быкаў і Барыс Нямцоў, Зянон Пазьняк і Алесь Бяляцкі, дачка былога прэзыдэнта ЗША Эйзэнгаўэра і цяперашні рэдактар часопісу *The New Yorker*, былыя савецкія дысыдэнты і беларускія кандыдаты ў прэзыдэнты, старшыня Рады БНР і першы кіраўнік Беларусі, госьці з усяго сьвету і з усіх паверхаў будынку, якія заглядвалі на келіх віна пятнічнымі вечарамі.

Умова была — прыносіць келіх з сабой. Калега з Расейскай службы пісьменьнік Пеця Вайль аднойчы прынёс партвэйн «Агдам», — ня той, легендарны, а новы яго разьліў, які быў такім самым шпалаўкладніцкім, як колішні арыгінал. Знаёмы чэх, былы саліст балету, пабачыў праз вакно сваю грымёрку пад дахам тэатру, якую пакінуў пасьля савецкай акупацыі 1968 году. Ён танчыў разам з Рудольфам Нурэевым на розных сцэнах сьвету і марыў прывезьці яго ў Прагу, каб пахваліцца выглядам са свайго акна. Не, я б прывёў яго сюды, казаў ён мне потым, адсюль выгляд лепшы.

Апошнім госьцем зь Беларусі, які пабываў у гэтым пакоі, стала Сьвятлана Алексіевіч.

Радыё тады ўжо даўно пераехала з цэнтру гораду, хоць і засталося на той самай Вінаградзкай вуліцы. З майго новага кабінэту цяпер можна пабачыць магілу Франца Кафкі, за пару соцень мэтраў далей, нябачныя за густымі кронамі на Альшанскіх могілках, спачываюць два прэзыдэнты БНР. З другога боку нашага будынку, праз дарогу, у сьцяне касьцёлу на Вінаградзкіх могілках, пахаваны Вацлаў Гавэл — усё і ўсе побач.

— Зьлева і справа — наша будучыня, — як аптымістычна характарызаваў новы адрас той самы калега, што тлумачыў шлях да дэмакратыі выглядам з майго першага кабінэту.

Стары будынак радыё заняў Нацыянальны музэй. Алексіевіч прыехала ў Прагу на тэатральны фэстываль, і мы дамовіліся з музэем, што нобэлеўскай ляўрэатцы пакажуць Біблію Францішка Скарыны. Нас правялі знаёмымі калідорамі, далі белыя ніцяныя пальчаткі і асьцярожна вынесьлі фаліянт, які ў свае паўтысячы гадоў выглядаў, быццам адціснуты ўчора.

Алексіевіч з павагай пагартала, прачытала пару радкоў з Кнігі Ісуса Сірахава, але не сказаць, каб сустрэча зь першадрукам яе ўсю перавярнула. Мы зрабілі фатаздымак, на якім яна трымае Біблію, падзякавалі — і я запрапанаваў заглянуць у мой былы кабінэт.

Дзьверы былі зачыненыя, мы пастукалі, увайшлі — і затрубілі анёлы, узмахнуў крыламі залаты арол, ірвануліся ў неба гатычныя вежы Градчанаў.

— Можна зрабіць фота? — спытала Сьвятлана, якая цярпець ня можа фатаграфавацца.

Новы гаспадар пакоя дазволіў. Ён меў усе паўнамоцтвы — гэта быў камэндант будынку. Гэта сур’ёзна. Гэта вам не дырэктар.

## Прачуханка па-прэзыдэнцку

Самую публічную і крыўдную прачуханку ад начальства я атрымаў у прысутнасьці і на вачах самага высокапастаўленага амэрыканскага палітыка з усіх наведнікаў радыё за ўсю яго гісторыю.

Дэніс Гастэрт, мажны дзядзька, былы трэнэр вольнай барацьбы, быў сьпікерам Палаты прадстаўнікоў Кангрэсу — трэцяй паводле герархіі службовай асобай ЗША.

Ён узначальваў дэлегацыю Кангрэсу, якая вярталася з Афганістану. У Празе была перасадка, і дэлегацыя вырашыла адведаць радыё, якое Кангрэс фінансуе.

Кульмінацыяй знаёмства мела стаць традыцыйная рэдактарская нарада. Усе дырэктары, прэзыдэнт і іншае начальства апоўдні зьбіраліся ў вялікім пакоі за велізарным авальным сталом, і кожны па чарзе прадстаўляў галоўныя навіны дня ў сваёй краіне.

Нават калі б мы прамаўчалі тую гадзіну, посьпех візыту быў бы гарантаваны. Дзьве сьцяны залі на апошнім пятым паверсе былога парлямэнту былі са шкла, і выгляд на Прагу, на прэзыдэнцкія Градчаны, на золата ар-дэко і гатычныя шпілі займаў дух нават у мяне, які падымаўся туды штодня. Але мы не прамаўчалі.

Джэф Трымбл, галоўны рэдактар, які адкрыў нараду, раптам даў слова не па парадку, першаму дырэктару зьлева ад сябе, а зьвярнуўся да мяне. Я сядзеў наўскос у канцы стала, ля кангрэсавай дэлегацыі, і ніяк не чакаў такога павароту.

— Аляксандар, сёньня ў Менску пачынаецца саміт прэзыдэнтаў СНД — якія апошнія навіны?

Навіны былі — нехта кінуў гранату праз агароджу пасольства Расеі, і мы ліхаманкава зьбіралі інфармацыю, апытвалі жыхароў суседніх дамоў, экспэртаў, аналітыкі абмяркоўвалі наступствы. Гастэрт і кангрэсмэны ўважліва слухалі.

Я адгаварыў, і Трымбл вярнуўся да традыцыйнай працэдуры — даваў слова па чарзе, дырэктары хваліліся, як цяжка працаваць і якая важная іхная праца. Дэлегацыя, якая ляцела праз некалькі часавых паясоў, выдатна разумела, што і дзеля чаго ёй дэманструюць, і паціху засынала. Усё ішло найлепшым чынам, пакуль чарга не дайшла да мяне. Джэф ветліва спытаўся, ці ў мяне ёсьць нешта дадаць.

На жаль, у мяне было. Агенцтва БелТА паведаміла той раніцай, што прэзыдэнт Лукашэнка запрошаны на сьняданак-малітву, якую штогод арганізуе Белы дом. Лукашэнка быў ізгоем, пэрсонай нон-грата на Захадзе, і навіна, разасланая афіцыйным інфармагенцтвам, прыцягвала ўвагу менавіта сваёй неймавернасьцю. Запросіны былі, перадаў іх адзін пэрсанаж, амэрыканец беларускага паходжаньня нехта Маргуліс, які рэгулярна прылятаў на прэс-канфэрэнцыі Лукашэнкі і рассыпаўся ў кампліментах перад мікрафонам на прэс-канфэрэнцыях.

Я тады ня надта ўяўляў, што такое сьняданак-малітва Белага дому (гэта завочная акцыя, якая адбываецца адначасна ў шматлікіх месцах, хочаш — прыходзь сам і прыводзь суседа), і захацеў разбудзіць Гастэрта і кампанію блюзьнерскай навіной на блізкую ім тэму.

І разбудзіў, але ня я, а прэзыдэнт радыё Том Дайн.

— Адкуль гэтая інфармацыя? — напружаным тонам раптам спытаўся ён у мікрафон, які аж зафаніў.

Я пачаў адказваць, але Дайн перапыніў:

— У вас ёсьць другая крыніца? Як вы можаце нешта казаць, калі гэта не пацьверджана? Чаму вы сабе гэта дазваляеце? Як вы працуеце?! Нельга такое даваць!

Ён пачырванеў, вочы звузіліся, вось-вось мог здарыцца астматычны прыпадак. Я яшчэ нешта спрабаваў патлумачыць, але Джэф хутка зьвярнуўся да майго суседа, дырэктара Літоўскай службы, той павярнуўся да сьпікера Кангрэсу і сказаў, што лепш слова даць містэру Гастэрту,

бо ён ганаровы грамадзянін Вільні. Сьпікер заўсьміхаўся, Дайну адлягло, я ўтаропіўся ў стол і больш ня бачыў ніякага золата Прагі за вокнамі.

Увечары на прыёме ў амэрыканскай амбасадзе да Дайна падыходзілі кангрэсмэны, дзякавалі за сустрэчу і пыталіся, чаму ён так сурова абышоўся са мной на нарадзе. Пыталіся ня толькі са спачуваньнем да беднага дырэктара, але і з захапленьнем: вось якая ў Тома Дайна дысцыпліна, стандарты, патрабаваньні, *tight ship*. Дайн мне потым расказваў і задаволена ўсьміхаўся. Ён быў прызначэнцам ад Дэмакратычнай партыі, і было важна падтрымліваць добрыя адносіны з рэспубліканцамі, якія тады кантралявалі Кангрэс і бюджэт.

Дэніс Гастэрт займаў пасаду сьпікера восем гадоў, найдаўжэй за ўсіх у гісторыі Рэспубліканскай партыі. У 2007 годзе, калі на выбарах перамаглі дэмакраты, ён сышоў у адстаўку і стаў лабістам. У 2015-м яго абвінавачвалі ў сэксуальных дамаганьнях да хлопчыкаў, якіх ён калісьці трэніраваў у сваім штаце, надзелі кайданкі, судзілі, далі 15 месяцаў турмы і адправілі за краты.

Гастэрт стаў самай высокапастаўленай службовай асобай у гісторыі ЗША, якая адбывала пакараньне за кратамі.

Гэтая інфармацыя пацьверджаная зь некалькіх незалежных крыніцаў.

## Маё начальства. Том Дайн

Роля і месца іншых людзей у вашым жыцьці лёгка правяраецца простым тэстам: памятаеце вы іхны дзень нараджэньня ці не.

Дзень нараджэньня майго другога прэзыдэнта Тома Дайна я памятаю ня толькі з-за прачуханкі. Аднойчы ён запрасіў на сваё прыватнае сьвята, дата была ня кру-

глая, шэсьцьдзесят чатыры гады, але адзначаў шырока, прыйшло чалавек дваццаць. Ягоная жонка папрасіла, каб госьці ня несьлі падарункаў, а напісалі лімэрык. Я напісаў вершык:

*To dine with Dine*
*Is always fine.*
*To dine with wine*
*With Thomas Dine*
*Is not just fine —*
*It is divine!*

Прозьвішча прэзыдэнта рыфмавалася са словамі «віно» і «па-боску» і было амонімам дзеяслова «абедаць» — добра, што не «вячэраць», а то б я дапісаўся да Леанарда да Вінчы зь яго «Апошняй вячэрай». Настолькі важнае для мяне было яго прэзыдэнцтва, ад 1997 да 2005 году.

Пры Дайну я быў прызначаны дырэктарам, стаў першым стыпэндыятам ад радыё ў Гувэраўскім інстытуце і паехаў у Каліфорнію, ён стаяў за маім падарожжам у Афганскую службу (хоць і спрабаваў мяне вярнуць з паўдарогі ў Кабул, калі прыйшла навіна пра выкраданьне карэспандэнта Ройтэрз, але я ўжо ішоў на перасадку ў Дубаі і ня браў тэлефон).

Ён ганарыўся супрацоўнікамі як дзецьмі. На прыёме, які ладзіў Белы дом для журналістаў, ён падвёў мяне да мажнага дзядзькі двухмэтровага росту ў смокінгу і прадставіў як дырэктара Беларускай службы, які зараз вам усё раскажа пра гэтую вельмі важную краіну. Той паслухмяна паставіў шампанскае на столік і падрыхтаваўся слухаць. Я спытаўся, чым ён займаецца, — аказалася, гэта быў начальнік аб’яднанага камітэту начальнікаў штабоў амэрыканскіх узброеных сілаў, чатырохзоркавы генэрал, найвышэйшы вайсковы камандзір у ЗША.

Я сустракаў Тома пасьля ягонага сыходу з радыё — на прэзыдэнцкіх выбарах у Грузіі, дзе ён быў назіральнікам АБСЭ, у Сан-Францыска, дзе ён узначальваў габрэйскае аб’яднаньне, у кніжнай краме ў Вашынгтоне, дзе мы капаліся ў палітычных біяграфіях, — і ён заўсёды ўсьміхаецца так, быццам мы зараз падымем келіх віна і ўсё будзе *divine*.

З Томам як дома. Галоўнае, каб крыніцы былі надзейныя. Пашанцуе, можна патрапіць да яго на дзень нараджэньня, хоць гэта і малаверагодна.

Ён яго адзначае раз на чатыры гады. Том адзіны чалавек, якога я ведаю, чый дзень нараджэньня прыпадае на 29 лютага.

Не забудзеш.

## Хто сьмяецца апошні

Скарга ў Вашынгтон была сур’ёзная: Беларускую службу абвінавачвалі ў марнатраўстве, шкодніцтве і здрадзе. Аўтар падпісаўся поўным прозьвішчам і званьнем, «патрыёт Беларусі».

Патрыятычны гнеў выклікала перадача пра трусы сямейныя, як афіцыйна называўся гэты адзіны заўсёды даступны мужчынскай палове пакупнікоў тавар першай неабходнасьці ў савецкіх крамах 1960-х гадоў. Канцэрт з забытых словаў пра хунвэйбінаў, каўбасу за 2,20 і бугі-вугі гучаў у этэры ў 2006 годзе і выклікаў такую эмацыйную рэакцыю (адзін слухач пісаў, што марыць хоць дзень пажыць у гэтай перадачы), што на ўсякі выпадак мы выдалі яго кнігай. Слова «патрыёт» у зьмесьце сярод дзевяноста дзевяці эсэ адсутнічала, але трапіла ў прадмову*.

* «Альбом сямейны» (2007).

Свабода — сур'ёзная рэч, таму ёй нельга займацца бязь сьмеху. Праблему з гумарам па-беларуску акрэсьліў Арыстотэль, які ў сваёй «Эстэтыцы» назваў сьмешнае зьмешчанай рэальнасьцю. У Беларусі рэальнасьць так зьмясьцілася сама па сабе, што сьмеху няма месца. Але мы шукалі.

І знайшлі пад лавай, запрасіўшы да мікрафона двух экспэртаў у разганяньні нуды зь беларускага фальклёру. «Саўка ды Грышка» павялі такія сьпеўныя баталіі пра прэзыдэнта і апазыцыю, Расею-заразу, якая не дала газу, што закладвала вушы. І неўзабаве ператварыліся ў анімацыю. Пародыя ўвогуле экспрэс-рухавік мастацтва, бо гэта жанр зьмяшчэньня. Дуэты дэмакратычнага актывіста Грышкі і праўладнага бюракрата Саўкі пад гіты сусьветнай і блатной музыкі ня проста зайшлі, як кажуць пра посьпех і папулярнасьць, а дэсантаваліся на радыёхвалі, заскочылі ў тэлевізійны этэр і прызямліліся на двух мультымэдыйных дысках. Камічную опэру, ад тэмаў і рыфмаў да выкананьня адразу двума галасамі, ніводзін зь якіх ня быў ягоным, іграючы ствараў чалавек-аркестар Лявон Вольскі*.

Сваякі Саўкі ды Грышкі таксама апанавалі інтэрнэт: на працягу пяці гадоў яны камэнтавалі рэальнасьць бяз словаў, бо былі карцінкамі. Хоць сатырычная фэерыя таямнічай мастачкі ДэЛёз называлася «Невясёлыя карцінкі», яны весялілі ня толькі суворых беларусаў. У Празе мы арганізавалі вулічную выставу пасярэдзіне Влтавы, на рачной высьпе побач з палацам Жофін. У Жофіне праходзіў Форум-2000, штогадовая палітычная канфэрэнцыя, заснаваная Вацлавам Гаўлам для прыхільнікаў дэмакратыі з усяго сьвету, і беларускі абсурд быў зразумелы ўсім, ад усьмешлівага Далай-ламы да сур'ёзных

* «Саўка ды Грышка. Песьні праўды» (2011), «Саўка ды Грышка. Сто песень» (2010-2012).

маладых людзей у цёмных акулярах, якія суправаджалі прэм’ер-міністраў і амбасадараў.

Потым мы выдалі альбом малюнкаў, разам з дасьціпнымі вершамі таямнічага паэта ДаСьлёз. Каб не насьмяшыць людзей, ня буду тут пераказваць карцінкі*.

Слухачы таксама людзі, і яны любяць, каб іх пачулі. Любое прыстойнае радыё мае праграмы з удзелам аўдыторыі. Званілі і нам, але міжнародныя званкі дарагія, сувязь ненадзейная, і мы ўсталявалі тэлефон-аўтаадказьнік зь мясцовым нумарам у Менску, дзе можна было пакінуць запіс свайго голасу. Вельмі хутка стала зразумела, што праграма «Званкі на Свабоду» справіцца з радыёаматарамі з усёй краіны і замежжа ня здатная, і адпачкавалася дачыная перадача «Званочкі». Вядоўца падышоў да справы безадказна, і блуднае дзіця ўцякло з мацярынскай хаты за небакрай папулярнасьці. Гэта, бадай, адзіны праект, які ня ссунуўся далей у рэальнасьць, у кнігу ці дыск. Магчыма, таму, што сам занадта наблізіўся да жыцьця і пасунуў яго: слухачкі прыяжджалі ў Прагу, каб пабрацца шлюбам зь вядоўцам, хоць ён быў чалавек сур’ёзны, жанаты, з трыма дзецьмі, і ў вольны час перакладаў Джойса.

Вірусіліся анімацыйныя ролікі «Цырк на дроце»: асабліва папулярны стаў хорар пра мядзьведзяў, якія валіліся на Беларусь зь неба. Ашаламляльны пэрформанс швэдзкіх трыкстэраў, што на спартовым аэрапляне праляцелі над рэзыдэнцыяй беларускага галоўнакамандуючага і скінулі дзясяткі плюшавых мішак, сам быў пародыяй на палёт Матыяса Руста, які пераадолеў іржавую жалезную заслону і прызямліўся на Краснай плошчы ў Маскве. Адзін такі плюшавы дэсантнік з надпісам «Мядзьведзі за свабоду Беларусі» стаіць у маім кабінэце — швэды прыслалі на знак удзячнасьці за асьвятленьне іхнага бамбаваньня дыктатуры.

---

* «Невясёлыя карцінкі» (2015).

Катарсіс быў гарантаваны, калі зьяўляўся чарговы дыялёг «#давайпака». Гэты цыкль чытаўся як «Энэіда», і не навыварат, бо сам час быў навыварат. Гамэрычны цыкль у *Facebook* мяняў страх на сьмех, а гэта самы хуткі шлях ад рабства да свабоды*.

Ніводная з рэдакцый-суседзяў нічога роўнага ня мела. Я назваў толькі пяць праектаў — гэта роўна на пяць больш, чым магчыма.

## Маё начальства. Мішэль Дубак

Аднойчы «Белорусская газета» апублікавала здымак з цырымоніі ўзнагароджаньня пераможцы конкурсу РСЭ/РС на найлепшы інавацыйны праект. Не з-за інавацыяў у журналістыцы, а пад рубрыкай «Фота тыдня»: тагачасная галоўная рэдактарка Мішэль Дубак толькі што абвясьціла пераможцу зь ліку пяці фіналістаў, якія сядзелі за сталом у вялізнай залі, дзе некалі засядаў парлямэнт Чэхаславаччыны.

Калі б фота фіксавала гук, дык напэўна гэта было б агульнае «Ах!» ад сотні прысутных. Не ад таго, што перамагла менавіта Беларуская служба, а таму, што я сядзеў пасярэдзіне фіналістаў, адсоўвацца, падымацца, абыходзіць шэраг крэслаў было задоўга, і я сігануў напрасткі праз стол. На фота зафіксаваны момант, калі я завіс над сталом, ашаломленыя твары калег і галоўнай рэдактаркі, якая пачынае сьмяяцца**.

---

* «Казкі па целефоне» (2019).

** Гэта была гістарычная мэбля — у гэтай залі колішні зэк зрабіўся прэзыдэнтам. У Чэхаславаччыне кіраўніка дзяржавы абіралі дэпутаты парлямэнту, і тут пачалося першае прэзыдэнцтва Вацлава Гаўла.

У Прагу Мішэль прыехала ў 1998 годзе, з досьведам працы на самым прафэсійным амэрыканскім радыё, *NPR*.

Прэзыдэнт Том Дайн заявіў неяк на агульнай нарадзе, што хацеў бы бачыць за дырэктарскім сталом палову жанчын. У Мюнхэне толькі адна жанчына была дырэктарам, Грузінскую службу ўзначальвала Гульнара Патарыдзэ. Яна нарадзілася і вучылася ў Парыжы, пачала працу на Свабодзе ў 1967 годзе, калі ёй было дваццаць чатыры гады, у 1986 годзе стала дырэктарам — разам мы прапрацавалі каля дзесяці гадоў, да яе заўчаснай сьмерці ў 2003-м. Гэтая парыжанка была самай стылёвай і элегантнай постацьцю на нашых нарадах, але прыслухоўваліся да яе дзеля калясальнага досьведу і пераемнасьці зь мюнхэнскім пэрыядам. У Грузіі яе абажалі.

З таго часу лічба жанчын-дырэктараў службаў вырасла разоў у дзесяць. Гульнара яшчэ засьпела гэты зрух. У 2002 годзе першай жанчынай — дырэктарам вяшчаньня, як тады называлі пасаду галоўнага рэдактара, стала Мішэль.

Радыё было жыцьцём Мішэль, вакол яе ўтварыўся лідэрскі калектыў, які займаўся ня звадамі, а прафэсіяналізацыяй працы. Была мая чарга ахнуць, калі аднойчы Мішэль запрасіла мяне ў свой кабінэт і папрасіла ўзначаліць Афганскую службу, якая засталася без дырэктара. Я падумаў быў, што яна сьмяецца: я ня ведаў ні дары, ні пушту, ні ісламу, ні Ўсходу ўвогуле.

Але Мішэль цікавілі не мае веды, а мае ўменьні. Ну і прафэсійны рост: людзям трэба кідаць новыя няпростыя выклікі. Усё, што я здолеў вытаргаваць у адказ, — абяцаньне, што вярнуся ў Беларускую службу.

Я думаю, менавіта таму, што я меў досьвед кіраваньня Афганскай службай, наступны прэзыдэнт Джэф Гедмін папрасіў мяне часова стаць галоўным рэдактарам. Мішэль яшчэ займала свой кабінэт, хацела працягваць працу, якую любіла, але новы кіраўнік прыходзіў са сваёй камандай, і зьмена лідэрства была вырашанай справай. Я

спрабаваў угаварыць новага прэзыдэнта пакінуць Мішэль на пасадзе, пакуль не прыедзе ягоны пастаянны галоўны рэдактар, але з гэтага нічога ня выйшла. Пасьля абвесткі на агульным сходзе аб маім прызначэньні я зайшоў у кабінэт да Мішэль, у яе вачах былі сьлёзы, але яна была радая за мяне.

Яна вярнулася ў Нью-Ёрк і ўзначаліла Радыё ААН. Мы сустракаліся, калі я бываў у Амэрыцы.

Я трохі рэфармаваў нашыя рэдактарскія нарады, і на пачатку кожнай, пакуль рассаджваліся, мы гралі якуюнебудзь песьню ці мэлёдыю, якія выбіраў аўтар самай цікавай навіны з папярэдняга дня.

У апошні дзень Мішэль на радыё я папрасіў уключыць «Бітлз»: «*Michelle, my belle, these are words that go together well…*»

Кожны раз цяпер успамінаю сваю амэрыканскую рэдактарку і грузінскую парыжанку, калі чую гэтую песьню, адзіную з усяго рэпэртуару бітлоў, у якой прысутнічае француская мова, і адзіную, што здабыла тытул «Песьня году» ў конкурсе *Grammy.*

## Палянэз для Афганістану

Найсмачнейшы хлеб, які я каштаваў, — гэта нан. У Кабуле яго пякуць і прадаюць на вуліцы, здалёк ён выглядае як бялізна, вывешаная на бальконе, застаецца смачным тыдзень, добра пераносіць пералёты — і я сам купляў, і калегі-афганцы прывозілі даўгія авальныя ляпёхі мне ў Прагу, і смак я памятаю, калі пішу гэтае слова: на-ан.

Афганістан для мяне пачаўся са службовай неабходнасьці: нечакана звольніўся дырэктар Афганскай службы, патрэбная замена. З наступнага тыдня.

Я ўжо пісаў, што ніколі не бываў у Азіі, ня быў знаёмы з культурай і гісторыяй гэтай краіны. Нешта, канечне,

ведаў — ад Рэд’ярда Кіплінга, зь яго пранізьлівай балядай пра Кабульскі брод, ад Сьвятланы Алексіевіч, зь яе «Цынкавымі хлопчыкамі». Ну і, вядома, нікога не абмінула няспынная лявіна навінаў пасьля таго, як Бін Лядэн учыніў тэрарыстычны напад на Амэрыку, і ў выніку ўлада талібану была зьмецена сіламі міжнароднай кааліцыі, здавалася, назаўсёды.

У 2002 годзе Радыё Свабода загаварыла на пушту і на дары — «Радыё Азады» загучала ў гарах Гіндукушу.

— Часова, на месяц, пакуль ня знойдзем сталага дырэктара, — сказала начальства.

На той момант я кіраваў Беларускай службай ужо пяць гадоў, нам удалося павялічыць этэр удвая, рэдакцыя працавала ў тры зьмены, усё кіпела, новыя праекты, праграмы, фарматы — далібог, нават на выходныя не было як сыходзіць, а тут аж на месяц.

Гэтая размова была ў кастрычніку 2004 году. У Беларускую рэдакцыю я вярнуўся на пачатку 2006-га.

**Афганская мова, якой няма.**

Афганская рэдакцыя складалася зь дзьвюх частак: палова вяшчаньня, шэсьць гадзінаў, была на пушту, другая палова на дары. Гэта дзьве асноўныя мовы краіны, якую насяляе мноства народнасьцяў і нацыянальных групаў. Але як усе, хто сутыкаўся з афганскай рэальнасьцю, ведаюць, яе немагчыма апісаць часткамі і паловамі.

Праграма званкоў у рэдакцыю ішла ў жывым этэры на дзьвюх мовах адразу, навіны чыталіся па чарзе, і я хацеў бы напісаць, што ўсе журналісты валодалі абедзьвюма мовамі (што праўда) — але варыянтаў, які выраз, слова больш правільныя, было столькі, колькі саміх журналістаў. Я думаў, што ўжо большых спрэчак пра мову, чым у Беларускай рэдакцыі, не бывае, — а тут вось табе маеш.

Як ведаюць усе беларусы, моўныя дыскусіі вельмі хутка даходзяць да кіпеньня — бо мова гэта чалавек, і крыўдна,

калі нехта кажа, што твой нос не з таго месца расьце, а сьпіна павінна быць зь мяккім знакам. У першы ж тыдзень да мяне прыйшлі дзьве групы з патрабаваньнем вырашыць, хто мае рацыю, якое слова ўжываць. Гаворка ішла пра нейкія важныя навіны, і быў пашыраны тэрмін на дары і адпаведнік на пушту, але першы — гэта падступны ўплыў фарсі, замах Ірану на афганскія межы, а другі — незалежны, але вузкарэгіянальны і малазразумелы.

Хоць я і ня ведаў ніводнай з моваў, але праблема была настолькі знаёмая, што разьвязаць яе не складала ніякай цяжкасьці. Бо разьвязваць трэба было ня моўнае пытаньне, а пытаньне мэнэджмэнту, патрабавалася ясная герархія прыняцьця рашэньняў. Я папрасіў аднаго са старэйшых калегаў, аўтарытэтнага гісторыка, стаць моўным дырэктарам службы — і так мы знайшлі агульную афганскую мову, якой, як вядома, няма.

Я тады ня ведаў яшчэ, што па-пэрсыдзку слова «афган» азначае «маўчаньне», зь цюркскіх моваў «афган» перакладаюць як «той, хто схаваўся, сышоў».

**Афганскае надвор'е, ад якога мову заняло.**

Прафэсійная мова любога радыё аднолькавая: яе рытм вызначае праграмны гадзіньнік. У Беларускай службе мы распрацавалі ажно тры: на раніцу, на вечар і для «Начной Свабоды», свае варыянты былі на выходныя, асобныя фарматы ўжываліся для вялікіх падзеяў. Афганская служба была маладая, праца ішла ў жывым этэры, з колаў, карэспандэнты перадавалі з трох дзясяткаў правінцыяў, падзеі віравалі, і асноўнай задачай было не сарваць этэр.

— Да мяне нешта падкацілася — гэта галава!

Калі чуеш такое падчас жывой трансьляцыі ад карэспандэнткі з далёкай правінцыі, дзе толькі што адбыўся выбух, загінуў губэрнатар, а яна была побач, фармальныя рамкі этэру трацяць сэнс.

Але выбухі тады, у 2005-м, здараліся нашмат радзей, чым цяпер, настрой грамадзтва пасьля рэпрэсіўнага талібанскага рэжыму быў эўфарычны, пасьля першых прэзыдэнцкіх выбараў рыхтаваліся першыя парлямэнцкія, і рэпартажы пра аднаўленьне краіны, круглыя сталы пра свабоду для жанчын, адукацыю для дзяцей, дэмакратычныя законы і да таго падобныя навіны можна і трэба было ўпарадкаваць. Што мы і зрабілі, увёўшы праграмныя гадзіньнікі: спачатку пазыўныя, потым білборд, затым выпуск навінаў, пасьля пашыраны білборд з прагнозам надвор'я, затым першы рэпартаж, аналітыка і гэтак далей.

Беларускі досьвед быў узорам — часам аж зашмат. Патрабавалася нейкая музычная застаўка, для перадачы пра афганцаў замежжа, як узор я даў паслухаць «Разьвітаньне з Радзімай» — і неўзабаве палянэз Агінскага загучаў у афганскіх дамах і паходных намётах.

Больш траўматычна атрымалася з прагнозам надвор'я — раней яго не рабілі, я падказаў некалькі сайтаў, адкуль браць інфармацыю. Праз тыдзень працы па-новаму паклікаў мадэратараў, каб праверыць, як дапільноўваюць фармат. Здаецца, усё як мае быць: сыгнал, навіны, прагноз. Пытаюся, зь якой крыніцы бралі прагноз надвор'я.

— Учарашні мадэратар даў.

Пытаюся ва ўчарашняга, дзе браў ён, — аказваецца, у папярэдняга. Выявілася, яны чытаюць прагноз ад самага першага выпуску адзін той самы, ужо другі тыдзень.

У мяне мову заняло.

— Аляксандар-джан, — мякка кажа мадэратар, — у Афганістане надвор'е не мяняецца паўгоду. Гэты прагноз у нас да лета.

Трэба было ляцець у Кабул.

**Афганская гасьціннасьць, якая не зважае на імёны.**

Маё імя ў пашпарце ў ангельскай транскрыпцыі пішацца «Aliaksandar». Малады памежнік у кабульскім аэрапорце глядзеў і так, і гэтак, а потым спытаўся, як мяне завуць.

Я сказаў, а потым дадаў:

— Скарочана — Алі.

— Салям алейкум, Алі-джан, калі ласка, праходзьце!

(Потым я быў у Вашынгтоне, там таксама доўга разглядалі дзіўную трансьлітарацыю, а потым цьвёрда сказалі: хадземце.)

Ужо вярнуўшыся з Кабулу, я ўведаў, што мяне спрабавалі вярнуць з паўдарогі: пагоршылася сытуацыя, талібы ўзялі ў закладнікі журналіста аднаго з інфармагенцтваў, свабода руху была абмежаваная — але на перасадцы ў Дубаі мяне не знайшлі, а калі самалёт прасьлізнуў паміж гораў і пайшоў на пасадку ў кабульскім аэрапорце, дзе паабапал паласы ржавелі савецкія грузавікі, тырчала танкавае дула, было позна.

Мясцовыя калегі, бясстрашныя журналісты, працавалі як звычайна, для іх гэта быў нармальны час, звыклыя ўмовы. Магчыма, я крыху перашкаджаў, бо мусіў хадзіць у суправаджэньні двух аўтаматчыкаў. Пасьля абавязковых візытаў і піцьця гарбаты зь міністрамі, дыпляматамі, генэраламі я папрасіў узяць мяне на нейкі рэпартаж, і без аховы.

Але ў горы нельга, на канфэрэнцыю ААН ці іншыя пасяджэньні я не хацеў, і ў выніку пагадзіліся на кампраміс: едзем на базар рабіць апытаньне.

Радыёжурналістаў звычайна, мякка кажучы, на вуліцах не пазнаюць. Але тое, як рэагавалі гандляры на пытаньне ад «Радыё Азады», стварала ўражаньне, што гэта тэлебачаньне. Клікалі суседзяў, абвяшчалі ўголас, частавалі гарбатай, садавіной, арэхамі. Ля аднаго прылаўка я на свае вушы пачуў палянэз Агінскага.

Я ня мог надзівіцца і нарадавацца, якой пашанай і павагай карысталася «Радыё Азады», і адчуваў сябе проста як сярод сяброў. Ці не палова гандляроў, зь якімі я знаёміўся, ведалі пару словаў па-расейску, што, праўду сказаць, трохі напружвала. Ясна чаму.

Але аўтаматчыкі, як высьветлілася, таксама ўвесь час хадзілі за намі.

— Нямецкага журналіста з Ройтэрз выкралі якраз на рынку, — патлумачыў потым загадчык бюро. І дадаў: — Ён з турэцкай сям'і, звалі Алі.

Пакуль я працаваў у Афганскай службе, ніхто з нашых журналістаў не загінуў. Але час зьмяніўся. У 2018 годзе ў Кабуле загінулі адразу трое калегаў. Адразу пасьля выбуху ў цэнтры гораду яны кінуліся на месца тэракту, каб зрабіць фота і першымі перадаць рэпартаж, калі на тым самым месцы грымнуў другі выбух — талібы ўскладнілі тактыку.

Праграма ў той дзень выйшла ў этэр строга паводле раскладу, згодна з фарматам.

**Афганскія рэкорды, якія не перакладаюцца на беларускую.**

Лідэрам замежнага вяшчаньня ў Афганістане, узорам прафэсійнай журналістыкі была карпарацыя Бі-Бі-Сі, якая вяшчала на дары і пушту больш за паўстагодзьдзя. Якраз калі я перайшоў зь беларускай у афганскую рэдакцыю, зьявіліся вынікі першага масавага дасьледаваньня аўдыторыі СМІ, якое рабіў міжнародны сацыялягічны кансорцыюм, і там фігуравала Бі-Бі-Сі — 69% аўдыторыі, фантастычны паказьнік. На другім месцы было наша Радыё Свабодны Афганістан — 62%, таксама надзвычайна, затым са значным адрывам, але двухзначнымі лічбамі ішлі іншыя замежныя станцыі.

Такая шалёная папулярнасьць радыё тлумачылася мясцовымі ўмовамі: адбываліся тэктанічныя зьмены, запыт на інфармацыю быў надзвычайны. Аднак большасьць насельніцтва непісьменная, газэт мала, тэлебачаньне

зьявілася, але на дызэльных генэратарах тэлевізар доўга не паглядзіш, а лініі электраперадач узрывалі і савецкія войскі, і муджагеды, а талібы ня надта аднаўлялі.

На адной зь першых нарадаў у рэдакцыі я легкадумна спытаўся, калі мы дагонім Бі-Бі-Сі. У адказ было ветлівае маўчаньне, а потым адзін з маладзейшых калегаў сказаў, што ніколі. У Бі-Бі-Сі былі лепшыя кадры, рэпутацыя, рэсурсы, нашмат болей перадатчыкаў.

Пасьля першага месяца быў другі, потым наступныя — не пасьпеў я апамятацца, як ізноў была восень, новыя выбары, у парлямэнт. Такую асалоду ад працы я атрымліваў хіба толькі ў час перабудовы: здавалася, нашы перадачы слухалі ўсе, ад качэўнікаў да прэзыдэнта Карзая. Свабода слова была рэальная, і таму слова мела ўладу.

Мы зрабілі рэпартаж са шпіталю, дзе пацыентам давалі пратэрмінаваныя лекі, пастаўленыя з Эўропы, — звычайная карупцыйная схема вакол кожнай вайны і паваеннай адбудовы. Міністар аховы здароўя на прэс-канфэрэнцыі абрынуўся на наша радыё з пагрозамі і абразамі.

Што рабіць — мае рэдактары былі відавочна заклапочаныя, пагрозы ў Афганістане не пустая рэч. Я папрасіў выразаць гэтую частку міністарскай прамовы і без камэнтароў пусьціць у этэр. Рэакцыя слухачоў была як цунамі: нам званілі, слалі лісты, ад Аўстраліі да Герату, ад Канады да Кандагару. Міністра бэсьцілі на чым сьвет стаіць — ня столькі за лекі, колькі за тое, што пагражаў любімаму радыё.

Па нашым слове будавалі масты, адкрывалі школы, лісты з Афганістану завалілі бюро ў Кабуле і рэдакцыйныя памяшканьні ў Празе.

У лістападзе 2005-га ў Афганістане зноў праводзілі сацыялягічныя замеры аўдыторыі. І вось — новыя лічбы: Радыё Свабодны Афганістан — 75,3%, Бі-Бі-Сі — 62%, рэшта бязь зьменаў. Гэта быў сусьветны рэкорд замежнага вяшчаньня, якога ўжо нікому ніколі ня ўдасца дасяг-

нуць (выбухнуў інтэрнэт, расквітнела тэлебачаньне, час зьмяніўся).

Радасьці маіх афганскіх калег не было канца. Беларускія калегі, калі я пахваліўся дасягненьнем, пабудаваным і на досьведзе Беларускай службы, зрэагавалі ляканічна:

— Давай у Беларусі 75%, тады пагаворым.

Але ў Беларусі столькі дае толькі адзін чалавек.

**Афганскае разьвітаньне, якое нагадвае ракіроўку.**

Найсмачнейшы ў сьвеце плоў называецца «кабулі». Окей, каб пазьбегнуць міжнароднага канфлікту, удакладню — для мяне найлепшы. Можа, таму, што гэтую казачную страву гатавалі мае афганскія сябры, у якіх я бываў дома, мо таму, што зь сябрамі любая ежа смачнейшая.

Калі прыйшоў час разьвітаньня, мае афганцы прыгатавалі і прынесьлі на радыё такую колькасьць плову і іншых казачных прысмакаў, што ўся Беларуская служба ела-ела, усё начальства каштавала-каштавала, усе госьці зь іншых аддзелаў смакавалі-смакавалі, і канца гэтаму, як і салодкім, нібыта інжыр, прамовам, не было відаць.

— Гэта яны так радуюцца, што ты сыходзіш? — выказаў здагадку адзін мой беларускі сябар, беручы чацьвертую ці пятую дабаўку.

Мае беларускія сябры ўвогуле здагадлівыя, але тут яны далі маху — у цэнтры ўвагі быў ужо ня я, а новы дырэктар, які пераняў справы.

А напярэдадні быў афіцыйны абед з удзелам амбасадара Афганістану ў Чэхіі, амэрыканскага кіраўніцтва радыё і новага дырэктара-афганца. Прозьвішча амбасадара было Карзай — ён быў родным дзядзькам прэзыдэнта Афганістану. Азізула Карзай быў заслужаным муджагедам, пасьпяхова ваяваў з савецкімі шураві, цьвёрда супрацьстаяў талібам, агітаваў за пляменьніка на прэзыдэнцкіх выбарах, быў, адным словам, аўтарытэтным

і паважаным чалавекам. І дыпляматам, якому можна ўзьняць келіх віна, каб сказаць тост.

— Усё нашае жыцьцё — дома ў гарах, у начных засадах і на вясельлі — з намі было радыё. Бі-Бі-Сі было нашым акном у сьвет, нашым голасам, нашым сябрам.

Што ён кажа, падумаў я, мы ж «Радыё Азады». Быццам ня піў яшчэ.

— Я быў нядаўна ў свайго пляменьніка, у прэзыдэнцкім палацы, — працягваў Карзай. — І куды б я ні заходзіў, нават у прыватныя пакоі — усюды гучала радыё. І гэта было Радыё Свабодны Афганістан.

Амбасадар зрабіў паўзу.

— Ніколі я ня думаў, што нехта можа стаць паміж намі і Бі-Бі-Сі. Цяпер, — ён павярнуўся да мяне і працягнуў келіх, — цяпер вы стаіце паміж намі.

Я выпіў, віно пайшло ня ў тое горла, і пакуль я адкашляўся, увага пераключылася на майго наступніка.

Сёньня, праз паўтара дзясятка гадоў, мае былыя афганскія калегі па-ранейшаму могуць зьвярнуцца да мяне «бос», пагаварыць пра сямейныя навіны, запрасіць у сваю студыю, — але не дзеля таго, каб абмеркаваць праграмны гадзіньнік і прагноз надвор’я, а каб распытаць пра самага вядомага ў Афганістане чалавека зь Беларусі, аўтарку кнігі пра цынкавых хлопчыкаў, уганараваную Нобэлеўскай прэміяй.

У мяне ўражаньне, што яны лічаць, быццам гэта і іхная прэмія, і цяпер Сьвятлана Алексіевіч стаіць паміж намі. Па-мойму, гэта правільна.

## Маё начальства. Джэфры Гедмін

Галоўны напой журналістыкі — кава.

Аўтарытэтаў, якія сходу абвергнуць гэтую заяву, канечне, ня менш, чым назваў на розных этыкетках. Але хоць варыянтаў шмат, горкая праўда адна.

У ліпені 2007 году новы прэзыдэнт Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода Джэф Гедмін запрасіў мяне на каву на Вацлаўскай плошчы. Мы выйшлі з будынку былога парлямэнту, перайшлі дарогу ад новарэнэсанснага палацу, дзе месьціўся Нацыянальны музэй, да помніка сьвятога Вацлава і, лявіруючы ў натоўпах турыстаў з усяго сьвету, дабраліся да новай італьянскай кавярні. Там, пакуль нам гатавалі капучына, прэзыдэнт прапанаваў мне пакінуць Беларускую службу.

Гедмін папрасіў мяне стаць галоўным рэдактарам радыё — на некалькі месяцаў, пакуль ня зьявіцца ягоны кандыдат, якому трэба было завяршыць справы ў Вашынгтоне. Я памятаў пра сваё «часовае», на пару месяцаў, падарожжа на Афганскую службу, якое працягнулася больш за год, і папрасіў час падумаць.

За тры дзесяцігодзьдзі на радыё я назіраў два асноўныя спосабы зьмены кіраўніцтва. Адзін — новы прэзыдэнт прыходзіць са сваёй камандай, якая займае ключавыя пазыцыі і праводзіць новую палітыку, другі — старая каманда застаецца на месцы і працуе на новага кіраўніка. Першы варыянт дазваляе хутка зрабіць радыкальныя зьмены, але адбываецца страта інстытуцыйнага досьведу і ўзрастае імавернасьць памылак. Другі варыянт забясьпечвае стабільнасьць, але дасьведчаная каманда можа ўзяць пад кантроль новага кіраўніка і пасьпяхова працягваць ня толькі ранейшы курс, але і ўсе яго хібы і тупікі.

Выразнай перавагі ня мае ніводзін са спосабаў, пагатоў яны расьцягваюцца ў часе, рэдка ажыцьцяўляюцца цал-

кам і амаль не заўважаюцца аўдыторыяй. Я паспрабаваў ухіліцца, напісаўшы прэзыдэнту свае прапановы: пакінуць пакуль тагачасную галоўную рэдактарку, якая шчыра любіла сваю працу, да яе прыхільна ставіліся журналісты. Калі гэта непрымальна, запрасіць на пару месяцаў з Вашынгтону прафэсіянала, які выконваў абавязкі прэзыдэнта перад прызначэньнем Гедміна.

Яны былі лепшыя за мяне. Калі ж не, пісаў я, што ж, анягож.

Анягож наступіў летам 2007 году і працягнуўся да зімы 2008-га. У мяне ў кампутары ёсьць тэчка дакумэнтаў з таго часу, на якую я цяпер гляджу як на рэляцыі зь іншай забытай вайны. На першым месцы — Ірак, дзе гінуць нашы журналісты, іх выкрадаюць, патрабуюць выкуп, мы займаемся іх ратаваньнем. Міністар абароны ЗША асабіста абяцае Гедміну паслаць спэцназ у варожы раён Багдаду, дзе трымаюць нашу калегу, і рэйнджэры вызваляюць закладніцу. Яе прывозяць у Прагу, яна лечыцца, пачынае працаваць — і раптам бясьсьледна зьнікае. Каб знайсьціся ў Швэцыі.

Пачынаюцца першыя масавыя DoS-атакі на нашыя сайты — радыё зусім не гатовае да кібэрвойнаў, трэба хутка шукаць экспэртаў.

Амаль кожны дзень — вячэра з амэрыканскімі і эўрапейскімі палітыкамі, інтэлектуаламі, журналістамі, якіх Гедмін ведае асабіста, і яны ўсе зьяўляюцца на радыё. Начныя відэаканфэрэнцыі з Вашынгтонам, дзе журналісты з Іранскай службы пытаюцца ў ваяўнічага сэнатара, ці будуць ЗША бамбіць Тэгеран, а той кажа, усе варыянты на стале, а нам на стол якраз прыносяць гарачую піцу, якую замовіў прэзыдэнт.

Джэф мае дар ствараць асяродак звышправоднасьці, дзе неверагодныя рэчы адбываюцца зь неймавернай хуткасьцю. На ягоныя просьбы імгненна адгукаліся генэралы і філёзафы, дзяржсакратары і сэнатары, ён мог

запрасіць Далай-ламу, і той выступаў на яго сэмінары. Гедмін — самы глыбокі знаўца гісторыі музыкі ня толькі сярод прэзыдэнтаў радыё: кожны дзень календара ён ведае як сымфонію імёнаў і твораў ад барока да року, і гэтае гучаньне часу чуваць у яго рэгулярных мэйлах, якія выглядаюць як партытуры гіпэрспасылак на канцэрты, арыі, выканаўцаў. У маладосьці ён кіраваў хорам ДзяржДэпартамэнту — нехта казаў, што яшчэ адтуль бяруць пачатак ягоныя кантакты і сувязі. Дырыжор для хору — як сьвятар для паствы.

Джэф быў першым прэзыдэнтам радыё, які наведаў Беларусь. Ён выступіў на прэзэнтацыі нашай кнігі пра палітычных вязьняў, сустрэўся з былымі зьняволенымі, усклаў кветкі ў Курапатах…*

У мяне ёсьць фатаздымак, зроблены падчас прыёму ў амэрыканскай амбасадзе пасьля кніжнай прэзэнтацыі, дзе ён стаіць разам з маёй маці і нешта гаворыць. Я ведаю што — бо перакладаў: маці скардзілася на дыскрымінацыю. На Раство мы праводзілі конкурс калядак, людзі з усёй Беларусі званілі, сьпявалі на аўтаадказьнік, і журы на чале з опэрным сьпеваком Віктарам Скарабагатавым абірала пераможцаў. Маці таксама патэлефанавала, назвалася дзявочым прозьвішчам і прасьпявала калядку са свайго дзяцінства. Калядка аказалася ня толькі зь вёскі Ставы Камянецкага раёну, але і зь сямнаццатага стагодзьдзя, і была абвешчаная пераможцай. Пераможцам абяцалі прыз — радыёпрымач. Я, канечне, прызавога прымача маці ня даў, канфлікт інтарэсаў. Але яна заўпарцілася, адмовілася ад прымача, які я прапанаваў купіць асабіста, і Гедмін яе спачувальна слухаў.

Прымача яна ўсё роўна не атрымала і прынцыпова працягвала слухаць стары «Акіян-209» — праўду сказаць,

* «Адзін дзень палітвязьня» (2009), «Адзін дзень палітвязьня. 2009–2011» (2011).

гэты менскі прымач у драўляным корпусе і праз дваццаць год пасьля выпуску лавіў «Свабоду» лепш, чым бліскучыя кітайскія гаджэты.

Праз паўтара дзясятка гадоў Гедмін узгадваў, як у першы дзень пасьля вячэры мы пайшлі пагуляць па Менску і я правёў яго па адрасах нашых рэпартажаў: турма на Валадарскага, мясьціны брутальных нападаў на дэманстрантаў на праспэкце Незалежнасьці, мы нават падняліся па прыступках адміністрацыйнага будынку з калёнамі бяз подпісу (тады, прынамсі, на цэнтральным уваходзе шыльды КДБ не было). Для вячэры з журналістамі Свабоды я замовіў невялікую прыватную залю ў рэстаране «Францыск», якраз на тузін чалавек. Калі мы прыйшлі, побач з нашым сталом стаяў дадатковы маленькі столік, за якім сядзелі два пэрсанажы ў шэрых касьцюмах і цёмных гальштуках і ўвесь вечар моўчкі пілі мінэральную ваду. Джэфа ўразіла, што яны ні разу ня выйшлі ў прыбіральню.

Падчас прэзыдэнцтва Гедміна адбыўся другі землятрус — пераезд радыё з Вацлаўскай плошчы ў новы, адмыслова пабудаваны будынак. Назва вуліцы ў адрасе засталася тая самая, Вінаградзкая, але нумар зьмяніўся з 1 на 159. Хацеў бы я сказаць, што пярэбары адбыліся зь мінулага ў будучыню, але шляхі часу вызначаюцца не тэхналёгіямі і капітальнымі ўкладаньнямі.

На першае рэдактарскае пасяджэньне ў новым будынку Гедмін запрасіў Вацлава Гаўла. Гавэл быў хросным бацькам пераезду зь Мюнхэну ў Прагу і прыйшоў на новыя народзіны. Мы разам сядзелі за авальным сталом, я пытаўся пра стаўленьне Гаўла да магчымага прыезду ў Прагу на саміт Усходняга партнэрства кіраўніка Беларусі, ён нешта адказваў. Ня гэта галоўнае — галоўнае, што прыйшоў, і так прыйшла будучыня, бо яна заўсёды там, дзе такія, як Гавэл.

Гедмін гэта разумеў. Пасьля чатырох гадоў ён вырашыў памяняць сваю будучыню, сышоў, кіраваў рознымі

інстытуцыямі, выкладаў, а потым разам зь філёзафам Фрэнсісам Фукуямам стварыў незвычайны форум пад назвай *American Purpose*, амэрыканскае прызначэньне ці мэта, які працягвае фармаваць будучыню будучыні.

Кава там фірмавы напой, хоць сам Джэф выбірае чай*.

## Рэдактура галоўнага

Галоўным рэдактарам радыё я, на шчасьце, пабыў нядоўга, каля паўгоду — але паводле колькасьці дыгітальных сьлядоў гэта самы інтэнсіўны час маёй працы.

Я пачынаю падарожжы па бюро. Масква, парлямэнцкія выбары, я пытаюся ў Гары Каспарава, які прыйшоў на начны этэр, адседзеўшы пяць сутак, хто цяжэйшы праціўнік, Карпаў ці Пуцін — ён крыўдзіцца, маўляў, пяць сутак за кратамі не прадмет для жартаў. У Беларусі такі тэрмін тады не давалі ўжо нават жартам.

У Тбілісі я правёў ноч прэзыдэнцкіх выбраў у бюро, назіраючы за бурнай працай грузінскай Свабоды, і ледзь не загінуў на наступны дзень у серных лазьнях, апетых Пушкіным. Мой лазеньнік, чый прапрадзед мыў расейскага паэта, пачаў масаж пяткамі, гэта такі танец па сьпіне кліента, каб той упаў у нірвану. Я ўжо туды пагружаўся, калі мой мекісэ, як завецца гэтая прафэсія, спытаўся ў іншага наведніка, за каго той галасаваў напярэдадні.

---

* У ліпені 2023 году Джэфры Гедмін вярнуўся на радыё, каб на паўгоду забясьпечыць кіраваньне пасьля сыходу майго перадапошнягаапошняга прэзыдэнта. Той вясной і летам мы часта сустракаліся ў Вашынгтоне, куды пасьля сыходу з радыё я паехаў на стыпэндыю Рэйгана — Фасэла ў Нацыянальны фонд дэмакратыі ЗША. І калі праз паўгоду вярнуўся ў Прагу, менавіта на запросіны Гедміна я ўпершыню зноў зайшоў у будынак, каб выступіць з аповедам пра свой новы досьвед дасьледчыка. Джэф аддаў пад сустрэчу свой прэзыдэнцкі кабінэт і сам яе вёў.

Аказалася, той галасаваў не за таго, за каго трэба, і ўдары пяткамі па маіх нырках, печані, лёгкіх падчас гарачай дыскусіі амаль ператварылі іх у субпрадукты. Асабліва мяне цешыла, што суразмоўцы з павагі да госьця дыскутуюць на зразумелай яму мове, быццам бы я так не зразумеў.

З Тбілісі я ляцеў у Азэрбайджан, сусед у самалёце пацікавіўся, скуль я, я пацікавіўся, скуль ён, — аказалася, ён нарадзіўся ў Агдаме. На думку некаторых экспэртаў, менавіта партвэйнам гэтай маркі быў прапіты Савецкі Саюз. Памятаю, як у студэнцтве прачнуліся аднойчы пасьля дня народзінаў, які адзначалі ў інтэрнаце, а ляк на казённым стале разьедзены ўшчэнт. Памяць таксама сьціралася.

Але Азэрбайджан запомніўся. Я сустракаўся з вэтэранамі апазыцыйнага руху, які быў амаль цалкам раздушаны Аліевым-малодшым, і мяне ўразіла поўная адсутнасьць надзеі на дэмакратычныя перамены, і нельга было зразумець, гэта апатыя або цьвярозае разуменьне сытуацыі. Праз гады відаць, што гэта было і тое, і тое.

У Ерэване мяне завялі ў кавярню, якая заняла першае месца ці то ў Эўропе, ці на Каўказе — у кожнай краіне вам абавязкова пакажуць нешта найлепшае ў сьвеце. Я трохі ведаў Армэнію, працаваў там пасьля землятрусу 1988 году, потым лётаў туды на здымкі фільму паводле свайго сцэнара. Фільм называўся «Цавэт танэм», вазьму твой боль, там у цэнтры лёс маладой жанчыны, якую я дапамагаў даставаць з-пад завалаў, ёй потым ампутавалі руку і абедзьве нагі, я езьдзіў да яе ў шпіталь у Маскву, але гэта іншая гісторыя…

У Ерэване атмасфэра адрозьнівалася ад Баку — жывая і гарачая, мясцовая журналістыка захлыналася ад эпітэтаў. Як тлумачыў мне адзін спэцыяліст, сапраўдная кава павінна быць чатыры разы вельмі: вельмі чорная, вельмі гарачая, вельмі моцная і вельмі мала.

Я вярнуўся ў Прагу і вырашыў ужыць гэтыя крытэры для адной невылечнай хваробы традыцыйных арганізацыяў — частых бясконцых бязьлітасных нарадаў.

Я адказваў за галоўную нараду, абмеркаваньне парадку дня з дырэктарамі ўсіх моўных службаў і кіраўнікамі дэпартамэнтаў радыё. Чалавек трыццаць сядалі за адзін стол, яшчэ столькі ж каля сьценак, начальства гуртавалася на топе авальнага стала, рэшта цясьнілася вакол, і я як галоўны рэдактар усім па чарзе даваў слова. Праз гадзіну ўсе дружна ішлі на абед.

Першым чынам я папрасіў пакінуць залю кіраўнікоў дэпартамэнтаў — кадраў, тэхналёгіі, фінансаў, бясьпекі, розных дапаможных службаў. Прапанаваў праводзіць асобную карпарацыйную нараду, дзе ўсе яны могуць агучваць свае пытаньні. Затым узгадаў сваю працу ў дакумэнтальным кіно з Аркадзем Рудэрманам, геніяльным дакумэнталістам часу перабудовы. Аркадзь неяк ухваліў маю пастаноўку адной дыскусіі на тэлебачаньні, калі ўдзельнікі сядзелі ня побач, а насупраць адно аднаго, на адлегласьці, і так утваралася дуга напружанасьці.

Я перасадзіў прэзыдэнта на супрацьлеглы ад сябе канец стала, увёў ліміт часу — адна хвіліна, а напачатку, пакуль усе рассаджваюцца, загадаў урубіць музыку. Ня памятаю, што, можа нават *Jailhouse Rock* Элвіса Прэсьлі. Потым кожны раз гралі іншую, выбіраў дырэктар, які расказаў самую цікавую навіну напярэдадні. На трыццатай хвіліне ўсе ўставалі і дружна ішлі на абед.

Пасьля мяне памянялася некалькі галоўных рэдактараў і прэзыдэнтаў, але на агульных нарадах яшчэ доўга ўсе сядзелі, так, як некалі рассадзіў іх я. Асобна працягвае зьбірацца рэгулярная карпаратыўная нарада.

Яшчэ адна рэч, якую я як галоўны рэдактар падштурхнуў, — стварэньне рэдкалегіі. На радыё не існавала гэтага інстытуту для выпрацоўваньня прафэсійных журналісцкіх рашэньняў. Перад вяртаньнем у Беларускую

службу я пакінуў гэтую прапанову прэзыдэнту і свайму наступніку, новаму галоўнаму рэдактару.

Мне падзякавалі за працу, папляскалі ў ладкі, і, калі рэдкалегія была створаная, мяне туды не ўключылі. Дырэктары службаў увогуле ў рэдкалегію не ўвайшлі.

Адзін з дакумэнтаў у маёй кампутарнай тэчцы галоўнага рэдактара — прапанова ўвесьці на радыё пасаду «дырэктар будучыні». Я перачытаў цяпер — усё даволі складна, толькі не прапісаў бюджэт. Пасаду не ўвялі, але што ж, кожны варты дырэктар службы — дырэктар будучыні.

Пасьля перадачы паўнамоцтваў я выйшаў на Вацлаўскую плошчу, спусьціўся і праз дзесяць хвілін замаўляў эспрэса. Кава была вельмі чорная, вельмі гарачая, вельмі моцная і вельмі мала. Барыста падсунула да мяне цукар. Сапраўднае эспрэса трэба піць з цукрам.

Але я п’ю без.

## Чужыя нарады

Я цяпер думаю, чаму яны мяне так дастаюць. Чаму пасьля большасьці я пачуваюся стомленым, без энэргіі, амаль адразу забываю аргумэнты, якія гучалі, застаецца раздражненьне ад страчанага часу, ад шматмоўя калег. Я быў падумаў, мо гэта ад узросту, досьведу — за тры дзесяцігодзьдзі на радыё я ўдзельнічаў больш як у дзесяці тысячах нарадаў, сам правёў тысячаў пяць.

Але, як заўсёды, справа ня ў колькасьці. Колькасьць ніколі не праблема і не вырашэньне.

— Ты нас усіх пакрыўдзіў, — сказаў мне аднойчы ўдвая старэйшы калега пасьля адной нарады. Размова адбывалася задоўга да радыё, мне было трохі за дваццаць, я толькі пачаў працаваць. Нарады — рабочыя, прафсаюзныя,

камсамольскія, палітычныя, сьвяточныя — мяне ўжо тады фізычна размазвалі, я ніякавеў.

Ёсьць людзі, якія не пераносяць публічнасьці, нямеюць перад мікрафонам — але я ахвотна выступаў са сцэны, граў на гітары, сьпяваў, вёў канцэрты і атрымліваў ад гэтага асалоду. Але нарады быццам пракалвалі дзірку, і зь мяне выходзіла ўсё паветра. А без кісларoду мазгі працуюць іначай, і язык кажа тое, пра што лепш бы памаўчаў.

На адной палітынфармацыі з нагоды чарговай пастановы КПСС пра сельскую гаспадарку, якую прыслалі да нас чытаць лектара з ЦК, я, каб не заснуць, задаў пытаньне. Адзінае слова ў гадзіннай лекцыі, якое прыцягнула маю ўвагу, было досыць бяскрыўднае — *своечасовы*. Лектар увесь час называў пастанову своечасовай.

Я папрасіў патлумачыць, што гэта значыць. Калі б пастанову прынялі раней, яна была б памылковая? А калі пазьней — запозьненая? Паўза, якая раптам наступіла, аказалася напоўненай сэнсам, які мне потым даволі доўга рознымі спосабамі тлумачылі. Так я ўведаў, што бяскрыўдных словаў не бывае.

Я не пішу тут, што нарады бываюць вельмі цікавыя, вельмі патрэбныя, вельмі карысныя, вельмі неабходныя, каб не пакрыўдзіць чытачоў, бо такія агаворкі робяцца для юрыстаў і ідыётаў. Але нарады, як кава, павінны быць чатыры разы вельмі: вельмі падрыхтаваныя, вельмі своечасовыя, вельмі кароткія і вельмі мала.

Але да гэтай высновы я прыйшоў нашмат пазьней. А тады, на пачатку працоўнай біяграфіі, усіх адразу я пакрыўдзіў на нарадзе, прысьвечанай мне самому. Разьбіралі нейкую маю памылку, і калі мне далі слова для тлумачэньня, я сказаў, што я тут паміраю. Я думаў, што кажу пра сябе, а аказалася — пра ўсіх, і ўсе пакрыўдзіліся.

Усе хацелі жыць.

Калі ў чэрвені 2022 году калегі абралі мяне першым кіраўніком Клюбу дырэктараў, першае, што я зрабіў, —

правёў нараду, як скараціць нарады. Нават не правёў, а адразу, на першай сустрэчы з начальствам, паспрабаваў дамовіцца скараціць пасяджэньні. Кожная арганізацыя — сад, які трэба ўвесь час культываваць, зноў і зноў праполваць, абразаць, прарэджваць, інакш зарасьце пустазельлем.

У адным апавяданьні Хэмінгуэя герой так апісвае свае заляцаньні да выпадковай знаёмай: «Аказалася, яна ня супраць. Яшчэ як ня супраць!» Хэмінгуэй разумеў і журналістаў. Яшчэ як разумеў. Начальства падзякавала за ініцыятыву і на летнія месяцы ўдвая скараціла карпаратыўныя і агульнарэдактарскія нарады. У верасьні рэдактарскія зноў сталі тыднёвымі, але карпаратыўныя ўсё ж абмежавалі дзьвюма на месяц.

Адбыўся эфэкт ірадыяцыі — неўзабаве рэфармавалі штодзённыя дырэктарскія нарады, замест бездапаможнага паўгадзіннага па чарзе агучваньня плянаў на дзень сталі абмяркоўваць толькі найважнейшыя навіны, якія датычылі ўсіх, утрая хутчэй і карацей.

Нарады — час вашага жыцьця, які не належыць вам.

Таму на яго заўсёды будуць замахі.

## Маё начальства. Том Кент

Нягледзячы на рэпутацыю шэрага гораду Менск няблага запамінаецца ўсім, хто яго адведаў. Як запомніўся прэзыдэнту радыё, які яго наведаў у 2016 годзе.

У мяне гэта быў восьмы прэзыдэнт, а для яго другі візыт у Менск.

Першы раз ён прыехаў як карэспандэнт *Associated Press* перад Маскоўскай алімпіядай. Пасяліўся ў самым інтурыстаўскім гатэлі «Плянэта» і пайшоў у так званы

валютны бар — там прадавалі і налівалі ўсё, што выпіць тады можна было толькі за даляры.

Падышла дзяўчына, папрасіла закурыць. Малады карэспандэнт ня мог паверыць сваёй удачы: гаварыла пангельску, працавала ў сакрэтнай лябараторыі, чытала забароненую літаратуру, слухала замежнае радыё, была дысыдэнткай, хацела іміграваць у Ізраіль. І нават прапанавала падняцца ў нумар, каб бліжэй пазнаёміцца.

Карэспандэнт хоць і быў тады малады, але сваёй удачы не паверыў, дапіў віскі і пайшоў у нумар адзін. Наступныя дні запомніліся тым, што за ім паўсюль хадзілі два тыпы, якія толькі ўсьміхаліся і нічога не казалі. Кент быў знаёмы з маскоўскімі дысыдэнтамі, перадаваў заявы Андрэя Сахарава, і менская савецкая гасьціннасьць не засьпела яго зьнянацку.

Праз трыццаць год ён прыехаў у сталіцу незалежнай краіны, дзе віскі *Johnnie Walker* прадаваўся нават у газэтных шапіках, і захацеў сустрэцца зь першым карэспандэнтам Свабоды і дырэктарам агенцтва навінаў БелаПАН Алесем Ліпаем. Апошнія гады перад Прагай Кент быў адным з кіраўнікоў *Associated Press*, галоўным рэдактарам стандартаў, і яго вельмі цікавілі незалежныя агенцтвы навінаў.

Я пазваніў у рэстаран паблізу ад бюро Свабоды і офісу БелаПАН і замовіў столік на тры асобы.

Рэстаран, нягледзячы на абедзенны час, быў пусты. Нас пасадзілі, я сеў побач з прэзыдэнтам, Алесь насупраць. Зрабілі замову, і прэзыдэнт пачаў распытваць пра БелаПАН. Але Алесь адказваў неяк дзіўна, ігнараваў пытаньні, а потым паклікаў афіцыянтку і папрасіў, каб нас перасадзілі за іншы столік, цераз праход. І паказаў вачыма за сьпіну мне — я азірнуўся. Усутыч за намі, сьпіна да сьпіны, сядзеў малады чалавек спартовага выгляду. Калі ён зьявіўся, я не заўважыў.

Афіцыянтка сказала, што спытае мэтрдатэля. Вярнулася — аказалася, той столік зарэзэрваваны. Алесь паказаў на столік ля бару. Той таксама быў замоўлены. Ён пайшоў да мэтрдатэля і папрасіў перасадзіць нас у суседнюю пустую залю. Гэта аказалася немагчымым, бо там будзе банкет і трэба рыхтавацца. Ён мэтадычна паказваў на адзін пусты столік за другім, але ў гэты дзень нам фатальна не шанцавала: усе былі занятыя.

У выніку мы расплаціліся і пайшлі гуляць у парк Чалюскінцаў, дзе вольных лавак досыць, і яны былі на такой адлегласьці, што без скіраваных мікрафонаў нічога не пачуць.

Наступныя дні ў прэзыдэнта не працаваў wi-fi у нумары, затое працаваў дротавы тэлефон, потым машына, якую я арандаваў для ягоных паездак, раптоўна запатрабавала тэхагляду, і ўзамен прыслалі іншую зь іншым уважлівым кіроўцам.

Кент працаваў у Маскве, Брусэлі, Тэгеране падчас рэвалюцыі, але менскі сэрвіс так уразіў прэзыдэнта, што ўсе нашы заяўкі на новыя кампутары, камэры і тэлефоны для бюро былі выкананыя на працягу аднаго месяца.

Менск добра запамінаецца, калі хоць аднойчы тут пабываць. А калі двойчы — не забудзеш ніколі.

## Пятніца, 15 ліпеня, 2022. 00:01–22:25

Словы пра журналістыку як чарнавік гісторыі ўпершыню прагучалі ў Амэрыцы ў 1940-я. Яны ня страцілі свайго сэнсу, але набылі новы, прынамсі на Свабодзе. Гісторыя пятніцы, калі я пачаў свае нататкі, на вэб-старонцы Свабоды выглядае як зьмест гатовай кнігі, дзе за кожным загалоўкам хаваюцца драмы, часам вартыя раману. Пачнем з канца:

22:25

Сёньня апоўдні ў Віцебску затрымалі ксяндза, пробашча каталіцкай парафіі Сьвятога Духа, імаверна, за рэпост апошняга слова ў судзе Зьмітра Дашкевіча.

21:54

Прэзыдэнт Азэрбайджану Ільхам Аліеў абвінаваціў Расею ў парушэньні гарантыяў мірных дамоўленасьцяў у Нагорным Карабаху.

21:16

У паветранай прасторы Беларусі нясе дзяжурства расейскі самалёт А-50У, паведамілі на вечаровым брыфінгу ў Генштабе Ўзброеных сілаў Украіны.

20:54

Наплыў грамадзянаў Беларусі і Расеі ва Ўзбэкістан выклікаў рост цэнаў на арэнду жытла.

20:04

Галоўны санітарны лекар: У Беларусі рост захворваньня на ковід чакаецца на пачатку верасьня.

19:33

Супраць расейскага рокера Юрыя Шаўчука аднавілі адміністратыўную справу за «ж...пу прэзыдэнта».

18:58

Эўракамісія падае ў суд на Вугоршчыну і Польшчу за парушэньне правоў ЛГБТ.

18:41

Сыстэмы залпавага агню HIMARS ужо зьнішчылі больш за 30 лягістычных аб’ектаў расейскіх войскаў.

17:56

«Жорсткая вайна Расеі супраць Украіны не спыняецца. Таму мы сёньня прапаноўваем узмацніць жорсткія санкцыі ЭЗ супраць Крамля. Масква павінна працягваць плаціць высокую цану за сваю агрэсію», — заявіла прэзыдэнтка Эўракамісіі Урзуля фон дэр Ляен.

17:29

У Бабруйску загінуў вайсковец-кантрактнік.

16:57

У Данецку ў расейскім палоне памёр брытанскі валянтэр. Сваякі падазраюць, што яго катавалі.

16:34

Дылер МАЗ ва Ўкраіне праз суд скасаваў арышт сваіх рахункаў.

16:23

У сюжэтах на дзяржаўным тэлебачаньні пачалі прыхоўваць твары судзьдзяў у палітычных працэсах.

16:09

Вайсковага аналітыка Ягора Лебядка, які выказваўся пра вайну ва Ўкраіне, арыштавалі на 15 сутак.

15:48

«Рэвалюцыйная нецярплівасьць». Што стаіць за атакай на Ціханоўскую з боку часткі дэмакратычных сіл.

15:44

Парлямэнт Шры-Лянкі прыняў адстаўку прэзыдэнта краіны.

15:38

15 ліпеня ў Заводзкім раённым судзе Менску разглядалі пазоў «Менсктрансу» да журналіста Свабоды Алега Грузьдзіловіча за падзеі 16 жніўня 2020 году на плошчы Незалежнасьці, дзе быў спынены рух транспарту.

15:15

Старшыню Свабоднага прафсаюзу беларускага асудзілі на 15 сутак за аватарку ў *Facebook*.

14:46

МУС Расеі абвясьціла ў вышук былога дырэктара тэлеканалу НТВ Яўгена Кісялёва.

14:26

Мінабароны Ўкраіны адрэагавала на публікацыі аб магчымых ударах па аб’ектах на тэрыторыі Беларусі.

14:15

У Польшчы затрымалі групу арганізатараў нелегальнай міграцыі празь Беларусь.

14:14

Міністэрства абароны Расеі прызнала свой ракетны ўдар па Віньніцы, у выніку якога загінулі 23 чалавекі, зь іх 3 дзіцяці.

14:01

Дальнабойніка са Стоўпцаў абвінавацілі ў акце тэрарызму. За раскладзены на чыгуначных рэйках агонь пагражае 15 гадоў турмы.

13:17

Мінабароны Беларусі перакідвае сілы ў яшчэ адзін раён ля мяжы з Украінай.

13:09

Прэзыдэнт Францыі Макрон заклікаў французаў падрыхтавацца да жыцьця без расейскага газу.

12:49

Жыхара Стоўпцаў вінавацяць у «акце тэрарызму» і «наўмысным псаваньні чыгуначных шляхоў з мэтаю ўчыненьня акту тэрарызму».

12:31

«У параўнаньні з 2020-м гэта проста пекла». Фатограф адбыў арышт за тое, што праходзіў каля месца сьвята для ўкраінскіх дзяцей. На сьвята прыйшла міліцыя.

12:13

Хроніка перасьледу 15 ліпеня: былога работніка БМЗ судзяць за пратэсты жніўня 2020 году.

12:09

Злачынствы супраць чалавечнасьці. У АБСЭ апублікавалі другую справаздачу аб ваеннай агрэсіі Расеі ва Ўкраіне.

12:05

Саўка ды Грышка пра выезд за мяжу. Героі Лявона Вольскага абмяркоўваюць законапраект пра абмежаваньні на выезд за мяжу.

11:12

На месцы бару «Каліноўскі» ў Менску адкрыўся новы — з расейскамоўнай шыльдай «Сумерки».

11:02

Скандал з пажарнымі машынамі зь Беларусі разрастаецца: парлямэнт Зымбабвэ хоча прызнаць угоду несапраўднай.

11:02

У Латвіі ўзмацнілі жорсткасьць правіл увозу фізычнымі асобамі тавараў зь Беларусі і Расеі.

11:01

Украіна заклікала прызнаць Расею дзяржавай-тэрарысткай: вядома пра 17 тысяч расейскіх удараў па цывільных аб’ектах, 300 — па вайсковых.

10:40

«Сьветлае, шчырае і радаснае дзіця». Першая лэдзі Ўкраіны Алена Зяленская падзялілася ўспамінамі пра дзяўчынку Лізу, якая 14 ліпеня загінула пры абстрэле Віньніцы.

10:19

У Драгічыне і Янаве адбыліся масавыя затрыманьні актывістаў.

10:00

Ад чаго залежыць стаўленьне ўкраінцаў да беларусаў? Адказвае кіраўнік Кіеўскага міжнароднага інстытуту сацыялёгіі Ўладзімір Паніёта.

09:56

Свабодны прафсаюз мэталістаў зьліквідавалі, хоць яго лідэр Бухвостаў трапіў у лякарню перад судом.

09:30

Як войскі ВКЛ і Польшчы здабылі перамогу пад Грунвальдам. Тэст.

09:19

Расея абстраляла Мікалаеў, выпусьціла 10 ракет, трапіла ў дзьве ВНУ. Відэа.

09:09

Беларусь падала заяўку на ўступленьне ў Шанхайскую арганізацыю супрацоўніцтва, заявіў генэральны сакратар арганізацыі Чжан Мін.

09:01

«Лукашызм крынжовы». Вялікая размова з выканаўчым дырэктарам Фонду спартовай салідарнасьці Аляксандрам Апейкіным.

08:44

Канада ўвяла новыя санкцыі супраць Расеі.

08:21

«Турма — найлепшае, што вас чакае», — Зяленскі расейцам, якія выпусьцілі ракеты па Віньніцы.

07:58

Навіны палітвязьняў: Настаўніца музыкі з «тэрарыстычнага сьпісу» выйшла на волю.

Праваабарончы цэнтар «Вясна» прызнаў палітзьняволенымі ў Беларусі 1259 чалавек.

07:24

*Moody's* заявіла пра дэфолт Беларусі ў замежным доўгу.

00:01

Ужо сёньня: Дзень Грунвальдзкай бітвы, дзень нарадзінаў Алаізы Цёткі і Ўладзімера Дубоўкі.

Першым, а першай хвіліне новага дня, на сайце заўсёды публікуецца гістарычны каляндар «Ужо сёньня» — нагадка пра падзеі і людзей, якія мянялі час і ўплывалі на беларускую будучыню. Напрыклад, назва зборніка вершаў Цёткі «Хрэст на свабоду» вызначыла назву нашай гадавой праграмы і першай кнігі — «Верш на свабоду». Паэт Дубоўка быў тройчы арыштаваны ўладай, якую апяваў, і на няшчасьце ўгадаў чырвона-зялёны колер будучай Беларусі і чарнобыль, які яе пакрые. А безь перамогі пад Грунвальдам наўрад ці існаваў бы інтэрнэт-сайт Беларускай службы Радыё Свабода.

Прафэсійная журналістыка і гісторыя адказваюць на аднолькавыя пытаньні: што, дзе, калі, як, чаму было. Таму натуральна, што гістарычная паліца «Бібліятэкі Свабоды», якая вырасла з радыёпраграмаў, самая доўгая і зьмяшчае амаль палову ўсіх выданьняў. Па-новаму разумеюцца Скарына і Каліноўскі, інакш адкрываюцца тайны Менску і загадка Освальда, па іншых маршрутах адбываюцца падарожжы ў БНР і паваенныя вёскі, знаходзяцца невядомыя адрасы і героі, удзельнікі самі расказваюць пра моладзевы супраціў 1970-х і Адраджэньне 1990-х*.

Хоць гэтая Атлянтыда знойдзеная журналістамі, гэта не чарнавік, а чыставік. Арыгінал.

## Уладзя, Віталь, Юрась, Валодзя, Анатоль, Вольга

Пяцёра маладзейшых за мяне калег і адзін трохі старэйшы заўчасна завяршылі свой зямны шлях.

### Уладзімір Каткоўскі (1980–2006), чалавек.org

У рэдакцыі называлі яго Валодзечкам. Уладзя Каткоўскі (1980–2006) быў самы тады малады супрацоўнік Свабоды. Выпускнік ліцэю БДУ, ён скончыў Амэрыканскі ўнівэрсытэт у Благоеўградзе, ажаніўся са студэнткай-альбанкай Янадай, якая вывучыла беларускую мову так, як яе ня ведае палова Беларусі.

---

* «Беларуская Атлянтыда» (дзьве кнігі, 2006, 2010), «Дарога» (2008), «Мой шыбалет» (2008), «Сто адрасоў свабоды» (2011), «Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча» (2011), «Гамбурскі рахунак Бахарэвіча» (2012), «Майстроўня» (2012), «Каляндар Бахарэвіча» (2014), «Падарожжа ў БНР» (2018), «Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі» (2020), «Каліноўскі на Свабодзе» (2020), «Невядомы Менск» (дзьве кнігі, 2021), «Чаму Беларусь не Расея» (2022) і інш.

*Каткоўскі — рупны web-мастак,*
*умее зрушана, нязмушана*
*сайт па-крывіцку ўбачыць так,*
*што сайт*
*рашуча зьбеларушвае*
*ўсіх праз дапытны інтэрнэт,*
*каму баліць крывіцкі сьвет.*

Цяпер гэтыя радкі эпіграмы Рыгора Барадуліна выбітыя на гранітным помніку на маленькіх могілках на Паўднёвым Захадзе Менску. У чэрвені 2006 году Ўладзя і Янада ішлі праскай вуліцай, калі пажарная машына перакулілася і вылецела на тратуар. Янада страціла нагу, Уладзя прытомнасьць. Год мы хадзілі ў адведкі ў бальніцу, дзе ён ляжаў у коме, размаўлялі, прыносілі запісы нашых этэраў, але ніколі больш не пачулі ягонага голасу.

— Хай сіла будзе з табой, — наш калега Сяргей Ш. прамовіў гэты пароль з «Зорных войнаў», культавага фільму ня толькі ўсіх вэб-майстроў сьвету, на разьвітальнай паніхідзе.

Бацькі Ўладзі, якія правялі каля ягонага ложка год, казалі, што ён прадчуваў хуткую сьмерць, пісаў пра яе ў сваім Жывым журнале, бачыў у снах. Вэб-майстры былі людзьмі новай фармацыі, у іх свае стасункі з будучыняй ці той субстанцыяй, адкуль бяруцца яе варыянты.

Свой успамін пра Ўладзю я назваў «Уладзімір Каткоўскі, чалавек.org», ён апублікаваны ў маёй кніжцы «Зкімбызымбы», і сканчаецца так:

«Помнік Уладзю — першы ў Беларусі, а, можа, і ў сьвеце, на якім выбіта ня толькі імя, але і нік інтэрнэт-чалавека, *rydel23*, бронзавая фігура схілілася над кампутарам, у правай руцэ мыш, левая цягнецца да манітора, нешта паказвае ці разьвітваецца, і вэб-майстар вось-вось адляціць туды, дзе анёлы ткуць сваю сусьветную павуціну: www.www.www».

Сіла засталася з намі і праявілася як ніколі ў 2020-м.

**Віталь Тарас (1956–2011), чалавек-удых**

Віталь быў першым журналістам зь Беларусі, якога я як дырэктар запрасіў на працу ў Прагу. Потым мы рэгулярна запрашалі журналістаў на год-два папрацаваць у Празе, падтрымлівалі ратацыю, але Віталь быў першы. Калі ў дзень сьмерці мы сабралі ягоныя перадачы, аказалася, што там схаваныя некалькі кніг — пра эўрапейскую ідэнтычнасьць, таталітарызм, культуру і свабоду.

Перадусім яго цікавіў маральны погляд на рэчы, якія звычайна адрынаюць маральны інструмэнтар: палітыка, глябалізацыя, ядзерная энэргетыка. Ён шукаў чалавечае вымярэньне гісторыі, ведаючы, што маральнасьць не патрабуе рацыянальнага тлумачэньня, — гэта рацыянальныя рэчы павінны праходзіць іспыт маральнасьцю.

Віталь працаваў у этэры 22 чэрвеня 2003 году — менавіта зь яго вуснаў Беларусь уведала пра сьмерць Васіля Быкава. Ён лічыў гэта самай памятнай перадачай у сваім жыцьці.

Ягоная сьціплая ўсьмешка, стрыманая інтанацыя, заўсёдная прыстойнасьць і нябачная ўпартая сіла супраціву хаосу жыцьця стваралі вакол яго сьветлую аўру. Я ніколі ня чуў ад яго скаргаў і нараканьняў на лёс. Ужо невылечна хворы, ён выступаў у перапоўненай залі менскай філярмоніі на прэзэнтацыі кнігі «Бібліятэкі Свабоды», якую рэдагаваў, яму доўга і цёпла пляскалі*.

Апошні ліст ад яго я атрымаў у дзень, калі б споўнілася 80 гадоў ягонаму бацьку, Валянціну Тарасу, бліскучаму пісьменьніку і адважнаму чалавеку, і я надрукаваў свае ўражаньні ад нашага знаёмства. Віталь дзякаваў за добрыя словы: «Усё праўда». Яны датычылі і яго самога: таленавіты, мудры, шчыры, стрыманы, сьмелы, цьвёрды, іранічны, бліскучы, малады…

Усё праўда.

---

* «Як? Азбука паводзінаў» (2009).

**Юрась Бушлякоў (1973–2013), чалавек-мова**

Ягоны помнік на могілках у Менску зроблены ў выглядзе вокладкі кнігі «Бібліятэкі Свабоды», тэкст якой ён даводзіў да ладу апошнія месяцы свайго жыцьця, паміж апэрацыямі, хімія- і радытэрапіяй. Кніга «Жывая мова», паводле любімай слухачамі перадачы, выйшла празь месяц пасьля сьмерці, і маці Юрася папрасіла скульптара паўтарыць яе ў помнік*.

Самы мяккі, далікатны, ветлівы журналіст з усіх, зь якімі я працаваў, ён тым ня менш рэгулярна даводзіў да сардэчнага прыпадку сваіх прадусараў, тэхнікаў і калег у радыёстудыі, куды нясьпешна зьяўляўся за паўсэкунды да этэру, спакойны, ураўнаважаны, флегматычны.

Эпіграматыст Свабоды Рыгор Барадулін раўніва ставіўся да гараджанаў-граматыкаў новай генэрацыі:

*Капрызная беларуская мова!*
*І як яе выправіць ні стараецца,*
*ня хоча слухацца Бушлякова —*
*упіраецца.*

Але яго алмазная цьвёрдасьць у моўных спрэчках магла раптам ператварыцца ў спагадлівы пошук выйсьця зь нявыкруткі. Наша апошняя размова, калі ён яшчэ змог прыйсьці на працу, адбылася за пару месяцаў да сьмерці. У мяне выходзіла кніжка, якую я назваў трохі па-афрыканску «Зкімбы-Зымбы», маючы на ўвазе, з кім бы хацеў апынуцца на бязьлюднай высьпе. Я спытаў у Юрася, ці правільна напісаны мой наватвор. Юрась задумаўся і сказаў, што трэба праз апостраф: «з’імбы». Я прызнаўся, што кніга ў друкарні.

— Спыніце, — сказаў Юрась, як пра нешта само сабой зразумелае.

---

* «Жывая мова» (2013).

Позна, сказаў я. Як дабрацца да тых друкароў недзе ў Маладэчне, што рабілі наклад бібліятэкі «Дзеяслова»? Юрась задумаўся і спытаў, ці загаловак на вокладцы набраны друкаванымі літарамі. Я пацьвердзіў.

— Тады нічога. Можна падумаць, што гэта тарашкевіца, празь мяккі знак: *з, ь, і*…

Упарты, як мова, і такі ж гнуткі.

**Уладзімір Сакульскі (1954–2013), чалавек-гук**

Яны з Барадуліным разьмінуліся, а то кніжка пэўна выйшла б з рыфмай да апошняга слова Валодзі.

Ён быў гукарэжысэрам, да Свабоды шмат гадоў працаваў у таленавітым калектыве «Беларускай маладзёжнай» на чале зь легендай беларускага радыё Жаннай Л. (яна потым стала першай загадчыцай бюро Свабоды ў Менску). «Лішне казаць», як Валодзя любіў паўтараць, яго-ны ўласны голас ніколі не гучаў у этэры. Але яго ведалі, паважалі і любілі і слухачы, і калегі — гляньце разьвітальны рэпартаж зь яго пахаваньня ў 2013 годзе на сайце Свабоды. Лішне казаць, што без Валодзі не было б радыёспэктакляў, перадачаў, дыскаў, той зьлёгку іранічнай атмасфэры ўпэўненага прафэсіяналізму, на якой грунтуецца радыё.

Мы працавалі разам восем гадоў — і амаль столькі ж разоў адзначалі разам Новы год і Каляды, на якія падчас прыездаў у сваю службовую кватэру ў Празе ён запрашаў усіх калег і частаваў такімі прысмакамі ўласнага прыгатаваньня і камэнтарамі да іх, што ня трэба было ні віна, ні музыкі, — хоць, лішне казаць, было і тое і тое.

Яму стала млосна ў краме ў Менску, ён выйшаў, прысеў, глянуў вакол і іранічна, як заўсёды, пракамэнтаваў свой сыход: капец. Ён ужыў мацнейшае слова.

Лішне казаць, у рыфму.

**Анатоль Бублікаў (1961–2016), чалавек-слых**

*Клопат тлумны ў гукарэжысэра —*
*заўтра пабяжыць гукаць учора.*
*Як настаўніка малеча ў школе,*
*гукі слухаюцца Анатоля.*

Гэта Барадулін.

Дабрак, як назваў Анатоля Данчык, таленавіты, прыязны, цудоўны голас, ас гітары, увага да кожнай паўзы і амплітуды, працоўная этыка, спагадлівы, надзейны, апора ў жыцьці — гэта калегі. У разьвітальным артыкуле на сайце Свабоды Анатоль на фатаздымках з кіраўніком «Песьняроў» Уладзімірам Мулявіным (перад Свабодай ён працаваў у легендарным ансамблі), з Васілём Быкавым і Івонкай Сурвілай, якіх ён запісваў у студыі, там зьмешчаныя кранальныя словы калег.

Там не напісана, што Анатоля слухаліся ня толькі гукі. Дыяпазон ягоных талентаў уключаў мастацтва шансону, майстэрства кухара і дэфіцытную прафэсію «кузаўшчык» (выправіць увагнуты бампэр для яго было нібы вычысьціць запіс ад агаворак і мэканьня-бэканьня).

На працоўным стале Анатоля ў Празе пасьля сыходу яшчэ доўга стаяла фота ўнучкі, якую ён надта любіў, — ніхто не хацеў яго прыбіраць.

Учора гукае заўтра.

**Вольга Караткевіч (1972–2016), чалавек-палёт**

Рыгор Барадулін у сваёй эпіграме трапна пацэліў шасьцю радкамі зь сямі:

*У Вольгі энэргіі й клёку*
*Хапае, каб быць прэзыдэнтшаю,*
*каб браць гарады не з наскоку,*
*пярэчыць праменіста змроку,*

*а змрок, як знарок, ані меншае.*
*абмытай пяшчотнай залеваю,*
*у сэксе ёй быць каралеваю!*

Вольга ўжо не працавала на Свабодзе сем гадоў, калі зь Менску прыйшла вестка пра завяршэньне яе пакутаў ад анкалёгіі. Але адчуваньне ў рэдакцыі было, што мы ніколі не разьвіталіся і ніяк не абмежаваныя рамкамі знаёмства «1996–2009». Разьвітальны артыкул пра Вольгу на сайце Свабоды — самая вялікая паводле памеру публікацыя, прысьвечаная памяці калег, якія заўчасна адышлі. Для ўсіх яна стала яркай фарбай уласнага жыцьця.

Хоць паэт і пісаў, што Вольга здольная «браць гарады не з наскоку», мой досьвед іншы — якраз з наскоку, ды яшчэ якога. Не ўстаяць. І ня толькі гарадам.

У разьвітальным артыкуле ёсьць і мой успамін:

«Уначы, гадзіне так а чацьвертай, мяне разбудзіў званок. Вольга не вітаючыся, быццам мы толькі перарваліся на хвіліну, кулямётам пераказала падрабязнасьці начной праграмы Свабоды, я на ўсякі выпадак пахваліў і падзякаваў, яна паклала трубку, і толькі тады да мяне дайшло — штурмам узяты намётавы лягер на Кастрычніцкай плошчы, скончыліся пяць дзён менскага цуду 2006 году, калі выспа свабоды ў цэнтры гораду была ня толькі галоўным месцам кругласутачнай працы журналістаў Свабоды і зьместам этэру, але і самім этэрам — абаронцы лягеру падносілі кароткахвалёвыя прымачы да ўзмацняльніка, і праграма Свабоды гучала жыўцом над плошчай, і гучаў голас Вольгі, яе гутаркі з абаронцамі, зь іх сябрамі, бацькамі, палітыкамі...*

Калі б яна была тады ў Менску, дык напэўна начавала б у намёце і потым апынулася б на Акрэсьціна. Амапаўцам пашанцавала. Яна не прызнавала межаў ні ў прафэсіі, ні ў жыцьці, ляцела, ці яе несла сваім шляхам, і гэты палёт

* Гл. кнігу «Плошча. 19.03–25.03.2006» (2006)

застанецца ў памяці яго безразважнай і безабароннай прыгажосьцю, талентам яркім, як зьнічка, і як зьнічка, занадта занадта занадта кароткім».

З маці і сястрой Вольгі я вёз кветкі да помніка, які стаіць на маленькіх могілках на ўскрайку поля пад Менскам. Дарога была ня блізкая, і маці дастала і паказала мне апошнія запісы на асобных аркушах — Вольга не магла гаварыць. «Прашу, не замыкайце дзьверы. Раптам хто прыйдзе…»

З кім бы — зь імі б. Нават бяз «бы»*.

## Маё начальства. Нэнад Пэіч

У ліпені 2019 году радыё разьвіталася са шматгадовым галоўным рэдактарам Нэнадам Пэічам, які сыходзіў на пэнсію.

Мы пачыналі працаваць разам у Мюнхэне, у 1993 годзе. Нэнад прыйшоў на радыё з вайны, з адной сумкай, страціўшы сваю працу кіраўніка тэлебачаньня ў Сараеве, сваю краіну, сваю сям’ю і сваю будучыню.

Ён стварыў і ўзначаліў Балканскую службу, потым стаў рэгіянальным дырэктарам, затым галоўным рэдактарам радыё, віцэ-прэзыдэнтам, выконваў абавязкі прэзыдэнта.

Нэнад спрафэсіяналізаваў радыё: пры ім зьявіліся праграмныя гадзіньнікі і была створаная ўласная вэбплятформа, рэфармаваны цэнтральны аддзел навінаў і зьявілася тэлебачаньне, інтэрнэт-статыстыка праглядаў і ўзаемадзеяньняў вырасла з тысячаў да соцень мільёнаў і перакрочыла мільярд. Пасьля доўгіх гадоў застою пачаў расьці бюджэт радыё і дасягнуў рэкордных вяршыняў, у будынак пайшла моладзь, пасыпаліся прафэсійныя

* Больш поўна пра некаторых калег я напісаў у кнізе «Зкімбы-зымбы» (Менск, Кнігазбор, 2013).

ўзнагароды — і заўсёды на першым пляне была журналістыка.

Гэтая акалічнасьць была цэнтральная. Мне было няпроста з Нэнадам, мы спрачаліся і канфліктавалі, мяне не задавальнялі ягоныя рашэньні, яго мае. Часам на радыё адбываліся звальненьні, якія мне падаваліся несправядлівымі, і абараняліся людзі, якія заслугоўвалі звальненьня. Але мы гаварылі на адной мове.

Я цаніў ягоны прафэсіяналізм і зьвяртаўся па парады і калі ён быў маім калегам, і калі стаў непасрэдным кіраўніком, і калі я стаў ягоным часовым начальнікам, і калі ён быў галоўным рэдактарам радыё, і калі ён сышоў.

Разьвітаньне адбывалася ў залі, дзе праходзяць рэдактарскія нарады. Сабралася начальства, дырэктары, выступалі па чарзе, зачытвалі лісты, дзякавалі, жартавалі — усё як належыць, трохі сумна, але ўрачыста, годна. Праз пару дзён Нэнад паслаў разьвітальны ліст усім, на агульны адрас «увесь штат». Адказаць можна было як асабіста яму, гэтак і выбраць публічную опцыю, каб ваш адказ пабачылі ўсе супрацоўнікі.

Я выбраў публічны адрас. Згадаў ня толькі дасягненьні, але і патрабавальнасьць, якую амаль немагчыма было задаволіць, унікальны спакой пад абстрэлам крытыкі і дажджом узнагародаў, асабістую ўвагу да журналістаў — Нэнад любіў зайсьці і пацікавіцца, над чым працуеш, што адбываецца.

— Такая кар’ера заслугоўвае ня мэйла, а кнігі ці тэлесэрыялу, — пісаў я. — Ты дапамагаў нам быць лепшымі журналістамі, мэнэджэрамі, людзьмі.

Пасьля вымушанай адстаўкі — Нэнад хацеў працягваць працаваць, але начальства ў Вашынгтоне вырашыла іначай, — на радыё адбылася, як бы гэта сказаць, лексычная перабудова. Людзі, якія раней пачыналі амаль кожны публічны выступ фразай «Як сказаў Нэнад…», страцілі памяць.

Службовая амнэзія — звычайная рэч, дый немагчыма жыць толькі мінулым. Праўда, мінулае ніколі не мінае, і яно нават не мінулае, як сьцьвярджаецца ў самай цытаванай фразе Ўільяма Фолкнэра. Але гэта, верагодна, датычыць толькі нобэлеўскіх ляўрэатаў і іхных чытачоў.

Мой допіс быў адзінай асабістай публічнай падзякай. Больш на адрасе, які бачаць усе супрацоўнікі радыё, нічога з гэтай нагоды не зьявілася.

Напэўна, іншыя калегі таксама пасылалі лісты, але самнасам, *tête-à-tête*, з рук у рукі. Напэўна.

Але ў тым ліпені, як і ў гэтым, у мяне не было незалежных крыніц.

## Раяль на галаву

Галоўны і адзіны ўрок фінансавага мэнэджмэнту я атрымаў пасьля першага году дырэктарства. Мы абмяркоўвалі вынікі з галоўным рэдактарам Джэфам Трымблам, які прызначыў мяне на пасаду, і я пахваліўся, што мы скончылі год з эканоміяй, тысяч трыццаць ці што даляраў. Замест пахвалы Трымбл паглядзеў на мяне зь непрыхаванай прыкрасьцю і холадна сказаў: «Кангрэс ЗША даў табе грошы не для эканоміі, а для інвэстыцыі ў праграму, у людзей, у місію. Калі ты іх не выкарыстоўваеш — ты дрэнны дырэктар».

Больш важнага і карыснага за мае наступныя чвэрць стагодзьдзя я нічога ні ад кога не пачуў. Лішне казаць, што з таго часу Беларуская служба ні разу ня скончыла год з прафіцытам бюджэту.

Але, як сказаў бы Джордж Оруэл, хоць усе грошы роўныя, але некаторыя больш роўныя за іншыя. У траўні 2021 году мне паведамілі навіну: Вашынгтон вылучыў суму Беларускай службе, грошы трэба патраціць на пэўныя

праграмы, падкасты, трэнінгі, вось вам апісаньне, што трэба зрабіць, чакаем справаздачу.

Я разгубіўся — гэта як бы вам прынесьлі ў падарунак раяль, паставілі на ложак у спальні і загадалі развучыць турэцкі марш.

Рэч нават ня ў тым, што ў вас труба цячэ ці вакно разьбіта, і лепш патраціць на пільныя патрэбы. Мы нездарма робім тое, што робім, і так, як робім. Рэдакцыя — джазавы аркестар, музыка нараджаецца са свабоды. І што наконт незалежнасьці ад Вашынгтону, знакамітай сьцяны, якая аддзяляе радыё ад амэрыканскай улады? Тэорыя сьцьвярджае, што з-за сьцяны перакідваюць бюджэт, а мы робім зь ім, што хочам.

Выявілася, што сьцяна стаіць, як і стаяла. Раяль на Беларускую службу скінулі не з таго, а з гэтага боку сьцяны. Выглядала, што начальства дамовілася на грант (што выдатна), даручыла хуценька напісаць заяўку сваім памочнікам, яе зацьвердзілі ў Вашынгтоне.

Ніхто не параіўся са мной, ня ведаў пра справу і мой непасрэдны кіраўнік. Раяль зваліўся на галаву.

Рэч ня ў тым, што я люблю сваю свабоду і адмаўляю ў ёй начальству. Проста ёсьць розьніца паміж імправізацыяй на тэму і нотнай дырэктывай. Мы не ваенна-палявы аркестар, каб граць маршы паводле раскладу, і не рэстаранны бэнд, каб выконваць замовы публікі. Прынамсі, я так лічыў і працаваў усе трыццаць гадоў. Трэба сказаць, што абавязковыя для выкананьня загады, што публікаваць, паказваць, з кім зрабіць інтэрвію — вялікая рэдкасьць на радыё, яны здараюцца гады ў рады, радыё — самастойная рэдакцыйная структура, і гэтая незалежнасьць распаўсюджваецца і на службы. Таму гэты падарунак ня выклікаў у мяне энтузіязму.

Як я разумею, я недаацаніў кантэкст. Начальства здабыло канкрэтную дапамогу, і ад мяне чакаліся ўдзячнасьць

і прызнаньне яго заслуг — а мне элемэнтарна не хапіла эмпатыі. Увесь дыяпазон аказаўся заняты Беларусьсю.

Адсутнасьць энтузіязму была расцэненая як няўдзячнасьць («Мы ж так стараліся!»), як непасьлядоўнасьць («А хто ўвесь час патрабаваў павелічэньня бюджэту?»), як упартасьць і нежаданьне працаваць канструктыўна. Мой непасрэдны начальнік, які дагэтуль захоўваў нэўтралітэт, лепш за мяне адчуў перамены ў раскладзе сілаў, і я застаўся сам-насам з вышэйшым кіраўніцтвам, якое рыхтавалася вырашаць праблемы па-свойму.

Мікрамэнэджмэнт, які пачаўся, стаўся макрапраблемай.

Забягаючы наперад, трэба прызнаць, што карысьць з усёй эпапэі ўсё ж была. Удалося адкінуць яўныя недарэчнасьці, праграма была скіраваная на новыя тэхналёгіі, уключала цікавае навучаньне. Хоць грошы прыйшлі толькі на пачатку наступнага году, мае калегі здолелі стварыць некалькі шэдэўраў нават з-пад раяля і атрымаць за гэта ўзнагароды. Адбыўся сапраўдны якасны прарыў на адным кірунку, які стаў узорам для ўсяго радыё. Ну, а суадносіны цаны і выніку — як суадносіны свабоды і неабходнасьці. Кожны ўсьведамляе па-свойму.

Таму я скончу назіраньнем, зь якім, спадзяюся, пагадзіўся б і аўтар «1984»: грошы без свабоды ня лепш, чым свабода бяз грошай.

## Швайцарская спакуса

Адно з найлепшых рашэньняў, якое мэнэджэр часам можа прыняць, — гэта адмовіцца ад дапамогі.

Калі я працаваў дырэктарам Афганскай службы, да мяне сталі настойліва зьвяртацца з прапановай дапамогі прадусары са Швайцарыі. На замову афганскага міністэр-

ства адукацыі яны зрабілі радыёпастаноўку пра жыцьцё ў кішлаку, дзе жыхары пачынаюць рэформы мясцовага самакіраваньня. Гэта папулярны адукацыйны фармат, падобны шматгадовы сэрыял Бі-Бі-Сі на пушту і дары меў найвышэйшыя рэйтынгі ў Афганістане. Швайцарцы зрабілі гатовы прадукт з афганскімі акторамі, музыкай, на дзьвюх мовах, дары і пушту — бярыце і карыстайцеся, бясплатна.

Бясплатна для нас. Маса заходніх кампаніяў удзельнічала ў фінансавай дапамозе, якую заходнія ўрады аказвалі ўраду Хаміда Карзая, гэта быў прыбытковы бізнэс — пастаўка лекаў, тэхнікі, распрацоўваньне рэформаў, кансультацыі, навучаньне. Тыя, хто даваў грошы, самі гэтыя грошы і засвойвалі. Ня ведаю, колькі каштаваў той радыёсэрыял, але бізнэс-плян патрабаваў разьмясьціць яго на радыё. Бі-Бі-Сі адпадала, і швайцарцы пісалі, званілі і нават прыляцелі ў Прагу на перамовы.

Я прачытаў пераклад, дыялёгі былі досыць жывыя, героі тыповыя: мудры мула, маладая настаўніца, шматдзетная маці, вэтэран-муджагед, доктарка з Эўропы… Але гумар іншай культуры цяжка ацаніць, асабліва ў акторскім выкананьні, і я папрасіў калег паслухаць. Галасы падзяліліся — некаму спадабалася, нехта быў стрыманы.

Швайцарцы чакалі адказу. Маё начальства ня мела ўласнай думкі на гэты конт, думкі маіх падначаленых разышліся. Патрабавалася правільнае пытаньне, бо такое пытаньне адразу ўтрымлівае адказ.

Я паставіў сябе на месца слухача ў Афганістане, які чуе і нас, і «Голас Амэрыкі», і Бі-Бі-Сі, — і вырашыў спытацца ў тых, хто сэрыял упадабаў. Што, на іхную думку, скажа слухач, які чуў пастаноўку Бі-Бі-Сі і гэтую новую, на чыю карысьць будзе параўнаньне? Адказ быў адзінадушны: герояў Бі-Бі-Сі ведаюць шмат гадоў, іх любяць, як сваіх. Канечне, людзі скажуць — так, добра, але ў Бі-Бі-Сі лепш.

Я адмовіўся ад гатовага бясплатнага неблагога прадукту, які напэўна мог дадаць адсоткі тры да нашага рэйтынгу.

У канцы году мы перагналі Бі-Бі-Сі на 13%.

## Маё начальства. Стывэн Корн

Добрыя справы аўтаматычна выклікаюць пакараньне.

Гэта не банальнасьць і не цынізм, а прырода самой зьявы. Добрыя справы паводле вызначэньня добрыя на тле нечага нядобрага. Яны супрацьстаяць, адмяняюць нешта недасканалае ці злое і замяняюць яго лепшым, добрым. А гэтая вайна, як вучыць адна кніжка, надоўга.

Калі Стыў Корн, мой пяты прэзыдэнт, быў вымушаны сысьці ў датэрміновую адстаўку, нагодай была няўдалая рэформа Расейскай службы. Гэтая служба — самая вялікая, традыцыйна цэнтральная для радыё, і колькі я сябе памятаю, яе ўвесь час спрабуюць рэфармаваць. Прыкладна як Расею, з такім жа посьпехам. Калі начальства было заікнулася, каб я часова яе ўзначаліў, і я сказаў маці, якая гасьціла ў Празе, яна ўспрыняла гэта проста як марнатраўства. Мала мне Афганістану? Трэба працаваць для сваёй краіны.

На першай агульнай сустрэчы з супрацоўнікамі радыё Корн цытаваў Боба Дылана: *The Times They Are A-Changin'* — часы мяняюцца. Дылан напісаў гэты легендарны фолк-гімн за месяц да забойства прэзыдэнта Кенэдзі і першы раз выканаў песьню на другі дзень пасьля ягонай сьмерці.

Але часы мяняюцца ня ўсюды. Начальства вырашыла паспрабаваць радыкальны падыход — максымальна абнавіць калектыў. Новую дырэктарку неўзабаве знайшлі ў Маскве, зорку расейскай журналістыкі, яркую незалежную асобу, якую я толькі аднойчы сустрэў у калідорах

радыё, так хутка, зьнічкай завяршылася яе кіраваньне. Цяпер яна жыве ў Амэрыцы, яе кнігі ўзначальваюць сьпісы бэстсэлераў *The New York Times* і вывучаюць ва ўнівэрсытэтах.

Пятага прэзыдэнта здымалі на маіх вачах, літаральна. Мы прыляцелі ў Вільню, каб пабачыцца з нашымі журналістамі зь Менску, бо беларускай візы прэзыдэнт ня меў. Ён таксама хацеў сустрэцца зь лідэрамі думак, і я запрасіў у Вільню Насту Дашкевіч, якая толькі што атрымала ўзнагароду за мужнасьць ад Дзярждэпартамэнту (Зьміцер быў за кратамі), напрасткі з пахаваньня цешчы дабіраўся Анатоль Лябедзька, пагадзіўся прыехаць Станіслаў Шушкевіч…

Яны ўсе чакалі за круглым сталом у асобнай залі рэстарану, а мы з прэзыдэнтам заставаліся ў калідоры. Яму званіў адзін з кіраўнікоў амэрыканскага замежнага вяшчаньня наконт крызісу ў Расейскай службе, журналісцкіх пратэстаў, палітычных пэтыцый супраць масавага звальненьня, пытаньняў ад кангрэсмэнаў, патрабаваньня адстаўкі кіраўніцтва ў Празе. Размова, мяркуючы з бясплённых спробаў прэзыдэнта патлумачыць сваю пазыцыю, ішла горш і горш. Калі хвілін праз дваццаць мы зайшлі ў залю, прэзыдэнта хвалявала ўжо не дыктатура ў Беларусі і вабіла не літоўская кухня. Трэба аддаць належнае — ён пагаварыў з усімі, задаў усе патрэбныя пытаньні, выслухаў адказы, потым даслаў падзякі за сустрэчу.

Сярод маіх кніжак па мэнэджмэнце адна называецца імпэратыўна: «Напачатку парушце ўсе правілы». Яно то можна, але што потым? Потым залежыць ад начальства: калі ёсьць узаемны давер, падтрымка, усё окей. Калі не — ніякія вашыя заслугі і дасягненьні, пляны і праекты ня будуць мець значэньня. Дылан сьпяваў, што заўтра пераможуць тыя, хто прайграў сёньня, бо часы мяняюцца. Гэта так, але заўтра трэба яшчэ дачакацца.

Празь месяц, на Каляды, прэзыдэнт сышоў у адстаўку. Але я згадваю яго ня толькі з-за той напружанай сцэны ў вузкім паўцёмным калідоры, калі вырашаўся ягоны лёс. Урэшце, што такое службовая драма ў параўнаньні са зьдзекамі і трагедыяй турмы, калі дзеці растуць без бацькоў, і лістоў няма, бо зноў карцэр, зноў галадоўка, зноў новы тэрмін.

Пяты прэзыдэнт і ягоная каманда зрабілі адну бясцэнную паслугу: усе журналісты ў бюро ад Баку да Менску атрымалі мэдычную страхоўку. Гэта была прынцыповая пазыцыя Корна, рэформа была праведзеная, асыгнаваны бюджэт, пастаўленая кропка. Розьніца ў зарплаце, правах паміж штаб-кватэрай і полем была істотна зьменшаная, фрылансэры і іх сем'і атрымалі жыцьцёва важную падтрымку.

Не зрабіў бы пяты прэзыдэнт такой ласкі журналістам, я праз дзесяць год, летам 2021-га, не апынуўся б у такой самай сытуацыі, што ён у Вільні.

Нельга забраць тое, чаго няма. У нас было.

## Душнае лета 2021

Скончылася вясна, але мне не ўдалося атрымаць дадатковых бюджэтных рэсурсаў, каб дапамагчы раскіданым па розных краінах журналістам.

Адчуваньне небясьпекі толькі павялічылася, калі ў траўні быў захоплены самалёт з Раманам Пратасевічам. Два гады перад тым Пратасевіч атрымаў стыпэндыю імя Вацлава Гаўла і правёў паўгоду ў рэдакцыі ў Празе. Энэргічны, амбітны, няўрымсьлівы, упэўнены ў сваіх сілах, але без адукацыі, без прафэсійных навыкаў, нецярплівы… Яркая асоба, аднак журналістыка — гэта фокус на іншых, а не на самім сабе. Ніякая стыпэндыя не

памяняе характар, які працуе на адрэналіне. Безразважнасьць не замяняе мужнасьці.

Акт паветранага тэрарызму і выкраданьне апанэнтаў толькі ўмацавалі маю думку, што галоўнае — дапамога людзям. Уратуем людзей, дапаможам уладкавацца ў бясьпечным месцы — будзе ўсё астатняе.

Патрабаваліся сродкі. У канцы траўня я ўпершыню пачуў пра будучы грант, але ён матэрыялізуецца толькі праз год.

У выніку радыё дапамагала ня новымі рэсурсамі, а перараразьмеркаваньнем старых. Але ня толькі пераразьмеркаваньнем.

У чэрвені я атрымаў мэйл ад начальства, які ўтрымліваў тэкст звароту да нашых журналістаў. Начальства патрабавала, каб я ад свайго імя накіраваў яго сваім супрацоўнікам.

Я пачаў чытаць.

Напачатку я паведамляў, што, паводле майго разуменьня, мой адрасат зьехаў зь Беларусі і цяпер жыве ў іншай краіне. Я таксама выказваў разуменьне, чаму такое цяжкае асабістае рашэньне было прынятае. Бо год быў вельмі цяжкі для службы, а нашая праца важная.

Далей паведамлялася, што я лічу жыцьцёва важным клапаціцца пра дабрабыт усіх сваіх супрацоўнікаў.

Усё гэта было трохі ня ў стыль, я так зь людзьмі не гавару, але сутнасна правільна. Але, як аказалася, сутнасьць толькі пачыналася.

Гэта было тлумачэньнем, чаму радыё не пярэчыла, калі людзі вырашалі па сваёй волі выехаць з краіны.

Я напружыўся. Па сваёй волі? Радыё магло запярэчыць?

Далей я мусіў паінфармаваць журналістаў, што рэсурсы радыё не бясконцыя.

Я зрабіў глыбокі ўдых.

Што прыярытэтам застаецца інфармаваньне аўдыторыі ў Беларусі, а не заўсёды лепш гэта рабіць зь іншых краінаў.

Я затаіў дыханьне.

І паколькі супрацоўнікі Свабоды самі па сваёй волі вырашылі зьехаць, радыё ня можа гарантаваць, што ўмовы працоўных кантрактаў застануцца такімі, якімі яны былі ў Беларусі.

Выдыхнуць не ўдалося.

Мелася на ўвазе зарплата, мэдычная страхоўка, аплата адпачынку, іншыя бэнэфіты.

Я ня стаў нічога нікому пасылаць.

Я быў дырэктарам, і маім абавязкам было ўсяляк падтрымліваць калег у цяжкай сытуацыі. Я спадзяваўся, што ўдасца ўсё ж атрымаць рэальную дапамогу, і ня варта траўмаваць і так траўмаваных людзей. (Забягаючы наперад — праз паўгоду прыярытэт працаваць зь Беларусі зьменіцца на адваротны, на забарону працаваць у Беларусі. Але на ўмовы працы гэта не паўплывае).

Нязьменная заставалася наша місія, і гэта нікому ў рэдакцыі ня трэба было тлумачыць. Хоць спрабавалі. Якраз тады начальства некалькі разоў пераслала мне інтэрвію супрацоўнікаў аднаго папулярнага СМІ, што апынулася ў выгнаньні, дзе гучна, як пра штосьці прынцыповае, што патрабуе абароны, заяўлялася пра выключны прыярытэт інфармацыі з самой Беларусі. Намёк быў празрысты. І раздражняльны, як любая банальнасьць, што прэтэндуе на адкрыцьцё. Напіналіся на пустым месцы не рэдактары ці журналісты, а начальнікі аддзелаў маркетынгу і вонкавых сувязяў, і адрасавалася дэклярацыя донарам. Я адкрыў сайт згаданага СМІ — з чатырох дзясяткаў публікацый палова была зь беларускага жыцьця за мяжой: заявы апазыцыі, акцыі салідарнасьці, аповеды ўцекачоў, санкцыі, нармальная стужка навінаў.

Неўзабаве на радыё адбылася нарада, дзе запатрабавалі адказаць, чаму я, нягледзячы на напамінкі, не пасылаю падрыхтаваны кіраўніцтвам ліст. Я прызнаўся, што маці мяне вучыла не падпісваць лістоў, якіх я не пісаў.

Рэакцыя была прыкладна як на той нарадзе ў маладосьці, дзе я сказаў, што паміраю. Я зноў здолеў пакрыўдзіць усіх адразу.

Забыўся, што ўнутраныя правілы радыё забараняюць сарказм.

І гэта не сарказм.

## Зорна-паласаты сьцяг. Пятніца, 16 ліпеня 2021

Калі ў пятніцу 16 ліпеня 2021-га лукашэнкаўскія «красаўцы» з ломам адагнулі жалезныя дзьверы, вывернулі замок і ўварваліся ў памяшканьне бюро, там нікога не было. Не было і каштоўнай відэатэхнікі, кампутараў, сэрвэраў — але былі кнігі «Бібліятэкі Свабоды», розны рэдакцыйны рыштунак, мэбля. Што маглі, перакулілі, павыкідалі на падлогу, сьпіхнулі з паліцаў, праламалі падвесны дах, абарвалі постэры.

Тэлеапэратары ў пагонах зьнялі логава зьвера, і праз пару гадзін кадры ўжо паказвалі па тэлебачаньні.

Карцінка аказалася так сабе. Не было галоўнага экспаната, які б адразу ўсё патлумачыў.

Трэба сказаць, што амэрыканскі сьцяг, які вісеў на ўсю сьцяну ў офісе ў цэнтры беларускай сталіцы, шмат каго зьбіваў з панталыку. Нам патрабаваўся сыстэмны адміністратар, каб даглядаць і разьвіваць кампутарную сетку, і кандыдаты на пасаду прыходзілі на агледзіны. Адзін кандыдат ня мог адарваць вачэй ад зорна-паласатага палотнішча, пакуль расказваў пра сваю кваліфікацыю і досьвед працы, у тым ліку пра службу ў войску на радыёлякацыйнай станцыі пад Вялейкай. Там слухалі перамовы пілётаў NATO і забясьпечвалі падтрымкай расейскі паўночны вайскова-марскі флёт.

Раптам твар яго прасьвятлеў:

— Я разумею, у вас сакрэтная апэрацыя — я маю ўсе допускі!

Аднойчы за кавай у Кангрэсе ЗША, на сустрэчы з супрацоўнікамі камітэту замежных справаў, я захацеў пацешыць іх аповедам пра аматара сакрэтных тэорыяў. Калі адсьмяяліся, старэйшы за ўсіх прысутных работнік, які працаваў дарадцам камітэту некалькі дзесяцігодзьдзяў, раптам спытаўся, а чаму ў нас вісіць гэты сьцяг.

Сьцяг нам падарыла апошняя амбасадарка ЗША ў Беларусі Карэн Стʼюарт незадоўга да свайго адкліканьня ў 2008 годзе. З таго часу амэрыканскіх паслоў у Менску не было, і наш офіс быў адзіным месцам у Беларусі апроч амбасады, дзе быў вывешаны афіцыйны амэрыканскі сьцяг.

Вэтэран замежнай палітыкі ЗША ўстаў, падышоў і ўрачыста пацiснуў мне руку. Я цяпер гэта ўспамінаю, бо такія праявы асабістага патрыятызму, патас сьцяга ўласьцівыя амэрыканцам. І беларусам — так бел-чырвона-белы сьцяг у 2020 годзе зноў стаў з гістарычнага сьцягам будучыні.

Калі ў 1995-м дыктатар памяняў гэты сьцяг на чырвона-зялёны, на радыё ўзьнікла дылема: ці мяняць яго ў даведачных матэрыялах пра Беларусь, як пазначаць на карце, што рабіць зь бел-чырвона-белым сьцягам. У ААН памянялі. Пасьля нэрвовых спрэчак урэшце сталі пазначаць двума сьцягамі. Але на ўваходзе ў радыё, дзе выстаўленыя сьцягі ўсіх краінаў вяшчаньня, так і застаўся бел-чырвона-белы.

У 2021 годзе, нягледзячы на страту акрэдытацыі і блякаваньне сайту, мы працягвалі працу. Праўда, ва ўмовах пандэміі журналісты працавалі з дому, і толькі зрэдку зьбіраліся ў бюро. Але ў чэрвені стала відавочна, што атака на бюро непазьбежная.

Я не хацеў, каб з амэрыканскім сьцягам у бюро зрабілі тое, што абслуга дыктатара зрабіла з нацыянальным:

сарвалі, парэзалі на сувэніры, расьпісаліся, паказальна зьняважылі. І папрасіў зьняць і схаваць.

Пагромшчыкам сьцяг не дастаўся. На дзіва, у памяшканьні пакінулі і не разьбілі лямпавы прымач «Мінск-55» — падарунак ад чалавека, які рыхтаваўся падарваць савецкую ўладу ў Менску, літаральна. Сяргей Ханжанкоў зь сябрамі зьбіраўся ўзарваць спэцантэну-глушылку ў цэнтры гораду, канструкцыю вышынёй некалькі дзясяткаў мэтраў, якая выла і грукатала на частотах Свабоды.

Ханжанкоў вывучаў сапёрную справу ў палітэху і зрабіў разьлікі, каб падзеньне не пашкодзіла навакольлю і нікога не параніла. У іхнай невялікай групе быў стукач КДБ, Сяргея арыштавалі і асудзілі на 10 гадоў лягеру, якія ён адбыў цалкам. Я бываў у яго дома, і ён паказваў мне свой прымач, па якім слухаў варожае радыё. Калі ён памёр, дачка перадала прымач Свабодзе — урачыста, у «Галерэі Ў», падчас прэзэнтацыі маёй кніжкі пра Освальда, дзе адзін разьдзел быў прысьвечаны яе бацьку*.

Гэты дарагі падарунак стаяў у нашым бюро разам з фота нашага слухача-героя. Цяпер ён у схованцы. У будучым музэі свабоды Беларусі для яго ўжо зарэзэрваваны асобны стэнд у залі радыё.

А сьцяг цяпер у Празе, у маім кабінэце. Чакае вяртаньня ў Менск.

## Маё начальства. Перадапошні-апошні прэзыдэнт

Уначы 18 чэрвеня 2020 году, а 02:16:17 усе супрацоўнікі РСЭ/РС атрымалі мэйл ад прэзыдэнта:

---

* «Сълед матылька» (2011), «Освальд в Минске» («Галіяфы», 2017)

«Гэтым вечарам я быў паінфармаваны новым кіраўніком Агенцтва глябальных мэдыяў ЗША, што я вызвалены ад абавязкаў прэзыдэнта, вызваленьне ўступае ў сілу неадкладна».

Прэзыдэнта зьнялі мэйлам, бесцырымонна, бяз дай прычыны.

Я пабачыў паведамленьне а сёмай раніцы і паслаў адказ:

«Якая страта. Было прывілеем працаваць разам у самыя бурныя часы, якія мы перажывалі ад моманту распаду СССР. Вас заўсёды будуць памятаць як нястомнага, спагадлівага і разважлівага лідэра і самага ўсьмешлівага прэзыдэнта».

Я дадаў яшчэ нешта наконт самага бязгальштукавага — ён выклікаў сымпатыю, быў самы малады з усіх прэзыдэнтаў, зь якімі даводзілася працаваць, толькі-толькі ўвайшоў у курс справаў, адведаў Менск — і такі ўдар. У Вашынгтоне і Празе пачалася падрыхтоўка да ўдару ў адказ, лісты, слуханьні ў Кангрэсе, я за гэтым сачыў, ішла сур'ёзная барацьба.

Амэрыканская культура палітычных прызначэньняў не заўсёды кіруецца досьведам ці прафэсіяналізмам, у палітыкі свае крытэры. Кіраўніцтва мяняецца, журналісты застаюцца. Калектыўныя акцыі пратэсту ў мэдыях — рэдкая рэч, асабліва калі няма прафсаюзу і ёсьць абавязак перад аўдыторыяй, людзьмі, якія ў нашмат горшых умовах.

Але тут была яўная і прыкрая недарэчнасьць, супраць якой выступілі кангрэсмэны, палітыкі ў Вашынгтоне, і пасьля перамогі на выбарах Джо Байдэна перадапошні прэзыдэнт вярнуўся ў свой кабінэт.

У прамежку паміж адстаўкай і вяртаньнем ягоныя абавязкі выконвала галоўная рэдактарка, затым перад Новым годам на радыё зьявіўся прызначэнец Трампа, але я зь ім не пасьпеў ніяк сутыкнуцца, бо гэты прэзыдэнт не пратрымаўся ў Празе і месяца.

Вяртаньне старога-новага прэзыдэнта ўсіх усьцешыла. Але адзін мой былы начальнік неяк сказаў мне, што ў Вашынгтоне няма ніводнага чалавека ні сярод рэспубліканцаў, ні сярод дэмакратаў, хто б сказаў пра новага прэзыдэнта хоць нешта дрэннае — ён ва ўсіх выклікаў сымпатыю. Сказаў як пра анамалію. Выклікае сымпатыю ён і ў мяне, хоць я і напісаў у загалоўку, што гэта — мой апошні прэзыдэнт, маючы на ўвазе, што пры ім я сыду з працы.

Уменьне выклікаць інстынктыўную прыязнасьць — сапраўдны талент, рэдкі дар, моцная зброя палітыка.

Ведаю па сабе — не таму, што маю такі дар, а таму, што сам падпадаў пад такія чары. Страчваеш пільнасьць, думаеш толькі пра лепшыя варыянты, лічыш, што вы маеце аднолькавыя мэты, агульныя інтарэсы — і калі рэчаіснасьць пачынае адвешваць свае поўхі, адказ «хто вінаваты» зьяўляецца кожны раз, калі глядзіш у люстэрка.

Люстэрка ня схлусіла і ў пятніцу, 15 ліпеня, калі я пачаў пісаць гэтую кнігу.

Гледзячы назад, скажу, што выбар любога кіраўніка, на чый бок стаць у нейкім канфлікце, падтрымаць непасрэдных сваіх намесьнікаў, зь якімі штодня вырашаеш пільныя праблемы і плянуеш будучыню, ці супрацоўніка на дзьве пазыцыі ніжэй, які псуе ім нэрвы, даволі прадказальны і дастаткова рацыянальны.

Але я заўсёды буду памятаць, што ён трымаў у сваім кабінэце партрэты Ігара Лосіка, Андрэя Кузьнечыка, Алега Грузьдзіловіча. Што пісаў ім лісты ў турмы, сустракаўся і гаварыў з жонкамі. Што вёў няспынныя перамовы і дамогся вызваленьня Алега.

У будынку радыё ўсе офісы пранумараваныя, і толькі два пакоі названыя ўласнымі імёнамі: заля рэдактарскіх нарадаў носіць імя Вацлава Гаўла, ён удзельнічаў у першым пасяджэньні пасьля пераезду ў новы будынак. І адна канфэрэнц-заля названая імем нашага калегі, віцэ-

прэзыдэнта Майкла Маркецi, якi два дзесяцiгодзьдзi кiраваў фiнансамi радыё ў Вашынгтоне. Iранiчны i дасьцiпны, ён забясьпечваў ня толькi бюджэт, але, як вiцэ-прэзыдэнт, i стабiльнае кiраваньне ўстановай, дзе прэзыдэнты мяняюцца кожныя пару гадоў.

Аднойчы пры мне ў вялiкай кампанii Маркецi спыталi, хто быў найлепшым прэзыдэнтам, — без сэкунднай паўзы ён назваў iмя прэзыдэнта, якi стаяў побач. Мы засьмяялiся, ён таксама.

Але Маркецi не жартаваў — для кожнага часу найлепшы той, хто бярэ за яго адказнасьць.

Ну, а вынiкi, як вядома, дзела тонкае*.

## Пераклад з кiтайскай

Калi 2020 год быў самым эмацыйным за ўвесь мой час на Свабодзе ў пазытыўным сэнсе, дык у 2021-м сталi нарастаць раздражненьне, незадаволенасьць, напружаньне. Рэч была ня толькi ў стомленасьцi. Паразы, адмовы ў просьбах,

* Я разумею цяпер тую сытуацыю як посттраўматычны сындром. Гвалтоўнае звальненьне прэзыдэнта i адсутнасьць усялякiх кантактаў з кiраўнiцтвам у Вашынгтоне стварылi сытуацыю, калi кiраваць радыё сталi выканаўцы абавязкаў i начальнiкi дэпартамэнтаў. Яны ўсе былi добрыя мэнэджэры i старалiся рабiць як найлепш. Тэхнiчныя службы, фiнансы, кадры, апарат прэзыдэнта i галоўнага рэдактара бралi на працу новых людзей, разьвiвалiся, стваралi новыя пратаколы, правiлы, пачыналi новыя праекты. Праблема палягала ў тым, што гэта былi добрыя рашэньнi, а патрабавалiся правiльныя. Яны абслугоўвалi самiх сябе, а журналiсты засталiся на пэрыфэрыi.
Калi ў лютым 2021 году звольнены прэзыдэнт вярнуўся, ён працягнуў працаваць зь людзьмi, якiя трымалi карабель на плаву. Ягоныя магчымасьцi нешта зьмянiць былi радыкальна падарваныя. Ня ведаю, цi сам ён гэта адчуваў, цi проста меў iншыя iнтарэсы i пляны (ён звольнiўся праз некалькi месяцаў пасьля мяне, у чэрвенi 2023 году). Ня мае значэньня.

адсутнасьць станоўчых вынікаў натуральна прымушаюць задаць пытаньне: ці ня сам я вінаваты?

Ніколі не апраўдвайся, вучыць старажытная мудрасьць: сябрам гэта ня трэба, ворагі ўсё адно не павераць. Але ёсьць ня толькі сябры і ворагі, і імкненьне разабрацца ў прычынах і патлумачыць вынікі зьяўляецца агульначалавечай справай пазнаньня, кажучы высокім стылем.

Я пісаў пляны і падлічваў сродкі, патрэбныя для пераводу рэдакцыі за мяжу, у суседнія сталіцы, вывучаў умовы, удакладняў кошты. Тым часам пагрозы ў Беларусі працягвалі нарастаць, пайшлі выклікі на допыты, афіцыйныя папярэджаньні, мянялася заканадаўства, і журналісты мусілі дзейнічаць самастойна, не чакаючы дазволаў ці дапамогі.

Я спрабаваў дапамагчы ўсім, хто вырашыў зьехаць. Неўзабаве нашы журналісты працавалі ўжо з Украіны, Грузіі, Польшчы, Літвы, Латвіі, Чэхіі, пераяжджалі з адной краіны ў іншую, бо вычэрпваліся ліміты знаходжаньня, канчаліся візы, кошты станавіліся непад'ёмнымі.

Але для журналістыкі гэта была цалкам рабочая сытуацыя. Пандэмія зрабіла відавочным тое, што тэхналёгіі зрабілі магчымым: можна эфэктыўна працаваць на дыстанцыі, бо дыстанцыя зьнікла. Сучасны лэптоп, тэлефон, wi-fi адмянялі офіс, рабілі непатрэбнай армію тэхнічнай і адміністрацыйнай бюракратыі.

Я невыпадкова кажу «зрабіла відавочным» — бо такая магчымасьць існавала і раней. Недзе ў 2005 годзе ўзмацніўся ціск на бюро ў Менску, ішлі пагрозы, і я думаў, як мы будзем працаваць, калі раптам улады наважацца захапіць бюро. І вырашыў, што лепш ня думаць, а паспрабаваць: мы закрылі бюро. Падрыхтаваліся, вядома, і «дзень безь бюро» прайшоў без асаблівых праблемаў. Потым мы паўтарылі гэты экспэрымэнт, без папярэджаньня, затым паспрабавалі тыдзень безь бюро, і я спыніў экспэрымэнты. Было ясна, што мы можам працаваць без цэнтралізаванага

офісу, бяз студый. Праграма, канечне, патрабавала адаптацыі, ад нечага трэба было адмовіцца, нешта рабіць іначай — але сваю місію мы працягвалі выконваць.

З таго часу аўтаномнасьць журналістыкі вырасла экспанэнтна. Сэлфі ў сацыяльных сетках і сатэлітны здымак танкаў на лясной дарозе нічога ня страчвалі ад таго, што на месцы не было карэспандэнта. Гэта, безумоўна, не зусім дакладны выраз — нешта страчвалі, як страчваецца трапяткое сьвятло сьвечкі ў параўнаньні з электрычнай лямпачкай. Фэйкі сталі фактам. Працаваць з дыгітальнай рэчаіснасьцю трэба ўмець.

Працаваць з рэчаіснасьцю бюракратычнай таксама трэба ўмець.

Я цяпер думаю — чаму я саманадзейна лічыў, што ўмею? Дзе я памыляўся? Окей, я ня мог паўплываць на амэрыканскі ўрад. Але чаму канфрантацыя з мэнэджмэнтам і паразы сталі здарацца на маім блізкім полі, у самой кампаніі?

Я чытаў, канечне, «Мастацтва вайны» Сунь Цзы, кніжка старажытнага кітайскага стратэга ляжала на маім стале; на паліцы была сучасная вэрсія пад назвай «Мастацтва вайны для мэнэджмэнту». Шмат з таго, што я рабіў усе гады, адпавядала парадам з шостага стагодзьдзя да нашай эры.

Нельга ўзламаць замок, які не замкнёны, — мы не рэгістравалі бюро, і яго нельга было афіцыйна закрыць. Рабі тое, чаго няма, — мы абвясьцілі кнігі ня кнігамі, а плятформамі для кантэнту і зрабілі бібліятэку. Ідзі няходжанай дарогай, каб не цягнуцца ззаду, — мы сталі лідэрамі ў сацыяльных сетках. Я ня надта хваліўся нашымі дасягненьнямі, пазьбягаў эпітэтаў у справаздачах, але права на самастойнасьць бараніў няўхільна. У 2021 годзе шлях незалежнасьці ператварыўся ў шлях адзіноты. Адзін у полі ня воін, а дырэктар?..

Шлях на тысячы лі, пісаў Сунь Цзы пачынаецца пад тваімі нагамі — магчыма, у гэтым была праблема?

Верагодна, я лічыў, што даволі далёка прайшоў гэтым шляхам. Я перасягнуў рэкорд доўгажыхарства сярод мэнэджэраў амэрыканскага замежнага вяшчаньня. Пасада дырэктара нацыянальнай службы нагадвае радэа — пры мне зьмянілася восем дырэктараў Расейскай службы, пяць Украінскай, тузін прэзыдэнтаў радыё, паўтузіна прэзыдэнтаў ЗША. Мы атрымлівалі ўсе магчымыя статутныя ўзнагароды. Нас любілі людзі, якія любілі свабоду, і ненавідзелі яе ворагі.

Але, магчыма, у мудрасьці Сунь Цзы галоўным была не працягласьць шляху, а іншае — тое, што ён пачынаецца? Тое, што гэта заўсёды толькі пачатак? Бо ўмовы мяняюцца, вецер то ў сьпіну, то ў твар, то бура, то вайна… Нават больш. Шторазу гэта пачатак і для падарожніка, і для дарогі?..

На беларускую гэтая кітайская мудрасьць перакладецца адным словам: партызанка. Мы дзейнічалі як партызаны, а начальства хацела, каб мы ваявалі як рэгулярнае войска. Гэта не пра рознае разуменьне прафэсіі, бо журналісцкі кодэкс і рэдактуру ніхто не адмяняў. Гэта розныя хуткасьці часу, несынхрон.

Выкажу яшчэ адну здагадку, псыхалягічную: прычына напружанасьці была тая самая, што і ў мой першы год у Мюнхэне.

Мы занадта добра працавалі.

## Занадта добра

Неўзабаве пасьля інстытуту я працаваў перакладчыкам на заводзе ў Менску, марыў пра журналістыку і прапанаваў свае паслугі газэце «Вячэрні Мінск». «Вячорка» была самай непалітычнай у герархіі савецкага друку і таму дасяжнай. Увайсьці можна было проста з вуліцы: ні

вахцёра, ні міліцыянта, ні бар’ера, ні чакальні. Уведаўшы, дзе я працую, там узрадаваліся і прапанавалі напісаць нарыс пра перадавіка вытворчасьці — быў такі папулярны жанр, усе газэты мусілі друкаваць партрэты ўдарнікаў камуністычнай працы.

У мяне быў знаёмы зваршчык, які ня піў, не курыў, не забіваў казла, і на фоне астатняга цэху яго прадукцыйнасьць, якасьць працы і заробкі былі цалкам капіталістычныя. За гэта яго недалюблівалі — я гэта адчуваў, і ён мне толькі больш падабаўся. Зайздрасьць рэч агульначалавечая.

У нарыс я ўклаў усё, што моц мая тады магла. Тэкст пачынаўся драматычна: «Я ня ведаю ворагаў Скачкова. Спадзяюся, гэта вартыя ворагі». Далей ішло па нарастаючай.

У газэце папрасілі зайсьці праз пару дзён, потым яшчэ праз пару. Чыталі ў аддзеле, потым намесьнік рэдактара, затым галоўны. Нарыс мне вярнулі са словамі, якія я запомніў надоўга: «Для нас гэта занадта добра».

Запомніць запомніў, але высноваў не зрабіў. Хоць пасьля інʼязу мусіў бы. Гэта першая палова папулярнага выразу па-ангельску, уся фраза гучыць так: «Занадта добра, каб быць праўдай».

Агульначалавечых праўдаў, як вядома, шмат. Я цяпер усё ж пра тую, якая пазнаецца ў параўнаньні.

Параўнаньні бываюць вэртыкальныя, у часе — як сёньняшнія вынікі выглядаюць на фоне ўчарашніх, і гарызантальныя — як яны глядзяцца побач з аднолькавымі суседзямі.

Сваімі суседзямі я лічыў дзьве рэдакцыі і дзьве краіны, дзе было больш-менш аднолькава рэпрэсіўнае заканадаўства, аднолькавы ўзровень разьвіцьця інтэрнэту, іншыя блізкія парамэтры. Адна краіна была такая, як Беларусь, другая значна большая. Разьлікі трэба было рабіць прапарцыйна, на мільён жыхароў, каб яны былі

параўнальныя. Гэта стандартная мэтодыка ААН, якая робіць рэйтынг краінаў на розных кірунках, ад даходаў да дзіцячай сьмяротнасьці, менавіта з разьліку на душу насельніцтва.

Кажуць, што нельга параўноўваць апэльсіны зь яблыкамі — насамрэч усё складаней. І антонаўку зь белым налівам не параўнаць на смак, але на вагу, ці кошт — чаму не. Вазьмі ў адну руку яблык, у другую апэльсін і параўноўвай тое, што надаецца для параўнаньня. Мы ў гэтым наборы выглядалі як кавуны.

Штомесяц аддзел ацэнкі працы радыё рассылае вынікі ўсіх службаў на пяці асноўных плятформах: інтэрнэт-сайт, *YouTube*, *Facebook*, *Instagram*, *VKontakte*. Нехта яшчэ мае тэлебачаньне, радыё, працуе ў *Telegram*, *Twitter*, *TikTok*, *Odnoklassniki*, выдае кнігі ці здымае дакумэнтальнае кіно. Але першыя пяць — стандарт, і вынікі працы адлюстроўваюцца ў падрабязных лічбах, агулам вымяраецца больш за паўсотні паказчыкаў, колькасных і якасных. Гэта велізарны дыгітальны масіў, які апісвае ўзаемадзеяньні з аўдыторыяй.

Напрыклад, у інтэрнэце мераецца колькасьць наведнікаў, візытаў, праглядаў, унікальных чытачоў, час на сайце і г. д. У чэрвені 2021 году наш сайт быў ужо заблякаваны, у суседзяў доступ быў свабодны. Усе нашыя паказчыкі, тым ня менш, былі лепшыя за суседзкія. Ня проста лепшыя, а абсурдна лепшыя. Большыя ад 2 да 22 разоў.

Дыгітальныя посьпехі тлумачыліся двума фактарамі: мы пачалі раней за іншых, і нам надзвычай пашанцавала зь першым стыпэндыятам Вацлава Гаўла. Франак Вячорка узначаліў дыгітальную рэвалюцыю, пабудаваў такую каманду і так паставіў працэс, што усё, чым я мог дапамагчы, — гэта не перашкаджаць. (Пасьля Свабоды, падчас свайго амэрыканскага студэнцтва Франак быў інтэрнам у Агенцтве глябальных мэдыяў, і там яму ня толькі прапанавалі кантракт, але ў штатным раскладзе

стварылі для яго адмысловую пазыцыю — «дыгітальны эвангеліст»).

На *YouTube* у сямі мераных парамэтрах мы перасягалі адных калег у дыяпазоне ад чатырох да васьмі разоў, зь іншымі карціна была больш збалянсаваная.

Дзесяць парамэтраў *Facebook* выглядалі падобна: мы перасягалі першых суседзяў прыблізна ў паўтара-два разы, другіх — ад пяці да дзесяці разоў…

*Instagram* захаваў герархію: наш дзясятак паказьнікаў перавышаў першых утрая, другіх — у дзясяткі разоў.

*Twitter* па-беларуску меў утрая большы посьпех за абодвух.

*VKontakte* і *Telegram* першыя суседзі адставалі ў дзясяткі разоў, другія на гэтых плятформах увогуле не працавалі.

*TikTok* Беларускай службы трапіў у топ-10 сярод усіх навінавых мэдыяў Эўропы. Мы былі сёмыя, побач з карпарацыяй Бі-Бі-Сі, Эўраньюз. Больш ніводная рэдакцыя з РСЭ/РС ня згадвалася — бо не займаліся гэтай плятформай.

Такіх параўнаньняў на радыё ня робяць. І можна знайсьці шмат аргумэнтаў, чаму іх ня варта рабіць, — лягічных, псыхалягічных, кадравых. Можна працытаваць назіраньне Тэртуліяна, якому дзьве тысячы гадоў: першая рэакцыя на праўду — нянавісьць. Гэта замоцна сказана, канечне, але для арганізацыі сапраўды больш важна захоўваць цэласнасьць, мір, згоду. Можна запытацца, ці стаў бы я прыводзіць гэтыя лічбы, каб Беларуская служба не выглядала гэтак завоблачна ў параўнаньні. Але хто ведае, хто быў бы тады дырэктарам, ці стаў бы я тады пісаць гэтую кнігу.

А наконт параўнаньняў дадам яшчэ вось што: так, год на год не прыпадае, журналісты ведаюць, што лічбы заўсёды мяняюцца ў залежнасьці ад падзеяў. Выбары, вайна, тэракты, пратэсты... Але нашы суадносіны былі амаль

такія і да 2020 году, і захаваліся праз год. І другое. Лічбы ня хлусяць. Праўда і тое, што яны ня кажуць усёй праўды.

Праўда, якой яны не сказалі ў гэтым параўнаньні, завецца мова. Інтэрнэт-плятформы ня маюць межаў. Патэнцыйная аўдыторыя мэдыяў у самым шырокім выглядзе абмяжоўваецца мовай. Калі ўзяць мову — розьніца на нашу карысьць вырасла б удвая-ўтрая, давялося б зноў памнажаць.

Цікава, ці надрукаваў бы «Вячэрні Мінск» тэкст пра працоўныя дасягненьні, які б пачынаўся з сэнтэнцыі: «Лічбы ня хлусяць. Але яны ня кажуць і ўсёй праўды». Знаёмы вэтэран журналістыкі глянуў потым мой нарыс і хмыкнуў: «Ты б яшчэ пачаў заявай "Я ня ведаю, чаму Скачкоў ня п'е"». Але я ведаў. Скачкоў ня быў ударнікам камуністычнай працы. Ён быў баптыстам. Ці гэта было б зноў занадта?..

## Жнівеньскі выбар

Прайшла зіма, настала лета, як казалі ў адным антысавецкім вершыку.

Трэба было ўжо адзначаць першую гадавіну жнівеньскай рэвалюцыі 2020 году. На пятніцу, 6 жніўня мне ўдалося дамовіцца на інтэрвію з амбасадаркай Джулі Фішэр, спэцыяльнай пасланьніцай ЗША для Беларусі. Гэта было яе першае інтэрвію для Свабоды, пакуль атрымалі ўсе ўзгадненьні, часу амаль не засталося. Інтэрвію было прызначана на 15:00, праз *Zoom*.

Апоўдні ў той дзень у мяне была прызначаная сустрэча з галоўнай рэдактаркай. Калі яна ўведала, што я неўзабаве зьбіраюся запісваць інтэрвію праз свой *iPhone*, спытала, чаму не са студыі. Рэч была ў тым, што пацьверджаньне

на інтэрвію я атрымаў з Вашынгтону напярэдадні позна ўначы, тэлестудыю і тэхнікаў трэба замаўляць загадзя, а тэлефонная якасьць відэа *YouTube* і сеткі задавальняла.

Празь пятнаццаць хвілінаў я атрымаў мэйл ад галоўнай рэдактаркі — тэлестудыя замоўлена, запісваць трэба там.

Наступныя дзьве гадзіны запомніліся надоўга. Я вырашыў праверыць, як падрыхтаваная студыя. Там ужо былі два выпадковыя тэхнікі, якія, як высьветлілася, ніколі не працавалі з *Zoom*, ня ведалі, як падлучацца. Высьвятленьнем гэтай справы спачатку яны займаліся самі, потым паклікалі дапамогу, я таксама ўдзельнічаў, і ў адзін момант я заўважыў, што нас ужо пяць чалавек, і ўсе намагаюцца неяк разабрацца. Пачалася перапіска з амбасадай, там не маглі працаваць з прафэсійнай вэрсіяй *Zoom*, камунікацыя ішла празь мяне — падрыхтавацца да гутаркі не было калі. У выніку *Zoom* не падключылі, перайшлі на *Skype*, паслалі няправільны адрас, зноў пераўдакладнялі.

Пад студыйнае сьвятло трэба рабіць макіяж — але ўжо не было часу, трэба было паставіць пытаньні ў промптэр — але тэхнікі гэтага не рабілі, ня іхная справа, дзеля гэтага трэба было прывесьці свайго прадусара. На пачатку гадзіны з гэтай студыі рабілі кароткі выпуск навінаў для жывога этэру «Настоящего Времени», трэба было саступіць месца калегам і потым хуценька ўсё вярнуць назад. Засяродзіцца не было як зусім. Калі я змог сесьці перад камэрай для запісу, мы ўжо спазьняліся.

Гэты эпізод быў паказальны, тут сышліся ўсе лініі, ад тэхнічнай службы, якая чым далей, тым больш арыентуецца на саму сябе, свае пратаколы, умовы і мэты, да начальства, у якога столькі выклікаў, што супрацьстаяць уласнай бюракратыі яно ня ў стане.

Увесь 2021 год я атрымліваў папрокі, што адмаўляюся ад важкай сумы, вылучанай на нашы тэхнічныя патрэбы. Грошай ніхто не даваў, вядома, яны заставаліся ў

бюджэце тэхнічнага дэпартамэнту. Адмаўленьне палягала ў тым, што я прасіў паставіць камэры і дадатковае сьвятло ў радыёстудыю і зрабіць умовы, каб журналіст мог сам у любы час прыйсьці і запісаць відэагутарку, калі трэба, без замаўленьня тэхнікаў. За намі заставалася нашая аўдыёстудыя, якой мы амаль не карысталіся, яе б трохі падмадэрнізаваць — і было б выдатнае месца для відэагутарак. Тым часам мы мусілі ставіць тэлефон на стос кніжак, сядаць насупраць акна за чужыя сталы, у калідоры ці нейкім кутку.

Не, гэта немагчыма, быў адказ, бо няправільна. Трэба замаўляць загадзя, трэба плянаваць працу тэхнікаў, трэба плян, працэдура, стратэгія.

Памятаю, як на пачатку 2000-х наша тэхнічная служба ўсімі сіламі супраціўлялася выкарыстаньню аплікацыі *Skype* — і ненадзейна, і небясьпечна, і забірае магутнасьці інтэрнэту. І кожны месяц асобны чалавек зьбіраў справаздачы пра прыватныя званкі са службовых тэлефонаў, потым іх пасылалі ў бухгальтэрыю і вылічвалі сумы з зарплаты. Прайшло два дзесяцігодзьдзі, ніхто даўно не камунікуе ў прыватных справах праз настольныя тэлефонныя апараты — па-ранейшаму штомесяц я атрымліваю напамінак пазначыць для бухгальтэрыі прыватныя званкі са службовага тэлефона.

Гэта, безумоўна, толькі частка карціны. На працягу дзесяцігодзьдзяў служба мела падтрымку і ад мэнэджмэнту, і дапаможных службаў. Памятаю, як мы пачыналі супрацу зь «Белсатам»: дамовіліся з тэхнікамі, у радыёстудыю ўціснулі камэры, сьвятло, абцягнулі ўсю тэрыторыю стужкай, каб не перашкаджалі цікаўныя (гэта была першая спроба тэлебачаньня на радыё) і зрабілі пробныя запісы. Агульны энтузіязм зашкальваў. Потым я гаварыў з кіраўніцай офісу прэзыдэнта радыё, якая прыйшла паглядзець на здымкі, і сказаў, што пачынаем рабіць праграму для «Белсату». Запісваць на дыскі, мантажаваць,

перадаваць майстар-копію цягнікам у Варшаву. Яна абамлела: так, дамова зь «Белсатам» падпісаная, але яшчэ трэба скласьці стратэгічны плян, узгадніць з Вашынгтонам, унесьці ў дакумэнтацыю ў Празе, зацьвердзіць кучу папераў — але хутка апрытомнела. І зрабіла ўсё сама. І бізнэс-адукацыя, якую яна атрымала ў Чыкагскім унівэрсытэце, ніяк не перашкодзіла.

Але... час ідзе, кадры мяняюцца, новыя людзі прыносяць ня толькі новыя, але і старыя падыходы.

Бюракратыя паводле сваёй прыроды рэч эгаістычная, і калі яе не абмяжоўваць, яна стварае ўласны сьвет і абслугоўвае найперш саму сябе. Гэта аднолькавая праблема для дактароў, настаўнікаў, журналістаў. Задача дапамогі прафэсіяналам, адзіны *raison d'être* любой арганізацыі, з пэўнага моманту толькі ёй перашкаджае. Раптам аказваецца, што па кансультацыю нельга зайсьці калі трэба, а толькі ў адведзеную гадзіну, дзьверы зачыненыя і званка няма. Што ўзяць тэхніку са складу можна толькі на працягу адной гадзіны за ўвесь дзень — хоць узьнікла тэрміновая патрэба, а ў добрых прафэсіяналаў яны ўзьнікаюць заўсёды. Што нельга працаваць самому, бо што ж тады будзе рабіць армія памочнікаў. Хоць не, вэрсія заўсёды іншая — бо гэта непрафэсійна і цярпіць якасьць.

Якасьць увогуле падступнае паняцьце. Здаецца, у прафэсіяналаў павінен быць кансэнсус, што добра, што не. І ён ёсьць — але ў кожнай прафэсіі ён свой. Для гукарэжысэра, асьвятляльніка, мантажора свае крытэры, што такое добрая перадача, для мадэратара, удзельнікаў свае, для фінансіста зусім іншыя. Але ўсё павінна арыентавацца на канчатковы вынік. А вынік — узаемадзеяньне з аўдыторыяй, таксама мае свае крытэры: як апэратыўна, наколькі ўнікальна, ці зручна для розных плятформаў.

Рэгулярная армія і спэцназ ваююць па-рознаму. Выдатныя ідэі, бізнэс-пляны, рэсурсы не працуюць без кіслароду свабоды.

Мы сталі пазьбягаць усякай залежнасьці, пачалі самі набываць тэхніку, будаваць свае «зялёныя сьценкі» для запісу відэа. У 2019-м я спыніў супрацу зь «Белсатам» — дванаццаць гадоў мы рабілі тыднёвую тэлепраграму, «Зона Свабоды», гэта быў цікавы і плённы супольны праект, мы шмат чаму навучыліся ў таленавітых калег у Варшаве. У Беларусі нашых журналістаў сталі пазнаваць на вуліцах, што для працаўнікоў радыё да часу *YouTube* было незвычайным досьведам.

Галоўнай прычынай закрыцьця «Зоны Свабоды» стала тэхнічная і адміністратыўная бюракратызацыя працы, якую другі бок называў прафэсіяналізацыяй. Паўгадзінная праграма патрабавала ўсё больш і больш людзей і часу, спробы зрабіць нешта інакш ператвараліся ў лякальную вайну і вымагалі новых рэсурсаў.

Мы сышлі — і ўздыхнулі з такой палёгкай, што я моцна шкадую, што не зрабілі гэтага раней. У 2020-ты мы ўвайшлі са сваімі сацыяльнымі сеткамі, сотнямі тысяч падпісантаў, са сваімі камэрамі, апэратарамі, рэжысэрамі. Гэта быў самы пасьпяховы год нашай працы за ўсю гісторыю радыё.

Першае інтэрвію Свабодзе амэрыканская дыпляматка, якая ніколі не была ў Беларусі і так і не заступіла на сваю пасаду ў Менску, скончыла беларускім «дзякуй!».

Падзякаваў і я ёй, падзякаваў і тэхнічнай брыгадзе, якая вяла запіс. Скардзіцца ўсё адно не было каму. Дый на што — усё ж атрымалася.

## Доўгая тэлеграма. Гісторыя

Год ад жніўня да жніўня сьціснуўся ў адзін дзень і адну ноч, час ляцеў, але не мінаў. Першая гадавіна выбараў прыпадала на панядзелак. Усе матэрыялы былі падрых-

таваныя напярэдадні, і я ўпершыню за год узяў тыднёвы адпачынак.

Сваёй памяці нельга верыць, трэба запісваць, пажадана весьці дзёньнік. Я дзёньнік і хацеў бы весьці, але ня ў стане. Некалькі разоў пачынаў і кідаў, нудна. Але мае дыгітальныя архівы захоўваюць тысячы запісаў — службовая перапіска, мэмарандумы, пляны, віншаваньні і вымовы, мэйлы самому сабе, розныя нататкі, якія істотна павышаюць колькасьць кропак, праз якія пракладваецца лінія ўспамінаў.

Гэты мэмарандум, які я назваў «Доўгая тэлеграма», быў адпраўлены прэзыдэнту ў нядзелю 8 жніўня 2021 году. Такую назву мела вядомае ў палітычнай гісторыі халоднай вайны доўгае, аж 5363 словы, пасланьне кіраўніка амбасады ЗША ў Маскве Джорджа Кенана ў Дзярждэпартамэнт у лютым 1946 году. Кенан лічыў, што ў ЗША не ўсьведамляюць, якім монстрам ёсьць Савецкі Саюз, і скарыстаўся нагодай — запытам патлумачыць ваяўнічую прамову Сталіна, каб выкласьці свае думкі.

Мая тэлеграма была роўна ўдвая карацейшая, 2681 слова, але ўсё адно гэта быў найдаўжэйшы зварот да кіраўніцтва, які я калі-небудзь пісаў.

Уменьне быць сьціслым — безумоўная вартасьць журналіста*.

Але не за кошт сэнсу. Дый мінулы год таксама быў найдаўжэйшым у нашай гісторыі, і ён яшчэ ня скончыўся нават цяпер, калі я пішу гэтыя радкі.

Цікава, што ня скончыўся і час Кенана. Яго ідэі стрымліваньня Масквы вярнуліся ў міжнародную палітыку.

---

* Аўдыторыя прагне ляканізму. Наша штодзённая рубрыка мікра-эсэ абмяжоўвала аўтараў памерамі, трэба было ўкласьціся ў сотню слоў. Праект набыў такую папулярнасьць, што выйшаў асобнай кнігай, дзе кожны з 300 абразкоў суправаджалі ілюстрацыі сусьветнага мастацтва, часам даволі рызыкоўныя. «100 словаў» (2017).

Мая тэлеграма была пра палітыку ўнутраную. Нават асабістую. Нават не пра палітыку, а пра культуру. Яшчэ дакладней — пра свабоду.

Я пісаў, што не чакаю хуткага адказу, нават зусім не чакаю адказу, проста хачу падзяліцца сваімі думкамі. У псыхалёгіі гэта называецца выпускам пары.

Але калі пара выпускаецца ў закрыты аб'ём, агульны ціск падвышаецца.

## Доўгая тэлеграма. Перадгісторыя

Мінулы ад жніўня да жніўня год быў найгоршым і найлепшым годам для Беларускай службы, пісаў я. Найгоршае было лёгка апісаць — журналісты ў турме, ва ўцёках, зьбітыя, катаваныя, ператрусы дома, бюро захопленае, сайт заблякаваны. Найлепшае таксама лёгка патлумачыць: добрая журналістыка, якую цэняць калегі, любіць і давярае аўдыторыя, за якую хваляць у Вашынгтоне і нападаюць у Менску.

Цяжэй было вызначыць, як рухацца наперад.

Посьпех, напісаў я на самым пачатку, залежаў ад праграмнай і апэрацыйнай незалежнасьці. Гэта была аснова, мой галоўны клопат — і важна было патлумачыць новаму чалавеку, чаму я так лічу. Без гісторыі было не абысьціся. Але ў нас былі розныя календары: мая гісторыя дырэктарства налічвала амаль чвэрць стагодзьдзя, прэзыдэнт працаваў толькі год, таму першы разьдзел я назваў «Перадгісторыя». І сказ, які напісаўся першым, зьдзівіў нават мяне самога:

«Гэта ня новая праблема — я заўсёды зь ёй сутыкаўся за свае два дзесяцігодзьдзі дырэктарства, калі спрабаваў зрабіць нешта новае».

Часам гэта ўдавалася даволі лёгка, часам я думаў, што мяне звольняць. Ініцыятыўнае, без рэсурсаў, стварэньне свайго сайту, павелічэньне ўдвая этэру без дадатковага бюджэту, стварэньне адзінай на радыё бібліятэкі, прэм'ера сваёй тэлеперадачы на сем гадоў раней за зьяўленьне прафэсійнай тэлестудыі на радыё. Беларуская служба была абраная для пачатку стыпэндыяльнай праграмы імя Вацлава Гаўла, і мы абралі такога кандыдата, што Гавэл сам напісаў рэкамэндацыю нашаму першаму стыпэндыяту…

Прэзыдэнт усяго гэтага ня ведаў, а для мяне гэта была не гісторыя Беларускай службы, а сама служба — як наша цела ёсьць мы самі з нашым мінулым. Мне дапамагалі паказчыкі працы: мы былі сярод лідэраў на рынку, стваралі прэцэдэнты, вытрымлівалі ўдары і выклікі.

Ня буду тут усяго пераказваць, гэта аказаўся самы вялікі разьдзел, траціна маёй даўгой тэлеграмы.

Наступны называўся «Трохі філязофіі», і я яго дам цалкам, як быў напісаны.

## Доўгая тэлеграма. Філязофія

«Я лічу, што РСЭ/РС — унікальная арганізацыя, дзе часткі большыя, чым іх сума. Кожная моўная служба — цэласны сусьвет. У нас агульная апэрацыйная база, місія, кодэкс, але ў кожнага свая вайна.

Я лічу, што дырэктар службы перш за ўсё інвэстар, і інвэстыцыйныя рашэньні вызначаюць прыбытак: якасьць прадукту, памер і актыўнасьць аўдыторыі.

Я лічу, што ў дырэктара службы ёсьць тры начальнікі: яго кіраўнікі, яго падначаленыя і аўдыторыя. Я спадзяюся, што калі я дагаджаю ўсім тром, я магу разьлічваць на іхную падтрымку. Для ўстойлівасьці патрэбныя тры апоры.

Мае кіраўнікі: ад мяне яны маюць статыстыку, якой можна ганарыцца, мы генэруем добрае стаўленьне ў ЗША і ЭЗ, наўпроставую пахвалу ад амэрыканскага кіраўніцтва, сэнатараў і кангрэсмэнаў, прызнаньне ад ключавых асобаў апазыцыі ў Беларусі. За мінулы год Агенцтва глябальных мэдыяў ЗША зрабіла больш заяваў у падтрымку Беларускай службы, чым для ўсіх астатніх службаў усіх пяці арганізацыяў, ад «Голасу Амэрыкі» да Свабоднай Азіі, разам узятых. Беларуская служба атрымала найвышэйшае прызнаньне, калі яе прадстаўлялі на слуханьнях у Кангрэсе, — і мы пацьвярджаем кожнае слова, якое прагучала там.

Мае падначаленыя: мы стварылі культуру прафэсіяналізму, салідарнасьці і самаразьвіцьця. Мае калегі вераць у нашу місію, маюць давер і павагу да РСЭ/РС і рызыкуюць сваёй свабодай, здароўем, маёмасьцю, домам дзеля выкананьня місіі.

Мой трэці начальнік — і першы паводле значнасьці бос, аўдыторыя — дэманстравала сваю ўдзячнасьць разнастайнымі спосабамі і шматкроць, ад удзелу ў нашых праграмах да скандаваньня нашага імя на вуліцах Менску.

Ніколі ў нас не было лепш.

І ніколі горш, калі гаварыць пра рэпрэсіі, зьняволеньні, перашкоды, няпэўнасьць. І калі гаварыць пра маю роспач».

## Доўгая тэлеграма. Выклікі

Я дзякаваў за маральную, палітычную падтрымку арыштаванага Ігара Лосіка, аплату юрыдычных выдаткаў. Але мусіў нагадаць рэальнасьць: мы не атрымалі больш ніякай дапамогі.

«Наш бюджэт сёлета меншы за папярэдні. Ніхто з фрылансэраў не атрымаў павышэньня зарплаты. У Пра-

зе зьменшыўся штат — ключавая пазыцыя намесьніка дырэктара зьліквідаваная, два штатныя месцы не запоўненыя. Кантракт для новага надзвычайнага калегі адкладаецца і выкарыстоўваецца як інструмэнт ціску, ён зь сям'ёй на правах турыста пражывае ў маленькай нязручнай службовай кватэры, якія добрыя пачуцьці гэта можа выклікаць? Я не магу прапанаваць працу ў Празе другой калезе, бліскучай журналістцы, ляўрэатцы прэстыжных журналісцкіх прэміяў, якая мусіла ўцякаць з дому і ня можа вярнуцца ў Беларусь. У той жа час на нашых вачах дзьве суседнія службы прынялі новых супрацоўнікаў. Не хачу нават казаць пра прыём на працу сярод вышэйшага кіраўніцтва і запаўненьне вакансіяў у іншых дэпартамэнтах, якое адбылося цягам гэтага году.

У Беларусі больш за палову працаўнікоў бюро мусілі пакінуць краіну, рэшта хаваецца».

Мой сьпіс крыўдаў быў нашмат даўжэйшы, але я разумеў, што трэба рухацца далей.

Рашэньне мне падавалася відавочным: бясьпека = людзі = місія. Калі журналісты будуць мець бясьпечныя і зручныя ўмовы для жыцьця і працы за мяжой, яны змогуць працягваць выконваць місію.

«Нашы людзі цяпер працуюць і жывуць у стане велізарнай траўмы і ўсё большай бездапаможнасьці. На жаль, апошнім часам гэтая сытуацыя датычыць і Кіева, які мы ня можам больш разглядаць як бясьпечную альтэрнатыву».

Я цяпер ня памятаю дакладна, чаму канкрэтна я напісаў гэта пра Кіеў у жніўні 2021 году — але было адчуваньне небясьпекі, Украіна была лёгка даступная ня толькі ўцекачам зь Беларусі, але і КДБ, і расейскім спэцслужбам. Крым, Данбас… У пяці сцэнарах магчымага пераезду, якія я падрабязна распрацаваў на пачатку году, Кіеў быў на трэцім месцы — пасьля Прагі, Вільні, але перад Варшавай. Украіна ў цэлым мела перавагі — ня трэба візаў,

няма моўнага бар’еру, кошты супастаўныя, а ў Львове ці Чарнігаве ніжэйшыя, транспарт зручны.

Прыклад Ігара Лосіка не дадаваў аптымізму — нягледзячы на велізарныя намаганьні радыё і міжнародныя высілкі, вызваліць нашага захопленага ў палон калегу не ўдалося. Працягваліся арышты,ператрусы, у ліпені было разгромлена бюро, трое калег зноў былі пасаджаныя на суткі, і супраць іх заведзеная крымінальная справа, цудам, з рызыкаю для жыцьця, пазьбег арышту чацьверты.

«Ні Агенцтва глябальных мэдыяў ЗША (АГМ), ні РСЭ/РС не знайшлі стратэгічнага вырашэньня, калі яно патрабавалася, — у жніўні 2020 году, калі была скасаваная акрэдытацыя і заблякаваны сайт. Адказам сталі паўмеры: стварэньне люстэркавага сайту, аплікацыі для навінаў і два месяцы на радыёхвалях».

Я пісаў, што ня памятаю, калі яшчэ ў сваім жыцьці я быў у такой роспачы — *frustration,* — як цягам мінулых дванаццаці месяцаў. *Frustration* па-ангельску трохі мацнейшае за *роспач*, бо ў ім апроч разгубленасьці ёсьць злосьць, пэўная чарната пакутных пачуцьцяў. Яе крыніцы былі навідавоку.

«Злосны дыктатар працягвае пагром супраць нашых людзей і нашай працы. Наша і іншых незалежных мэдыяў здольнасьць працаваць у Беларусі амаль ліквідаваная, аўдыторыю караюць за размову з журналістамі. Пандэмія разарвала многія сувязі. Адміністрацыя АГМ на чале з Майклам Пакам, прызначаная Трампам, нанесла шкоду ўсім, і шкода як ад прынятых рашэньняў, гэтак і ад тых, што не былі своечасова зробленыя, будзе адчувацца доўгі час. Кіраўніцтва РСЭ/РС было пад ціскам і пад агнём».

Апошняя фраза была адсылкай да дзікіх рашэньняў кіраўніка АГМ звольніць адным махам усё кіраўніцтва пяці структурных частак АГМ, праз паўгода, менш чым за месяц да свайго сыходу, прызначыць новага прэзыдэнта

РСЭ/РС, зьмяніць наш статут. Але разуменьне галоўных крыніцаў роспачы не азначала прымірэньня.

«Мне падабаецца радыё, я паважаю сваіх кіраўнікоў і калег, захапляюся іх прафэсіяналізмам і стойкасьцю. Яны пераждылі час кіраваньня вар’ята Пака з годнасьцю. Але недзе паміж усім гэтым мы страцілі ўзаемаразуменьне».

Гэта ключавое слова. Яно мае на ўвазе сынхроннасьць каштоўнасьцяў, прыярытэтаў, мэтаў, іншымі словамі — прафэсійную ўзаемнасьць. Я пісаў пра сябе і ня думаў пра тое, як адчувала сябе са мной маё начальства, дзе яно было, як бачыла мяне.

Мушу прызнаць, што добры мэнэджэр мусіў бы думаць… Але я думаў пра Беларускую службу. Думаў пра місію. Думаў, што гэтага дастаткова.

## Доўгая тэлеграма. Будучыня

Апошняя частка майго пасланьня майму апошняму прэзыдэнту была прысьвечаная будучыні. Гэта найбольш важная і найбольш датклівая частка любой размовы. Няма таго, што раньш было, трэба дамаўляцца пра тое, што будзе.

У нашым выпадку, аднак, усё было ня так проста. За год пасьля выбараў я прыйшоў да высновы, што мы ўжо ў будучыні.

Гэта не праява пыхі. І не такая ўжо рэдкая сытуацыя. Асынхроннасьць увогуле тлумачыць бальшыню канфліктаў, ад сямейных і працоўных да ваенных і міжнародных. І бальшыню дасягненьняў — так рухаецца час, адбываецца любы прагрэс, ад мэдыцыны да паэзіі. Я нават прапанаваў быў прачытаць лекцыю на гэтую тэму ў Беларускім ПЭНе, калі ў 2018 годзе атрымаў прэмію імя Алеся Адамовіча за «Бібліятэку Свабоды». Канкрэтна тады

мяне натхніла кніга італьянскага фізыка і філёзафа Карлё Равэльлі «Парадак часу», якая толькі што выйшла, і мне карцела падзяліцца ягонымі адкрыцьцямі пра прыроду і раскіданы характар часу.

Мы былі ў будучыні ў параўнаньні са шмат якімі калегамі. У сваёй унікальнай будучыні. Мы працавалі іначай, бо мы так адчувалі час, так рэагавалі на заўтрашнія патрэбы і не хацелі марнаваць яго на паляпшэньне ўчорашніх падыходаў.

«Гэта сумнеўная абарона нават у найлепшыя часы. Але я лічу, што гэта праўда. Лічбы ня хлусяць. Паводзіны аўдыторыі не падманваюць. Нашая праца атрымлівае прызнаньне людзей, якія прафэсійна за ёй сочаць, калегі рэгулярна прызнаюць нашыя матэрыялы найлепшымі публікацыямі месяца».

Мая тэлеграма была ня толькі доўгая, яна яшчэ мела і дадатак. Асобна я прыклаў табліцу, дзе побач выставіў афіцыйныя паказчыкі працы за папярэдні месяц нашай і яшчэ дзьвюх службаў, якія было карэктна з намі параўноўваць. Пяць асноўных плятформаў, усяго каля паўсотні парамэтраў. У пераліку на мільён насельніцтва нашыя вынікі былі вышэйшыя: калі ўдвая, калі ў дваццаць, калі ў сто разоў. Плюс мы працавалі яшчэ і на іншых плятформах, на якіх калегі пакуль не прысутнічалі.

«Аднак…»

Аднак усё ня так, калі ў рыфму. Я прыгадаў, як звольніўся адзін мой старэйшы калега, зь якім я меў сяброўскія дачыненьні. Дэйвід Ньюман быў дырэктарам Ірацкай службы, а раней, падчас прэзыдэнцтва Рэйгана, амбасадарам ЗША ў Багдадзе, іншых сталіцах Блізкага Ўсходу і выдатна разьбіраўся ў эўрапейскіх вінах. Калі я спытаўся, чаму ён сыходзіць, Дэйвід адказаў: бо мне хлусяць. Ён меў на ўвазе абяцаньні, якія давалі службе ў Вашынгтоне. У маім выпадку гэта былі абяцаньні і чаканьні.

Катастрафічны правал з «Актам аб дэмакратыі Беларусі», зь неабходнымі рашэньнямі аб людзях.

Я пісаў свае думкі пра звальненьне, што з задавальненьнем заняўся б нарэшце кнігамі, якія хачу яшчэ напісаць. І назваў два фактары стрымліваньня.

«Першы — я любіў сваю працу і тое, што яна дае магчымасьць дапамагаць людзям у бядзе. Другі — ідзе вайна, сыход падчас вайны называецца дэзэртырствам».

Я прыводжу тут свае цытаты з жніўня 2021 году, бо яны перадаюць эмацыйную тэмпэратуру часу, якая страчваецца ва ўспамінах. Ня думаю, аднак, што эмоцыі тады цалкам засьцілі вочы. Я разумеў і прызнаваў, што мае праблемы — нішто ў параўнаньні з тым, што перажываюць на дыктатарскай вайне супраць свабоды нашы вязьні і мае калегі, БАЖ, ПЭН-Цэнтар, «Вясна», Прэс-клюб, беларускія незалежныя мэдыі ў Менску і рэгіёнах.

Я пісаў, што мая заклапочанасьць можа падацца прэзыдэнту празмернай, недарэчнай, нават паслужыць нагодай да звальненьня. Але пакуль гэтага ня здарылася, настойваў я, службе патрэбная свабода, магчымасьць працаваць незалежна, апэратыўна прымаць свае праграмныя, апэрацыйныя, бюджэтныя і штатныя рашэньні.

У мяне была практычная ідэя.

«Я маю прапанову: на гэты надзвычайны пэрыяд павысіць мяне да ўзроўню кіраўніка дэпартамэнту / віцэ-прэзыдэнта — з правам подпісу на дакумэнтах, якія датычаць Беларускай службы».

Фактычна я прапаноўваў альбо звольніць сябе альбо прызначыць віцэ-прэзыдэнтам. Я абяцаў заставацца ў рамках бюджэту пад наглядам аддзелу фінансаў, у рамках рэдакцыйнай палітыкі што да зьместу нашых праграмаў. Я не прасіў павышэньня зарплаты, нейкіх гарантыяў на будучыню — у гэтым допісе я абмежаваў яе для сябе годам-паўтара. У 2022 ці 2023-м павінна адбыцца зьмена кіраўніцтва службы, пісаў я.

Я адаслаў сваю тэлеграму ў нядзелю 8 жніўня.

Ня ведаю, якія шанцы мела мая прапанова сама па сабе. Але ў наступную нядзелю, 15 жніўня, паў Кабул.

Будучыню накрылі абломкі Афганістану. Абломкі чужой будучыні.

## Тэлеграмы не гараць

Доўгая тэлеграма ўсё адно закароткая, каб патлумачыць саму сябе. Словы патрабуюць гісторыі, а гісторыя словаў.

Каб нешта страціць, трэба гэта мець. Я меў падставы думаць, што мы мелі ўзаемаразуменьне.

У лістападзе 2020-га Беларуская служба атрымала сваю даўгую тэлеграму ад галоўнай рэдактаркі з пазнакаю «Важнасьць — высокая»; тэма была пазначаная: «Дзякуй — і захапленьне».

Дзякуй быў за нашую працу на пратэстах. Захапленьне выклікалі адвага і мужнасьць карэспандэнтаў, якія рызыкавалі пад дубінкамі, вадамётамі, гумовымі кулямі. Называліся імёны — Алега Грузьдзіловіча і яшчэ сямі чалавек, якія працавалі на вуліцы.

«Вашы рэпартажы зь перадавой робяць Свабоду надзвычайнай крыніцай навінаў — для сьвету, для РСЭ/РС, дзе ваша праца восем разоў сёлета адзначалася як “Найлепшая з найлепшых” на радыё, і самае галоўнае — для вашай аўдыторыі.

Апошнія тры месяцы мы не стамляліся падкрэсьліваць нашым кіраўнікам і прыхільнікам жыцьцёвую важнасьць таго, што Свабода застаецца ў самой Беларусі, дзе яна служыць як вушы і вочы ў гушчы адметнай палітычнай эвалюцыі.

Мы будзем рабіць усё, каб забясьпечыць юрыдычную падтрымку, каб захаваць бясьпеку і свабоду нашых людзей нягледзячы на брутальнае пазбаўленьне акрэдытацыі».

Тэлеграма гучала як асабістае пасланьне, і ня толькі таму, што было абяцаньне прыехаць у Менск і асабіста падзякаваць журналістам.

«І апошняе — як амэрыканка, я ня мела б рацыі, калі б не аддала належнае, які надзвычайны ўзор народ Беларусі паказвае Злучаным Штатам, усяму сьвету, дэманструючы, што азначае змагацца за дэмакратычныя прынцыпы. Гэтая надзвычайная дэманстрацыя датычыць і вас як журналістаў на перадавой, якія не спыняюцца паведамляць пра падзеі пасьля жнівеньскіх выбараў, што зьдзіўляюць і натхняюць.

Я адразу падумала пра Беларусь, калі ў гэтыя выходныя слухала, як абраная віцэ-прэзыдэнтам ЗША Камала Гэрыс цытуе кангрэсмэна і лідэра барацьбы за грамадзянскія правы ў сваім выступе пасьля перамогі на выбарах:

"Дэмакратыя ня стан. Гэта дзеяньне. І яна моцная настолькі, наколькі моцная наша воля за яе змагацца". Паводле гэтага крытэру, ёсьць усе прычыны, каб з надзеяй глядзець на будучыню дэмакратыі ў вашай краіне».

Подпіс канчаўся словамі «зь вялікай павагай…» — і яны не выглядалі як дзяжурная ветлівасьць.

Я і цяпер так думаю. Магчыма, схільнасьць успрымаць словы як справы ёсьць маёй хібай. А, можа, і нормай для журналістыкі. Хутчэй за ўсё і тым і тым.

Тэлеграмы не гараць.

## Ніякіх «віцэ»

У сярэдзіне жніўня 2021 году прэзыдэнт запрасіў мяне на гутарку, каб абмеркаваць маю «доўгую тэлеграму». У ягоным раскладзе на гэта была вылучаная гадзіна.

Годам раней я гаварыў зь ім пра адну публікацыю амэрыканскай дасьледніцкай карпарацыі *RAND*, пра-

панову рэформы вайскова-марскога флёту: перайсьці ад авіяносцаў і цяжкіх лінкораў да тысячаў меншых, часам без чалавека, суднаў. Гэта супадала з маім бачаньнем замежнага вяшчаньня. І 2021 год, калі нашыя калегі аказаліся раскіданыя па пяці краінах, гэта выдатна пацьвярджаў. Можна было рабіць якасную прафэсійную журналістыку, якая адпавядала кодэксу радыё, з-за мяжы, бяз офісу, бяз студыяў, без дапаможных службаў, якія пакрылі сабой усю кампанію і высмоктвалі рэсурсы.

У амэрыканскіх прафэсійных публікацыях пісалі пра журналістыку заўтрашняга дня, *distributed teams* — арганізацыю працы паводле функцыянальных прыкметаў, танна, мускуліста, апэратыўна, дзе галоўная вартасьць — уменьні самога рэпартэра і драйв каманды. Смартфоны, аплікацыі і сацыяльныя сеткі замянялі традыцыйную інфраструктуру.

Мы так і працавалі.

У 2015 годзе, па сьлядох расейскай акупацыі Крыму, мы прыдумалі цыкль «Расея і я» — тэматычныя інтэрвію з былымі прэзыдэнтамі краінаў-суседак Расеі пра іх урокі дачыненьняў з Крамлём. Усе дамовы з былымі кіраўнікамі дзяржаваў ад Эстоніі да Кіргізстану, плянаваньне падарожжаў ад Вільні да Тбілісі, пошук і наём мясцовых відэакамандаў у далёкіх сталіцах, аплата іх працы, падрыхтоўка і правядзеньне саміх гутарак, выбар месца, кантроль якасьці — усё гэта рабіў адзін чалавек. АДНА журналістка. САМАСТОЙНА. Нават макіяж. Радыё падключылася на стадыі мантажу і перакладу на ангельскую. Дванаццаць сэрый выклікалі фурор у Вашынгтоне, іх паказалі ўсе службы радыё*.

Калі б «Акт аб дэмакратыі Беларусі» выканаў свае абяцаньні, я б проста перавёз усю каманду ў Прагу ці на годным узроўні падтрымліваў бы іхную працу зь любой

---

* https://www.svaboda.org/a/27557192.html

суседняй краіны. Абяцаньні «Акту» аказаліся цацаньнямі, бюджэт зьменшыўся, і адзіны эфэктыўны шлях быў адразу рабіць журналістыку заўтрашняга дня.

Журналістыка сама стварае сваю будучыню — як любая вартая таго прафэсія, арганізацыя, чалавек. Праблема амэрыканскага замежнага вяшчаньня, на мой погляд, палягае ня ў тым, што Кангрэс вылучае недастаткова сродкаў. Агульны бюджэт расьце, зь пяцісот да васьмісот мільёнаў за апошнія дваццаць гадоў. Але гэтых грошай адначасна мала і зашмат.

Мала, бо для Расеі, напрыклад, гэта азначае паўцэнта на расяяніна ў год. Дзіва што бальшыня там падтрымае любую вайну, бо сама Расея ўкладае ў сотні разоў больш. Парытэтнае ўкладаньне запатрабавала б бюджэту Пэнтагону.

Зашмат, бо цяпер значная частка грошай не дасягае журналістаў у полі, а зьядаецца арэндай, будаўніцтвам і абсталяваньнем тэлестудыяў, груваскімі аддзеламі кадраў, юрыстаў, дыгітальнымі камандамі, тэхнічнымі службамі, вынаходніцтвам уласных колаў замест выкарыстаньня агульнадаступных праграмаў. Замежнае вяшчаньне прайграе вайну за аўдыторыю ня толькі дзяржаўным мэдыям, але і індывідуальным блогерам у *Facebook*, влогерам на *YouTube*, дзецям у *TikTok*.

Выкажу крамольную думку: прапанова адміністрацыі Трампа (*no love lost here*, гэта прэзыдэнт, які называў журналістаў ворагамі народу) радыкальна зьменшыць выдаткі на замежнае вяшчаньне паскорыла б трансфармацыю і рэформы*.

Нам было пра што пагаварыць з прэзыдэнтам, і гадзіна ў панядзелак сам-насам не выглядала задоўгай. Але гэта

* Калі ў 2022 годзе самы пасьпяховы прадпрымальнік плянэты Ілан Маск набыў *Twitter*, ён скараціў штат з 7,5 тысячаў да 2,7 тысячаў чалавек. Пры гэтым *Twitter* працягваў працаваць, не адбылося каляпсу — бязь дзьвюх трацінаў пэрсаналу.

быў панядзелак пасьля нядзелі, у якую талібан захапіў Кабул. Я ведаў, што апошнія дні прэзыдэнт займаўся эвакуацыяй нашых журналістаў, гэта была драматычная апэрацыя, з удзелам дыпляматаў у Вашынгтоне, Пэнтагону, вайскоўцаў у Афганістане, аховы аэрапорту, якую кантралявалі талібы. Калі аўтобус з нашымі калегамі праз шмат гадзінаў нарэшце прабіўся да агароджы, яго не прапусьціў амэрыканскі сэржант, якому не пасьпелі перадаць каманду. І ўсё трэба было пачынаць спачатку.

Ня самы ўдалы час для абмеркаваньня філязофскіх пасланьняў і рэарганізацыі мэнэджмэнту. Але сустрэча не была адмененая. Я вырашыў, што лепш застацца ў інфармацыйным рэжыме — расказаць, як, нягледзячы на самы вялікі шторм у нашай гісторыі, мы працягваем пасьпяхова выконваць місію, як выдатна журналісты працягваюць знаходзіць інфармацыю, здабываць унікальныя фота і відэа з-за мяжы, як, нягледзячы на блякаду сайту і запалохваньні, аўдыторыя застаецца са Свабодай.

У сярэдзіне гадзіны ў пакой быў запрошаны мой непасрэдны кіраўнік, і мы працягвалі гутарку: хто, дзе, чаму. Прагучалі заўвагі пра лічбавую бясьпеку, мы сапраўды зацягнулі з усталяваньнем новых фільтраў, хоць ад АМАПу, які прымушаў выдаваць паролі, яны не абаранялі. Прэзыдэнт загаварыў пра грант з Вашынгтону, які зваліўся мне як раяль на галаву, што яго важна пасьпяхова засвоіць, трэба, каб я вызначыў людзей, якія будуць гэта рабіць, падкрэсьлівалася важнасьць неадкладнага рашэньня, хто будзе займацца грантам. Калі гэта прагучала зноў, я ня вытрымаў.

Я спытаўся ў прэзыдэнта, чаму ён пра гэта гаворыць трэці ці чацьверты раз падчас сустрэчы? Ці ён сапраўды лічыць, што я мог займаць пасаду дырэктара чвэрць стагодзьдзя, не разумеючы, што такія просьбы трэба выконваць адразу?

Прэзыдэнт павярнуўся да майго начальніка — той пасьля паўзы сказаў, што так, імёны я прысылаў, і нешта пра няпэўную сытуацыю. Выглядала, што мела месца, як бы гэта далікатней сказаць, недакладнае інфармаваньне. Закранулі яшчэ некалькі аспэктаў, я перастаў цырымоніцца і называў некаторыя прынятыя рашэньні проста дрэнным мэнэджмэнтам. Сустрэча завяршылася ніякавата.

Было відавочна, што маё пасланьне стала не прадметам абмеркаваньня, а прадметам абвяржэньня.

Я падазраваў, што так можа быць — і напісаў пра гэта ў доўгай тэлеграме. Апроч двух варыянтаў, звольніць мяне ці павысіць, быў трэці: не прымаць ніякага рашэньня, пакінуць, каб усё ішло, як ідзе, — з прадказальным вынікам.

Я вярнуўся ў свой кабінэт, знайшоў публікацыю ў прафэсійным часопісе пра *distributed teams*, паслаў прэзыдэнту і заняўся сваімі справамі.

Стаць віцэ-прэзыдэнтам, як я прапаноўваў у сваім допісе, мне яўна не пагражала. Мы засталіся кожны ў сваім часе, і разрыў толькі павялічыўся.

## Катлета па-кіеўску

Дакумэнт, падрыхтаваны аддзелам кадраў на пачатку верасьня 2021-га сваёй дасканаласьцю нагадаў мне адну песьню Леанарда Коэна: усё завершана, скончана, больш няма, ня будзе, фініта, кода, канец.

Плян пераводу часткі людзей у Кіеў, а другой часткі ў падвешаны стан фрылансэрства быў дэталёва распрацаваны, усебакова абгрунтаваны, юрыдычна запакаваны. Начальства зрабіла гэта безь мяне, вырашыўшы не чакаць, пакуль я стану віцэ-прэзыдэнтам ці адумаюся.

Я спрабаваў перацягнуць на свой бок начальніка службы бясьпекі, даводзячы, што Кіеў перастаў быць бясьпечным месцам, ён пагаджаўся, але спыніць працэсу не ўдалося.

Кіеў абвяшчаўся базай для нашых журналістаў, але не для ўсіх — начальства казала пра чалавек дзесяць. Гэтыя журналісты будуць працаваць на грант і атрымаюць новыя кантракты.

Мне гэты падыход страшэнна не падабаўся, у ім была агідная несправядлівасьць — усе, хто быў вымушаны выехаць зь Беларусі, на маё перакананьне, мелі роўныя правы. Я лічыў падзел амаральным, штучным і шкодным.

Увесь час дырэктарства мы імкнуліся будаваць у службе культуру, дзе ўсе маюць агульныя прафэсійныя каштоўнасьці, правы і магчымасьці ўплыву. Кожны тыдзень, напрыклад, мы праводзілі агляд працы, зь якім па чарзе выступалі ўсе журналісты. Кожны аглядальнік мог ня толькі ацаніць працу калег, раскрытыкаваць ці пахваліць, выказаць прапановы, але меў і права прысудзіць грашовыя прэміі. І яны абавязкова дадаваліся да зарплаты штомесяц. Ня чуў, каб рабілася так у іншых службах, можа таму, што гэта не зусім кашэрна зь гледзішча правіл і інструкцыяў.

Я ганаруся — і гэта заслабое слова — той узаемадапамогай, ініцыятыўнасьцю, ахвярнасьцю, якія дэманстравалі нашы калегі падчас рэпрэсіяў у Беларусі, падчас ратаваньня за мяжой. Салідарнасьць вырастае з культуры, якая аб’ядноўвае, а не падзяляе.

Але мая роля была ўжо тэхнічная. Я мог толькі глядзець на службовую перапіску з нашымі журналістамі. Усе лісты пра кантракты, умовы і месца працы рыхтаваў аддзел кадраў. Мне было забаронена іх нават перасылаць і камэнтаваць.

Неяк позна ўначы, адказваючы на нейкі запыт у групавым мэйле з начальствам, я прызнаўся, што мне не хапіла

фантазіі дадумацца, што ў разгар пандэміі ў супрацоўнікаў можна забіраць мэдычную страхоўку, ад журналістаў на выгнаньні патрабаваць вярнуць старыя кампутары. Было там яшчэ пару стылёвых вольнасьцяў.

Частка кіраўніцтва палічыла мой допіс абразьлівым, наўмысна зьневажальным і крыўдным. Мяне гэта парадавала. Ад тэмпэратуры начной перапіскі дымілася клявіятура.

Назаўтра я пачаў рыхтаваць справы для перадачы свайму намесьніку, бо думаў, што не дапрацую да канца дня.

Прымусовыя звальненьні на радыё адбываюцца даволі хірургічна: размова з аддзелам кадраў, адключэньне доступу да сыстэмаў камунікацыі, патрабаваньне здаць тэхніку, паўгадзіны на зборы пад наглядам ахоўніка, які праводзіць потым да дзьвярэй. Так робіцца зь меркаваньняў бясьпекі і юрыдычных умоваў.

Прэзыдэнта ў чэрвені 2020 году ўвогуле звольнілі праз электронную пошту, з пазнакаю, што загад уступае ў сілу неадкладна, у гэтую ж хвіліну.

Некалі я напісаў пародыю на расейскі рэстаранны шансон, там былі такія радкі:

*Котлеты нет печальнее на свете,*
*Чем киевская в соусе грибном.*
*Я буду долго драться в туалете,*
*Не зная с кем, но думая о том…*

Далей ішло, пра таго, пра каго герой думаў. Ня Коэн, канечне, але, як аказалася, і ня поўны канец.

Пачуўшы, што мы зьбіраем грошы на тэхніку для калег у выгнаньні, прэзыдэнт умяшаўся і зрабіў выключэньне — кампутары ў тых, хто ня трапіў у Кіеў, дазволілі не забіраць. Аказалася, усё ж можна.

Дзякуй і за гэта, як пісаў Купала.

У сьнежні 2021 году тры нашыя журналісты былі за кратамі, яшчэ двое пад сьледзтвам і падпіскай аб нявыезьдзе. Прэзыдэнт радыё прыняў рашэньне прыпыніць ад Новага году працу журналістаў Свабоды ў Беларусі.

Рашэньне вывесьці войска з-пад абстрэлу было рацыянальным. Але 24 лютага Расея напала на Ўкраіну, Беларусь стала саўдзельніцай агрэсіі, і нашыя праблемы адсунуліся з другога на трэці плян.

Але не для мяне.

## Расчляненьне трупаў

Я не люблю характарыстыкі. Ні атрымліваць, ні пісаць, ні чытаць, ні рэдагаваць. Хоць адна зь першых маіх газэтных публікацыяў у Беларусі называлася «Характарыстыка».

У Горадні хлопец разрэзаў дзяўчыну на кавалкі і ўтапіў іх у Нёмане. Сьледчая справа брыняла крывёю і чарнілам — вінам мясцовай вытворчасьці. Да справы былі падшытыя характарыстыкі, цікавыя толькі тым, што нецікавыя. Удзельнічаў, праяўляў, паказвала прыклад, старанная, таварыскі… Я спрабаваў вывесьці мараль, што калі б характарыстыкі былі карэктныя (п’янства, прагулы, загулы, запоі, нежаданьне вучыцца), трагедыі можна было б пазьбегнуць. Лёс зрабіў бы зыгзаг, і забойца абмінуў бы ахвяру.

Аднак мараль магла быць і супрацьлеглай: п’юць, гуляюць і прагульваюць многія, і характарыстыкі ва ўсіх пад капірку, але расчляняюць сваіх сяброўак адзінкі. І такім чынам тыя характарыстыкі ўратавалі ад маньяка ўсіх астатніх.

У газэце надрукавалі першую частку. Артыкул выйшаў даўно, з таго часу я сам мусіў напісаць столькі характарыстык, што можна выдаць тоўсты том.

Гэта да чаго: 2019-ты, апошні мірны год перад пандэміяй, на радыё завяршала вялікая агульная сустрэча з новым прэзыдэнтам. Фармат *town hall* — адкрытая плятформа, калі кіраўніцтва падводзіць вынікі, прадстаўляе пляны, і кожны можа задаць публічна пытаньне ў адкрыты мікрафон.

Новы прэзыдэнт выклікаў на шчырасьць, калі прасіў уносіць прапановы і задаваць пытаньні. Я ўзяў мікрафон і прапанаваў скасаваць аддзел кадраў, *Human Resources*. Ну, не зусім — прапанаваў адмяніць абавязковыя штогадовыя характарыстыкі, дзе даюцца ацэнкі працаўнікам.

Аддзелы кадраў у Амэрыцы стварылі цэлую навуку такога ацэньваньня, з падручнікамі і манаграфіямі, курсамі ва ўнівэрсытэтах і школах бізнэсу, агенцтвамі кансультантаў і адмыслоўцаў.

На радыё гэты працэс стаў нагадваць падрыхтоўку да палёту на Месяц. Ужо ўлетку пачынаюцца першыя падземныя штуршкі, напамінкі, што мэнэджэрам трэба рыхтавацца. У зацьверджаным фармуляры — дзясяткі вызначэньняў, існуе адмысловы вакабуляр, складаецца падрабязны расклад трэнінгаў, этапаў пісаньня, абмеркаваньняў з начальствам, з журналістамі, ідуць бясконцыя згадкі на нарадах, колькі зроблена, завершана, колькі засталося. Працаўнікі павінны таксама пісаць пра сябе, пацьвярджаць, абмяркоўваць, зноў пацьвярджаць…

Пры гэтым амаль кожны новы загадчык аддзелу кадраў мяняў сыстэму: то трэба было адзначаць асабістыя якасьці, то не, шкала ацэнак раптам скарачалася зь пяці да трох, ад працаўнікоў то патрабавалася пазначыць, што яны прымаюць ацэнкі, то, наадварот, дастаткова было пазначыць, што азнаёміліся. Гэта не азначае, што вы згодныя, тлумачылі кадравікі, — а што тады азначала?..

Гэтая справа марнавала столькі часу і нэрваў ва ўсіх, што ніякі пазытыўны вынік яе не апраўдваў. Былі і сьлёзы, і крыўды, і напружанасьць. Нармальныя мэнэджэры пра-

цуюць з супрацоўнікамі і ацэньваюць іх увесь час, вусна і пісьмова, ніхто не чакае год, каб выправіць хібы ці адзначыць посьпехі. Маўчаць, зьбіраць заўвагі, каб потым выліць халодны цэбар на галаву, — не гігіенічна і не эфэктыўна.

Сваю прапанову я падмацаваў прыкладамі: амэрыканскія дасьледаваньні сьведчылі, што менш за 15% супрацоўнікаў кажуць, што ацэнка працы дапамагае яе палепшыць, рэйтынгі спараджаюць нездаровую атмасфэру, перашкаджаюць талентам, выклікаюць грашовыя страты. Ад іх ужо адмовіліся вядучыя амэрыканскія кампаніі, ад фінансавага гіганта *Deloitte* да лідэраў Сыліконавай даліны *Adobe*, *Accenture*. Нават вялікі і магутны *General Electric* спыніў сваю сусьветна вядомую практыку вызначэньня лепшых і горшых.

Я гэта ведаў, бо навука мэнэджмэнту мяне сапраўды цікавіла, я купляў кніжкі лідэраў бізнэсу, парады адмыслоўцаў, чытаў прафэсійныя часопісы, сачыў за гэтай захапляльнай сфэрай узаемадзеяньня людзей у кампаніях. Я думаю, дарэчы, што без такой навукі наўрад ці можна эфэктыўна працаваць дырэктарам.

Маімі героямі былі Бэн Брэдлі і Кэтрын Грэм з *The Washington Post*, Джэк Ўэлч з *General Electric* і, канечне, бацька сучаснай навукі пра эфэктыўны мэнэджмэнт Пітэр Друкер. Я нават працытаваў Друкера: няма нічога больш бескарыснага, чым эфэктыўна рабіць тое, што ня трэба рабіць увогуле.

Маю прапанову выслухалі, і начальніца аддзелу кадраў патлумачыла, што ацэнка працы вельмі патрэбная, і мы не камэрцыйная арганізацыя, а атрымліваем грант ад Кангрэсу. Прэзыдэнт, які быў на пасадзе першыя месяцы, пагадзіўся. Потым я паглядзеў грант — ён патрабуе ацэньваць вынікі працы, а не працаўнікоў.

Пасьля сходу да мяне падышлі некалькі дырэктараў, старшыня чэскай прафсаюзнай арганізацыі, усе падтрымалі, і мы разышліся.

На гэтым усё скончылася. Я так думаў. Нават ня думаў, забыўся. Насоўвалася пандэмія, пачынаўся выбарчы год, думкі былі пра іншае.

Рэч была ня ў тым, што мая прапанова была нясвоечасовая. Было горш — я зноў пакрыўдзіў шмат людзей. Цэлы аддзел кадраў, усе *Human Resources*.

А гэтаму аддзелу нічога чалавечага не было чужое.

## Сэкс па-аўстралійску

У сярэдзіне сьнежня 2021-га я атрымаў чарговую характарыстыку — афіцыйную ацэнку сваёй працы за пэрыяд з жніўня 2020 да верасьня 2021 году.

Гэта была самая доўгая працоўная характарыстыка за ўсе мае тры дзесяцігодзьдзі на радыё — 1156 словаў, у пяць разоў большая за звычайныя. І ня толькі таму, што парушыла фармат і ацэньвала падзеі аж да канца 2021 году.

Гэта гатовы разьдзел гэтай кнігі. Шкада, што не магу проста даць дакумэнт у перакладзе і пакінуць без камэнтару тое, што там напісана. Але ня я пісаў, гэта ўнутраная дакумэнтацыя, не мінуў час, патрэбны для публікацыі.

Аднак мне здаецца важным даць у гэтай кнізе погляд зьверху на сябе і свае праблемы. Хоць у пераказе, але без скажэньняў.

Першыя два сказы былі пра цяжкі год. Трэці сказ пачынаўся супраціўным злучнікам «аднак», і наступныя 36 сказаў яго расшыфроўвалі. Указвалася, што мае намаганьні часта рабіліся аднаасобна, без выкарыстаньня належных каналаў камунікацыі і ўхваленьня, што я пастаянна дзейнічаў па-за межамі сваёй ролі і абавязкаў. Што я не паведамляў пра важныя рашэньні, што кіраўніцтву самому даводзілася шукаць шляхі і ажыцьцяўляць рашэньні, якія былі маёй адказнасьцю. Што я ігнараваў

заданьні адабраць людзей для Кіева, што людзі самі вырашалі, куды ехаць ратавацца, што ім не патлумачана, якая будучыня іх чакае, што яны памылкова думаюць, што Расейская служба атрымала большую падтрымку, што ня ведаюць, што такое грант Дзяржпартамэнту, што начальства мусіла само рабіць новыя кантракты для адабраных у Кіеў, што ня выкарысталі сродкаў на тэхнічную мадэрнізацыю службы, што марудна вырашалі пытаньні кібэрбясьпекі, што Андрэя Кузьнечыка арыштавалі і ўзламалі тэлеграм-канал таму, што яму дазволена было працаваць, і што ўсё гэта ідзе ад майго фірмовага стылю індывідуальнага прыняцьця рашэньняў і адсутнасьці жаданьня думаць стратэгічна і адказна, у рамках бюджэту і структуры мэнэджмэнту.

У канцы ўказвалася, што ад мяне чакаецца, што я буду камандным гульцом, які паважае карпаратыўную стратэгію, арганізацыйныя перамены, правілы і працэдуры, указаньні, дадзеныя маім кіраўніком.

Як і абяцаў, ня буду камэнтаваць таго, што напісана. Пракамэнтую толькі тое, чаго няма.

У ацэнцы працы не было ні слова пра працу. Пра журналісцкую працу, пра тое, за што ўвесь гэты год мае калегі і я атрымлівалі зарплату.

Гэта была размова па-аўстралійску: мы глядзім адно на аднаго і бачым усё дагары нагамі. У сэксе гэтая пазыцыя называецца «партнэры сьпінамі адно да аднаго».

Мой уклад у навуку мэнэджмэнту.

## Ці звольніў бы я сябе сам

Радыё ў маёй біяграфіі было шостым месцам працы, і папярэднія пяць я пакінуў не зусім па сваёй волі.

У працоўнай кніжцы ўсюды гуманна напісана пра ўласнае жаданьне, толькі не ўдакладняецца, хто яго

выказаў. У адной арганізацыі мяне як самага маладога ўключылі ў склад інвэнтарызацыйнай камісіі, і калі я стаў пытацца, чаму на складзе лыжы замест піяніна, выключылі адразу адусюль. У другую мяне ўзялі на месца цяжарнай, якая сышла ў дэкрэтны адпачынак, але праз тры месяцы паведамілі, што яна зь яго выйшла. Пра заканчэньне кар’еры перакладчыка на будаўніцтве помпавай станцыі ў эгіпецкай пустыні лепш і ня згадваць — мяне разам зь іншымі выслалі з краіны на загад прэзыдэнта, якога адразу ж і застрэлілі.

Апошняя перад Свабодай праца ў Менску на пасадзе галоўнага рэдактара найбуйнейшага выдавецтва краіны мела свае памятныя падзеі. Гэтую пасаду я заняў у БССР, а скончыў у Рэспубліцы Беларусь. На агульным сходзе, калі абіралі на пасаду (была тады такая рэвалюцыйная практыка), за мяне прагаласавалі 98 чалавек са 100 прысутных. (Сьмех і сьлёзы: Вацлаў Гавэл засмуціўся, калі парлямэнт адзінагалосна абраў яго прэзыдэнтам. Для дэмакратыі важнейшая большасьць, а не абсалют. Перастараліся напалоханыя камуністы.)

На пачатку рэдактарства я адмяніў у адрыўным календары чырвоны колер на дзень 7 лістапада, перамену заўважылі дэпутаты парлямэнту, і гадавіна бальшавіцкага перавароту зьнікла зь ліку дзяржаўных сьвятаў. На сярэдзіну майго кіраваньня прыпаў камуністычны путч, і заклік забараніць партарганізацыю ў выдавецтве, які я напісаў і вывесіў на сьцяне, падтрымалі самі члены партыі. Гэта было дзяржаўнае выдавецтва, і ў канцы адна з апошніх падпісаных мной у друк кніг заслужыла публічную крытыку самога прэм’ер-міністра.

Мяне не пасьпелі звольніць — адчувалася, што выбух кнігадрукаваньня і гістарычнай галоснасьці мінаў, і я сышоў сам. Было ўжо зразумела, чаму можна за адно і тое ж узяць на працу за позьнім савецкім часам і звольніць у ранься постсавецкі.

Праца на Свабодзе — зусім іншы досьвед. Тры дзесяцігодзьдзі на адным месцы, нават зь перапынкамі, заўважныя, як тры піраміды ў Эгіпце і суседні зь імі сьфінкс. Заўважна — ясна чаму, з-за памеру, але незразумела — як.

Мае «чаму» і «як» аб'ядналіся ў 2021 годзе, і атрымаўся «чмяк» — сутыкненьне дзьвюх сілаў і розных мэтаў.

Калі паглядзець на паводзіны дырэктара, які не выконвае, парушае, адмаўляецца, піша няпрошаныя прапановы, дзейнічае праз галаву, крытыкуе, ігнаруе, не згаджаецца, робіць па-свойму нягледзячы на загады, патрабуе большых паўнамоцтваў — натуральна, узьнікае пытаньне: ці варта такога трымаць?

Так, пры гэтым робіцца справа, але… Нікога з вышэйшага кіраўніцтва ніколі не зьнялі за слабыя паказчыкі службаў. Вынікі працы ня мелі вырашальнага значэньня, дый пра якія вынікі прэзыдэнта можна казаць пры непрадказальнай ратацыі — мела значэньне палітычная падтрымка гэтак званых трымальнікаў акцыяў. Тых, хто галасаваў за бюджэт, іх памочнікаў, ведамаснага кіраўніцтва. І вынікі працы — толькі частка аргумэнтаў у барацьбе за такую падтрымку.

За слабую працу здымаюць ня хутка. Нават за скандалы здымаюць не адразу. У адной сярэднеазіяцкай службе друкавалі фактычна прэс-рэлізы дыктатара той краіны. Дырэктарка службы і яе вышэйшы кіраўнік мусілі сысьці. Але гэта адбылося пасьля двух гадоў публічнай крытыкі звонку.

А за такое трэба было выганяць адразу. Як было чытаць гэтыя тэксты праваабаронцам, вязьням, сем'ям замучаных у катавальнях ахвяраў?

Вяртаючыся да дапамогі... У траўні 2022 году мне прынесьлі пакунак — батарэі для новай відэакамэры. Старую нам пашкодзілі падчас рэпартажу яшчэ ў канцы 2019 году — невядомыя спартовыя малойцы нярэдка

псавалі тэхніку падчас жывых рэпартажаў. Прэзыдэнт радыё, які пачуў пра здарэньне, асабіста загадаў неадкладна замяніць камэру. Пакуль тэхнічны аддзел вырашаў, якую, з улікам стратэгіі, выбраць, пакуль замовілі ў Амэрыцы, пакуль даслалі ў Прагу, мінула паўгоду. Буяў ковід, ніхто не падарожнічаў. Мы ўсё ж прыватным чынам пасьпелі даставіць камэру ў Менск да выбараў, але яна так і не змагла запрацаваць, бо не хапала гэтых спэцыфічных акумулятараў.

Увесь 2020 год мы працавалі на старой тэхніцы, камэра ляжала ў схованцы. Потым, пасьля пагрому бюро, з рызыкай вывезьлі захаванае каштоўнае абсталяваньне ў Кіеў. Цяпер, у сярэдзіне 2022-га, калі дэфіцытныя акумулятары ляжалі ў мяне на стале, не было ўжо як і каму іх перадаваць, і я казаў усім цікаўным, што гэта падстава для звальненьня, — і ня тэхніка ці інжынэра, а начальніка тэхнічнага дэпартамэнту. І ня толькі.

Магчыма, так казалі і пра мяне. Пытаньне ў назьве гэтага разьдзелу не надуманае. Калі частка цэлага паводзіць сябе незалежна, можа разваліцца ўсё цэлае. Але цэлае — ня вартасьць сама па сабе, яно можа замінаць разьвіцьцю, душыць сваім цяжарам будучыню. Імпэрыі, як вядома, бывалі розныя — але час вэртыкальных структураў мінае.

Ня ведаю, ці хапіла б мне талерантнасьці ня звольніць самога сябе. Спадзяюся, хапіла б. Хоча чалавек працаваць больш? Хоча расьцягнуць свае рэсурсы на дзесяць плятформаў? Выдаваць кнігі? Рабіць ратацыі? Пачынаць ТВ, сканчаць ТВ? Працаваць бяз офісу? Бярэ адказнасьць? Выконвае місію, дае вынікі? І пры гэтым не патрабуе павышэньня зарплаты? Халера зь ім.

Але, але… Сілу ўдару ведае толькі той, хто яго атрымлівае. Самастойнасьць падначаленага можна разглядаць як пазытыўную рысу, а можна — як падрыў аўтарытэту, адсутнасьць даверу, шкодную непрадказальнасьць, фанабэрыстасьць, пагарду і ўсе іншыя сынонімы. А калі чала-

век слабы (насамрэч, усе слабыя, і я таксама) — як пагрозу сабе, сваёй пасадзе, сваёй рэпутацыі, сваёй будучыні. Калі даць слабасьці ўвабрацца ў сілу, такія пагрозы адбіваюцца прэвэнтыўна, жорстка і да канца.

Трэба аддаць належнае майму кіраўніцтву, тром дзясяткам розных начальнікаў, зь якімі я працаваў у розныя гады: сярод іх былі моцныя асобы, і зь імі працаваць было адно задавальненьне. Яны не баяліся за свае месцы і цікавіліся найперш справай, і падтрымлівалі, і падштурхоўвалі, і ўзнагароджвалі.

Але галоўнай узнагародай заўсёды была сама праца. Што можа быць лепшым за занятак, які падабаецца, які любіш, калі прачынаесься раніцай і хочацца на працу, якую чым больш робіш, тым больш атрымліваеш энэргіі і асалоды. І канечне, мне было чаму павучыцца ў майго начальства, з досьведам працы ў розных краінах, розных мэдыях, ва ўрадзе, у палітыцы, у бізнэсе. Але так было да 2021 году.

У 2020 годзе свабода і Свабода ў Беларусі дасягнулі свайго найвышэйшага піку ў мірных умовах. Далей пачалася вайна. Не расейская супраць Украны, да якой будзе яшчэ паўтара году, а дыктатарская супраць Беларусі. Не рэпрэсіі супраць апазыцыі, а зьнішчэньне будучыні.

І на гэтай вайне для мяне галоўнай задачай быў ня штурм вяршыняў і не заняцьце пазыцыяў, не выкананьне стратэгічных плянаў і ўказаньняў камандаваньня, не захаваньне герархій і дысцыпліны, а зьберажэньне людзей.

І выкананьне журналісцкай місіі.

## Магло быць горш

На загаловак гэтага разьдзелу, праўдзівага, як праўда, і сумнага, як некалі аднайменная газэта, ёсьць толькі адзін годны адказ: а магло і лепш.

Скончыўшы зь філязофіяй, час узяцца за гісторыю: я ўзгадаў, што аднойчы быў у падобнай, хоць і не такой экзыстэнцыйнай сытуацыі, з гадавой ацэнкай працы.

Амаль усе тры дзясяткі маіх гадоў на радыё былі пазначаныя верхняй адзнакай, яна называлася па-featureрознаму, мела ад трох да пяці ступеняў.

У той год я працаваў у Афганскай службе і скончыў яго рэкордам амэрыканскага замежнага вяшчаньня: нас слухала больш за тры чвэрці афганцаў. Мы дасягнулі гэтага выніку без дадатковага бюджэту, бяз новых перадатчыкаў, бяз новых людзей, супраць моцнай канкурэнцыі, пакінуўшы ззаду шматгадовага лідэра афганскага этэру Бі-Бі-Сі.

Гэта была заслуга таленавітай каманды — я толькі дапамог з арганізацыяй свабоды для супрацоўнікаў і арганізацыяй этэру для слухачоў. Ну і трохі зьмяніў абавязкі ў самой службе, што выклікала выкід энэргіяў у розныя бакі, у тым ліку і скаргі, канечне: ад міністраў афганскага ўраду да недатыкальных асобаў у самой службе ў Кабуле і Празе.

У Вашынгтоне з нагоды рэкорднага выніку выпусьцілі віншавальны прэс-рэліз. У Празе мая непасрэдная кіраўніца ацаніла той мой год працы на бал ніжэй, чым папярэдні, зарплату вярнулі на ніжэйшы ўзровень.

Мой наступнік на пасадзе дырэктара, заслужаны мэдыямэнэджэр з Вашынгтону, паабяцаў палепшыць нашы паказчыкі і пабіць нашы рэкорды і на працягу наступнага году ні разу больш са мной не загаварыў пра працу і пляны. Наступнае вымярэньне зафіксавала падзеньне аўдыторыі на 20%, і так там і заставалася, пакуль ён не пайшоў на павышэньне.

Адказы на «чаму» не абавязкова шукаць у кітайскіх кнігах пра мэнэджмэнт тысячагадовай даўніны. Можна ў кіно.

У фільме 2022 году *Top Gun: Maverick* амэрыканскі адмірал пералічвае ўсе рэкорды і ўзнагароды героя Тома Круза, пілёта-аса, і саркастычна пытаецца, чаму ж пры такіх заслугах ён толькі капітан:

«Адна з загадак жыцьця, сэр!»

Мастацтва сарказму ня менш старажытнае за мастацтва вайны.

## Праблема сьцяны

Сьцяны перастала хапаць у 2020 годзе: мы атрымалі восем узнагародаў за найлепшыя матэрыялы месяца сярод усіх рэдакцыяў радыё, і галоўную ўзнагароду году за працу на выбарах. Увесьці ўнутрырадыйнае спаборніцтва на рэгулярнай аснове было адным з маіх прыярытэтаў, калі я выконваў абавязкі галоўнага рэдактара радыё. За дзясятак гадоў з таго часу мы атрымалі столькі ўзнагародаў ад сваіх калег па прафэсіі, што на сьцяне ў маім кабінэце не засталося месца для вывешваньня.

Я лічыў важным гэтую публічную дэманстрацыю прызнаньня — журналісты павінны адчуваць, што іх цэняць, шануюць, паважаюць, адзначаюць. Бо журналісты таксама людзі, а добрыя журналісты заўсёды амбітныя.

Амбітных у Беларусі ня любяць. Зрэшты, іх ня любяць нідзе.

«Амбітнасьць — страшны грэх, і кажа Брут, што Цэзар быў амбітны, а Брут — прыстойны чалавек», — дам у сваім перакладзе гэты радок з маналёгу Антонія ў шэксьпіраўскай трагедыі, які ў інʼязе я завучваў напамяць.

Уся рэч у тых, вядома, хто ня любіць. З маіх і Шэксьпіра назіраньняў, найбольш ня любяць найбольш амбітныя і найменш здольныя.

Каб не павялічваць колькасьць нелюбові, ня буду пералічваць усіх нашых узнагародаў, якіх больш за сотню.

Скажу толькі пра дзьве — адну, якую атрымалі, і адну, якой не атрымалі.

Галоўная прафэсійная ўзнагарода амэрыканскага замежнага вяшчаньня называецца «За выдатную журналістыку» і носіць імя першага кіраўніка гэтай арганізацыі Дэйвіда Бэрка. Яна прысуджаецца раз на год, звычайна асобным журналістам, часам усёй службе ці бюро ў нейкай краіне. Радыё Свабода, «Голас Амэрыкі», Радыё Свабодная Азія, Блізкаўсходняя сетка, Кубінскі офіс пасылаюць сваіх кандыдатаў у наша міністэрства — Агенцтва глябальных мэдыяў (*USAGM*) — і там абвяшчаюць пераможцаў.

Як правіла, пераможцу выбіраюць самі ўстановы — каго пашлюць, таго і ўзнагародзяць і выпішуць салідную прэмію. Тым ня менш канкурэнтнасьць узнагароды вельмі высокая: «Голас Амэрыкі» вяшчае на 48 мовах, Свабода на 27, Свабодная Азія на 9 — ёсьць з чаго выбраць.

2020-ты быў нашым годам. Мы атрымалі рэкордную колькасьць прафэсійных перамог на радыё, у тым ліку найважнейшую гадавую, у катэгорыі «Навіны і бягучыя падзеі». Наша праца была адзначаная галоўнымі незалежнымі прэміямі ў Беларусі. «Гонар журналістыкі» імя Алеся Ліпая атрымала наша калега, прэмія імя Гедройця была прысуджаная за нашу кнігу «Бібліятэкі Свабоды», рэпартажная праца адзначаная прэміяй Беларускай асацыяцыі журналістаў. Мы мелі найбольшую за ўсю гісторыю Свабоды аўдыторыю і найбольш удзячную. Мы заплацілі найвышэйшую цану за сваю працу — затрыманьні, зьбіцьцё, арышты, турма, блякада. На сайце *USAGM* за 2020 год было больш заяваў у падтрымку Беларускай службы, чым пра ўсе сто астатніх разам узятых.

Начальства ў 2020 годзе не забывала пра пахвалы:

«Калегі па Свабодзе,

сапраўдны кошт каманды праяўляецца ў самыя крытычныя моманты.

Так было з усім РСЭ/РС апошнія некалькі месяцаў. Але асабліва справядліва гэта для вас у Беларускай службе, якая адважна паведамляла пра нядбайнасьць уладаў падчас пандэміі каронавірусу і ў выніку стала мішэньню для затрыманьняў, запалохваньня, пагрозаў закрыцьця за ваша асьвятленьне пікетаў салідарнасьці і рэпрэсіяў перад выбарамі.

Але нават у чорны час ёсьць моманты сьвятла — і гэта факт, што ваша аўдыторыя ідзе да вас у беспрэцэдэнтнай колькасьці па рэпартажы без цэнзуры, якіх больш нідзе нельга атрымаць.

У гэтым багатым на падзеі чэрвені Свабода спазнала:

найбольшы за ўсю гісторыю трафік на вэбсайце, 1,5 мільёна чалавек (на 58% больш);

3,1 мільёна праглядаў відэа на *Facebook* — утрая больш, чым месяцам раней;

у чатыры разы вырасла аўдыторыя ў *Instagram*, якая глядзела відэа 1,5 мільёна разоў;

неверагодныя 96 мільёнаў праглядаў на *YouTube*, на піку ваш стрым зь пікету атрымаў 800 тысячаў праглядаў.

Гэтыя лічбы сьведчаць, што ва ўмовах крызісу людзі зьвяртаюцца да голасу, якому можна давяраць. Ашаламляльны рост у чэрвені даводзіць, што Свабода абсалютна ўнікальная ў тым, што дае аўдыторыі ясныя, грунтоўныя рэпартажы, якія адлюстроўваюць сапраўднае жыцьцё ў Беларусі.

Самая вялікая сіла, якую можа прапанаваць мэдыйная арганізацыя, — гэта бачыць, што бачыць яе аўдыторыя, і тлумачыць, чаму гэта адбываецца. Свабода заўсёды была надзвычай гуманістычнай службай; чэрвень 2020 году — толькі апошні доказ гэтага посьпеху.

Вашая праца будзе асабліва важная ў наступныя месяцы. Мы тут, каб зрабіць усё магчымае, каб гарантаваць бясьпеку і працаздольнасьць Свабоды ў час, калі вы будзеце патрэбныя сваёй аўдыторыі як ніколі».

Гэтыя словы прызнаньня мы атрымалі ў ліпені 2020 году. Далей усе нашы паказчыкі толькі расьлі, аж пакуль супраць службы і аўдыторыі не пачалася вайна на зьнішчэньне.

Але мы не атрымалі ўзнагароду імя Дэйвіда Бэрка за 2020 год.

Прычыны былі дзьве: каляндар і я сам.

Цяжка сказаць чаму, але ўзнагароды за мінулы год даюць амаль у канцы наступнага, калі трэба ўжо б падумаць пра новых намінантаў. Так было не заўсёды, але апошнія гады графік істотна пасунуўся. У канцы 2021 году сьцяна, якая разьдзяляла мяне і начальства, вырасла да такой вышыні, што мы амаль ня бачылі адно аднаго.

Калі паглядзець на старонку пра ўзнагароды Дэйвіда Бэрка на сайце Агенцтва глябальных мэдыяў, дык у пераможцах 2020 году стаіць адна сярэднеазіяцкая служба (тая, што перастала друкаваць афіцыйныя прэс-рэлізы) — з тлумачэньнем, што гэта за яе працу ў 2019 годзе. І ўся аргумэнтацыя датуецца 2019 годам. І калі ўручалі, казалі пра 2019-ты.

У 2021 годзе начальства вырашыла, што ўзнагароду за выдатную працу ў 2020 годзе трэба даць не за журналістыку, а за… уцёкі.

Гэта ня жарт. Радыё прапанавала адзначыць прэміяй Бэрка *journalists on the run* — журналістаў, якія мусілі ўцякаць ад перасьледу. Гэта было як даваць гораду званьне героя за тое, што яго разбамбілі. Афганская, Беларуская і Расейская службы былі аб’яднаныя ў адну намінацыю. Праўда, з Афганістану журналісты пачалі ўцякаць у 2021 годзе, з Расеі сыход пачаўся з пачаткам вайны супраць Украіны ў 2022-м.

У Вашынгтоне намінацыю адрэдагавалі, і ў выніку прэмію атрымалі двое калег з Расейскай службы, адна зь іх у траўні 2021 году з Масквы пераехала працаваць у Прагу, другі праз месяц у Кіеў. Рады за іх.

У любым выпадку, гэта была прэмія 2021 году — 2020-ты проста зьнік.

А ўзнагароду «За выдатную журналістыку» імя Дэйвіда Бэрка мы атрымалі яшчэ за працу на прэзыдэнцкіх выбарах 2010 году, калі больш як семсот чалавек былі кінутыя за краты. Грашовую частку прэміі, 5 тысяч даляраў, мы перадалі тады сем'ям зьняволеных.

А сама мэмарыяльная дошка вісіць у маім кабінэце, сьценак жа чатыры*.

## Што сказаў Фрэнсіс Фукуяма

Калі самы вядомы сучасны палітычны філёзаф сьвету міргне, на гэта зьвяртаюць увагу. Чалавек, які прыдумаў канец гісторыі, стаіць у адным шэрагу з Маркам Аўрэліем, Гэгелем, Ніцшэ. Ня мог не зьвярнуць увагу і я, калі пабачыў адзін ягоны твіт — тым больш, што ён быў пра мяне.

Дакладней, пра адзін мой тэкст, які восеньню 2021-га апублікаваў часопіс *American Purpose*, які выдае ў Вашынгтоне былы прэзыдэнт радыё Джэф Гедмін. Гаворка ішла пра адну перадачу Беларускай службы Радыё Свабода.

Тэкст быў прысьвечаны заснавальніку, першаму і адзінаму прэзыдэнту фонду, створанага Кангрэсам падчас адміністрацыі Рэйгана для падтрыманьня дэмакратыі ва ўсім сьвеце яшчэ ў 1988 годзе. Пасьля трох дзесяцігодзьдзяў Карл Гершман сыходзіў на пэнсію. Карл сябраваў з тысячамі людзей у сьвеце і дапамагаў ім: ад палітзэкаў да прэзыдэнтаў, у тым ліку беларускім апазыцыянэрам, праваабаронцам, журналістам. Некалькі

* Беларуская служба атрымала прэмію імя Дэйвіда Бэрка ў сьнежні 2022 году, яна была прысьвечаная траім нашым зьняволеным: Ігару Лосіку, Андрэю Кузьнечыку і Алегу Грузьдзіловічу.

разоў, рэкамэндуючы мяне сваім знаёмым, Гершман ужываў словы «мой сябар» — я, канечне, сабе такога не дазваляў.

Аднойчы ў траўні 2020-га, калі пандэміі не было відаць ні канца ні краю, я прачнуўся суботняй раніцай і паслаў яму допіс, ад якога трохі чырванею.

«Ужо даўно хацеў напісаць, каб у гэты цяжкі час проста сказаць, як высока я цаню тое, што вы і *NED* робіце, і падзякаваць за шматгадовую падтрымку і сяброўства. Насамрэч, праўду кажучы, я хацеў сказаць што вас вельмі моцна любяць, і я заўсёды гляджу на вас як на прыклад вышэйшага прызначэньня, адданасьці і аптымізму. Верагодна, пандэмія спрыяе сэнтымэнтальнасьці».

Час адсылкі быў пазначаны 07:22. Выскачыў допіс у адказ:

«Які цудоўны допіс. Вялікі дзякуй. Спадзяюся, у вас усё добра. Карл».

Час адсылкі адказу таксама быў пазначаны 07:22.

Я назваў свой артыкул «Бяссоньніца ў *NED*», бо было няясна, калі гэты чалавек увогуле сьпіць.

Рэдактары паправілі на «Сьвятло Карла Гершмана», што лепш.

Паколькі я напісаў артыкул адразу па-ангельску, дык тут прывяду цалкам, упершыню па-беларуску.

## Сьвятло Гершмана. Пятніца, 24 сьнежня 2010

«У перадкалядны вечар 2010-га я стаяў у доўгай чарзе ў краме ў Празе, змучаны пасьля доўгага дня, яшчэ даўжэйшага тыдня і бясконцага году. Я толькі вярнуўся зь Менску, з прэзыдэнцкіх выбараў, якія скончыліся так, як яны заўсёды канчаюцца ў Беларусі: дэманстрацыі на вуліцах, разгон і зьбіцьцё тысячаў пратэстоўцаў, больш за

сем соцень арыштаваных. У ноч выбараў я вёў жывы этэр з плошчы Незалежнасьці спачатку для Свабоды, потым для *CNN*. У нейкі момант я пабачыў, што вакол нікога няма, толькі два палкоўнікі і заліты крывёю сьнег.

Мая ангельская трохі зьбіла палкоўнікаў з панталыку, і пакуль яны вырашалі, што рабіць, я скончыў рэпартаж, і яны выштурхалі мяне ў падземны пераход.

Я вярнуўся ў Прагу. У той дзень мы займаліся навагодняй праграмай, шукалі, як зрабіць сьвяточную калядную перадачу. Але настрой быў не сьвяточны. Бітва была прайграная, а паразы не сьвяткуюць.

І тут, пакуль я стаяў, занурыўшыся ў свае думкі, у маруднай чарзе ў касу, мяне асяніла: халера зь ёй, гэтай традыцыяй сьвяточных праграмаў на Новы год. Выкінем падрыхтаванае, а замест прачытаем імёны ўсіх сямі соцень арыштаваных у выбарчую ноч. Можа, ад стомы, але мяне асяніла і другі раз запар: чаму мы самі мусім чытаць гэтыя імёны? Ці ня лепш папрасіць каго-небудзь — і тут, як у сьне, я пабачыў твар Карла Гершмана.

Так нарадзілася самая незвычайная радыёпраграма ў гісторыі вяшчаньня на Беларусь. Я, канечне, не падазраваў, што ў наступныя некалькі дзён Карл прымусіць нас працаваць як ніколі раней. Праўда, сам ён працаваў яшчэ больш.

### Больш за сто мэйлаў

Упершыню я сустрэўся з Карлам у Празе на Форуме-2000 — гэты магічны ліхтар, які прыцягвае самыя яркія галовы дэмакратыі, запаліў Вацлаў Гавэл, і ён робіць сьвет сьвятлейшым і цяпер, праз гады пасьля свайго сыходу. У той год гасьцямі Форуму былі кандыдаты ў прэзыдэнты Беларусі, і мне пазванілі з сакратарыяту Форуму і сказалі, што Гавэл хацеў бы даць інтэрвію Свабодзе, пагаварыць пра Беларусь. Гавэл высьлізнуў з прэзыдыюму, як ён гэта любіў рабіць, мы селі ў куце за мармуровай калёнай палацу Жофін, я ўключыў дыктафон. Калі інтэрвію было

запісанае, я застаўся, каб паслухаць дыскусію. Выступаў Карл.

Хоць мы не былі знаёмыя, я ведаў, што Карл даўні сябар РСЭ/РС. Ён падтрымліваў нашу місію і калі бываў у Празе, заходзіў на радыё. Аднойчы наш тагачасны прэзыдэнт Джэф Гедмін папрасіў мяне арганізаваць для Карла вячэру зь некалькімі калегамі. Я пазваніў знаёмаму ў Нацыянальны фонд дэмакратыі спытацца парады. Шукаць кашэрны рэстаран? Вэгетарыянскі? Рыбны? Знаёмы засьмяяўся. Карла цікавіць добрая размова і людзі, а не віно ці дэсэрт (ён памыліўся наконт дэсэрту).

Калі прыйшла навіна, што Карл сыходзіць на адпачынак, я адкрыў электронную пошту, каб палічыць, колькі ж допісаў мы паслалі адзін аднаму пасьля той вячэры. Калі пераваліла за сотню, я спыніўся. Але адзін дзень стаяў асобна. 29 сьнежня 2010 году Карл пісаў мне шаснаццаць разоў.

**Галоўнае пачаць**

Працэдура выглядала проста: мы тэлефануем вядомай асобе, чытаем імёны дзесяці вязьняў, наш чытач паўтарае, і мы запісваем. Затым трохі рэдагаваньня, і запіс гатовы да этэру.

Але як, якім чынам дазваніцца да амэрыканскага сэнатара, францускага філёзафа, польскага міністра замежных справаў, былога прэм’ер-міністра Канады, прынца эўрапейскай краіны? Яны жывуць у розных часавых зонах, на дварэ Каляды?.. Адказ знайшоўся, і ён быў просты: у нас быў Карл.

Гершман званіў, пісаў, гіпнатызаваў і выкарыстоўваў усе магічныя сілы, дазволеныя статутам *NED*. Міністры і дысыдэнты, сьвятары і музыканты, кангрэсмэны адказвалі. Кандаліза Райс, Алена Бонэр, Джо Лібэрман, Сяргей Кавалёў, Фрэнсіс Фукуяма…

Першы мэйл ад Карла, які я атрымаў у той дзень, быў з дадаткам — тэкстам ягонага артыкулу для *The Washington Post*. Ён даў загаловак «Рэпрэсіі ў сьвяты», пра дыктатараў, якія праяўлялі павышаную актыўнасьць, пакуль сьвет адзначаў Раство. Але ў Карла выходных не было. Артыкул надрукавалі на другі дзень пад загалоўкам «Няма адпачынку ад тыранаў». Тыраны таксама ня мелі адпачынку ад Карла.

На працягу дня Карл пасылаў мне прапановы. У адным зь ягоных мэйлаў я пабачыў кароткае апісаньне, адрасы электроннай пошты чатырох дзясяткаў людзей, ад прэм'ер-міністра Малайзіі да дысыдэнтаў з Кубы, ад праваабаронцы з Конга да нобэлеўскай ляўрэаткі з Ірану, за Далай-ламам ішло імя біёграфа папы Яна Паўла II.

Запусьцім, і пабачым, што прыляціць, пісаў Карл.

**Што значыць «Ісус»**

«Кан-дыда-тыў-прэзы-дэнты-бела-русі» — Джордж Буш паўтараў за мной імёны кандыдатаў у прэзыдэнты, якія сустракалі новы год за кратамі. Голас былога амэрыканскага прэзыдэнта адкрываў чытанку. Завяршаў яе Вацлаў Гавэл, якога я папрасіў агучыць апошнія прозьвішчы вязьняў, якія пачыналіся на «Я». Абодва прэзыдэнты былі здольныя вучні, і я быў задаволены іхным вымаўленьнем.

Праграма «Галасы салідарнасьці» гучала ўсю навагоднюю ноч, паўтаралася зноў і зноў, кароткія хвалі ляцелі вакол зямлі і траплялі ў турмы і палацы, у вушы і сэрцы. Іх чулі зьняволеныя (некаторыя мелі прымачы), іх чулі родныя, сябры, калегі, суседзі. Водгук слухачоў быў надзвычайны. Праграма давала самы дзіўны падарунак, які людзі могуць дарыць адно аднаму праз адлегласьць — надзею.

З Гаўлам я дамовіўся адразу. А вось імя Джорджа Буша ўзьнікла ў другой палове дня 29 сьнежня. Калі Буш быў прэзыдэнтам, ён прымаў у Белым доме беларускіх

дысыдэнтаў. Я напісаў Карлу пра Буша на ўсякі выпадак, для паўнаты карціны, без спадзяваньня. Але з Карлам выпадковасьцяў не бывае.

Празь некалькі гадзінаў ён пераслаў мне мэйл ад Кандалізы Райс, былой дзяржсакратаркі ЗША: «Прэзыдэнт Буш пагадзіўся. Ягоны кіраўнік канцылярыі Майк Міс з вамі зьвяжацца».

Карл дадаў толькі адно слова: «Бінга» (так у Амэрыцы кажуць пры выйгрышы ў лятарэю).

Я ахнуў і зрэагаваў таксама адным словам: «Jesus», як бы па-беларуску ўсклікнуў: «Божа».

Карл прыслаў пытаньне: «Што значыць “Jesus?”»

Гадзіньнік паказваў пару хвілінаў перад поўначчу, калі я паслаў адзіна магчымае тлумачэньне: «Той, хто робіць цуды».

**Сьвятло і цень**

«Карл» — мужчынскае імя нямецкага паходжаньня і азначае «свабодны чалавек», так кажа *Google*. Карл неяк пісаў мне, што сям’я ягонай маці эмігравала ў Амэрыку зь Менску, «але я ня пэўны наконт дэталяў». Аднак ягонае паходжаньне цалкам пэўнае. Ён грамадзянін краіны свабоды, гэтай самай цудоўнай і крохкай краіны ў сьвеце. І самай шчасьлівай.

Неўзабаве пасьля прэзыдэнцкіх выбараў ЗША 2016 году я быў на вакацыях у Флярэнцыі і паслаў адтуль Карлу цытату з кніжкі аднаго мясцовага аўтара. Кніга называлася «Прынц», разьдзел 18 меў загаловак «Наколькі прынц абмежаваны сваімі абяцаньнямі». (Пасьля выбарчай кампаніі Трампа гэтае пытаньне Мак’явэлі выглядала актуальным.)

Карл адказаў: «Можна ставіць як рэдакцыйны артыкул у *The New York Times* ці *The Wall Street Journal*. Нікалё быў бы ня супраць».

Супраць былі турэмныя цэнзары ў Беларусі, калі мы паспрабавалі пераслаць кнігу з прадмовай Гершмана яе герою, сусьветна вядомаму праваабаронцу Алесю Бяляцкаму, сябру Карла, які адбываў 5-гадовы тэрмін. Тады мы перапісалі прадмову Карла ад рукі і паслалі як прыватны ліст. Карл падтрымліваў кандыдатуру Бяляцкага на Нобэлеўскую прэмію міру; мы паслалі яму копію «ягонага» ліста Алесю, той быў глыбока крануты.

Неўзабаве пасьля атрыманьня Нобэлеўскай прэміі іншая грамадзянка Беларусі, Сьвятлана Алексіевіч, на запросіны Карла адведала Вашынгтон і *NED*. Візыт меў наступствы — *NED* падтрымаў выданьне дзьвюх кніг Алексіевіч у «Бібліятэцы Свабоды», дапамог запуску Інтэлектуальнага клюбу ў Менску. Для Карла ня стаў нечаканасьцю ўдзел Сьвятланы ў радзе беларускай апазыцыі пасьля выбараў 2020 году, яе падтрымка, маральная і матэрыяльная, дэмакратычнага руху і абарона дэмакратычных каштоўнасьцяў.

Гэтыя каштоўнасьці патрабуюць абароны.

Праз год пасьля «Галасоў салідарнасьці» я папрасіў Вацлава Гаўла напісаць навагоднія віншаваньні палітычным зьняволеным у Беларусі. Ягоны сакратар прыслаў мне тэкст і выбачаўся, што здароўе не дазваляе зрабіць запіс для радыё. Гавэл памёр у сьне праз тры дні; гэты ліст, напісаны на маю просьбу, стаў апошнім лістом у ягоным жыцьці.

Некалькі гадоў пасьля таго я пабачыўся з Карлам на міжнароднай канфэрэнцыі ў Празе, арганізаванай Міністэрствам замежных справаў Чэхіі. Я ня памятаю дакладна году, але памятаю дзень — гэта было 18 сьнежня, дзень сьмерці Гаўла. Тэмай канфэрэнцыі былі новыя выклікі міжнароднай палітыкі, міграцыя, шматвэктарнасьць, эканамічныя прыярытэты. Карлу далі слова ў канцы дня, калі за высокімі палацавымі вокнамі згушчалася цемра. Ён быў першы, хто ў гэты дзень згадаў імя Вацлава Гаўла, адзіны, хто гаварыў пра ягонае бачаньне сьвету.

У Карла знайшлося даволі мяккае тлумачэньне гэтаму замоўчваньню спадчыны першага прэзыдэнта: новая каманда, верагодна, хоча заявіць пра сябе, выйсьці зь ценю Гаўла.

Але такія людзі, як Гавэл, ня кідаюць ценю. Яны выпраменьваюць сьвятло. Як і Карл».

Фрэнсіс Фукуяма далучыў спасылку на гэты артыкул і паслаў сваім падпісчыкам у *Twitter* з адным словам: «*Beautiful*».

Пра Карла, канечне.

## Імёны салідарнасьці. Пятніца, 31 сьнежня 2010

Імёны даюцца, каб іх называць. І мы пачалі называць а шостай вечара ў навагоднюю пятніцу.

У тую ноч беларусамі сталі яшчэ 39 чалавек з трынаццаці краінаў:

Джордж Буш, былы прэзыдэнт ЗША, які адкрываў чытаньне імёнамі кандыдатаў у прэзыдэнты, і Вацлаў Гавэл, былы прэзыдэнт Чэхіі, які завяршаў сьпіс імёнамі вязьняў.

Лешэк Бальцэровіч, былы прэм'ер-міністар, Польшча;

Алена Бонэр, дысыдэнтка, удава Андрэя Сахарава, Расея;

Уладзімір Букоўскі, дысыдэнт, Вялікабрытанія;

Дзьмітры Быкаў, пісьменьнік, Расея;

Гаўард Бэрман, кангрэсмэн, ЗША;

Кен Волак, прэзыдэнт Нацыянальнага дэмакратычнага інстытуту, ЗША;

Леанідас Донскіс, дэпутат Эўрапарлямэнту, Літва;

Іван Драч, пісьменьнік, першы кіраўнік Народнага руху Ўкраіны;

Іван Дзюба, былы палітвязень, пісьменьнік, Украіна;

Міленка Ергавіч, пісьменьнік, Харватыя;

Віктар Ерафееў, пісьменьнік, Расея;
Джэф Гедмін, прэзыдэнт РСЭ/РС, ЗША;
Аляксей Герман, кінарэжысэр, Расея;
Карл Гершман, прэзыдэнт Нацыянальнага фонду дэмакратыі, ЗША;
Андрэ Глюксман, філёзаф, Францыя;
Атар Іясэліяні, кінарэжысэр; Францыя;
Томаш Ірса, сэнатар, Чэхія;
Сяргей Кавалёў, праваабаронца, Расея;
Дэйвід Крэймэр, прэзыдэнт *Freedom House*, ЗША;
Лорн Крэйнэр, прэзыдэнт Міжнароднага рэспубліканскага інстытуту, ЗША;
Кім Кэмпбэл, былая прэм'ер-міністарка, Канада;
Джо Лібэрман, сэнатар, ЗША;
Дэніс Мэлгаўпт, сябра Камітэту кіраўнікоў замежнага вяшчаньня, ЗША;
Хрыстас Пургурыдыс, дэпутат Эўрапарлямэнту, Кіпр;
Кандаліза Райс, былая дзяржсакратарка, ЗША;
Рэйн Раўд, рэктар Талінскага ўнівэрсытэту, Эстонія;
Ілеана Рос-Лэтынэн, старшыня Камітэту замежных справаў Кангрэсу, ЗША;
Радаслаў Сікорскі, міністар замежных справаў, Польшча;
Крыстафэр Сьміт, кангрэсмэн, ЗША;
Барыс Стругацкі, пісьменьнік, Расея;
Дэйвід Сўорц, першы пасол ЗША ў Беларусі, ЗША;
Яўген Сьвярсьцюк, прэзыдэнт ПЭН-клюбу, Украіна;
Рычард Трамка, прэзыдэнт прафсаюзнай асацыяцыі *AFL-CIO*, ЗША;
Карэл Шварцэнбэрг, міністар замежных справаў, Чэхія;
Тыльман Шпэнглер, гісторык, Нямеччына.
Фрэнсіс Фукуяма, філёзаф, ЗША;
Сяргей Юрскі, актор, Расея;
«Люблю мой край, старонку гэту…» Так, як звычайна, адкрыўся самы незвычайны этэр Свабоды на кароткіх

хвалях у апошнюю пятніцу таго году. Але так, як тады, Беларусь у сьвеце яшчэ не любілі, не ганарыліся, не падтрымлівалі ніколі.

Беларускую дыяспару прадстаўлялі трынаццаць галасоў зь дзевяці краінаў:

Амэрыка — Янка Запруднік, гісторык; Вітаўт Кіпель, дырэктар Беларускага інстытуту навукі і мастацтва; Вячка Станкевіч, старшыня Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, ЗША; Паўліна Сурвіла, музыказнаўца; Аўстралія — Міхась Лужынскі, старшыня Беларускага грамадзка-культурнага клюбу; Бэльгія — Ян Майсейчык, грэка-каталіцкі сьвятар; Вялікабрытанія — Аляксандар Надсан, сьвятар, і Лёля Міхалюк, старшыня Згуртаваньня беларусаў; Канада — Івонка Сурвіла, старшыня Рады БНР; Нямеччына — Барыс Кіт, канструктар ракетнай тэхнікі; Фінляндыя — Якуб Лапатка, перакладчык; Францыя — Барыс Забораў, мастак; Эстонія — Павал Марозаў, каардынатар Кангрэсу новай дыяспары.

Яшчэ дваццаць чалавек прачыталі дзьвесьце імёнаў у самой Беларусі.

Тая перадача выйшла потым на дыску ў «Бібліятэцы Свабоды», і ў прадмове я пісаў, што самае галоўнае слова для чалавека — ягонае імя. Так пабудаваная пошукавая сыстэма цывілізацыі, так яна працуе ўсюды, ад запісу ў пасьведчаньні аб нараджэньні да запісу ў пасьведчаньні кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі, ад пераклічкі ў турэмнай камэры да радка памінальнай малітвы.

«Гэтыя імёны і прозьвішчы ў ноч на Новы 2011 год чуваць былі ў любым месцы зямной кулі. Гэты кароткі акустычны сыгнал пра сем соцень сярод сямі мільярдаў зямлянаў азначаў толькі адно — пра вас не забыліся, вы былі, вы ёсьць.

Ня больш.

І ня менш».

Гэта — і пра людзей, чые галасы гучалі ў той перадачы.

## Ода галоўнаму бухгальтару

На экране кампутара ў мяне вісіць файл пад назвай «Для сябе» — розныя запісы, бяз даты, зробленыя ў канцы 2021 году: абрыўкі думак і падзеяў, якія чаплялі.

«І крывадушнасьць — забіраць страхоўку ў разгар пандэміі, забіраць у людзей абсталяваньне, бо яны больш “ня ў штаце”, — паводле правілаў, прыдуманых намі самімі… Маючы велізарную эканомію бюджэту… Скот кажа — мільёны. Дастаткова, каб дапамагчы шмат, шмат разоў.

Разьвітальны альбом Скота — рэдка я бачыў нешта падобнае. Не забыцца павіншаваць яго з Раством».

Гэты запіс можна датаваць канцом кастрычніка, калі пад выглядам рэарганізацыі быў звольнены Скот Б., галоўны бухгальтар радыё. Афіцыйна ягоная пасада ў Празе называлася дырэктар фінансаў, і ён быў адным з самых кампэтэнтных мэнэджэраў, зь якімі я меў справу, — фінаддзел працаваў як гадзіньнік.

Скот быў самым саркастычным чалавекам на радыё і меў найбольшую калекцыю віскі, якую я калі-небудзь бачыў у працоўным кабінэце.

Не таму, што ён быў шатляндзец і раз на год прыходзіў на працу ў кілце, гольфах і барэце, а таму, што займаўся дабрачыннасьцю — на пачатку году прапаноўваў калегам дапамогу ў афармленьні падатковых дэклярацыяў. Такая паслуга звычайна каштуе некалькі соцень даляраў, але Скот грошай ня браў, бо гэта магло б лічыцца парушэньнем працоўных правілаў (хоць ён рабіў гэта дома, па-за працоўным часам), і ўдзячныя падаткаплатнікі прыносілі яму падарункі — звычайна віскі, каньяк.

Ён дапамагаў многім дзясяткам людзей, і офіс і дом ператварыліся ў склад алькаголю — выпіць гэта было немагчыма. Ягоная жонка запрашала гасьцей дадому з

умовай, што яны потым возьмуць хоць бы адну бутэльку з сабой.

Некалькі разоў я намінаваў яго на ўзнагароду «За найлепшую дапамогу», якой адзначаюцца працаўнікі радыё — не журналісты: тэхнікі, інжынэры, адміністратары, бухгальтары, праграмісты, ахоўнікі. Ён не атрымаў яе ні разу, мо таму, што адносіўся да мэнэджмэнту, але магчыма і таму, што раздражняў шмат каго колкімі заўвагамі пра рэчы, якія не заўсёды ўваходзілі ў ягоную кампэтэнцыю. Іншымі словамі, гаварыў, што думаў, а думаў ён як інвэстар — укладаньні павінны працаваць эфэктыўна.

У мяне недзе ў архіве павінна быць перапіска зь ім 31 сьнежня, ня памятаю году, але памятаю час — апошні мэйл быў каля дзявятай вечара. Ён патрабаваў патлумачыць, чаму я павялічыў ганарар за нейкую перадачу на 50 даляраў — я ня верыў сваім вачам, гэта быў мой бюджэт і не ягоная справа. Ня кажучы пра час перапіскі.

Кожны раз, калі я атрымліваў наяўныя грошы, каб завезьці ў Беларусь (банкаўскага рахунку ў бюро не было), ён ледзяным тонам папярэджваў, што гэта мая асабістая адказнасьць, і калі што, грошы будуць вылічаныя з маёй зарплаты.

Ён быў, здаецца, адзіны на радыё, хто ў мэйлах пісаў па-ангельску маё імя так, як яно напісанае ў пашпарце: не «Alexander», а «Aliaksandar».

Шатляндзец, адно слова. Дакладней, шкот.

У сваім разьвітальным допісе Скот згадаў некалькі рашэньняў, якія былі прынятыя і ажыцьцяўляліся дзякуючы яму: гадавыя прэміі і аўтаматычнае павышэньне заробкаў для журналістаў у бюро, кампэнсацыя слабога абменнага курсу даляра, дазвол фрылансэрам карыстацца абсталяваньнем радыё. (У адзін шэраг ён саркастычна паставіў эпапэю з туалетнай паперай — кампанія, якая абслугоўвала радыё, збанкрутавала, і некалькі дзён

туалетны гумар дамінаваў у калідорах, пакуль аддзел фінансаў гераічна ня ўзяў адказнасьць на сябе.)

Да разьвітальнага ліста я ня ведаў пра ягоную ролю ў гэтых рашэньнях, нават ня думаў, што гэта нечыя рашэньні, і прымаў іх як дадзенасьць, норму. Няўдзячнасьць мае шмат сынонімаў.

На разьвітаньне падначаленыя Скота вырашылі падарыць яму альбом, дзе ўсе маглі пакінуць пажаданьні. Дзясяткі людзей дзякавалі з такімі эпітэтамі, што я быў бы шчасьлівы атрымаць хоць палову.

Хоць дзясятую частку. Рэч ня ў колькасьці, нават для фінансістаў гэта не галоўны паказчык, калі яны прафэсіяналы.

## Лацінская восень

Яшчэ некалькі запісаў з таго файла «Для сябе»:

«Гаварыў зь Пецем С., яго няспынны фантасмагарычны бліскучы маналёг пра ўсё.

Доўгая размова з В. — каб кампэнсаваць за ўчарашняе — пра пляны жонкі, кнігу ўспамінаў, нежаданьне А. удзельнічаць, ацэнку працы супрацоўнікаў і маё стаўленьне да гэтага як да інструмэнту кантролю.

Званок ад У. — нізкая-нізкая энэргія, проста паміраe, мне трэба было яго падбадзёрыць, яны хочуць, каб мы так пачуваліся».

У апошнім сказе «яны» — гэта ўлады Беларусі. Размовы зь сябрамі, калегамі, якія заставаліся ў Беларусі ці апынуліся на выгнаньні, былі пра навіны — каго са знаёмых яшчэ арыштавалі, якое абвінавачаньне прад’явілі, што закрылі, канфіскавалі, у каго ковід. Суцэльная цемра, якая высмоктвала энэргію, уцягвала ў вір нэгатыўных эмоцыяў і паралізавала.

Я спрабаваў як мог падтрымліваць аптымістычны тон, знаходзіць пазытыўныя тэмы, але часам, прызнаюся, ня мог прымусіць сябе ўвечары адказаць на прапушчаны днём званок.

Многіх запісаў я цяпер не разумею сам: што значыць слова «выцерці» побач зь імем юрыста, чаму стаяць аж тры клічнікі пасьля слова «аўдыёкнігі», чым расьсмяшыў выраз «ваш пароль скончыўся» — таксама з клічнікам.

А, не, там далей тлумачэньне, чаму я запісаў гэтае аўтаматычнае паведамленьне, якое выскачыла на экране кампутара: «Гэта назва. Назва кнігі. Ніхто не надрукуе кнігу з такой назвай. Але пытаньне іншае: ці стане хтонебудзь яе чытаць?»

Паролі трэба рэгулярна мяняць, і апошнія гады я стаў ужываць фразы-напамінкі: то радкі зь песьні «мыпераможам», то заклік «зрабікабстала», то фразу «узамакіназад», паводле іранічных мэмуараў першага чэскага прэзыдэнта, якія тады чытаў. Цяпер, калі я пішу гэтыя радкі, кампутар адкрываецца паролем «yourfreedom» — твая свабода, зварот да самога сябе, напамінак, што за сябе я адказны сам.

Яшчэ некалькі запісаў: «Я забываю выдатныя аргумэнты, якія прыходзяць мне ў галаву, калі я думаю, гавару сам з сабой пра сытуацыю і праблемы. Калі яны забываюцца, ці маюць яны нейкае значэньне? Ці зусім ніякага?»

Наступны запіс можна датаваць дакладна: 3 сьнежня канчаўся адміністратыўны арышт, і чакалі на волі Андрэя Кузьнечыка.

«Раніцай атрымаў паведамленьне: Андрэя ня выпусьцілі. Яшчэ 10 сутак арышту.

Усю раніцу зьбіраю інфармацыю для начальства пра дапамогу супрацоўнікам — усё гэта можна рабіць ня так драматычна, а цяпер гэта цэлая трагедыя. Хочуць, каб я разглядаў дапамогу стратэгічна, як магчымасьць іначай выкарыстоўваць людзей — іншымі словамі, рэарганізоўваць, звальняць, і каб прапанаваў новую

стратэгію — дзеля самой стратэгіі. У нас адна з найлепшых апэрацыяў на радыё, мы ўжо ў будучыні — ня бачаць, ня цэняць, не разумеюць. Ці разглядаюць як пагрозу іхным слабаватым вынікам у іншых службах? Ці гэта рэакцыя на маю незалежнасьць.

Гаварыў з маці Андрэя. Плача, хоча зь Віцебску ехаць у чэскую амбасаду. Адчай. Ягоная жонка засталася з двума малымі дзецьмі.

Вішанька на драніку — новая скарга ад П. Пісаў адказ. К. меў рацыю, трэба было звальняць раней, калі ўзьніклі праблемы з працай, бо далей іх толькі большае…

Загадчыца бюро з Кіева разаслала мапу бамбасховішчаў на выпадак, калі Расея будзе бамбіць Кіеў.

На ўзгадненьне прыходзіць заява з офісу прэзыдэнта з нагоды Кузьнечыка: "Сам працяг прысуду Андрэю паводле абсурдна сфабрыкаваных абвінавачаньняў трэба лічыць злачынствам".

Пішу прэзыдэнту, што ягоныя заявы гучаць усё больш і больш па-рымску: у лоб, з пагардай, коратка. Прыемна цытаваць.

Адказвае: "Бо я іх сам перапісваю! Мой адзіны клопат, каб не нашкодзіць, кажы, калі трэба зьнізіць танальнасьць"».

Апошні запіс таго дня — са старажытнага Рыму, відаць, асацыяцыі націснулі на клявіятуру.

«Адкрыў у *Google* Цыцэрона: «Зашмат свабоды вядзе людзей і народы да рабства».

Скапіяваў яшчэ адну цытату Марка Тулія Цыцэра, як ён пісаўся на лаціне: «Ні ў чым людзі не набліжаюцца так блізка да багоў, як робячы дабро для іншых».

Няясна было, як гэта зьвязана з канцом, калі яму адсеклі рукі і галаву і выставілі на рымскім Форуме.

Я вучыў лаціну ў інстытуце. Трэба было вучыць гісторыю.

## Памяці Джойса. Пятніца, 16 верасьня 2022

У выходныя пасьля гэтай пятніцы сярэдзіны верасьня мы зь сябрам пайшлі ў ірляндзкі паб, які называецца «Джэймз Джойс». Калі я няправільна, адным глытком, спустошыў куфаль, сябар спытаўся, што я рабіў у пятніцу. Я пастараўся ўспомніць, ён паслухаў і параіў запісаць — бо столькі ня вып’ем.

Джэймзу Джойсу спатрэбілася 225 246 словаў, каб апісаць шаснаццаты дзень аднаго летняга месяца. Я сказаў, што мне на шаснаццаты дзень восеньскага месяца спатрэбіцца ў сто разоў менш. І памыліўся.

«06:00. Прачнуўся, праверыў пошту, Сыгнал, Тэлеграм, *WhatsApp*, *Slack*, *SMS* — ціха. Прабег загалоўкі на нашым сайце — сёньня гадавіна зьнікненьня Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага. Глянуў навіны Бі-Бі-Сі, зірнуў на сьвежыя артыкулы *The New York Times*, *The Washington Post*, *The Guardian*. Усюды ў топе пахаваньне брытанскай каралевы.

У пошце цікавы ліст ад Джэфа Гедміна, нашага былога прэзыдэнта, з аглядам кніг, палітыкі і музыкі.

Адкрываю мой сьпіс *to do*, напамінак справаў на дзень. Першым у пераліку стаіць слова «жанчыны».

Гэта ня тое, што можна падумаць.

Гэта напамінак, што да пачатку працоўнага дня трэба дапісаць і адаслаць тэкст пра супэржанчын, каб ўратаваць Беларускую службу.

У верасьні высьветлілася, што амаль траціну нашага расходнага бюджэту забярэ офіс, які адкрываецца ў Вільні. Вызначэньне патрэбаў, пошук памяшканьня, дамова з уласьнікам рабіліся без удзелу службы. Вышэйшае кіраўніцтва наняло мясцовую адвакацкую фірму і працавала зь ёй. Паўсталі істотныя расходы на рэгістрацыю, арэнду, зарплату мясцовым супрацоўнікам-літоўцам —

не журналістам, і, як аказалася, на ўсё гэта павінны былі пайсьці сродкі з нашага журналісцкага бюджэту.

Для радыё афіцыйныя прадстаўніцтвы ў Літве і Латвіі маюць палітычны сэнс. Амэрыканская кампанія вяртаецца ў краіны вяшчаньня, гэта і інвэстыцыі, і заява салідарнасьці, і дыпляматыя ў дзеяньні.

Але для працы нам ня трэба ні такое бюро, ні гэтыя людзі, ні такія ўкладаньні. У Менску мы трацілі на бюро ўтрая менш, і там працавала ўтрая больш людзей, чым прадугледжваецца ў Вільні. Тэхналёгіі і тэхніка дазваляюць эфэктыўна працаваць бяз сталага офісу. Мы так і працуем ужо год*.

Офіс патрэбны кампаніі — але грошы забіраюць у нас. Я вельмі баяўся такога павароту, спрабаваў атрымаць гарантыі, чуў ухілістыя адказы. У сераду адказ прыляцеў у лоб.

Амаль адзіная магчымасьць знайсьці патрэбную суму — звольніць ці не палову журналістаў у Празе. Скарачэньні начальства называе рэарганізацыяй. Навошта так «рэарганізоўваць» невялікую службу, якая на парадак эфэктыўнейшая за іншыя падобныя, — мне недаступна. Скардзіцца няма куды. Я, канечне, упішу сябе на скарачэньне. Мне што. Але астатнім — дзеці ў школе, студэнты, пазыкі за жытло, мэдычная страхоўка…

Жанчыны — мая адзіная ў гэты момант надзея».

Тут па тэмпе росту тэксту я ўжо перавысіў аб’ём, у які наіўна разьлічваў зьмясьціць гэтую пятніцу. А не дайшоў нават да восьмай раніцы, да першай журналісцкай нарады дня.

---

* У студзені 2023 году на афіцыйным адкрыцьці бюро ў Вільні прысутнічалі прэзыдэнт Літвы і сьпікерка парлямэнту, міністры, амбасадары, госьці з Вашынгтону, прэса. Прэзыдэнт радыё дзякаваў усім за дапамогу. Для цырымоніі зьнялі музэйную залю, бюро высокія госьці не адведалі. Начальства вырашыла не запрашаць на адкрыцьцё дырэктара службы, дык мне не прыйшлося адмаўляцца.

«Надзея называецца “Дадатак 6” да праекту бюджэту. Гэта магчымасьць асобнага фінансаваньня асобнага вялікага праекту. Умова — каб нешта новае, значнае, і каб каштавала ня менш за паўмільёна даляраў. Лепш больш. Факінг грошы ёсьць. Толькі не для падтрымкі службы.

З таленавітай калегай прыдумваем цыкль відэафільмаў “Звышжанчыны”, пра гераіняў сучаснай беларускай апазыцыі, пішам сцэнарную заяўку, лічым выдаткі, час, патрэбы людзей, тэхнікі, прыкідваем графік, складаем каштарыс.

Пераглядаю яшчэ раз тэкст, уношу дадаткі, правяраю спэлінг усіх 1300 словаў і перад восьмай адсылаю заяўку».

Далей усё нагадвае «Хаўтуры па Фінэгану», як называецца самы вядомы самы нечытэльны раман у сьвеце.

## Вызваленьне Алега. Пятніца, 16 верасьня 2022

У сьпісе маіх справаў на дзень адразу пасьля «жанчын» стаіць імя «Алег» — і гэта самая галоўная справа.

«08:00. Пачынацца нарада. Усе рэдактары прадстаўляюць пляны на дзень і на выходныя, і я ўпершыню расказваю пра магчымае вызваленьне Алега Грузьдзіловіча, якое чакаецца ў суботу.

У аўторак прэзыдэнт паведамляе, што на перамовах з уладамі Беларусі, якія вядуць пасярэднікі, дамоўлена, што Алега выпусьцяць падчас амністыі ў суботу з умовай, што ён пакіне Беларусь.

Я агаломшаны, веру і ня веру.

Тыдзень перад тым зьяўляецца нечаканае паведамленьне, што Андрэя Кузьнечыка ўнесьлі ў сьпіс экстрэмістаў, — ні з пушчы ні з поля, ён даўно асуджаны, адбывае тэрмін у калёніі строгага рэжыму. Становіцца ясна — каб выключыць са сьпісу на амністыю.

Напярэдадні шпіталізавана жонка Алега, сэрца. Наперадзе апэрацыя, рэабілітацыя. Я зь ёй перапісваюся, намякаю пра магчымую навіну, прашу прыслаць сканы пашпартоў, свой і Алега — трэба для літоўцаў, для афармленьня візаў. Свой яна мае і пасылае са шпіталю, Алега — не. Ён дома, дзе нікога няма.

Тры дні ад мяне патрабуюць скан — няхай яна прышле, няхай нехта сходзіць дадому, можа ёсьць у адваката, няўжо так цяжка, чаму вы ня мелі скана — нон-стоп, з раздражняльнай глухатой, быццам я сам не задаю гэтых пытаньняў. Трэба тлумачыць, што мелі, але перад пагромам бюро зьнішчылі ўсе файлы, што нават у шпіталь да Марыянны ніхто не прыходзіць, чаму, я ня ведаю і з Марыяннай пра гэта не гавару. Чалавек у кардыялёгіі. Зьвязаўся і расказаў ёй паўнамёкамі пра магчымае вызваленьне Алега.

Рэдактары рыхтуюць тэкст на выпадак вызваленьня. Пасьля нарады на тэлефон прыходзіць паведамленьне ад Марыянны: лекары кажуць, што яна мусіць застацца ў шпіталі дзён на дзесяць ці даўжэй, потым рэабілітацыя.

Пішу пра гэта начальству. Пачынаецца перапіска, варыянты, пытаньні — спроба паўплываць на імавернасьці. Ці паедзе Алег бяз жонкі? Ці далучыцца жонка пазьней? Што, калі Алег адмовіцца выяжджаць?

Зноў перапіска з Марыяннай — яна з раніцы чакае чаргі на апэрацыю. Зноў пытаюся пра скан, шукаю адваката Алега, уключаецца «дурка» — звоніш у Беларусь з Чэхіі, бяруць трубку, кажуць так, чалавек зараз падыдзе, але трошкі пачакайце — і ўключаецца праграма, якая крадзе аплату за міжнародны званок. Спрабую яшчэ некалькі разоў, усё тое самае. Блякаваньне. Званю іншай адвакатцы, тая адказвае — гаворыць па-беларуску, тлумачыць, што адвакатура звычайна сканаў ня просіць, непатрэбныя.

У Вільні будуць шукаць шпіталь для Марыянны, просяць дыягназ, прэзыдэнт абяцае арганізаваць перавозку мэдычным транспартам. Марыянна чакае апэрыцыі, і я

ёй не званю. Пішу па абедзе, ці зрабілі, як прайшло, адказу няма».

Верагодна, каб наблізіцца да рэалізму ў перадачы падзеяў аднаго дня, трэба пісаць у два ці тры слупкі, бо адначасна адбываецца яшчэ адна мікрадрама.

На ранішняй нарадзе я пытаюся ў журналіста зь Вільні, калі дакладна ён і яшчэ адзін калега прылятаюць у Прагу ў выходныя. Іх запрасілі на трэнінг, прыезд аплачвае аддзел бясьпекі, я заўсёды імкнуся скарыстаць магчымасьць, каб нашыя журналісты езьдзілі, сустракаліся з калегамі, гэта і карысна, і заахвочваньне. Прага заўсёды сьвята. Але нам нічога не прыслалі, ні квіткоў, ні гатэлю, чую ў адказ. Трэба разьбірацца.

Мая адміністратыўная памочніца, якая займаецца афармленьнем камандзіровак, у гэтую пятніцу ўзяла выходны. Я здагадваюся, што адбылося: яна і яе калегі настойваюць, каб афармлялі тыя, хто запрашае і аплачвае падарожжы. У гэтым выпадку — аддзел бясьпекі. Аддзел бясьпекі лічыць, што афармляць павінны службы. Я перапытваў, як вырашаецца спрэчка, мне казалі, што чакаюць адказаў. Гэта было тыдні два таму. Хутка высьвятляецца, што ніхто нічога ня вырашыў.

Перапісваюся з начальніцай адміністратыўных памочнікаў, у яе таксама выходны, але адказвае. Званю іншай адміністратарцы, тлумачу сытуацыю, прашу аформіць паперы, хутка, ужо пятніца, а квіткі на самалёт на нядзелю не замоўленыя, гатэль не забраняваны. Яна мне піша, потым двойчы перазваньвае, бо канфлікт застарэлы, я прашу яе не разьбірацца, а зрабіць.

Працэдура патрабуе, каб яе ўхваліў начальнік службы бясьпекі, бо гэта ягоны бюджэт. Але нешта ня так з кампутарнай праграмай, яны абменьваюцца мэйламі і капіююць мне — раз, другі, трэці, нарэшце спрацоўвае. Аддзел падарожжаў знаходзіць рэйс зь перасадкай і за-

маўляе два квіткі. У абед замоўленыя нумары ў гатэлі. Я дзякую і дзякую і дзякую ўсім.

Потым адкрываю пошту — адзін з двух запрошаных паведамляе, што ня зможа прыляцець, бо думаў, што прыезд скасаваны, склаў іншыя пляны. Спрабую ўгаварыць — ня можа. Каб уключыць яго ў трэнінг, я мусіў пісаць у Вашынгтон і здабываць спэцыяльны дазвол юрыста радыё, з прычыны двух тыпаў кантрактаў, на якія рашэньнем начальства насуперак маім пратэстам падзеленыя цяпер фрылансэры.

Званю адміністратарцы, прашу скасаваць квіткі і браню — ня ведаю, ці трэба плаціць пеню…

Няма мінулага, няма будучыні, усё толькі вечнае, як сказаў бы аўтар «Уліса».

## Дыпляматычны ланч. Пятніца, 16 верасьня 2022

12:00. Традыцыйная дырэктарская нарада дня, абмяркоўваем навіны вайны, гавораць дырэктары Ўкраінскай, Расейскай службаў, перастрэлка паміж армянамі і азэрбайджанцамі, забурэньні на таджыцкай мяжы з кіргізамі… Я толькі слухаю. Нашы навіны — чарговы суд, арышты, зьдзекі зь вязьняў і пратэсты міжнародных арганізацыяў — даўно ўжо не навіны.

Далей у маім раскладзе ланч з дэлегацыяй дыпляматаў з Брусэлю. Гэта амбасадары, акрэдытаваныя пры Эўракамісіі, усяго з паўсотні чалавек. Чэхія старшынюе ў Эўразьвязе, і яны ў Празе зь візытам.

Гэта брыгадзіры эўрапейскай палітыкі, менавіта яны рыхтуюць, дамаўляюцца і перадаюць на подпіс кіраўнікам урадаў усе практычныя пастановы пра санкцыі, дапамогу, новыя ініцыятывы.

Дыпляматаў прывезьлі на радыё, на двары накрылі сталы, стаіць ежа, напоі. Напачатку абмен кароткімі

афіцыйнымі прамовамі, потым усе знаёмяцца, утвараюцца групы, завязваюцца нефармальныя гутаркі.

Я знаходжу прадстаўніка Літвы, знаёмлюся, абмяркоўваем Беларусь, вайну, мігрантаў, і я пытаюся пра візы: чаму Літва патрабуе сканы пашпартоў, ніхто ж так ня робіць. Амбасадар прызнаецца, што нічога пра гэта ня ведае, але хацеў бы дапамагчы, у чым справа — я коратка пераказваю. Ён абяцае зараз жа зьвязацца зь Вільняй і разабрацца, я дзякую, кажу, што ня трэба, што проста пытаюся, нашыя людзі займаюцца.

Мы сядаем за стол, дзе ёсьць свабодныя месцы, — там дыпляматы з Грэцыі, Эстоніі і Партугаліі.

Я кажу ім, што для мяне вялікі гонар і шанцунак сядзець побач з партугальскімі дыпляматамі. Яны запытальна глядзяць на мяне, і я кажу — на экране майго кампутара ўжо год вісіць файл, які я час ад часу адкрываю. Ён называецца імем партугальскага дыплямата.

Увесь стол глядзіць на мяне. Я кажу: Соза Мэндыш. Соза! — усклікае мой сусед і працягвае мне руку.

Нагода прыпыніць пятнічны час аповедам пра гэтую асобу.

## Трыццаць сёмае імя

У 2021 годзе я стварыў сабе куміра, прачытаў усё, што змог, зрабіў выпіскі і захаваў файл зь ягоным імем на экране свайго кампутара. Ён і цяпер тут.

Кумір нарадзіўся ў канцы дзевятнаццатага стагодзьдзя на самым ускрайку Эўропы і памёр у год, калі Радыё Вызваленьне, як ад пачатку называлася радыёстанцыя, пачало сваё вяшчаньне. Кожны раз, калі адкрываю кампутар, я бачу імя: Арыштыдыш ды Соза Мэндыш.

Соза Мэндыш быў партугальскім дыпляматам, які насуперак дырэктывам Лісабону, парушаючы інструкцыі, правілы і забароны, ратаваў габрэяў Францыі ад Галакосту. Ён выдаваў візы, зь якімі тысячы людзей змаглі ўратавацца ад зьнішчэньня. Соза Мэндыш сам езьдзіў на мяжу і дапільноўваў, каб уцекачоў прапускалі неахвотныя францускія жандары ўраду Вішы.

У 1941-м яго звольнілі за грубае службовае непадпарадкаваньне, забралі ліцэнзію на юрыдычную дзейнасьць, вадзіцельскія правы, пазбавілі пэнсіі, праз пару гадоў яго разьбіў паралюш, затым памерла жонка, дзеці мусілі зьехаць з Партугаліі, бо з прычыны прозьвішча не маглі ўладкавацца. Ён памёр у крайняй беднасьці.

Быццам гэтага было мала. Я ня ведаю, што ён адчуў, калі пабачыў у амэрыканскім часопісе *Life* ухвальны артыкул пра Партугалію — ратавальніцу габрэяў, дзе найвялікшым партугальцам усіх часоў быў названы чалавек, які яго звольніў: дыктатар Салазар.

Калі зусім проста, я пішу тут пра Созу Мэндыша, бо ён мне дапамог у 2021-м. Вялікія заўсёды дапамагаюць.

Вось некалькі запісаў з майго тагачаснага файла ў службовым кампутары, які так і называецца, «Соза Мэндыш». Спачатку скапіяваны і захаваны тэкст навіны пра выставу, якую арганізавала МЗС Ізраілю:

«Яд Вашэм, сусьветны цэнтар памяці Галакосту, прызнаў дваццаць шэсьць тысячаў асобаў Праведнікамі між народаў — людзей-негабрэяў, якія рызыкавалі сваімі жыцьцямі, ратуючы габрэяў падчас Галакосту. Сярод іх былі трыццаць шэсьць сьмелых дыпляматаў, якія рызыкавалі сваім жыцьцём і кар’ерай».

Выстава была прысьвечаная дыпляматам і падарожнічала па амбасадах. Ня ведаю, ці была яна ўжо ў Беларусі. Зноў цытата: «Бальшыня дыпляматаў праводзіла палітыку сваіх дзяржаваў, якія рабілі вельмі мала для габрэяў. Толькі вельмі нямногія адчувалі, што надзвычайныя ча-

сы патрабавалі надзвычайных дзеяньняў і былі гатовыя ісьці супраць сваіх урадаў. Яны вырашылі, што ня могуць працягваць рутынную працу, і вырашылі дзейнічаць насуперак свайму начальству і, калі трэба, паражыць наступствы».

Далей у маіх запісах ідзе лічба: «Трыццаць шэсьць?!.» Гэта была мая рэакцыя на колькасьць. З соцень асобаў, абароненых дыпляматычным імунітэтам, які прызнавала і нацысцкая Нямеччына, толькі трыццаць шэсьць вырашылі дапамагчы? А што наконт трыццаць сёмага? Цікавы быў бы раман пра чалавека, які мог, але ня стаў трыццаць сёмым. А можа, і не цікавы — занадта звычайны.

Ізноў мой тагачасны запіс:

«Я цалкам разумею, як консулы, амбасадары пачуваліся, калі ратавалі габрэяў. Былі правілы, пратакол, працэдура, палітыка, адпаведныя каналы, інтарэсы дэпартаманту. Нельга было ставіць візы ў пратэрмінаваныя, пашкоджаныя пашпарты, сумнеўныя пасьведчаньні асобам без рэгістрацыі і сродкаў — аднак яны ставілі. Сотні, тысячы разоў. Калі б кожны раз зьвярталіся па дазвол, яны ніколі не ўратавалі б гэтых людзей. Яны былі адрозныя ад свайго начальства? Ці абставіны адрозьніваліся? Ці і тое і тое? Ці ні тое і ні тое? Проста “так выйшла”?»

Як відаць з гэтага допісу, я хоць і напісаў, што разумею тых дыпляматаў, насамрэч ня надта разумеў.

Дазвол — крадзеная сьмеласьць.

## Што сказаў бы Соза

Ізноў цытата з майго файла 2021 году, які носіць імя партугальскага дыплямата:

«Апошні мэйл у гэты дзень быў зьверху. Гэта быў ня той допіс, які ў канцы такога дня можна было б ча-

каць ад начальства. У гэты дзень Свабода была абвешчаная “экстрэмісцкім фармаваньнем”. Такое здарылася ўпершыню ў гісторыі РСЭ/РС. Мой калега Андрэй Кузьнечык быў арыштаваны пяць дзён таму, узламаны наш *Telegram*-канал, імёны адміністратараў паказальна надрукавалі на прапагандысцкіх каналах, Андрэя прымусілі запісаць прызнальнае відэа. Мы ў Празе па пошце атрымалі пагрозы ўзарваць рэдакцыю, паліцыя Чэхіі распачала крымінальную справу. Два дэтэктывы апытвалі мяне пра небясьпеку, паралельна аказалася, што ў паліцыю прыйшоў запыт ад афіцыйнага Менску пра нейкі абразьлівы камэнтар у сетках, быццам зроблены з IP-адрасу ў будынку радыё».

Перапыню цытаваньне, каб патлумачыць: паліцыя Чэхіі і сілавікі Беларусі мелі пагадненьне аб супрацоўніцтве, і яно працягвала дзейнічаць нават у 2021 годзе. Беларускія спэцслужбы дакладна адсачылі адрас нейкага камэнтара і паслалі запыт у Прагу.

Падобныя выпадкі рэдка, але здараліся і раней. Адну нашу няштатную супрацоўніцу, якая ў свой час уцякла з-пад сьледзтва ў Беларусі і атрымала прытулак у Чэхіі, арыштавалі пры перасячэньні мяжы ў Нямеччыну. Беларусь падала на яе вышук у Інтэрпол. Тры дні, пакуль мы зь яе адвакатам ліхаманкава зьбіралі і перасылалі ўсе даведкі, яна правяла за кратамі і потым некалькі гадоў не пакідала Чэхію, пакуль не атрымала грамадзянства. У 2021 годзе, канечне, стаўленьне ў Эўразьвязе да падобных запытаў зь Менску было ўжо зусім іншае.

Працягну цытаваньне свайго запісу таго дня.

«Мэйл быў не пра “экстрэмісцкае фармаваньне” і наступствы гэтага вызначэньня для нашых супрацоўнікаў. Не пра Андрэя, яго сям’ю і дваіх дзяцей. Ён быў не пра пагрозы службе. Мэйл быў пра маё злачынства — зварот па дапамогу напрасткі, не праз службовыя каналы».

Я сапраўды напрасткі зьвяртаўся куды мог, размаўляў з рознымі недзяржаўнымі арганізацыямі ў пошуках дадатковых сродкаў для нашых журналістаў. Службовы канал — гэта нашая супрацоўніца ў Вашынгтоне, якой я меўся слаць просьбы, а яна вырашала, куды іх накіраваць далей. Часам я атрымліваў ад яе хуткія адказы, часам не атрымліваў тыднямі — у чалавека свае справы, адпачынкі, абавязкі, сваё разуменьне, што важна, што не (неўзабаве тая супрацоўніца звольнілася, і як быццам яе і не было).

Людзі не маглі чакаць, пагрозы нарасталі, і я камунікаваў наўпрост. Менавіта гэта стала нагодай да вымовы — чаму я дапамагаю ня так, як патрабуецца. Не ўзгадняючы: каму, калі, колькі.

Што б падумала начальства, калі б уведала, што мне ўдалося атрымаць дапамогу кожнаму нашаму журналісту, некаторым неаднойчы, што я напісаў дзясяткі лістоў у Польшчу, ва Ўкраіну, у Літву, Латвію, Нямеччыну з просьбамі аб візах, рэгістрацыі, банкаўскіх рахунках, акрэдытацыі — на афіцыйных блянках, за сваім подпісам, без дазволу — і ўсе спрацавалі. Што я спрыяў людзям, якія не былі нашымі супрацоўнікамі? Што на другі дзень пасьля разгрому БелаПАН на маю просьбу амбасада ЗША ў Менску прыняла дачку нашага першага карэспандэнта, нябожчыка Алеся Ліпая, заснавальніка БелаПАН, і праз дзень яны з мужам мелі амэрыканскія візы?

Увогуле, эўрапейскія і амэрыканскія дыпляматы ў 2020–2021 гадах дзейнічалі так, што іх ухваліў бы Соза Мэндыш. Спадзяюся, ім не даводзіцца рызыкаваць сваёй кар'ерай, палітыка падтрыманьня дэмакратычнай Беларусі стала афіцыйна дзяржаўнай.

Яшчэ цытата з запісу таго дня:

«Што яшчэ здарылася: сьпешна завяршалі зарплату, мянялі кантракты, зноў спрабую падвысіць заробкі. Начальства адмаўляецца ўхваляць новыя працоўныя пагадненьні два месяцы, бо бюджэт ня быў зацьверджа-

ны. Два месяцы людзі былі падвешаныя ў паветры, без кантрактаў, за мяжой, без страхоўкі, часам бяз тэхнікі. І працавалі. Сёньня быў важны дзень, каб закрыць гэтыя прагалы, праявіць сапраўдны клопат. І пачаць клапаціцца пра наступныя паўтара дзясятка, якім трэба выехаць зь Беларусі».

Як тлумачэньне: я зь лета настойваў на павышэньні заробку ўсім, хто ўжо выехаў, — бо кошты іхнага жыцьця за мяжой рэзка вырасьлі. Бюджэт фармальна ня быў зацьверджаны — але ён ніколі фармальна не зацьвярджаецца своечасова, часам цэлы бюджэтны год праходзіць без зацьверджаньня, але Амэрыка ад гэтага не спыняецца.

Далей з таго ж запісу:

«Я гаварыў з М. — яна гатовая выехаць часова, але пакуль вагаецца. У А. вельмі ціхі голас, моцны стрэс, спалоханы — выяжджае. І. — занепакоены, але спакойны, вырашыў застацца, дачакацца вызваленьня Андрэя. Раней я размаўляў з В., Д. — ня хочуць зьяжджаць, малыя дзеці, сем'і, маці сьлепне. (Адна з навінаў дня — арыштавалі маці чатырох дзяцей.) Г. — рашэньне яшчэ не прынятае, Н. — хутчэй не, М. — вагаецца… Плюс трое пад хатнім арыштам, бяз права выезду, як яны пачуваюцца — мабыць, жахліва…»

Мае бюракратычныя праблемы былі нішто ў параўнаньні з тым, з чым сутыкнуліся людзі ў Беларусі. Улада вяла вайну супраць народу, дзяржава ператварылася ў карны орган, помста стала ідэалёгіяй, а садызм нормай. Фашызм адрозьніваецца ад бандытызму толькі пагонамі.

Соза Мэндыш разумеў каштоўнасьць сваёй пасады і кошт часу, і таму не марнаваў яго. Дый я разумеў, што раблю, канечне, гэта быў сьвядомы выбар. У запісах таго дня ён асэнсаваны так:

«Я думаю, розьніца ў тым, што я адчуваю сябе пасярод вайны, а кіраўніцтва сябе пасярод крызісу. Усё адбываецца на тле Афганістану — але якога чорта так павінна быць,

ці чаму Беларусь павінна быць фонам для Расеі ці для Туркмэністану?

Гэта ж і ёсьць мая ідэя, што цэлае ня ёсьць большым, чым сума ягоных частак, яно меншае. Я гэта ведаю, таму і прасіў даць мне паўнамоцтвы віцэ-прэзыдэнта на адзін год».

Вярнуся да апошняга мэйла дня, рэзкай крытыкі на мой адрас. Насамрэч ня я, а мне званілі з аднаго НДА сказаць, што дапамога зацьверджаная. Я згадаў пра гэта на агульнай нарадзе — і начальства выбухнула.

Апошні запіс таго дня:

«Калі ў сьнежні мяне звольняць — ня гэта будзе самым моцным эмацыйным узрушэньнем месяца. Ім стаў званок зь Нью-Ёрку ад дачкі Алеся Ліпая: мы даляцелі, усё ў парадку».

У сакавіку 2022 году ў Амэрыцы ў Алеся нарадзілася ўнучка, якую назвалі Аляксандрай.

## Бардак. Пятніца, 16 верасьня 2022

14:00. Пасьля дыпляматычнага ланчу партугалец папрасіў маю візытку. Я схадзіў у кабінэт, зь цяжкасьцю знайшоў — даўно нікому не даю.

Адразу трэба было пераключыцца на нараду з Вашынгтонам — начальнік фінансаў расказваў пра бюджэт на новы фінансавы год, які пачынаецца ў кастрычніку, і абяцаў адказаць на пытаньні. Удзельнічаюць дырэктары. Для мяне сёлета бюджэтнае пытаньне гамлетаўскае: быць або не.

Раней я прасіў прэзыдэнта дапамагчы арганізаваць такую сустрэчу з дырэктарскім клюбам, офлайн, каб у адным памяшканьні, у фізычнай прысутнасьці, абмеркаваць нашыя праблемы. Але начальнік фінансаў у Прагу пакуль ня выбраўся, і таму задавалі пытаньні праз відэа.

Я падрыхтаваў тры — але начальнік выбачаўся і сышоў на іншую нараду.

Групавыя кампутарныя сустрэчы ў рамках абмежаванага часу — лёгка кіраваная імітацыя дыялёгу. Мае пытаньні засталіся пры мне.

Каля чацьвертай гадзіны зазваніў тэлефон.

— Што ў вас за бардак такі, — спытаў мужчынскі голас, — што ў вас за кантора, што вы элемэнтарных рэчаў ня маеце, як вы там усе працуеце?!.

Голас напружана зьвінеў, не хапала толькі лаянкі. Званок быў з балтыйскай краіны. Голас належаў кіраўніку ўплывовай фундацыі. Я яго бачыў толькі аднойчы — у той свой прыезд, які ледзь ня стаў апошнім, калі я самлеў у самалёце.

Я тады папрасіў яго аб сустрэчы, каб падзякаваць за надзвычайную дапамогу зь візамі. Процьма журналістаў, іх родных змаглі выехаць зь Беларусі менавіта дзякуючы гэтай дапамозе, ён спрыяў нашым калегам у юрыдычных пытаньнях, падказваў, і я хацеў асабіста падзякаваць. Мы пагаварылі хвілін пятнаццаць на вуліцы, пакуль чакала маё таксі, ён рабіў уражаньне баявітага, упэўненага, настойлівага чалавека, які не зважае на перашкоды, правілы, бюракратыю, а дамагаецца выніку.

Цяпер ён нёс на мяне з такой апантанасьцю, што я сумеўся.

— Чаму ў вас няма скана пашпарта вашага супрацоўніка? Вы што там, ахранелі?

Я спытаўся, чаму ён не павітаўся. У адказ прагучаў мацнейшы выраз. Я набраў паветра, выдыхнуў. Аказалася, ягоная арганізацыя займаецца магчымым прыездам Алега. Ім пільна патрэбны скан. Яны напішуць ліст у МЗС, тыя перададуць указаньне консулу ў Менску, там усё падрыхтуюць, і калі Алег падасьць пашпарт, уклеяць візу. Я не пасьпяваю спытацца, чаму яны ўвогуле ў гэтым удзельнічаюць, гэта ж зусім іншы выпадак. Пашпарт Але-

га ў калёніі, яго павінны адразу адтуль везьці на мяжу, у Менск ён ня трапіць, і жонка з бальніцы на прыём ня пойдзе — я ўвогуле слова не магу ўставіць.

Аказваецца, мой сусед на ланчы, літоўскі амбасадар, ужо пазваніў у Міністэрства замежных справаў у Вільню, і тыя цяпер тузаюць майго суразмоўцу. На маю заўвагу, што ніхто больш не патрабуе сканаў, Чэхія якраз цяпер дапамагае зь візамі іншаму нашаму калегу, і дастаткова нумару пашпарта, пачуў параду хуткім крокамісьці да чэхаў. Абураны камэнтар працягваўся, я слухаў, слухаў, потым яшчэ раз падзякаваў і паклаў трубку.

Гэта было так абсурдна, што сьмешна.

Праз гадзіну я ўведаў, што сьмяяцца было рана. Пазваніў мой начальнік і спытаўся, ці гаварыў я зь літоўскім амбасадарам. Я пацьвердзіў. Далей была лекцыя, што нельга было зь ім гаварыць пра Алега, бо дыплямат пазваніў у сваё міністэрства, адтуль далей, цяпер на нас усе наракаюць, у перамовах удзельнічаюць іншыя пасярэднікі, і гэтак далей, і да таго падобнае.

Страшная рэч, калі ўсе хочуць дапамагчы.

## Марыянна. Пятніца, 16 верасьня 2022

У сьпісе справаў на пятніцу ў мяне было яшчэ некалькі пазнакаў: кветкі, падлога, сантэхнік і падарунак.

Я толькі забраў жонку са шпіталю, і цяпер стараўся падтрымліваць санітарны рэжым дома: гатаваць, мыць падлогу і выціраць пыл празь дзень, а ў пятніцу ўжо ішоў трэці дзень. Заклініла кран, трэба знайсьці майстра. Букет на стале зачах, трэба новы. Ну і ў панядзелак у Сьветы дзень нараджэньня, а падарунка не было.

Але ў пятніцу ўдалося купіць толькі кветкі.

Увечары я паехаў у гатэль да сяброў, якія прыляцелі ў Прагу. Яны ўдзельнічалі ў пратэстах, іх выклікалі на до-

пыты, я дапамагаў ім выехаць зь Беларусі. Не ўдзяліць ім увагі я ня мог, жонка пасьля шпіталю не магла да нас далучыцца, і я паехаў адзін. Наступныя пару гадзінаў мы правялі за бяседай.

Па дарозе дадому адкрыў тэлефон — у ім было чатыры аўдыёпаведамленьні ад Марыянны. Апэрацыя адбылася, яна ачуньвала і хацела падзяліцца сваім поглядам на сытуацыю. Вырашыла нікуды ня ехаць. Лекаваньне і рэабілітацыю праходзіць у Менску. Алег можа ехаць, ягонае права, але яна застанецца. Аднак настойвае, каб абмеркаваць гэта з мужам.

Марыянна гаварыла зь перапынкамі, голас быў слабы.

Я падумаў пра выбар, які можа стаяць перад Алегам. Калі ён едзе ў Літву, зваротнай дарогі ня будзе. Ён надоўга, можа, на гады пакідае жонку, якой патрэбная ягоная дапамога. Калі ня едзе, яго не вызваляюць, і трэба будзе даседжваць тэрмін да канца — гэта яшчэ паўгоду. І ня факт, што толькі паўгоду: могуць дадаць новыя абвінавачаньні і прысудзіць дадатковы тэрмін.

На гадзіньніку была толькі дзясятая вечара, але сілаў не хапіла нават на чай.

## Дыханьне кніг

Каб перавесьці дыханьне... Калі ў сьнежні 2021-га Свабоду ўнесьлі ў сьпіс экстрэмістаў, тое мела наступствы ня толькі для журналістаў. Гэты аповед я пачуў ад нашай даўняй слухачкі, якая на той час ужо пабывала за кратамі:

«Мой кніжны стэляж імгненна зрабіўся доказам злачынства. Некалькі паліцаў кніг з сэрыі «Бібліятэка Свабоды», якія выдаваліся легальна, урачыста прэзэнтаваліся ў вялікіх залях і трапілі ў каталёгі бібліятэк краіны, цяпер зрабіліся нагодаю для крымінальнай справы, і

пакідаць іх дома было рызыкоўна — хто ведае, які артыкул Крымінальнага кодэксу дадаўся б з нагоды захаваньня гэтых зьнянацку экстрэмісцкіх матэрыялаў.

Раздаць, спаліць, закапаць? Я падумала, што ўначы можна занесьці іх у зімовы парк і раскласьці на халодныя лаўкі: ціха падае сьнег у сьвятле ліхтароў, сьцюдзёны вецер гартае старонкі. Сцэна з кіно ці з опэрных дэкарацыяў. На досьвітку кнігі разьбяруць выпадковыя мінакі.

Потым я зірнула на мапу відэасачэньня за горадам, нехта зь сяброў даслаў яе мне дзеля бясьпекі: няспыннае назіраньне ў жывым этэры з распазнаваньнем твараў ахапіла практычна ўсе вуліцы, кавярні, крамы, паркі і зоны адпачынку. На кожным пад'езьдзе камэра, у ліфце і грамадзкім транспарце таксама. Ідэя з начным буккросінгам у парку пацягнула б на экстрэмісцкую акцыю: распаўсюд забароненых матэрыялаў з асаблівым цынізмам. Дарогу туды і назад зафіксавалі б усе відэакамэры праграмы «Кіпод».

Кнігі ледзьве зьмясьціліся ў дзьве валізкі, я напісала сяброўцы, папрасіўшы яе пакінуць тэлефон дома, і выклікала таксоўку на суседнюю вуліцу. «Што слова — зброя, гэта рэч бясспрэчная, але што ажно такая цяжкая зброя, ты мусіла мяне папярэдзіць», — казала мая спадарожніца, калі мы па ледзяным бруку цягнулі валізы да таксоўкі.

Ехалі доўга, ледзь не ў прадмесьце. Пачалася завіруха, дарогаю мы спыняліся. «А вы пэўныя, што гэта слушны адрас?» — зьдзівіўся таксовец, выцягваючы валізы з багажніка. На пустой вуліцы завея, і ён хацеў дапамагчы нам занесьці багаж у кватэру. Аднак аматарская кансьпірацыя прадугледжвала, што і канечную частку маршруту мы пройдзем пешкі.

Гараць шчокі, на вейках тае сьнег. Старыя сарайчыкі туліліся ў дварах, да аднаго зь іх мы мелі ключ (не пытаюся, каму ён належыць). Замок ці замерз, ці даўно не адмыкалі, сьнегу за калена, дзьверы не расчыняліся. До-

бра, што не аказалася нікога на дварэ, або што ніхто з суседняга дома ня выклікаў міліцыю на дзьве цёмныя постаці, што бязладна сьвяцілі ліхтарыкам, — ужо ў прыцемках сарая. Драўляныя санкі, слоікі салёных агуркоў, рыдлёўка, граблі, куфар з бульбаю, побач бурачкі, стары ровар. І кнігавыдавецкі плён Бібліятэкі Свабоды, ледзь ня дваццаць гадоў этэру, што зрабіліся паперай. Дыханьне, занатаванае літарамі».

Кнігі, што нараджаюцца з радыёперадачаў, пачынаюцца як дыханьне.

Немагчыма навучыцца дыхаць свабодна бяз кніг, хоць за іх часам даводзіцца расплачвацца найвышэйшай цаной — свабодай.

## Жыцьцё з памылкамі

У журналістыцы памылкі больш важныя за дасягненьні. Гэта ў мастацтве мераюць вяршынямі, нобэлеўскімі і іншымі прэміямі — у журналістыцы правaламі. Іх наступствы для журналістаў куды больш радыкальныя, чым дасягненьні. За апэратыўнасьць, эксклюзіў могуць пахваліць, часам даць прэмію. За недакладнасьць, парушэньне кодэксу могуць звольніць, судзіць, штрафаваць.

Аднак калі б мяне папрасілі назваць тры непапраўныя рэчы, пра якія я шкадую больш за ўсё, яны былі б не пра журналістыку, а пра журналістаў.

Я сустрэў Уладзю Каткоўскага з жонкай, калі яны выходзілі з радыё, каб ісьці дадому, і па дарозе трапяць у жахлівую аўтакатастрофу. Я павітаўся, але не спыніўся пагаварыць даўжэй, распытаць пра справы, затрымаць іх на пару хвілінаў.

Я не настаяў на неадкладным выезьдзе Ігара Лосіка ў Прагу ў чэрвені 2020 году, хоць гаварыў зь ім пра гэ-

та некалькі тыдняў, замовіў службовую кватэру, але не прымусіў кінуць усё і рухацца, не дамогся.

На трэцюю памылку прэтэндуюць адразу некалькі сытуацый, калі я давяраў тым, каму ня варта, ня здолеў здабыць надзейных саюзьнікаў у кіраўніцтве, адцягваў балючыя кадравыя рашэньні, ад чаго станавілася толькі горш.

Горш справе, людзям, мне самому. Прызнаюся, што больш за ўсё я пакутаваў, калі трэба было звальняць людзей. Дырэктар, які атрымлівае задавальненьне ад звальненьня, ня можа працаваць дырэктарам. Мэнэджэр, які ня можа звольніць працаўніка, таксама ня можа быць мэнэджэрам.

Часам асоба, якую ты звольніў, зьнікае з журналістыкі і дамагаецца посьпеху ў іншай галіне, часам расьцьвітае ў іншым СМІ зь іншымі патрабаваньнямі, часам проста паціху дэградуе і вінаваціць у сваіх няшчасьцях былое кіраўніцтва. Самакрытычна ацаніць свае здольнасьці здольныя далёка ня ўсе.

А чыста журналісцкія памылкі — іх трэба выпраўляць, гэта як візыт да дантыста, ня самая прыемная рэч, але неабходная. Хоць і дантысты робяць памылкі.

У канцы лістапада 2021-га нашыя рэдактары апублікавалі апытанку на *Telegram*-канале: у выпадку канфлікту паміж Расеяй і Ўкраінай які бок выбераце вы?

Да вайны, у якую мала хто верыў, было яшчэ тры месяцы. Апытаньне перадрукавалі ўкраінскія мэдыі, нехта пераслаў яго начальству, якое з сарданічным «Няўжо?» запатрабавала разабрацца ў парушэньні журналісцкага кодэксу.

Мне нагадалі, што мы не разьдзімаем этнічных канфліктаў і не займаем пазыцыю аднаго з бакоў, калі яны здараюцца. Мы не публікуем апытаньняў, якія заахвочваюць такое мысьленьне. Бо «гэта абсалютна безадказна,

ня кажучы пра тое, што гэта можа быць супрацьзаконна ў многіх краінах».

Ну, у многіх краінах многае супрацьзаконна, нават маўчаньне, ня тое што апытаньні. Звычайна я дзякую за заўвагі, слушныя ці ня надта, калі трэба, нешта папраўляем і працягваем працу — апраўданьні ня вартыя піксэляў на іх напісаньне. У кожнага свая праца, кантроль неабходны, свабода — не ўсёдазволенасьць, і гэтак далей.

Але нагодай для апытанкі было гучнае выказваньне дыктатара Беларусі менавіта на гэтую тэму: за каго будзе Менск у канфлікце Масквы з Кіевам. Імгненная журналісцкая рэакцыя задаць такое самае пытаньне аўдыторыі мне падавалася карэктнай і вартай пахвалы. Я напісаў адказ:

«Я ня бачу этнічнага элемэнту ў гэтай апытанцы. Яна не пра расейцаў ці ўкраінцаў, і ня зьвернутая толькі да беларусаў паводле нацыянальнасьці. Гэта палітычнае апытаньне: і Расея, і Ўкраіна, і Беларусь шматнацыянальныя дзяржавы. Мы рэгулярна публікуем навіны і абмяркоўваем апытаньні грамадзкай думкі пра стаўленьне да гэтага канфлікту ці на іншыя тэмы, якія праводзяць паважаныя сацыялягічныя фірмы, ад Гэлапа да мясцовых. Задаць пытаньне не азначае нешта заахвочваць».

Адказу на мой адказ не было, і гэта было найлепшым адказам.

## Каралеўскі тарыф

Журналісты ўсяго сьвету ведаюць, як небясьпечна зьвязвацца са Злучаным Каралеўствам.

Заканадаўства Вялікабрытаніі патрабуе, каб журналісты даказвалі свае сьцьверджаньні і абаранялі матывы — і ў час глябалізацыі кожны рэзыдэнт каралеўства можа

заявіць, што вашая публікацыя на любой мове ў любым месцы наносіць шкоду ягонай рэпутацыі. У суд падаць дорага. Але калі грошы не праблема…

Адвакаты аднога мультымільянэра, які своечасова ўцёк зь Беларусі, пачалі раптам рэгулярна слаць пагрозьлівыя лісты ў Вашынгтон, патрабуючы зьняць нашыя публікацыі пра іхнага кліента, выправіць тэксты ў архіве, ня згадваць яго партнэраў. Рэч у тым, што кліент працаваў на фінансавым рынку, дзе рэпутацыя даражэйшая за грошы. Рэпутацыю моцна псавала шматгадовая супраца з расейскім алігархам, які трапіў пад санкцыі Захаду.

Ён наняў брытанскую юрыдычную фірму, якая наладавала пошук *Google* на кожную згадку прозьвішча свайго кліента ў любым СМІ і пачала рассылаць патрабаваньні-пагрозы. То няправільная літара ў назьве кампаніі, то супраца была не з самім алігархам, а зь ягоным сынам, то ён больш не валодаў супольнай фірмай, а проста кіраваў ёй, а потым валодаў, але самастойна, і яна называецца ўжо інакш.

Лісты на салідным блянку дасылаліся начальству і перасылаліся мне на рэагаваньне. Пагрозьлівая рэпутацыя зваротнага адрасу ня тое каб моцна палохала — прыдзіркі былі дробязныя, пагрозы хоць і гучныя, але пустыя, аднак пустата таксама марнуе час і нэрвы.

Як ва ўсякай гісторыі, у гэтай была перадгісторыя. Некалькі гадоў перад тым мне перадалі інтымную просьбу ад гэтага мультымільянэра. Перадалі не зь Беларусі, а з паважанай амэрыканскай кампаніі, зь якой ён супрацоўнічаў, а мы таксама карысталіся яе паслугамі. Просьба была нявінная: ягоныя людзі хацелі б перагаварыць з маімі людзьмі, каб на ўзаемна выгадных умовах выправіць адну хібу. Я пацікавіўся — аказалася, мільянэр хацеў «забіць стрэлку», як завуцца такія сустрэчы на фені, каб прыбраць нашыя публікацыі пра свой арышт. Бо гэта быў ня арышт у юрыдычным сэнсе, а затрыманьне, і

сядзеў ён не ў турме КДБ, бо «Амэрыканка» гэта сьледчы ізалятар, а не турма, ну і гэтак далей.

Але далей аказалася зусім ня гэтак.

Я трохі памятаў тую гісторыю: ягоную раптоўную апалу, зьняволеньне ў турме КДБ, куды ўлады час ад часу зьмяшчалі бізнэсмэнаў, якія забываліся, дзякуючы каму яны могуць займацца бізнэсам. Ён быў таленавіты чалавек, мэнэджэр з выдатнымі прафэсійнымі і арганізацыйнымі здольнасьцямі, сацыяльнай адказнасьцю. Пра ягоны арышт паведамілі мэдыі, сотні (!) вядомых людзей падпісаліся тады ў яго абарону. Верагодна, за кратамі былі дасягнутыя нейкія дамоўленасьці, як звычайна бывае ў Беларусі, і празь дзевяць месяцаў яго выпусьцілі. Ні суду, ні прэтэнзіяў, усё палагодзілі — ён вярнуўся на вяршыню сваёй галіны.

Але калі я захацеў удакладніць дэталі гэтай гісторыі і пагугліў беларускі інтэрнэт, аказалася, што яе не было. Не было нідзе, апроч Радыё Свабода. Выявілася, ягоныя людзі ўжо сустракаліся зь людзьмі зь іншых СМІ і выправілі гэтую рэпутацыйную хібу.

Праз пару тыдняў мне зноў нагадалі пра просьбу сустрэцца. Я адказаў, што магу дапамагчы парадай: няхай іхны партнэр звольніць сваіх піяршчыкаў. Для бізнэсмэна міжнароднай клясы адседка ў турме ў сучаснай Беларусі — гэта мэдаль, кожны дзень насіць ня варта, але на ўрачыстыя выпадкі можна прышпіліць. І дадаў, што мая парада, верагодна, ужо спазьнілася.

Людзі ўлады — палітычнай, фінансавай, вайсковай — часам упадаюць у ілюзію, быццам іхная ўлада распаўсюджваецца на час. І зрэдку так выглядае: перапісваюцца падручнікі, зносяць адны помнікі, ставяць іншыя, мяняюцца артыкулы ў энцыкляпэдыях. Гісторыю можна перапісаць, але нельга зьмяніць — яна вяртаецца і зьмяняе ня толькі цяперашні час, але і будучы.

Вярнулася і гэтая гісторыя з зачысткай гісторыі — спачатку ў беларускім сеціве, потым у ангельскамоўным. У Вікіпэдыі па-ангельску ўся апэрацыя адбельваньня стала часткай артыкулу пра гэтага пэрсанажа. Рэдактарскаму воку відаць, як старанна там пастаўленае сьвятло, як папрацавалі над артыкулам яго людзі, пералічаныя ягоныя выдатныя прафэсійныя дасягненьні, добрыя справы, дапамога мэдыям, арыштаваным калегам, Украіне. Але яны не змаглі выкрасьліць ні яго адседкі, ні кампаніі подкупу, ні назвы рэдакцыяў-саўдзельніц.

А юрысты зь Лёндану працягваюць указваць розным беларускім мэдыям на няправільнае разуменьне фатаздымкаў, дзе іх кліент зьняты разам з дыктатарам і падсанкцыйным алігархам, патрабуюць не называць іх партнэрамі, ня згадваць супольных фірмаў, бо гэта наносіць шкоду рэпутацыі і бізнэсу.

Іхны бізнэс, трэба думаць, квітнее — тарыфы за кожны такі ліст каралеўскія.

## Пятніца, 15 ліпеня 2022. 18:00

Прапановы, ад якіх нельга адмовіцца, называюцца ультыматумам. З забаронамі не зусім ясна.

Сытуацыя ў службе стабілізавалася. Мы сышлі зь Беларусі, за тыдзень да вайны пасьпелі перавезьці людзей з Кіева ў Вільню, астатнія знайшлі прытулак у Польшчы.

Хацеў бы напісаць, што выдатна спрацавалі дапаможныя службы радыё, куплялі квіткі, браніравалі гатэлі, падказвалі, як выбірацца з Украіны, — гэта так. Але гэта датычыла толькі журналістаў, прыпісаных да кіеўскага бюро.

Зноў пішу пра гэты падзел, бо сьвінства паводле інструкцыі не перастае быць сьвінствам. Мне за яго сорамна, хоць я ў ім не вінаваты.

Палова нашых журналістаў мусіла выбірацца сама куды вочы глядзяць. Вочы пераважна глядзелі на Польшчу. Тады, на пачатку 2022 году, сытуацыю ўскладняла тое, што многія ня мелі шэнгенскіх візаў, у некаторых яны скончаліся.

Радыё адмовілася дапамагаць зь візамі фрылансэрам. Мне было сказана, што кампанія гэтым займацца ня будзе.

Кожная арганізацыя, дзе працуюць людзі зь дзясяткаў краінаў, мае адмысловы аддзел, які дапамагае вырашаць юрыдычныя пытаньні, зьвязаныя зь візамі, дазволам на працу, легалізацыяй. Ёсьць такое падразьдзяленьне і на радыё, у яго добрыя сувязі з МЗС, з паліцыяй — яны могуць нават уратаваць ад дэпартацыі, як здарылася з адным нашым калегам улетку 2021-га. Ён своечасова зьехаў зь Беларусі ў Маскву, там купіў квіток, віза была, я напісаў запросіны, але з прычыны ковіду яго не хацелі выпускаць з аэрапорту ў Празе і зьбіраліся адправіць назад у Маскву. Я ўвесь час быў на сувязі з загадчыцай аддзелу, якая знайшла адказную паліцэйскую чыноўніцу ў шпіталі, і тая ў апошні момант адмяніла дэпартацыю. Спрацавала асабістае знаёмства — абедзьве жанчыны некалі разам працавалі з гуманітарнай місіяй у Пакістане.

МЗС Чэхіі прыхільна ставілася да афіцыйных просьбаў — але мне было сказана, што афіцыйных просьбаў для фрылансэраў ня будзе. Ня той статус.

Але афіцыйнай асобай пакуль яшчэ быў я сам. На пачатку студзеня я напісаў, а потым пазваніў у Кіеў у польскую амбасаду, пагаварыў з прэс-аташэ, з консулам. Склаў і паслаў ліст з прозьвішчамі. Пакуль ішлі ўзгадненьні, скончыўся студзень. Нарэшце было прынятае станоўчае рашэньне, консул папрасіў усіх прынесьці пашпарты, іх трэба было здаць на тыдзень — а тут для

паловы супрацоўнікаў прапаноўваецца выезд у Літву і афіцыйная дапамога зь літоўскімі візамі, і людзі пытаюцца: што рабіць? І чакаюць адказу ад мяне.

Я ўзгадваю гэты эпізод скарочана, безь нявестаў, якім таксама трэба візы, бяз вольных старонак у пашпарце, без пытаньняў пра дэпазіты за кватэры, без усялякіх спадарожных даведак, якія трэба рабіць самому, бо я дзейнічаў самастойна. Калатнеча, на шчасьце, хутка забываецца, але матае нэрвы, і яны, на няшчасьце, псуюцца — ва ўсіх.

Але ўсе пасьпелі выехаць да 24 лютага. Расейскія ракеты нас не забівалі, у бамбасховішчы, як кіеўскія калегі, мы не хаваліся. У Літве быў запушчаны працэс афармленьня дакумэнтаў і адкрыцьця бюро, у Польшчы таксама ніхто на вуліцы не начаваў. Жыцьцё працягвалася, рэдакцыя зноў пачала самаўдасканальвацца, зьявіліся новыя доўгатэрміновы праекты, на нарадах успыхвалі ідэі — а гэта заўсёды было самай дарагой часткай працы. Ствараць, спрыяць нараджэньню новага — унівэрсальная радасьць і асалода.

Аднак для мяне 2020 год ніяк не канчаўся, даваўся ў знакі перанесены ковід, і я стаў заўважаць, што ўсё часьцей раблю памылкі. У офісе забываюся пра нарады, не адказваю на мэйлы ці пасылаю адказы ня тым, дома ня памятаю пра сямейныя даты, прапускаю прыём у лекара, блытаю час у аэрапорце, на скрыжаваньні не затармазіў перад таксі, пабіў дзьверы і бампэр…

Правілы радыё дазваляюць браць адпачынак за свой кошт. Гэта плюс для бюджэту — зэканомленыя сродкі застаюцца ў рэдакцыі, можна будзе дапамагчы журналістам на выгнаньні.

Я падумаў, што ад перагрузкі найлепш дапаможа перазагрузка. Не сядзець на беразе возера, а напісаць кнігу, зрабіць дасьледаваньне на тэму, якая мяне даўно цікавіла, пра сувязь незавершанай гісторыі і будучыні, пра палітыку памяці. Пуцін пачаў вайну з Украінай не за тэрыторыю ці гісторыю, а за будучыню.

Я зьвярнуўся з заяўкай на праграму імя Рэйгана — Фасэла, якую арганізуе Нацыянальны фонд дэмакратыі ЗША. Прэзыдэнт Роналд Рэйган і кангрэсмэн Дантэ Фасэл былі заснавальнікамі *NED*. Гэта, верагодна, самая цікавая праграма для дасьледчыкаў дэмакратыі з усяго сьвету, якая дае надзвычайныя магчымасьці сустрэчаў, размоваў з унівэрсытэцкімі прафэсарамі, зоркамі аналітычных цэнтраў, палітыкамі, дыпляматамі, вайскоўцамі, журналістамі.

Калі мне патэлефанавалі з Вашынгтону і паведамілі, што прынялі, я ўзрадаваўся, але нікому не сказаў, нават дома. Не было афіцыйнага пісьмовага пацьверджаньня, няясна, калі пачатак. Але ў Вашынгтоне свае шляхі распаўсюду інфармацыі, і неяк прэзыдэнт радыё спытаўся пра стыпэндыю і павіншаваў. Я папрасіў яго нікому больш не казаць, бо папераў пакуль няма, і мне трэба спачатку прайсьці афіцыйную працэдуру атрыманьня адпачынку за свой кошт.

Раніцай 14 ліпеня з Вашынгтону поштаю прыйшло афіцыйнае пацьверджаньне, дакумэнты з умовамі, пачатак праграмы прызначылі на 1 кастрычніка 2022-га.

У гэты самы дзень я абмеркаваў навіну зь непасрэдным начальствам, атрымаў віншаваньні і афіцыйна пісьмова зьвярнуўся па адпачынак за свой кошт. Я разьлічваў атрымаць адказ на сваю просьбу цягам тыдня-двух. Мае калегі-дырэктары езьдзілі на падобныя прафэсійныя стажыроўкі, працэдура была вядомая.

Адказ прыйшоў ужо на другі дзень, у гэтую самую пятніцу ў загалоўку:

«Дарагі Аляксандар,

Віншаваньні зноў з атрыманьнем стыпэндыі *NED* — гэта вельмі ўражвае, і цалкам заслужана.

Як вы, верагодна, ведаеце з нашых правілаў, перад тым, як прыняць рашэньне пра адпачынак за свой кошт, кампанія мусіць узяць пад увагу апэрацыйныя патрэбы. У

гэты момант апэрацыйныя патрэбы РСЭ/РС і Беларускай службы досыць пільныя, і мы адмаўляем у вашай просьбе.

Я ўпэўненая, што гэтае рашэньне выкліча расчараваньне, але я спадзяюся, што вы яго зразумееце, беручы пад увагу складаныя ўмовы, у якіх цяпер дзейнічае РСЭ/РС.

Найлепшага».

Найлепшага мне жадала галоўная рэдактарка і віцэ-прэзыдэнт, другая паводле пасады асоба на радыё.

Копія адказу адрасавалася кіраўніцы аддзелу кадраў і рэгіянальнаму дырэктару. Рашэньне прымалася зь іх удзелам.

Такое прызнаньне маёй каштоўнасьці і незаменнасьці ўражвала. Радыё традыцыйна высока цаніла і заахвочвала супрацоўнікаў, якія спрыялі іміджу, павышалі прэстыж, вядомасьць, пазнавальнасьць кампаніі найперш у Вашынгтоне, дзе вырашаюцца кадравыя пытаньні і бюджэт. Згадкі ў амэрыканскім друку актыўна рассылаюцца па ўнутранай пошце, выступамі на слуханьнях у Кангрэсе ганарацца, экспэртны ўдзел у круглых сталах заахвочваецца.

Мая стыпэндыя была прызнаньнем, узнагародай, знакам прэстыжнасьці для ўсяго радыё — але, выглядала, мая праца цанілася яшчэ вышэй.

Хацеў бы я скончыць гэтую тэму апошнім сказам, ды не ўдаецца.

## Пятніца, 15 ліпеня 2022. 14:00

Неяк я слухаў рэпартаж з футбольнага чэмпіянату сьвету па-польску, грала зборная Польшчы з бразыльцамі. Камэнтатар аж выходзіў зь сябе ад энтузіязму, кажучы пра шанцы на перамогу пасьля першага прапушчанага гола, пасьля другога, трэцяга, і ў канцы, калі лік дайшоў да 4:0, падвёў вынікі фразай, якая мяне ўсьцешыла сваёй цнатлівай непасрэднасьцю: «Прошэ паньства, не удало се».

Не ўдаецца і мне скончыць тую летнюю пятніцу 16 ліпеня, калі я пачаў пісаць гэтую кніжку, на высокай ноце. У гэты самы дзень, калі так высока была ацэненая мая роля, на некалькі гадзінаў раней я атрымаў іншы лёсаносны допіс. Мне прапаноўвалі звольніцца і атрымаць за гэта грашовую кампэнсацыю.

Радыё мела праграму добраахвотнага сыходу для тых, хто дасягнуў пэўнага ўзросту і стажу. Звальняйся і атрымаеш пэўную кампэнсацыю.

Гэта быў ужо другі такі мэйл ад аддзелу кадраў, першы, мінулагодняй восеньню, я праігнараваў. Так, я падпадаў пад праграму, мог дазволіць сабе больш не працаваць. Магчыма, пасьля дзьвюх апэрацыяў на сэрца гэта мела сэнс. Мая маці, зацятая слухачка Свабоды, якая ганарылася маёй працай, апошнія гады свайго жыцьця не перастала ўгаворваць мяне сысьці і заняцца здароўем. Я і сам хацеў вярнуцца да кніг, якія чакалі свайго напісаньня, хацеў адведаць краіны, якіх ня бачыў, пераплыць акіян.

Але на мне была адказнасьць за лёсы дзясяткаў людзей, якіх арыштоўвалі, кідалі ў вязьніцы, якія ратаваліся ўцёкамі за мяжу і чакалі дапамогі: маральнай, юрыдычнай, мэдычнай і фінансавай. Я выслухоўваў блізкіх нашых журналістаў, якія насілі перадачы ў турмы, здабываў сродкі для калег, якія выехалі ў эміграцыю з адной торбай, арганізоўваў перасылку грошай, езьдзіў на вакзал, у аэрапорт, пісаў лісты ў міграцыйныя службы, быў на сувязі 24 гадзіны на суткі.

Усё гэта працавала, бо працаваў я — у самым непасрэдным сэнсе. Я быў афіцыйнай асобай, працавала не імя ці нейкі асабісты аўтарытэт, а пасада — дырэктар. І тады, у канцы 2021-га, я ня мог гэтую пасаду пакінуць. Як казаў Роналд Рэйган, мы ня можам дапамагчы кожнаму, але кожны можа дапамагчы некаму.

Цяпер прапанова звольніцца паўтаралася. У канцы допісу начальніца аддзелу кадраў дадавала аргумэнт ад сябе: больш такіх прапановаў можа й ня быць.

У абед мне настойліва нагадвалі пра магчымасьць сыходу, увечары паведамлялі, што радыё мяне пільна патрабуе і нікуды не адпускае. Магчыма, канечне, што за тры гадзіны паміж гэтымі допісамі апэрацыйныя ўмовы на радыё зьмяніліся.

Ня ведаю. Незалежных крыніцаў у мяне не было.

## Найлепшая праца

У будынку радыё, адразу на першым паверсе, стаіць шкляная шафа, дзе экспануюцца вартыя ўвагі супрацоўнікаў і гасьцей дасягненьні. Калі я пішу гэтыя радкі, вітрына не мянялася ўжо гады тры. І вінаватая Беларуская служба.

На радыё ёсьць тры пасады, тры працы, якія я лічу лепшымі за ўсе астатнія.

Гэта галоўны рэдактар, дырэктар службы і рэпартэр.

Мне давялося паспытаць усе тры. Паміж сабой я расставіў бы іх у адваротным парадку.

Напачатку — самая шчасьлівая праца, рэпартэр, які працуе ў полі зь мікрафонам, камэрай, блякнотам, тэлефонам, які ў пустаце знаходзіць зьмест і форму для навінаў, расьсьледаваньняў, гутарак. Побач стаіць вядоўца відэастрымаў, мадэратар жывога этэру, інтэрвіюер. Татальны драйв!*

---

* У першы год існаваньня «Бібліятэкі» выйшла кніга аднаго рэпартажу «Дарога праз Курапаты» (2002) — і ўпершыню праца нашай рэпартэркі была адзначаная літаратурнай прэміяй імя Алеся Адамовіча. Таксама з рэпартажаў нарадзілася кніга «Плошча» (2006), з гутарак — «Вольная студыя» (2009) і «Акцэнты Свабоды» (2009), з рассьледваньня — «Забойства ў цэнтры Эўропы» (2020), з выслухоўваньня — трылёгія «Галасы Беларусі» (2021, 2022, 2023).

На другім месцы — дырэктар, які дзякуючы бюджэту і людзям стварае новую рэальнасьць у сваёй службе і краіне. Поўная пагружанасьць у асалоду руху (ня толькі салодкага, вядома).

На трэцім месцы — галоўны рэдактар, які можа мяняць хуткасьць і кірунак руху ўсіх службаў. На гэтай вышыні свой драйв. Але гэта пасада ня толькі прафэсійная, але і палітычная, вялізную частку зьядаюць адміністрацыйныя і прадстаўнічыя функцыі. Адміністрацыйныя паводле сваёй прыроды рэгуляваныя, і іх трэба дзяліць зь іншымі дэпартамэнтамі — кадрамі, тэхнічнымі службамі, юрыстамі, прэзыдэнтам; прадстаўнічыя ўвогуле разагрэў паветра.

Галоўнага рэдактара выбірае прэзыдэнт. За мае тры дзясяткі гадоў на радыё прозьвішча прэзыдэнта мянялася больш за тузін разоў. Як правіла, гэта былі палітычныя прызначэнцы, з розным досьведам кіраваньня, часам з сур'ёзным журналісцкім мінулым, часам зусім зь іншых сфэраў, аднойчы абавязкі кіраўніка выконваў начальнік службы бясьпекі, два чалавекі ўваходзілі ў гэтую раку двойчы, адзін тройчы, было нават падвойнае прэзыдэнцтва, і быў прэзыдэнт, які займаў гэтую пасаду толькі месяц.

Гэта немагчымая праца, незалежная і адначасна залежная ад Вашынгтону, зь вечным змаганьнем за палітычную падтрымку, бюджэт, з выклікамі бясьпекі ў трох тузінах краінаў, ад эўрапейскіх дэмакратыяў да азіяцкіх тыраніяў і тэатраў вайны. Два з паловай дзясяткі моваў, сотні супрацоўнікаў са сваімі праблемамі, судовыя зыскі і турэмныя тэрміны, няспынныя тэхналягічныя зьмены — прэзыдэнты выклікаюць у мяне павагу і спачуваньне. Ведаючы ўсё гэта цяпер, я дакладна не хацеў бы быць прэзыдэнтам (але калі б ня ведаў — хто ведае…).

Паступалі часам прапановы стаць намесьнікам, рэгіянальным дырэктарам, кіраўніком іншай структуры, але ніводная не магла параўнацца са свабодай творчасьці на сваёй мове.

Ёсьць хіба яшчэ адна роля, якая дае мне нават большую асалоду: гэта праца галоўным рэдактарам «Бібліятэкі Свабоды».

На вітрыне пры ўваходзе на радыё, пра якую ішла гаворка напачатку, выстаўленыя кнігі «Бібліятэкі», пераклады нашых супрацоўнікаў.

У «Бібліятэцы» я прысутнічаю як аўтар пары кніжак, мноства рэпартажаў і інтэрвію, усіх прадмоваў. У выходных зьвестках некаторых кніг я пазначаны як рэдактар, і ўсюды як каардынатар і заснавальнік. Пару гадоў таму я скараціў гэты тытул і пазначаюся цяпер проста «Бібліятэкар Свабоды».

Без прыметнікаў*.

## Маё начальства. Адамовіч, Брыль, Быкаў

Неяк я адказваў на пытаньне анкеты, зь якімі пісьменьнікамі з гісторыі сусьветнай літаратуры я хацеў бы разам павячэраць. Я назваў Адамовіча, Брыля і Быкава. Усе трое былі на Свабодзе, сябравалі паміж сабой. Я меў шчасьце ведаць, гаварыць, запісваць інтэрвію з усімі трыма. Ім траім прысьвечаныя асобныя эсэ ў маёй кніжцы «Зкімбы-зымбы», пра кожнага можна напісаць кніжку.

Уяўляеце, як працаваць, ведаючы, што ў вас такія слухачы.

---

* У лістападзе 2022 году «Бібліятэка Свабоды» атрымала трэцяга Гедройця, найвышэйшую незалежную літаратурную прэмію для Беларусі («Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня»). На Новы 2023 год мы падрыхтавалі падарунак нашым чытачам — выдалі кніжку «Вянок Свабоды». У ёй сабраная ўся «Бібліятэка» — вокладкі, прадмовы і QR-коды, навядзі тэлефон і чытай кнігі, слухай песьні, глядзі відэа. Упершыню атрымаўся сымбіёз аналягавага і дыгітальнага слова. Scripta manent і нават multiplicantur…

Апошняе ў сваім жыцьці інтэрвію **Алесь Адамовіч** даваў Свабодзе — я прыехаў да яго ў Інстытут кінамастацтва ў Маскве, і мы правялі вечар за размовай, на якую ў мяне не хапіла магнітафоннай стужкі. Я ўзяў на гадзіну, а трэба было на тры. Адамовіч быў чалавекам будучыні і іншага вымярэньня гісторыі — у маім эсэ ён станавіўся першым прэзыдэнтам Беларусі, беларускай рэінкарнацыяй Гаўла.

«Алесю ад Алеся» — так ён некалі падпісаў мне сваю кнігу, але я ня памятаю, дзе і калі, у Менску, на Чарнобыльскай канфэрэнцыі, пры апошняй сустрэчы ў Маскве, за тры тыдні да сьмерці, ці раней, на першым пасяджэньні «Мэмарыялу», якое адбывалася ў яго інстытуце і куды ён запрасіў мяне як прадстаўніка Мартыралёгу Беларусі?.. Ён не марнаваў свайго дырэктарства на ўзгадненьні і дазволы, а проста адкрываў дзьверы і праводзіў пасяджэньні нефармалаў, дэпутатаў, міжрэгіяналаў у сваім інстытуце, біў у чарнобыльскі набат, у атамны, у антысталінісцкі.

Выказваньнем Адамовіча адкрываецца прадмова да нашага першага мэгапраекту, «Слоўніка свабоды». У другой палове 1980-х Адамовіч стаў голасам Чарнобылю і адным з сусьветна вядомых лідэраў гарбачоўскай перабудовы, і забылася, што ён быў арганізатарам самай важнай у Савецкім Саюзе размовы ў самы глухі час, яшчэ пры Андропаву.

Канфэрэнцыя пра антываенную літаратуру, якую ён ініцыяваў у Менску, дзе ўся літаратура была ваеннай, сабрала будучы цьвет галоснасьці з усёй краіны. Там нечакана прагучала маё імя — пісьменьнік Віктар Казько загаварыў пра адну маю газэтную публікацыю, прысьвечаную гістарычнай памяці, і дагаварыўся да таго, што пачаў ставіць мяне ў прыклад пісьменьнікам, як трэба пісаць. Такое не забываецца. І ўплывае на будучыню. На маю дакладна паўплывала.

Я не магу паверыць у лічбу: на вялізным валуне на магіле ў Глушы выбіты яго апошні год, 1994. І адчу-

ваньне абсалютна жывой прысутнасьці ўсе гэтыя гады. У 2018 годзе я атрымліваў прэмію імя Алеся Адамовіча за «Бібліятэку Свабоды», якую ўручаў Беларускі ПЭН. Фундатарам прэміі была Сьвятлана Алексіевіч, якая называла сябе вучаніцай Адамовіча, і якраз зьбіралі сродкі на бюст, і я перадаў нобэлеўскія грошы на помнік, і так гэтыя колы круцяцца, чапляюцца адно за адно, як механізм гадзіньніка, і рухаюць час.

**Янка Брыль** быў першы, хто яшчэ ў студэнцтве моцна ўразіў мяне сваёй шчырасьцю, лірызмам і праўдай, і потым, калі пазнаёміліся асабіста, гэтае ўражаньне толькі падмацавалася. Ягоную кнігу эпіфаніяў, «Вітражы», я купляў і дарыў знаёмым і малазнаёмым людзям. Эсэ пра Брыля ў маёй кніжцы «Зкімбы-зымбы» называецца «Чалавек дажджу» — ён быў як нейкі ўсёмагутны Даждзьбог (гэты бог да мэтэаралёгіі ня мае дачыненьня, але Брыль меў), які стаяў на падмурку эўрапейскай культуры і даваў упэўненасьць у гармоніі сусьвету.

Апошні раз я зь ім гаварыў у 2005-м, за паўгоду да сьмерці, мы абмяркоўвалі мэмуары яго суаўтара і майго земляка Ўладзіміра Калесьніка, якія Брыль рэдагаваў пасьля сьмерці сябра. Падчас аднаго прыезду ў Берасьце да маці я быў зь ёй на дні нараджэньня Калесьніка, 17 верасьня. Гэтая дата адзначаецца і як дзень узьяднаньня Заходняй і Ўсходняй Беларусі, і імяніньнік прапанаваў тост за ўзьяднаньне. Я паставіў келіх на стол — яднаньне маіх дзедавых вёсак з савецкай Беларусьсю зь яе Курапатамі не было для мяне сьвятам. Маці, якая працавала з Калесьнікам у пэдынстытуце і сябравала зь яго жонкай, пакрыўдзілася больш за ўсіх. Я павінаваціўся Брылю ў сваёй нявыхаванасьці, і Брыль, сам заходнік, нечакана сказаў, што разумее, хоць не падтрымлівае. Ён уважліва слухаў Свабоду, сябраваў з нашымі журналістамі, і было гонарам мець такога слухача.

«Саша, дарагі дружа», — так пачынаўся адзін зь лістоў **Васіля Быкава** да мяне, і я дагэтуль ніякавею, калі ўзгадваю гэты незаслужаны зварот і разьвітальнае, перад подпісам, «абдымаю». Гэтая кранальная, рэдкая для Быкава праява сантымэнту, завяршала іншы ліст, дзе ён адгукаўся на маё прызначэньне дырэктарам Беларускай службы: «Найперш — маё Вам віншаваньне з высокай і вельмі важнай пасадай, якая па цяперашнім часе робіцца ўсё болей важкай». Быкаў называў рэдакцыю «магутнай кучкай, роля якой у беларускай гісторыі вельмі проста можа аказацца большай, чым тых, што мітусяцца на радзіме».

Дзесяць гадоў перад тым Быкаў напісаў прадмову да маёй першай кніжкі, якая была прысьвечаная жыцьцю ў сталінскай Беларусі, потым рэкамэндацыю ў Гарвард, і ўжываў такія вызначэньні, што паўтарыць тут іх я не магу.

Я любіў Быкава. Люблю. Перачытваю, чытаю, чую голас. Гэта самы вялікі чалавек, якога я сустракаў. Рэч не ў параўнаньні, напрыклад, з кампазытарам Дзьмітрыем Шастаковічам, які частаваў мяне цукеркамі, прэзыдэнтам Вацлавам Гаўлам ці знаёмымі нобэлеўскімі ляўрэатамі. На такой вышыні няма параўнаньняў, ёсьць сугучча.

Быкаў ніколі не адмаўляў Свабодзе ў інтэрвію, камэнтары, удзельнічаў у круглых сталах. Ён уручаў мне некалі прэмію імя Францішка Багушэвіча за мае кніжкі. Ён хварэў, абвастрылася астма, але прыйшоў на імпрэзу ў музэй Янкі Купалы, каб асабіста ўшанаваць пераможцаў. Як салдат, які мусіць рабіць сваю справу, бо гэта тое, што трэба рабіць.

У мяне захоўваецца падпісанае ім пасьведчаньне №57 сябра Беларускага ПЭНу, я адвёз яго ў праскі шпіталь, дзе пачалося змаганьне з фатальнай хваробай.

У чэрвені 2003 году я выступаў на ягоным пахаваньні і змог знайсьці толькі містычную лексыку: «Не пакідай нас, анёл...» Больш такога ўсенароднага разьвітаньня я не пабачу ніколі.

У 2002 годзе Быкаў прыслаў мне свае ўспаміны, якія я некалькі год прасіў яго напісаць. Мы запрасілі яго з жонкай у Прагу, і ён прыехаў, тыдзень хадзіў на радыё як на працу, начытваў. Гэтыя шэсьць гадзінаў — самы вялікі запіс ягонага голасу, які існуе. Самы прыгожы і незабыўны, пад песьню на словы Купалы «Шумныя бярозы», якую сьпяваў Данчык:

*Ой, пайду я ў поле,*
*Як бы на вайну,*
*Шукаючы волю,*
*Шаблячкай махну!*

Быкаў найбольш любіў Купалу. Іх мастацкі сьвет існуе ў адных вымярэньнях, туды можна пайсьці, але немагчыма вярнуцца.

Адна зь першых кніг нашай «Бібліятэкі» называецца «Быкаў на Свабодзе» і выйшла двума выданьнямі*.

Апублікаваныя ягоныя лісты мне, нашым калегам, якія напісалі свае ўспаміны, — зь іх відаць, якім слухачом быў Быкаў, што значыла Свабода ў яго жыцьці. У шпіталі Свабода дрэнна лавілася, і мы прывозілі яму запісы сьвежых радыёперадачаў, і драты навушнікаў блыталіся з мэдычным рыштункам, які ратаваў яму жыцьцё.

Ён і нам такім чынам тлумачыў, што такое Свабода. Часам — напрасткі, як гэтымі двума, магчыма, самымі музычнымі і магічнымі сказамі, ім напісанымі:

«Надвячоркам кожнага дня я ўключаю прымач і шукаю Свабоду. Тое сталася звычкай і патрэбай душы».

Наша Нобэлеўская прэмія.

---

* «Быкаў на Свабодзе» (2004), «Быкаў на Свабодзе» (аўдыёдыск, 2004), «Быкаў на Свабодзе» (2005), «Доўгая дарога дадому» (аўдыёкніга, 2010).

## Апошняя пятніца, 30 верасьня 2022

Адкрыў тэлефон — сонца сёньня сядае а 18:43.

Незавершаная гісторыя, нібы сонца, заўсёды імкнецца альбо да завяршэньня, альбо да свайго пачатку, каб паўтарыцца ізноў. Я не чытаў старажытных эгіпцянаў і таму да цыклічна-лінейнага прынцыпу дадумаўся самастойна. Хоць гэты прынцып хутчэй сам да сябе дадумваецца.

Я дапісваю гэтыя нататкі ў пятніцу 30 верасьня 2022-га, бо існуе падставовае правіла журналістыкі — *deadline*, жорсткі час здачы матэрыялу ў друк, выхаду ў этэр. Рамкі асабліва плённыя ў час бязьмежжа, інтэрнэтнага і ня толькі.

Ідзе вайна.

Алег на волі разам з жонкай. Ігар і Андрэй за кратамі.

Я забраў з друкарні тры новыя кнігі «Бібліятэкі Свабоды»: калекцыю эсэ «Чаму Беларусь не Расея», фінальную кнігу трылёгіі «Падарожжаў Свабоды» — «Забіць упалмінзага» — і збор інтэрвію першага кіраўніка дэмакратычнай Беларусі «Станіслаў Шушкевіч на Свабодзе». Восемдзесят сёмая, восемдзесят восьмая і восемдзесят дзявятая кнігі «Бібліятэкі», да ўсіх я напісаў прадмовы.

Навісае і цісьне грамада незацьверджанага бюджэту. Наперадзе чарговы шторм ці нават цунамі. Я спрабаваў унікнуць яго яшчэ ў ліпені, папрасіўшы тады, адразу пасьля забароны ехаць на стыпэндыю Рэйгана — Фасэла, сустрэчы з начальствам. Пра стыпэндыю ня згадваў, казаў пра патрэбы службы ў новым годзе, прасіў павялічыць бюджэт, пытаўся пра фінансаваньне бюро ў Літве, дзе вымалёўваліся непамерныя і непатрэбныя кошты. Тая сустрэча нічога не праясьніла, і трывога мяне ўжо не пакідае, як чырвоны індыкатар на панэлі аўто, — можна ехаць, але ня ведаеш, калі спынісься.

Сёньня апошні дзень працы галоўнай рэдактаркі, якая фігуравала ў маіх нататках як частка калектыўнага «начальства». Яна вырашыла звольніцца пасьля адметнай дваццацігадовай кар'еры — ад рэдактаркі да кіраўніцы вяшчаньня, была рэгіянальнай дырэктаркай, узначальвала тэлеканал, выконвала абавязкі прэзыдэнта. Надзвычайныя дасягненьні на любым рахунку, пра што я ў сваім выступе сказаў і сам. Калі слухаў кампліменты калег на ейны адрас, думаў і пра тое, што ня толькі мне зь ёй, але і ёй са мной было весела. Да зубнога скрыпу.

Яна была галоўнакамандуючай рэгулярнай арміі, я — партызанам. Калі паглядзець яе вачыма — усё, што ад мяне патрабавалася, гэта выконваць інструкцыі, прытрымлівацца правілаў, заставацца ў межах бюджэту, стратэгіі, рашэньняў… Але партызанамі немагчыма кіраваць, як рэгулярным войскам.

Пра саму журналістыку спрэчак у нас амаль не было — у асноўным пра мэнэджмэнт, рэсурсы, узаемаадносіны. Хоць цяпер успомнілася, як я сустрэў яе ў кафэ пасьля завяршэньня сваёй кароткай кар'еры галоўнага рэдактара, і яна запляскала ў далоні на знак прызнаньня. І гэта яна сядзіць побач са мной на тым даўнім здымку фіналістаў спаборніцтва на найлепшы інавацыйны праект і, адхіснуўшыся, глядзіць агаломшана, як я пераскокваю праз стол прэзыдыюму па ўзнагароду.

Зрэшты, я быў толькі адным з дваццаці пяці дырэктараў. Захацела б — звольніла б.

Але тое ўжо ня так і важна.

Заўтра пачнецца дваццаць пяты год майго дырэктарства. Гэта будзе мой апошні год на Свабодзе. Будучыня ўжо прыйшла — каманда, зь якой я працую, сама яе стварае і робіць гэта хутчэй, дакладней, лепш за мяне.

У кожнага свая свабода і свой выбар. Магу здагадвацца, што будзе далей, але тое ня так важна для гэтага аповеду,

дзе час і даты танчаць як хочуць, два крокі наперад — адзін назад, налева, направа, кругом…

Аднойчы, задоўга да Свабоды, падчас вучобы ў Менскім інʼязе мы здавалі экзамэн па гісторыі. Гісторыя тады была адна, КПСС, курс чытаў прафэсар, які быў адначасна сакратаром партарганізацыі і меў уладу, ня меншую за рэктара.

Кансультацыя перад экзамэнам скончылася, калі ён раптам утаропіў указальны палец у мяне і сказаў, што заўтра ўсе будуць змагацца за добрыя адзнакі, каб атрымаць стыпэндыю, а ты, Л., — за тое, каб ня вылецець з інстытуту. І патлумачыў, што ён ужо праз пятнаццаць хвілін ведаў пра маю правакацыю на палітінфармацыі (я спытаўся, навошта нам уголас чытаць газэту, усе ж пісьменныя), пра імяніны ў інтэрнаце, дзе я хваліўся, быццам нарадзіўся ў адзін дзень з Роналдам Рэйганам, а калі б я яшчэ сказаў, што не магу асуджаць Салжаніцына, бо не чытаў, дык вылецеў бы з інстытуту і ніколі ня ўведаў за што.

Гэта было так нечакана, што я застаўся ў апусьцелай аўдыторыі адзін і заплакаў. Назаўтра на экзамэне я зачытаў свой білет, прафэсар ня стаў слухаць адказу, паставіў чацьвёрку, «добра», і аддаў заліковую кніжку — ідзі.

На радасьцях мы зь сябрам выпілі бутэльку рому, я паехаў у аэраклюб, дзе займаўся парашутным спортам, скокнуў зь дзьвюх тысяч мэтраў і грымнуўся аб зямлю так, што нічога ня памятаю дагэтуль.

Праз гады, калі пры зьмене надворʼя зноў заныла калена, я падумаў: а што, урэшце, адбылося насамрэч?

Я зусім ня быў злосным дысыдэнтам, а даўгія валасы і джынсы былі хутчэй прыкметай канфармізму, чым пратэсту. Салжаніцына я чытаў толькі «Адзін дзень», была ў нас дома «Раман-газэта» з гэтым апавяданьнем, схаваная за кнігамі на верхняй паліцы. Ці не гучала публічная пагроза выкладчыка насамрэч як папярэджаньне думаць, пра што і з кім гаварыць?.. І мне, і ўсім астатнім?

Праз шмат гадоў я зайшоў у інстытуцкі аддзел кадраў і папрасіў сваю асабовую справу. Мне яе не далі, а панесьлі спачатку да рэктара. Я прасядзеў у прыёмнай добрую гадзіну, калі нарэшце сакратарка вынесла тонкую тэчку — сачыненьне пры паступленьні, ведамасьці з гадавымі адзнакамі, копію дыплёму і пастанову пра разьмеркаваньне.

Не было дзьвюх характарыстык — адну асабліва важкую я памятаў, бо яна патрабавалася для паездкі на стажыроўку ў Англію. Яе падпісвалі сакратары камсамолу, прафсаюзу, партыі і рэктар, гэта быў манумэнтальны дакумэнт. Плюс трэба было прайсьці мэдкамісію на выезд за мяжу, патрабавалася даведка ад вэндыспансэру, трэба было рабіць рэнтген і здаваць кроў зь вены, што я запомніў, бо тады ўпершыню самлеў. Усе дакумэнты адправілі, як тады казалі, у вышэйшую інстанцыю.

Мяне выклікаў загадчык вайсковай катэдры, паведаміў, што давярае, і спытаўся, пра што гавораць студэнты, адабраныя на замежную стажыроўку. Я шчыра параіў у іх саміх і спытацца. У Англію я не паехаў, бо, як мне патлумачылі, групу скарацілі.

З інтэрнату мяне таксама скарацілі, але там была свая гісторыя, ня зьвязаная з Рэйганам. Я выпусьціў газэту, у якой творча, як мне падавалася, характарызаваў умовы інтэрнацкага жыцьця: фаўну (пацукоў), флёру (цьвіль), надвор'е (скразьнякі), атмасфэру (кухонны чад), клімат (абязводжваньне), баявы дух (у палон ніхто ня здасца, бо прасьціны даўно ня белыя). Газэту абвясьцілі падпольнай, хоць яна была самая што ні ёсьць насьценная, паслалі тэлеграму бацькам, каб прыехалі на разбор, але яны не прыехалі, бо тэлеграму перахапіла сястра, і ўрэшце мяне проста выселілі.

У асабовай справе нічога гэтага не было. Не было і яшчэ адной абавязковай характарыстыкі, самай апошняй, паводле якой рабілася разьмеркаваньне на працу.

Першы дзясятак выпускнікоў, з вышэйшым балам, ехалі перакладчыкамі за мяжу. Гэта найперш датычыла хлопцаў, якіх было вобмаль. Выпускніц накіроўвалі ў вясковыя школы. Я вучыўся няблага і сярод хлопцаў быў на самым версе. Мяне паслалі выкладаць ангельскую мову ў вясковую школу, дзе вывучалі нямецкую.

Асабовая справа, такім чынам, нічога не праясьніла ў падзеях даўніх гадоў.

Прычына была клясычная: я ня меў незалежнай крыніцы.

Дзеля даведкі: я сапраўды нарадзіўся ў адзін дзень з Роналдам Рэйганам, 6 лютага.

Толькі ён у панядзелак, перад пятніцай, а я пасьля, у нядзелю. Ці наадварот.

Пятніца можа здарыцца ў любы дзень.

*15 ліпеня — 30 верасьня 2022.*

Эпіфаніі — раптоўнае ўразуменьне сапраўднага стану рэчаў — хоць і грэцкае слова, але я ўведаў яго ў перакладзе з латыскай. Так называлася бліскучая, як начное мора пад поўняй, кніга паэтычнага празаіка з Рыгі Імантса Зіедоніса: «Надзеньце кашулю белую і пішыце ранкамі. Надзеньце кашулю белую і капайце зямлю. Надзеньце кашулю белую і пачысьціце сваёй маці туфлі...»

Шмат каго з тых, каму я хацеў бы пачысьціць туфлі, ужо няма: «Надзеньце кашулю белую, пакуль вы маладыя...»

Ужо ня важна калі — важна белую.

## Свабода ці свабода

Журналісты Свабоды сядзяць у турме, абвешчаныя экстрэмістамі, залічаныя да тэрарыстаў, бо дыктатар прызнае нашую ўладу. Не чацьвертую — чацьвертай прэса становіцца тады, калі ёсьць першыя тры. Проста ўладу: ідэяў, ацэнак, навінаў, думак.

Гістэрыкі ўладаў наконт рукі Свабоды, якая быццам накіроўвала дэманстрацыі, дырыгавала мітынгамі, вяла пратэстоўцаў, спыняла транспарт — рэакцыя страху. Калі сотні людзей скандуюць: «Радыё Свабода, Радыё Свабода!», калі чалавек у ланцугу салідарнасьці кажа, што прыйшоў, бо глядзеў стрым Свабоды і стала сорамна ляжаць на канапе, — гэта не рука Свабоды, а рука свабоды.

## Радыё ці мама

Я думаю, што Беларуская Свабода — самае важнае радыё ва ўсім сьвеце.

Я так думаю не таму, што палова майго жыцьця зьвязаная з гэтым радыё. Бо зьвязана больш.

Неяк я атрымаў прачуханку ад маці за першы сказ сваіх заўчасных мэмуараў, якія пачыналіся так: «Мяне зрабілі мае бацькі…» Маці больш падабаліся формы кшталту «Я нарадзіўся...» ці «Мая мама нарадзіла мяне…» Яна потым зрабіла ксэракопіі з гэтай публікацыі ў «Дзеяслове» і паслала сваякам, але гэты пасаж акуратна заклеіла белай паперай.

Але я меў на ўвазе момант не нараджэньня, а зараджэньня, які, паводле маіх падлікаў, прыпаў на травень 1954-га. Ня буду сьцьвярджаць, што дакладна на вечар 20-га дня, хоць чаму не, — але менавіта на той травень, калі з дапамогай Рады БНР нарадзілася і выйшла ў этэр Радыё Свабода, якое тады называлася «Вызваленьне».

Так што для мяне Свабода, безумоўна, самае галоўнае радыё на сьвеце. І ня толькі для мяне — мая маці, Марыя Пракопаўна, у дзявоцтве Сахарчук, ведала ўсе галасы і любіла ўсіх маіх калег. Уставала, калі слухала арыю «*Va, pensiero...*» з опэры «Набука», якая на працягу году адкрывала штодзённую перадачу «Верш на свабоду». Маму хавалі пад бел-чырвона-белым сьцягам, яе імя ёсьць і ў энцыкляпэдыі «Імёны свабоды». З 2015 году яе фота стаіць у маім кабінэце разам са зваротам да сваякоў і сяброў, які яна папрасіла прачытаць на апошнім разьвітаньні. Часьцей за ўсё там сустракаюцца словы «дзякуй», «шчасьце» і «любоў».

Свабода і мама — абедзьве галоўныя.

## Дзякуй ці *thank you*

У 1919 годзе Васіля Лукашука, майго дзеда па мячы, выслалі з Амэрыкі, дзе ён быў на заробках, за тое, што ўступіў у прафсаюз анархістаў. Яго брат унёскаў не плаціў і застаўся. Усю прафгрупу пагрузілі на карабель і адправілі ў рэвалюцыйную Расею. У родную вёску Рагозна на Берасьцейшчыне ён вяртаўся праз Сібір, чым быў вельмі не задаволены (раней у бежанстве там пабывала і бабка). Дзякуй Амэрыцы, што выслалі, а то мяне б зь сястрой не было.

Мой бацька, Міхаіл Васільевіч Лукашук, калі быў дырэктарам сельскай школы, абмяняў прызначаны для школы дэфіцытны халадзільнік «ЗіЛ» на сьпісаны ў суседняй вайсковай частцы грузавік «ЗіЛ». Дзеці сталі вучыцца і здаваць на правы, што для канца 1950-х было як праграмаваньне для пачатку 2000-х. За гэта яго зьнялі. Але неўзабаве прызначылі адным з кіраўнікоў абласной культуры. Калі захацелі прызначыць галоўным кіраўніком, высьветлілася, што ў нас куча сваякоў у Амэрыцы, і тады прызначылі дырэктарам тэатру. Гэта была ягоная самая шчасьлівая праца і шчасьлівы час — дзякуй Амэрыцы.

Тры дзесяцігодзьдзі за грошы амэрыканскіх падаткаплатнікаў я атрымліваў асалоду ад працы, за якую быў гатовы сам даплачваць. *Thank you, America!*

## Уезд ці выезд

Каб выехаць зь Беларусі, на пачатку 1990-х патрабаваўся дзяржаўны дазвол — віза.

Без выязной візы нельга было прыехаць на працу ў Мюнхэн. Міністэрства ўнутраных справаў мне адмовіла. АВіР тлумачэньняў не даваў. Візы выдавала таксама Міністэрства замежных справаў, імі займаўся спэцыяльны намесьнік міністра. Намесьнік быў такі спэцыяльны, што дзяліў прыёмны пакой з самім міністрам.

Я пайшоў на прыём і сядзеў у чаканьні ўжо з гадзіну, калі ў прыёмную выйшаў Пятро Краўчанка, першы міністар замежных справаў Беларусі і спытаўся, што я тут раблю.

Мы былі трохі знаёмыя з часоў маёй журналісцкай працы, але больш дзякуючы майму ўдзелу ў рознай нефармальнай актыўнасьці, як тады называлі любую свабодную дзейнасьць. Краўчанка займаў раней пасаду сакратара гаркаму партыі па ідэалёгіі, займаўся ўтаймаваньнем гэтай актыўнасьці і падхапіў інфэкцыю беларушчыны. Гаварыў па-беларуску, спрыяў мастакам, сябраваў зь літаратарамі, дапамагаў з пошукам Крыжа Эўфрасіньні. Помнік Скарыну ў Празе і мэмарыяльная дошка беларускаму першадрукару ў Падуі — ягоная заслуга.

Уведаўшы прычыну майго панурага чаканьня, міністар перапытаў, ці ў беларускую рэдакцыю я еду працаваць, і зьнік за дубовымі дзьвярыма, каб неўзабаве выйсьці з дазволам.

Гэта была самая дзіўная віза — зь Беларусі ў Беларусь.

## Рай ці вырай

Калі пэдантычна, дык я быў сёмым, дзявятым, адзінаццатым і трынаццатым дырэктарам Беларускай службы, з 1998 да 2023 году. Мае калегі выконвалі кіраўнічыя абавязкі, калі я паляцеў на стыпэндыю ў Гувэраўскі інстытут у Каліфорнію, затым калі больш за год узначальваў Афганскую службу, і потым, калі паўгоду працаваў галоўным рэдактарам радыё.

Дырэктарства ня самы райскі занятак. Але патлумачыць, чаму вяртаньне мілейшае за расстаньне, — як перакласьці на іншыя мовы слова «вырай».

Не перакладаецца.

## Сьвет ці сусьвет

Я лічыў і лічу, што Беларуская служба — цэнтар сьвету і большая за ўсё радыё. Бо кожная моўная служба большая за ўсю кампанію, бо гэта цэлы сусьвет, а сусьветы, як шары, ня могуць быць больш ці менш шарападобнымі адзін за адзін, як адзін круг ня можа быць круглейшы за іншы, незалежна ад дыямэтру.

Проста сусьветаў несусьветна шмат.

## Там ці тут

Галоўны недахоп гэтай кніжкі ў тым, што зь меркаваньняў бясьпекі і канфідэнцыйнасьці я амаль ня згадваю сваіх калег, зь якімі працаваў побач штодня на працягу многіх гадоў. Не магу ім як сьлед падзякаваць.

Чараўніца этэру з голасам, як лён, і інтанацыяй, як віно, валадар дзясяткаў моваў, на якія адгукаюцца забытыя імёны і чужое становіцца сваім, узломшчык палітычных кодаў, здольны расшыфраваць самыя загадкавыя хады ўлады, раўнапраўная суразмоўніца прэзыдэнтаў, якую называюць сваёй абаронцай абаронцы Курапатаў, героі супраціву і ахвяры гвалту, джазмэн гаворкі «по-свойму» і маэстра перакладу сусьветнай літаратуры, шаравая маланка мадэрацыі, чый кожны выхад да мікрафона слухалі, як канцэрт, і ўспрымалі, як кіно, віртуоз палемікі з хуткасьцю тысячы словаў і думак у хвіліну, аўтар інтэрвію з рок-н-ролам замест філязофіі, якія дзейнічаюць як дзэн, вялікі майстар тантамарэсак і таямнічых сэнсаў, археоляг будучыні, які знаходзіць бясцэнныя скарбы пад заваламі часу, рыцар немагчымага, якіператвараў час у гісторыю, а гісторыю ў летапіс...

Свабода — гэта яны, іхныя талент, веды, досьвед, працаздольнасьць, прыгажосьць, цярплівасьць да мяне, здольнасьць даравацъ. Іх сяброўства.

Іх не відаць, але яны за кожным радком. Ня недзе там, а тут і заўсёды.

## Мала ці многа

Я неяк палічыў, колькі дае наш бюджэт на аднаго жыхара Беларусі на год — аказалася, ня хопіць нават на адну запалку на дзень. Гэта катастрафічна мала для вайны за ўвагу людзей. Аднак не забудземся: гэта грошы амэрыканскіх падаткаплатнікаў, якія Кангрэс ЗША шчодра вылучае на замежнае вяшчаньне на беларускай і іншых мовах.

І вяшчаньне не пра Амэрыку, а пра сучаснае жыцьцё ў Беларусі, яе гісторыю, культуру, мову. Не на прапаганду, а на журналістыку, якая кіруецца ўнівэрсальнымі каштоўнасьцямі дэмакратыі і правоў чалавека.

Гэта — дарагі падарунак.

## Гарэлка ці віскі

У 1994 годзе я быў у камандзіроўцы ў Менску, і пасьля адной перадвыбарчай вечарыны ўначы з горла хлынула кроў. Сябры, у якіх я спыніўся, выклікалі хуткую, яна пасьпела прыехаць, і наступныя два тыдні я праваляўся ў шпіталі.

У адведкі прыходзілі калегі, народныя пісьменьнікі і паэты, і ўсё было файна, пакуль не заглянуў адзін кандыдат у прэзыдэнты — адразу сабралі кансыліюм і накіравалі на апэрацыю. Я ледзь адбіўся. Сымптомы скакалі, і абышлося пераліваньнем крыві.

Вячка Станкевіч, дырэктар службы, хацеў арганізаваць мэдычную эвакуацыю, страхоўка аплачвала спэцыяльны самалёт, я адмовіўся, і тады ён настаяў на бізнэс-клясе для палёту зь Менску ў Мюнхэн.

Я сядзеў адзін на ўвесь бізнэс-салён, стуардэса «Люфтганзы» прапанавала напоі — і я папрасіў віскі і «Крывавую Мэры». Яна зьдзіўлена зірнула і пайшла выконваць замову. Потым з-за фіранкі выглянуў пілёт і таксама дзіўна на мяне глядзеў. Экіпаж бачыў, што мяне даставілі да трапа на мэдычнай машыне.

Стуардэса прынесла шклянку зь цёмна-чырвоным кактэйлем, лімонам і сельдэрэем, я глынуў — і зразумеў, чаму экіпаж захваляваўся.

Замест гарэлкі быў віскі. Ідзі дакажы, што ня так зразумелі.

У Мюнхэне лекары, здаецца, так і не паверылі ва ўсю гісторыю шпіталізацыі — не засталося сьлядоў язвы, якая быццам адкрылася, а потым закрылася. Ці вынайшаў я тады ў самалёце гаючы кактэйль — ня ведаю.

Можа і так.

## Словы ці справы

Абяцанка-цацанка, а дурню радасьць — гэта пра мяне. Я даўно заўважаў, што словы для мяне могуць замяніць справы.

У 1995 годзе, калі рэдакцыя пераехала зь Мюнхэну ў Прагу, у мяне, канечне, адразу скралі аўтамабіль. Тады гэта быў галоўны цэнтральнаэўрапейскі бізнэс, машыны пераганялі празь бязьвізавыя межы і затым далей на ўсход. Я пайшоў у пастарунак, выклікалі перакладчыцу, паліцэйскі заправіў у друкарскую машынку пяць аркушаў паперы праз капірку і пачаў складаць пратакол. Кампутары былі рэдкасьцю.

Калі скончыў, ён выцягнуў паперы з карэткі, узяў першы аркуш і пачаў ставіць нейкія птушачкі. Я спытаўся, што ён робіць.

— Літара «V» зламалася. Пратакол трэба паслаць факсам, каб пачалі пошук, а без «V» будзе незразумела.

— А спытайце, чаму не адрамантавалі, — папрасіў я перакладчыцу, верагодна, з думкай пра эфэктыўнасьць будучых пошукаў майго «VW», фальксвагена.

— Каб вы ведалі, якая ў нас бюракратыя, — уздыхнуў паліцэйскі. — Трэба напісаць тузін заявак, а як напішаш бязь літары «V»?..

— Вы чыталі Кафку? — спытала мяне перакладчыца.

Паліцэйскі ўзяў другі аркуш са стосу і зноў пачаў ставіць «V». Чаму ён не паставіў адразу ўсюды пад капірку, спытаў я перакладчыцу.

— Вы чыталі «Швэйка»? — спытала перакладчыца. Яна выкладала расейскую мову ва ўнівэрсытэце, але адказвала як выкладчыца філязофіі.

Машыну маю шукаюць дагэтуль, але я лічу, што прыведзены дыялёг — справядлівая плата за страту.

## Камуністы ці артылерысты

Так была забалела галава і зрок памуціўся, што вырашыў за лепшае паехаць у хуткую дапамогу, балазе ў Празе яна была недалёка ад дому. Спачатку, як заўсёды, трэба прад'явіць дакумэнты, а ў мяне з сабой толькі правы і пасьведчаньне журналіста РСЭ/РС. Лекар, мужчына гадоў пяцідзесяці, пакруціў прэс-картку і кажа мэдсястры: Свабода, гэта ж амэрыканская станцыя. І потым мне:

— Чаму вы бамбіце Сэрбію?!

Якраз пачалася апэрацыя NATO для ўратаваньня Косава ад сэрбскага генацыду. Сэнс пытаньня да мяне зь цяжкасьцю, але дайшоў. І я таксама запытаўся:

— А чаму вы рэжаце касавараў?

Лекар кінуў паперы:

— Я не камуніст, але чаму вашыя бамбавікі над Бялградам?!

— Я не артылерыст, але чаму вы праводзіце этнічную чыстку снарадамі?

Лекар павярнуўся да прыціхлай мэдсястры і аддаў некалькі кароткіх злосных камандаў на латыні, зь якіх я зразумеў толькі *iniectio intravenosa*.

Усё, капец, падумаў я. І, як бачыце, памыліўся.

## Палітычна ці карэктна

Людзі слова ня любяць паліткарэктнасьць, бо лічаць, што гэта абмежаваньне свабоды слова.

Я стаўлюся да паліткарэктнасьці як да правілаў дарожнага руху: яны істотна абмяжоўваюць свабоду руху, і таму робяць яго магчымым.

Але часам трэба і па бездарожжы.

## Ты ці вы

Аднойчы адзін лідэр апазыцыі надрукаваў у апазыцыйнай газэце гнеўны артыкул пра Радыё Свабода: тое ня так, гэта ня сяк, усё наперакасяк. Я аслупянеў. Мы былі на «ты», яшчэ за савецкім часам я чым мог яму дапамагаў, ён, здавалася, таксама да мяне прыязна ставіўся. Зрэшты, мог усё сказаць сам-насам.

Я быў малады дырэктар, пераймаўся і ня мог сьцяміць, што за муха яго джганула. Не разумеў, што ён ня толькі антыкамуніст, дысыдэнт і нацыяналіст, а палітык, што ягоны погляд на прэсу быў як на свой рэсурс, правільна было ўсё, што карысна, а рэшта ня мела каштоўнасьці. Калі я гэта зразумеў, боль ад укусу ня зьнік, а перацёк на іншы аб'ект — стала балюча за яго. Але потым прайшло.

Стала так, як трэба ў журналістыцы. Мы сталі на «вы».

## Цынізм ці гуманізм

Цынізм — неабходны інструмэнт любой прафэсіі, бо прафэсія мае справу не зь людзьмі, а з працэсамі. Гэта ведаюць лекары і сьвятары, настаўнікі і палітыкі.

Але дыстанцыя і адключэньне эмоцыяў могуць ня толькі выглядаць як пагарда і абыякавасьць, а быць імі. Мне бліжэйшая сэнтымэнтальнасьць.

Усё амаль тое самае, а чуесься лепей.

## Кут ці выйсьце

У гісторыі пра ананімную крыніцу («Дарагая паўза»), калі ўдалося перагуляць КДБ і амэрыканскіх юрыстаў адначасна, бо крыніца — інжынэр мэтрапалітэну — пагадзілася назвацца, застаўся ня столькі працяг, колькі два пытаньні і адна выснова.

Пытаньні пра варыянты: а што, калі б я не знайшоў тады ўначы інжынэра? А што, калі б знайшоў, а ён не пагадзіўся б назваць сваё імя публічна?..

Адказваць можна доўга, але выснова адна: трэба дзейнічаць. Гэта адзінае, што можна рабіць, калі загнаны ў кут і няма выйсьця.

Можа пашанцаваць.

## Мастацтва ці мода

Некалькі гадоў таму па ўсім сьвеце людзі вылівалі сабе на галаву цэбар ледзяной вады — лічылася, што так мы нечаму дапамагаем, ня памятаю чаму.

Мы нават зьнялі такі кліп для пачатку тэлевізійнага сэзону на «Белсаце». Стаялі ў двары радыё пад халодным восеньскім небам і лілі сабе на галаву ваду.

У мяне потым прапаў голас, і адкрыць сэзон не давялося.

Ахвяра мастацтва. Ці моды.

## Кашмар ці мара

Калега расказвае страшны сон: прысьніў, што сядзіць у студыі перад мікрафонам і чытае навіны па-расейску.

Іншы калега, выпускнік вясковай беларускай школы, які большасьць жыцьця працаваў у беларускамоўных рэдакцыях і ад якога я чуў толькі беларускую, прыйшоў аднойчы ў госьці і загаварыў па-расейску. Я зьдзівіўся, а ён патлумачыў: баюся забыцца.

Розьніца паміж гэтымі страхамі, як паміж кашмарам і марай. І абодва магчымыя.

## Калі ці як

Гога, уласьнік аднайменнага грузінскага бістро ў Празе, вучыць, як варыць хінкалі: закіпяціць, пасаліць, апусьціць і памешваць. Паўза. Я не вытрымліваю і пытаюся: а калі даставаць?

— Калі будуць гатовыя.

— А калі будуць гатовыя?

— Пабачыш.

Гэта і пра рэдактуру. І ня толькі.

## Аўтар ці рэдактар

Чытаць кнігі і тэксты, якія выдаюцца без рэдактара і карэктара, — як іграць на разладжаным піяніна.

Яны як настройшчык, якому не абавязкова самому быць віртуозам клявіятуры, але безь ягонай нябачнай працы не адбудзецца ніводзін канцэрт.

«Бібліятэка Свабоды» рабілася на тарашкевіцы людзьмі з абсалютным лінгвістычным слыхам. І зрокам — калі карэктар можа пабачыць, што кропка ў зносцы належыць да іншага шрыфту, гэта не карэктар, а снайпэр.

І ўсё адно, амаль у кожнай кніжцы пасьля выхаду я знаходжу хоць адну памылку.

Асабліва ў сваіх.

## Джунглі ці пустыня

Псыхалёгія ня тое што сьмяецца з нашай памяці, але ведае ёй цану. Мы памятаем не працэс, а яго крайнія пункты — таму ў гэтай, як і ў любой аўтабіяграфічнай кніжцы, так часта сустракаюцца прыметнікі з «най-» — найбольшы, найдаўжэйшы, найвялікшы, а таксама азначэньні «першы», «адзіны», «апошні», «самы»… Так працуе нашае наратыўнае «я», якое зводзіць у адну гісторыю яе пікі і канец.

«Я», якое дзейнічала і пражывала ўвесь працэс, ня мае голасу — калі толькі не зафіксавала сябе ў дзёньніку, у нататках па гарачых сьлядах.

І нават тады гэта голас у пустыні на месцы джунгляў кантэксту. Але іначай трэба пісаць «Уліса» пра кожны дзень. І чытацца тое будзе як «Хаўтуры па Фінэгану».

## Пісаць ці чытаць

У архівах Гувэраўскага інстытуту ў Каліфорніі я знайшоў сваё прозьвішча сярод атрымальнікаў амэрыканскай дапамогі сто гадоў таму. Зьдзівіўся і напісаў кніжку «Прыгоды АРА ў Беларусі», дзе паспрабаваў аднавіць гісторыю самай буйной і самай забытай гуманітарнай дапамогі насельніцтву Беларусі ў дваццатым стагодзьдзі.

На прэзэнтацыі ў Менску выступіў акадэмік АН Беларусі К. і сказаў, што мая праца заслугоўвае званьня кандыдата навук. Потым выступіў прафэсар Ш., які зь ім не пагадзіўся, бо даваць трэба было адразу доктара. Затым на сцэну зь вершам пра кнігу падняўся народны паэт Б. Кнігу ён, мяркуючы па вершы, не чытаў, але заявіў, што яна заслугоўвае Нобэлеўскай прэміі.

Год таму я атрымаў ліст з Амэрыкі ад прафэсаркі гісторыі з унівэрсытэту штату Вашынгтон, якая рэкамэндавала кнігу сваім студэнтам. Адна дзяўчына зрабіла яе тэму прадметам свайго дактарату, і перад абаронай яны ўзгадалі, што не папрасілі ў мяне дазволу на цытаваньне і іншыя аўтарскія правы.

Я тую доктарскую дысэртацыю не чытаў, але ўзгадаў сваю прэзэнтацыю і паслаў дазвол і віншаваньні. У наш час ужо можна даваць доктара за тое, што прачыталі.

А хутка і Нобэля.

## Шляхі ці тупікі

У Стэнфардзе я пазнаёміўся з трыма сусьветна вядомымі супрацоўнікамі: гісторыкам Робэртам Конквэстам, фізыкам Эдвардам Тэлерам і эканамістам Мілтанам Фрыдманам.

Пасьля сустрэчы з кожным я нешта ўведваў пра сваю працу дырэктара.

Конквэста, былога дарадцу брытанскай прэм'еркі Маргарэт Тэтчэр, я спытаў, ці можна па кампусе Стэнфардзкага ўнівэрсытэту хадзіць напрасткі, не па дарожках, а па газоне.

— Ня думаю, што Бог стварыў мяне, каб я хадзіў па асфальце, — адказаў аўтар «Вялікага тэрору» і сямі кніг паэзіі.

У Тэлера, які дапамагаў Альбэрту Эйнштэйну з разьлікамі пра канец сьвету ад ланцуговай рэакцыі, я пацікавіўся, чаму гонка ўзбраеньняў такая дарагая, усе гавораць пра кошты зброі новага пакаленьня — а ці нельга пераскочыць адразу да наступнага новага.

— Дзе б вы былі, калі б ваша маці пераскочыла праз пакаленьне? — спытаўся бацька амэрыканскай вадароднай бомбы.

Нобэлеўскага ляўрэата Фрыдмана, які ў маладосьці быў на экскурсіі ў Савецкім Саюзе і начаваў у маім родным Берасьці, я папрасіў расказаць, што яго найбольш уразіла.

— Цяга да ведаў. Заходжу ў грамадзкую прыбіральню, кабінкі безь дзьвярэй, у кожнай сядзіць чалавек і чытае газэту.

Ідзі сваім шляхам, не шукай абыходных шляхоў, ня вер усяму, што бачыш на шляху сваім, — чым не высновы для журналістыкі.

## Сьлёзы ці ружы

Самая дакладная песьня пра беларускую журналістыку — «Купалінка».

«Цёмная ночка» — гэта пра ўмовы працы.

«Ружу поліць, белы ручкі коліць» — гэта пра саму працу.

«Кветачкі рвець, вяночкі зьвівае, сьлёзкі пралівае» — пра вынікі і наступствы для ўсіх, ад рэпартэра да галоўнага рэдактара.

А што, плачуць і ад шчасьця.

## Факты ці фэйкі

Аднойчы мой чарговы канфлікт зь нейкім радыйным дэпартамэнтам дайшоў да чарговага прэзыдэнта, і ён прыслаў чарговага галоўнага рэдактара разьбірацца. Я пачаў выкладаць сваю пазыцыю: факты такія і такія — і тут рэдактар мяне спыніў. Факты, сказаў ён, гледзячы мне ў вочы зь нейкім шкадаваньнем, нічога ня значаць.

Я зваліўся з крэсла.

Я атрымаў шок, бо пачуў такое ўпершыню, з вуснаў галоўнага рэдактара, былога дарадцы прэм’ер-міністраў, які мае нават уласны палітычны закон у Вікіпэдыі, названы ягоным імем. Гэта было сказана задоўга да прэзыдэнта Трампа, да постпраўды, да трыюмфальнага ўварваньня слова «фэйк» ва ўсе мовы сьвету.

Такі я быў наіўны.

Можа, і не зусім — бо і кіраўніцу таго дэпартамэнту хутка папрасілі з працы, і галоўны рэдактар неўзабаве адправіўся дапамагаць іншаму прэм’ер-міністру.

На кожны факт ёсьць свой кантрафакт. Дакладней, наадварот.

## Фэйкі ці факты

У студэнтах я захапляўся сафістамі, Пратагорам, Ксэніядам, Горгіем, і мог лёгка даказаць, што палова яблыка роўная цэламу. Гэта дапамагала знаёміцца зь дзяўчатамі, але хутка яны страчвалі інтарэс. Цікавіў цэлы яблык.

Цяжка не пагадзіцца, што факты значаць нешта толькі ў кантэксьце, у дынамічнай сыстэме іншых фактаў і ацэнак, абмежаваных нашымі ведамі, поглядамі, досьведам. І таксама — уладай. Улада можа ствараць свае факты.

Фактычна, нічога дзіўнага, што для некага вашыя факты — зусім ня факт.

І гэта факт.

## Ёсьць ці няма

І ўсё ж… «Гэта ня факт, гэта было насамрэч», як казаў адзін літаратурны пэрсанаж. Вашы факты — ня вашы, калі яны факты. Ёсьць праўда. Ёсьць пратаколы яе вэрыфікацыі, рэдактура і карэктура. Ёсьць «Прафэсія: рэпартэр», як называўся ці не найлепшы фільм Мікелянджэлё Антаньёні. Такая ж, як прафэсіі рэжысэра, пекара, лекара.

Я спытаўся ў знаёмага дантыста, ці замаўляюць цяпер пацыенты залатыя зубы.

Не, сказаў ён, ня модна.

А што модна?

Каб былі, адказаў доктар.

Факты ёсьць.

## Шыла ці мыла

Ёсьць яшчэ адна непазьбежная выснова з таго, што журналістыка — прафэсія.

Што прапаганда не журналістыка, спрэчак, здаецца, няма.

Але гэта ня ўсё. Вельмі часта навіны, аналітыка, інтэрвію, відэа і іншыя рэчы, якія робяцца на інтэрнэт-плятформах блогерамі і інфлюэнсэрамі — таксама не журналістыка. Яны могуць быць падобныя, запазычваць асобныя рысы і стыль, прыкідвацца пошукам і асэнсаваньнем рэчаіснасьці, але насамрэч гэта людзі, якія надзелі белыя халаты і заяўляюць, што яны дактары.

І гэта ня ўсё ў папулярным абмене шыла на мыла. Інтэрнэт стварае ілюзію, быццам кожны можа самастойна правесьці расьсьледаваньне, параўнаць, разабрацца, высьветліць факты. Найпрасьцейшую апэрацыю — выразаць апэндыцыт, нікому ў галаву не прыходзіць рабіць самому сабе на кухні нажом і відэльцам. А нашмат складанейшую, на сваёй галаве — калі ласка.

Я не кажу пра крайнасьці — таленты маюць свае правы, і мазалі выводзіць можна і без дыплёму хірурга (з барадаўкамі ўжо складаней). Звычайная прафэсійная журналістыка, тое, што называюць мэйнстрымам, з клясычным стандартам рэдактуры, якую цяпер імянуюць яшчэ фактчэкінгам ці вэрыфікацыяй, магчыма, не найлепшы спосаб пошуку ісьціны штодня, але — за выключэньнем усіх астатніх.

А ў эпоху штучнага інтэлекту — і пагатоў.

## Зубы ці вуха

Кожны мае плян, пакуль не атрымае па зубах, — гэтае ня надта элегантнае выказваньне чэмпіёна па боксе Майка Тайсана стаіць эпіграфам да тысячастаронкавай кнігі «Стратэгія», выдадзенай пару год таму ў Оксфардзе. Выглядала, што тысяча старонак спатрэбілася, каб абвергнуць байца, знакамітага тым, што адкусіў паўвуха свайму суперніку.

Адзін са стратэгічных дакумэнтаў для Беларускай службы адкрываўся ўказаньнем «Будзьце падрыхтаваныя да нечаканага». Гэта было прыдатна як для пераходу вуліцы, гэтак і для ядзернай вайны.

Журналістыка заўсёды тактыка. Практыка пошуку сэнсу і праўды. Джаз.

Ня ведаю, ці прышылі адкушанае вуха, але Тайсан той бой прайграў. Не падрыхтаваўся да чаканага.

## Стратэгія ці культура

Пляны, дарожныя карты, кодэксы нічога ня вартыя без журналісцкага азарту. Стартапы пакідаюць ззаду традыцыйныя кампаніі не таму, што там сабраліся геніі, а таму, што там створаныя ўмовы для геніяльнасьці.

Азарт, які яшчэ называюць драйвам — дзіця культуры, якая пануе ў арганізацыі. А культура, як пісаў акадэмік мэнэджмэнту Пітэр Друкер, мае стратэгію на сьняданак.

Праглыне і не заўважыць.

## Арганізацыя ці пустата

Самы просты спосаб растлумачыць паводзіны любой бюракратычнай арганізацыі — дапусьціць, што там кіруе кліка яе ворагаў. Гэты палітычны закон сфармуляваў гісторык Робэрт Конквэст, хоць ён гучыць як прыдуманы паэтам. Я чытаю яго як аптымістычную эпітафію.

Дзеля яснасьці: я ня думаю, што дырэктар мае столькі свабоды і ўлады, колькі здольны ўзяць і несьці. Любая кампанія — гэта арганізаваная несвабода. Альтэрнатыва ёй — пустата, у якой няма пунктаў прыкладаньня сілы і магчымасьці нешта ствараць і мяняць.

Рэч у тым, як арганізаваная ваша несвабода, як эфэктыўна, як адкрыта, як гарманічна, як годна — урэшце, як свабодна.

## Сюжэт ці бюджэт

Хто жадае, можа паглядзець вызначэньне бюджэту ў энцыкляпэдыі, а я дам сваё: гэта самае лёгкае і бясьпечнае апраўданьне свайго бязьдзеяньня. Ня буду нават дадаваць агаворкі «часам». Не для дурняў пісана.

## Мінус ці плюс

Джордж Оруэл пісаў знакаміты раман «1984» пад Бі-Бі-Сі — літаральна. Мне паказвалі месца ў падвальнай сталоўцы ў *Bush House*, старой сядзібе Бі-Бі-Сі ў Лёндане, куды журналісты спускаліся паміж выпускамі навінаў ці падчас налётаў нямецкай авіяцыі. Там Оруэлу прыйшлі ў галаву знакамітыя мэмы пра вайну, якая мір, свабоду, якая рабства, невуцтва, якое сіла.

Оруэл сьціскаў думку, даводзіў да адваротнага сэнсу і зноў выпрабоўваў яе значэньні. Мяркую, ён зацаніў бы мантру, якую на працягу дзесяцігодзьдзяў я чую ад розных кіраўнікоў: менш гэта больш.

Як герпэс, гэтая мудрасьць для бедных выскоквае на абмеркаваньнях бюджэту, пры плянаваньні, на афіцыйных нарадах і сьвяточных сходах, якія праводзяцца ў найбольшым на радыё памяшканьні — сталоўцы. Тыбэрыя на вас няма, так і карціць закрычаць мне. Гэты імпэратар змагаўся з герпэсам у Рыме радыкальнымі мерамі: забараніў цалавацца. Я б нічога не забараняў, але пасьля кожнага публічнага прыпадку гэтага фінансавага садамазахізму прымусіў бы зьменшаць порцыі ў мэню. Ці пісаць заяву на скарачэньне зарплаты.

І ня трэба глядзець, як Тыбэрый на засос, і казаць пра другое значэньне, парадаксальную вобразнасьць, канцэнтрацыю на галоўным. *Minus non plus est*, як сказалі б у старажытным Рыме. Менш гэта ня больш. *Minus est minus*.

## Больш ці лепш

Больш таксама ня лепш. Толькі лепш лепш.

## Каратэ ці бокс

Неяк я быў у гасьцях у шматразовага чэмпёна Англіі па каратэ і не стрымаўся, каб не задаць дзіцячае пытаньне: які чэмпіён пераможа — боксу ці каратэ?

Ён расказаў, як хадзіў у адведкі да сястры, якая толькі нарадзіла, і ўзяў немаўля пагушкаць. Малое нешта зрабіла галавой і адправіла дзядзьку ў накдаўн: ён літаральна страціў прытомнасьць пасля ўдару.

Я кожны раз узгадваю гэтую гісторыю, калі параўноваю бюджэты дзяржаўнай прапаганды і незалежных мэдыяў. Абнадзейвае.

Мой аптымізм меншае, калі гавораць пра журналістыку ў эпоху штучнага інтэлекту.

Можа стацца, як пры ўсіх пераменах: дзеці перамогуць у першым раўндзе.

Але надзея не зьнікае зусім: раўндаў шмат. Трэба трэніравацца.

## Цэнзура ці цэзура

Рэдактура адрозьніваецца ад цэнзуры тым, што першая мае справу з прыгажосьцю, а другая з уладай. У герархічных структурах яны могуць зрастацца, і тады перамагае сіла.

А выкінуць адну літару, і дыктатарскі слоўнік ператвараецца ў паэтычны. Толькі графаманы могуць дадумацца да такой бязглузьдзіцы. Не без таго…

## «Ці» ці «і»

— Дзе лёгіка? — абураецца нейкай праблемай на рэдактарскай нарадзе адзін.

— Твая праблема ў тым, што ты шукаеш лёгіку, — кажа другі.

Угадайце, хто зь іх маладзейшы, а хто старэйшы.

А зараз правільны адказ: мала таго, што аднаго ўзросту, дык яшчэ гэта і адзін той самы чалавек. Я сам. Нармальна?

## Філязофія ці альхімія

Мы праводзілі ананімны конкурс «Адзін дзень у БНР», прысьвечаны 90-годзьдзю беларускай дзяржаўнасьці. Задума была паказаць сьвет, у якім БНР перамагла. Пераможцаў абірала журы, куды я ўваходзіў. Фантастычнае апавяданьне «Пяты» прэтэндавала на перамогу, але я ня мог аддаць за яго голас, бо ананімным аўтарам быў я сам. Тым ня менш, неўзабаве ў рэдакцыю прыйшоў ліст з Тунісу, дзе чытач і слухач Свабоды выказаў захапленьне «Пятым», называў невядомага аўтара новым Паўлу Куэльлю і запрашаў прыехаць пажыць у яго на беразе мора, папрацаваць: ёсьць яхта, усе ўмовы.

Я паказаў ліст, і адзін калега, знаўца сусьветнай літаратуры, сказаў, што ўжо ніжэй за Куэльлю апусьціцца немагчыма, і на ўсякі выпадак я вырашыў псэўданім не раскрываць. Аўтар «Альхіміка», можа, і самы перакладаны пісьменьнік у сьвеце, але беларускую крытыку не пераадолеў. Тым больш, што ў Тунісе неўзабаве пачалася рэвалюцыя, і стала не да марскіх прагулак.

Альхімікі, паводле Куэльлю, дзеляцца на тры тыпы: адны працуюць зь няясным, бо ня ведаюць самога прадмета, другія разумеюць, што мова альхіміі — мова сэрца, а ня розуму, трэція нічога гэтага ня чулі, але самім сваім жыцьцём адкрылі філязофскі камень.

Усе тры — пра журналістыку, у такім парадку.

## Плакаць ці сьмяяцца

Польскі беларус, знакаміты літаратар Чэслаў Сэнюх аднойчы прыслаў мне ліст, дзе хваліў адну маю кніжку і прасіў прабачэньня за знаёмства. Першы і адзіны раз я бачыў яго гадоў пятнаццаць таму на адным з Чарнобыльскіх шляхоў у Менску. Нас прадставілі, але пагаварыць не ўдалося. Зь ліста я ўведаў чаму. Пачуўшы маё імя і прозьвішча, ён вырашыў, што яго палохаюць, гэта нейкая правакацыя, бо гучыць як імя прэзыдэнта Беларусі, і ён уцёк.

А колькі разоў у этэры розных амэрыканскіх і эўрапейскіх радыёстанцыяў, якія прасілі камэнтары, мяне называлі прэзыдэнцкім прозьвішчам, потым выбачаліся. Я прыдумаў унівэрсальны адказ: выбар малы, ёсьць толькі чатыры мужы ісьціны : Мацьвей, Марк, Ян і Лукаш, што вы хочаце…

Вам, можа, і сьмешна.

## Сядзець ці ўставаць

Неяк у Празе зь візытам быў туркмэнскі дэспат Сапармурат Ніязаў, і яго запрасілі на радыё, на перамовы пра акрэдытацыю ці рэтрансьляцыю. Нечакана яго прывялі на галоўную нараду дня, прафэсійную «сьвятую сьвятых» для рэдактараў і дырэктараў. І калі Туркмэнбашы ўвайшоў, усе, хто сядзеў у залі за авальным сталом, усталі.

Усе, апроч двух чалавек: дырэктара Расейскай службы Марыё Корці і мяне.

Марыё раней служыў у амбасадзе Італіі ў Маскве, дапамагаў дысыдэнтам, перапраўляў празь мяжу самвыдат, ён быў таленавіты пісьменьнік і майстар гатаваць пасту. Праз пару тыдняў мы з Васілём Быкавым былі ў гасьцях у яго дома (ягоная жонка Элена перакладала Быкава на італьянскую), і ён гатаваў нам *spaghetti alle vongole*.

Я спытаўся, чаму ён ня ўстаў. Рымляне, сказаў Марыё, наліваючы *chianti*, не ўстаюць перад дыктатарамі. Я прызнаўся, што амаль прыўзьняўся, але потым ачомаўся.

І ўсе выпілі за рымлянаў.

## Любіць ці ненавідзець

— Я вас ненавіджу, ненавіджу, ненавіджу!

Нават сёньня ў ананімных камэнтарах у інтэрнэце такія прызнаньні атрымліваеш ня кожны дзень. А тое было яшчэ да *Facebook*, да ананімнай вайны ўсіх з усімі — гэта быў допіс у службовай электроннай пошце, на маё імя, са зваротным адрасам і падпісаны. Я ня ведаў аўтара і ніколі ня быў у ягонай краіне. Незнаёмец са Швэцыі, раззлаваны пройгрышам сваіх хакеістаў на алімпіядзе ў Солт-Лэйк-Сіці, набраў у *Google* «Belarus», знайшоў мой адрас на Свабодзе і выплюхнуў сваю крыўду.

— І я вас ненавіджу, — стрымана напісаў я ў адказ. І патлумачыў: як вы, дэмакратычная краіна, пасьмелі прайграць любімай цаццы дыктатара, які гойсае па будучыні маёй краіны на каньках з клюшкай.

— Я вас люблю, люблю, люблю! — напісаў мне швэдзкі заўзятар. — Я пацікавіўся Беларусьсю, тым, што ў вас адбываецца, — сапраўды, як гэта нашыя пасьмелі прайграць вашым!

— І я вас люблю, — стрымана напісаў я ў адказ.

## Джордж ці Барак

Пазваніў Джордж Буш і пытаецца: як справы?

Я ведаў, што пазвоніць, бо тэлефанаваў яго сакратар і папярэдзіў, што сорак другі прэзыдэнт ЗША неўзабаве будзе са мной гаварыць.

Я зачыніў дзьверы ў кабінэт, што ёсьць парушэньнем правілаў унутранага распарадку: правілы патрабуюць, каб дзьверы былі адчыненыя, ці мала што. Самлеў чалавек, ці наадварот, разгуляўся. Але я зачыніў дзьверы і стаў чакаць.

Але не чакаў, што Буш будзе пытацца, як я пачуваюся, і таму адказаў, як ёсьць: хвалююся.

— Што так? — пытаецца Буш.

Ну, думаю, пытаньнечка, ня цяміць чалавек, з кім я гавару.

— Вы ўвогуле разумееце, — пытаюся, — з кім я гавару?

— Не пераймайся, Аляксандар, галоўнае, не называй мяне Баракам, і ўсё будзе окей.

Буш званіў, каб прачытаць імёны палітвязьняў для нашай перадачы «Галасы салідарнасьці». У яго аказаўся неблагі фанэтычны слых і артыкуляцыя, і пасьля пары спробаў усё атрымалася, па-беларуску ён прагучаў цалкам зразумела.

А я магу ў CV запісаць, што вучыў беларускай прэзыдэнта ЗША. Яшчэ б кой-каго ў Беларусі навучыць.

## Зьнізу ці зьверху

Вядомы падчас Другой сусьветнай вайны як бясстрашны *kurier z Warszawy*, баец Варшаўскага паўстаньня, сувязны польскага ўраду ў выгнаньні, удзельнік нарадаў з брытанскім прэм'ерам Ўінстанам Чэрчылем, дарадца ў пытаньнях бясьпекі прэзыдэнтаў ЗША Рэйгана і Картэра, адзначаны найвышэйшай амэрыканскай узнагародай, мэдалём Свабоды, які атрымаў з рук прэзыдэнта Клінтана, аўтар тузіну кніг і тысячаў перадачаў, першы дырэктар Польскай службы РСЭ/РС Ян Новак-Езёраньскі прыехаў у Прагу на сьвяткаваньне юбілею радыё, і я ня мог не зьвярнуцца да яго па параду.

Я прадставіўся, мы трохі пагаварылі пра ягонае дырэктарства. Ён ствараў Польскую службу на пачатку 1950-х і ведаў першага дырэктара Беларускай службы Вінцэнта Жук-Грышкевіча, вэтэрана польскай арміі Андэрса. Спадар Ян на час нашай сустрэчы быў самым доўгатрывалым дырэктарам у гісторыі радыё. Яго першы этэр як дырэктара быў у траўні 1952 году, апошні — 31 сьнежня 1974. Гэта пры тым, што ён так сварыўся з кіраўніцтвам, што хадзіла показка пра ціхі год, бо Езёраньскі не падаваў у адстаўку на знак пратэсту часьцей, чым раз на тыдзень.

Я спытаўся, што б ён параіў мне як новаму дырэктару Беларускай службы — што, зь ягонага досьведу, найбольш пасуе для аўдыторыі ў посткамуністычным грамадзтве з антыдэмакратычнай уладай.

— Круглыя сталы. Запрашайце палітыкаў і экспэртаў, чыноўнікаў і інтэлектуалаў. І ня важна, пра што яны будуць спрачацца і хто будзе мець рацыю — важная самая форма, спрэчкі і дыялёг, бо гэта фармат дэмакратыі.

«Праскі акцэнт», «Экспэртыза Свабоды», «Трайны ўдар», «Зона Свабоды», «Бліц-аналіз» — гэтыя і іншыя дыскусіі, палеміка і аналітыка сталі самымі пазнавальнымі візыткамі нашага этэру. Цяжэй за ўсё было з удзелам

прадстаўнікоў улады, якія ўцякалі ад Свабоды як чорт ад ладану. Сам фармат быў ладанам.

На здымку з той сустрэчы я прысеў побач са спадаром Янам, які быў у вазочку, і гляджу на яго трохі зьнізу ўверх. На некаторых заўсёды глядзіш зьнізу ўверх.

Лепш ідаць.

## Сусед ці сябар

Некалькі гадоў я сядзеў на дырэктарскіх нарадах побач з Раманам Купчыньскім, вэтэранам Віетнаму і халоднай вайны, які ўзначальваў Украінскую службу. Ва Ўкраіне ў яго быў статус легенды, у Кангрэсе ЗША яго ведалі як экспэрта, на радыё — як мацюкальніка, выпівоху, аўтара няспынных кпінаў у бок начальства і калег з Расейскай службы. Да Беларускай службы ён ставіўся пяшчотна.

Раман некалі прыдумаў раздаваць савецкім маракам відэакасэты, дзе напачатку было порна, а потым дакумэнтальны фільм пра гісторыю Ўкраіны. Была нават ідэя зьняць фільм пра гэтую ідэю (камэдыю, трэба думаць).

Купчыньскі дапамог зрабіць публічнымі сакрэтныя запісы з кабінэту прэзыдэнта Ўкраіны Кучмы пра забойства журналіста Георгія Гангадзэ. Ён скептычна глядзеў на кіеўскую барацьбу з карупцыяй і перарабіў лёзунг зь недакранальнага дэкалёгу ўкраінскіх нацыяналістаў «Здобудеш Українську Державу, або загинеш у боротьбі за Неї» на «або загинеш в *боргах* за Неї» — у даўгах.

Калі яму паставілі дыягназ «рак», ён паабяцаў пазваніць з таго сьвету і паведаміць, ці ёсьць там FM-вяшчаньне і інтэрнэт. Яго хавалі з вайсковымі пашанамі на Арлінгтонскіх могілках у Вашынгтоне.

Я ўзяў грудку зямлі зь яго амэрыканскай магілы і, калі быў у Кіеве, апусьціў яе ў Дняпро — у ваду, якая цякла зь Беларусі.

Ня можа ж так быць, каб на тым сьвеце не было Дняпра.

## Авацыя ці прастрацыя

Доўгая чарга, нобэлеўскі ляўрэат цярпліва падпісвае сваю кніжку, ніякага *small talk*, як звацъ, адкуль, без пажаданьняў, проста імя — Іосіф Бродзкі, дата — 28.11.1994, месца — Нью-Ёрк. Кніга называецца, як падручнік геаграфіі, «*Холмы*» — не хапае адно падзагалоўка.

Толькі што шматсоценная заля слухала і апладыравала яму. Падыходзіць мая чарга, ён іранічна глядзіць і ставіць аўтограф.

Мы толькі што пацапаліся, калі ўжыць ягоную лексыку. Бродзкі выступаў на кампусе каледжу Куінз у Нью-Ёрку і прынцыпова гаварыў па-ангельску. Але здаўся на просьбы расейскамоўнай публікі і прачытаў верш, які, як сказаў, яму самому падабаецца, «*На независимость Украины*». Аўдыторыя выбухнула аплядысмэнтамі. Падчас пытаньняў-адказаў я папрасіў слова і сказаў, што магу назваць імя яшчэ аднаго пэрсанажа, якому гэты верш напэўна падабаецца: Уладзімір Жырыноўскі, клоўн КДБ расейскай палітыкі. Заля зноў выбухнула — авацыю зладзілі ўкраінцы. Перачакаўшы, Бродзкі стаў казаць, што ён не адказны за ўсякую свалату, якой падабаюцца ягоныя вершы.

Ну, а самому?..

Што яго пацягнула прачытаць тэкст трохгадовай даўніны — тыя ў публіцы, хто «*сами под образами семьдесят лет в Рязани с залитыми глазами жили, как при Тарзане*»? Захацелася «*плюнуть в Днипро: может, он вспять покатит*»?

Але ёсьць нашмат больш важнае пытаньне. Іншы клоўн КДБ напаў на Ўкраіну не з-за гэтага вершу, канечне (няма сумненьня, на чыім баку быў бы Бродзкі), але ўсе крыўды, характар і рыторыка будучай вайны, ад зьверстваў у Бучы да пахабнага глумленьня з «*хохлов*» і Захаду, там ужо ўгаданыя.

Мы дрэнна чыталі.

## Страшна ці самотна

Ад ліфту да свайго кабінэту ў новым будынку радыё я праходжу праз адкрытыя офісы некалькіх службаў, у тым ліку Расейскай, якая займае самую вялікую прастору, на некалькі дзясяткаў чалавек. Неяк трэба было на запіс а сёмай раніцы, іду, а ў расейцаў толькі адна журналістка сядзіць, цюкае навіны на кампутары. Я павітаўся і пытаюся: што, страшна адной?

— Што вы, калі ўсе разам, нашмат страшней.

## Раман ці паэма

Адзін калега з Расейскай службы, вядомы літаратар, сымпатызаваў адной дзяўчыне зь Беларускай службы і часта, але бясплённа, заходзіў у нашыя пакоі. Я неяк спытаўся, чаму ў іх «Яўген Анегін» — раман, а «Мёртвыя душы» і «Масква — Петушкі»— паэмы? Ён пацікавіўся, навошта мне. Кажу, нешта ў мяне напісалася, але не магу вызначыць жанр.

— На якой мове напісалі?

— На беларускай.

Літаратар уздыхнуў:

— Тады паэма. Па-беларуску ўсё — паэма.

## Паліто ці куртка

Прыемная адметнасьць новага будынку радыё — адкрытая тэраса на даху, дзе зьбіраюцца курцы і каваманы. Паколькі Ігар Губерман, савецкі дысыдэнт, зэк і паэт, аўтар тысячаў афарыстычных гарыкаў, без цыгарэтаў яўна пакутаваў, я пайшоў зь ім на тэрасу, каб працягнуць размову. Было прахалодна, я быў у адной кашулі, і Губерман зьняў сваю куртку і апрануў мне. Я маю доказ, здымак.

Цымус тут у тым, што ў адной сваёй кніжцы Губерман расказвае, як у маладосьці быў па справах у доме нейкага старога прафэсара, і калі сыходзіў, той падаў яму паліто. Губерман пачаў адмаўляцца, няёмка, сам апрану, а гаспадар кажа:

— Студэнтам я быў у гасьцях у Льва Талстога, і той падаў паліто на разьвітаньне. Я запратэставаў, а Талстой кажа: бярыце-бярыце, мне фігня, а вам памяць.

Вось і мне памяць — знаёмы праз адно паліто з Талстым. Ці праз куртку.

Ну й не прастыў.

## Мінула ці засталося

Паэт Булат Акуджава на радыё не сьпяваў, але адказваў на пытаньні. Пасьля прэс-канфэрэнцыі мы працягнулі размову, і я запытаўся пра адну ягоную песьню, якой нідзе ня мог знайсьці. Я чуў яе аднойчы, на самым пачатку перабудовы, і яна мяне моцна ўразіла, бо пра надыходзячую будучыню гаварыла як пра ўжо страчаную. Усё ўжо было ня так, і аўтар апраўдваўся, калі яго пыталі:

*Зачем я распахнул счастливые крыла,*
*А я им отвечу — надежда была.*

Акуджава сказаў, што песьню гэтую таксама любіць, але верш доўга нідзе не друкаваўся, і назваў новы зборнік, дзе ён выйшаў. Надрукаваны тэкст («*Когда опустеет Париж*») адрозьніваецца ад выкананьня, як я яго запомніў, але шчымлівая будучыня ў мінулым засталася.

Мне падавалася, што голас у Акуджавы пасьля доўгай хваробы тады палепшыўся, і я сказаў яму пра гэта.

— Усе мае сябры так кажуць.

Ён глядзеў на мяне, усьміхаўся, і я адчуў на нейкае імгненьне, што ўключаны ў кола ягоных сяброў. Скажуць мне, што не, а я адкажу — было. І ёсьць. Як надзея.

## Маральнасьць ці ветлівасьць

2008-ы, абмяркоўваем 50-годзьдзе савецкай акупацыі Чэхаславаччыны, і пытаю сымпатычнага старэйшага калегу, расейскага пісьменьніка Пятра Вайля, што ён рабіў у 1968 годзе, чаму ня зьдзейсьніў акт самаспаленьня на знак пратэсту.

— А вы?!

— Мне было трынаццаць гадоў!

— У вашым узросьце Паўлік Марозаў ужо бацькоў у турму саджаў!

У трынаццаць гадоў я кінуў курыць, запісаўся ў сэкцыю боксу і ўжо ня марыў, каб мяне прасам забілі мае бацькі (так загінуў ад рук бацькоў-сэктантаў піянэр-герой, імя якога насіла нашая кляса).

Вайль падпісаў мне кнігу ўспамінаў пра Іосіфа Бродзкага, якую яны склалі і выдалі разам зь яшчэ адным блізкім сябрам паэта Львом Лосевым, і я раскрытыкаваў назву, *«Труды и дни»*. Маўляў, сьцібрылі ў Гэсіёда, не маглі прыдумаць навейшай. Я не ацаніў, што імя нобэлеўскага ляўрэата на вокладцы было часткай назвы, праз двукроп'е, гэта быў не плягіят, а эпічная рыфма.

Гэсіёду былі ўласьцівыя дыдактычнасьць і маралізатарства, Вайль не баяўся заявіць, што перад маральнасьцю аддае перавагу ветлівасьці: вашыя паводзіны важнейшыя за вашыя прынцыпы. Не слабей за Гэсіёда.

Ён расказваў мне пра апошні тэлефонны званок ад свайго калегі Сяргея Даўлатава, пісьменьніка і аўтара Свабоды, які быў у цяжкім запоі.

— Я ведаў, што гэта апошняя размова, што ён у гэты дзень памрэ, — спакойна казаў Вайль. Мяне ўразіла тады ягоная стрыманасьць, адсутнасьць драмы, ягонае стаўленьне да сьмерці як да звычайнай зьявы жыцьця.

Успамінаю гэта на могілках Сан-Мікеле ў Вэнэцыі, дзе Вайль пахаваны паблізу ад Бродзкага. Пеці ня стала ў

тым самым жніўні, калі мы гаварылі пра савецкія танкі ў Празе. Інфаркт, затым амаль паўтара году ў глыбокай коме, а потым выспа ў Вэнэцыянскай лягуне, якую ён некалі назваў «найлепшым перасыльным этапам з гэтага сьвету на той».

Гэсіёд бы ўхваліў.

## Анэжка ці Эўфрасіньня

У лютым 2023 году ў праскім катэдральным саборы Сьвятога Віта на Градчанах адпявалі апошняга дырэктара Чэскай службы РСЭ/РС Паўла Пэхачка.

Прыйшло больш за сотню людзей, чалавек дзесяць з радыё, мы з тагачасным прэзыдэнтам сядзелі ў першым шэрагу і слухалі кардынала Дамініка Дуку, які казаў разьвітальныя словы: «Памяць — гэта чалавек, бяз памяці няма чалавека».

Такой высновы ў Сьвятым Пісаньні няма, я правяраў, нават кансультаваўся са сьвятарамі. Але кардынал ня проста так казаў пра памяць. Пэхачак прыехаў зь Мюнхэну ў Прагу ў лістападзе 1989 году не на дэманстрацыю на Вацлаўскай плошчы, якая пачала аксамітную рэвалюцыю, і ён потым вёў рэпартаж з балькона, стоячы побач з Вацлавам Гаўлам. Ён атрымаў візу на кананізацыю Анэжкі Чэскай, прынцэсы, якая ў трынаццатым стагодзьдзі абрала манаства і якую чэхі лічаць сваёй нябеснай заступніцай. У Беларусі такое званьне мае Эўфрасіньня, полацкая князёўна, якая прыняла пострыг стагодзьдзем раней за Анэжку.

Афіцыйнага далучэньня да ліку сьвятых каралеўская дачка, якая адмовіла ў шлюбе самому імпэратару Сьвятой Рымскай імпэрыі, паплечніца сьвятой Кляры Асыскай, заснавальніца жаночага і мужчынскага кляштараў, бальніц і нават дзейнага дагэтуль рыцарскага ордэну, чакала сем стагодзьдзяў. Традыцыйнае вітаньне францішканцаў, як вядома, *Pax et Bonum* — зычэньне міру і ўсяго найлепшага. У чэхаў была нават прымаўка «Калі абвесьцяць Анэжку сьвятой, тады на чэскую зямлю прыйдуць зьмены» (ці свабода і мір). Рэвалюцыя пачалася на пяты дзень пасьля цырымоніі. У 2011 годзе, на 800-годзьдзе нара-

джэньня, Анэжка атрымала яшчэ і тытул Сьвятой Вызваленьня ад камунізму.

Калі глянуць за правае плячо бронзавай скульптуры сьвятой Анэжкі на Вацлаўскай плошчы, дык там стаіць будынак, у які я пераехаў працаваць ў 1995 годзе. Гэта самая блізкая да радыё скульптура сьвятой у Празе. І ня толькі геаграфічна.

## Эўфрасіньня ці Анэжка

Манашка-клярыска з трынаццатага стагодзьдзя ў канцы дваццатага прывяла ў Прагу не аднаго карэспандэнта, а ўсё радыё.

Калі на пачатку 1990-х адміністрацыя Джорджа Буша-старэйшага зьбіралася закрыць радыё ў Мюнхэне, бо «Эўропа ўжо свабодная», Пэхачак сустрэўся з Гаўлам, і той, даўні слухач і аўтар, прапанаваў яму ліст у падтрымку РСЭ/РС зь мільёнам подпісаў. Павэл сказаў, што дастаткова аднаго подпісу ад самога Гаўла — яны былі знаёмыя з 1960-х, вучыліся ў адной акадэміі на тэатральным факультэце, бо як дзеці ворагаў улады не маглі паступіць ва ўнівэрсытэт. У канцы 1991 году Вашынгтон пагадзіўся працягнуць фінансаваньне радыё.

Праз два гады візыт давялося паўтарыць. Адзін амэрыканскі сэнатар выступіў з праграмай эканоміі бюджэту з 250 пунктаў, дзе закрыцьцё радыё стаяла на другім месцы, пасьля адмены датацыў на вытворчасьць мохеру. Кангрэс ЗША прыняў пастанову «захаду сонца», радыё мела спыніць вяшчаньне ў 1995 годзе, бо місія была збольшага выкананая, а кошты ў Нямеччыне былі занадта высокія.

Пехачак зноў паехаў на перамовы з Гаўлам і прэм'ер-міністрам Вацлавам Клаўсам, і так радыё атрымала будынак былога парлямэнту Чэхаславаччыны. Арэндная плата складала 1 крону на дзень, і выплачвалася раз на год, 17 лістапада, у гадавіну рэвалюцыі. Якая была роля Анэжкі Чэскай, дакладна не скажу, але інакай як цудам пярэбары, арэнду і новы адрас не назавеш.

У нас былі прыязныя дачыненьні з Паўлам, супольныя справы, калі пасьля закрыцьця Чэскай службы ў 2004-м Пэхачак стаў дарадцам прэзыдэнта радыё і дапамагаў у кантактах зь мясцовымі палітыкамі і інтэлектуаламі. Шкадую, што не расказаў яму пра нашу юную князёўну

з Полацку, якая прыняла пострыг стагодзьдзем раней за багемскую прынцэсу. Гісторыкі лічаць магчымым, што Анэжка ведала пра сваю папярэдніцу Эўфрасіньню.

Варта памятаць, што заступніцтва можа прыйсьці і празь вякі. Калі ўсе беларускія рэдакцыі вернуцца з выгнаньня, яны зоймуць прэзыдэнцкі палац і будынак адміністрацыі ў Менску, бо ў парлямэнцкай рэспубліцы гэтыя памяшканьні вызваляцца.

Бяз памяці нас няма. Важна не забыцца, каго памянуць у першай удзячнай малітве.

## Сьмех ці сьлёзы

Я даўно не сьмяяўся так, як чытаючы біяграфію Вацлава Гаўла, напісаную ягоным сябрам Міхаэлам Жантаўскім. Хіба, можа, толькі калі чытаў самога Гаўла, яго ўспаміны «На Град і назад», дзе ўступленьне ў NATO суседзіць з пошукамі па ўсім прэзыдэнцкім замку мітычнага шлянга для паліву кветак. А крэдыт МВФ ледзь не зрываецца празь няправільны соўс для кнэдлікаў. Ліст Гаўла на кухню пра соўс можна было выдаць як прэзыдэнцкі дэкрэт.

Ва ўспамінах Гаўла ні слова пра тое, як цкавала жоўтая прэса, вываротвалася прыватнае жыцьцё, як крывадушнікі абвінавачвалі ў крывадушнасьці, як кпілі левыя і правыя палітыкі ў апошнія гады прэзыдэнцтва і пасьля. Ні слова пра тыдні пад кропельніцай, пра пераход мяжы сьмерці, адкуль вырвалі жонка і сябры, якія ў апошнюю хвіліну арганізавалі прыезд лекара з Амэрыкі.

Тых, хто нясе сьвятло, рэдка любяць усе. Занадта ярка, занадта добра відаць саміх сябе.

## Дагарэла ці сьвеціць

У сьнежні 2011-га я папрасіў Вацлава Гаўла напісаць навагодняе віншаваньне беларускім палітзьняволеным. 15 сьнежня яго сакратар пераслаў мне віншавальны тэкст.

Гэта не была немагчымая просьба — Гавэл і раней падтрымліваў беларускую барацьбу за свабоду. Але гэтае пасланьне аказалася апошнім, што ён напісаў у сваім жыцьці. Праз тры дні, каля дзясятай раніцы ў нядзелю ягонае дыханьне спынілася. Ціха, быццам сьвечка дагарэла, сказала манашка, што была побач.

Не дагарэла. Сьвеціць.

## Страты ці падзякі

У Празе, недалёка ад Карлавага мосту, ёсьць кавярня зь філязофскай назвай «Krásný Ztráty» — прыгожыя страты. Напярэдадні новага 2012 году я быў там на сустрэчы з амэрыканскай сьпявачкай Джоан Баэз. Яна прыйшла да сяброў Вацлава Гаўла — Баэз ведала чальцоў «Хартыі-77» яшчэ з 1980-х гадоў, сьпявала на мітынгах і ў прэзыдэнцкім палацы, і цяпер яны сустрэліся ўпершыню бяз Гаўла.

Баэз была сяброўкай Гаўла (ня *girlfriend* — гэта з Бобам Дыланам і Стывам Джобсам, яна пра іх пісала ва ўспамінах, што якраз выйшлі па-чэску, і публіка пыталася, з кім было лепш, яна адказала, што абодва былі цудоўныя чалавечыя істоты).

Я спытаў, якую песьню са свайго рэпэртуару яна б выбрала, каб перадаць палітвязьням у Беларусі. Баэз задумалася, а потым назвала баляду «Дзякуй жыцьцю» (па-гішпанску «*Gracias a la vida*»).

Дзякаваць жыцьцю, калі ты ў турме? Трэба быць сапраўды дзіўнай істотай…

Баэз патлумачыла:

— Гэта песьня пра тое, што каштоўнае ўсё, і добрае, і кепскае. Там удзячнасьць нават альфабэту, маленькім птушкам і вялікім турбінам, усьмешкам і сьлёзам, і сваім стомленым нагам, якія прайшлі столькі маршаў. Я выбрала б менавіта гэтую песьню — «*Gracias a la vida*».

Мы ўключылі яе ў навагоднюю праграму для адзінаццаці вязьняў.

Я ня ведаў тады, што гэта была апошняя песьня чылійскай сьпявачкі Віялеты Пара, якая напісала яе ў 1966 годзе. У 1967-м Пара застрэлілася.

Пакуль жывеш — трэба дзякаваць. Хоць і не за ўсё.

## Кветкі ці дзяўчаты

Трэба было адправіць паштоўку Ігару Лосіку ў беларускую турму, і я зайшоў на паштамт у цэнтры Прагі купіць марку. Паштовы работнік, сур'ёзны пэрсанаж, увесь у наколках, узяў паштоўку, але калі пабачыў адрас, паслаў у іншае акенца.

— Ідзіце ў кіёск філятэліі. У мяне маркі толькі з кветкамі, а ў турму трэба зь дзяўчатамі.

— Нам бы такія турмы, — сказала потым жонка Ігара Дар'я.

Яна мела на ўвазе такія, куды паштоўкі даходзяць.

## Хлусіць ці маўчаць

Што нам рабіць, калі?.. Калі затрымаюць, калі пачнуць дапытваць на мяжы, калі патрабуюць пароль, калі вядуць ператрус… Гэта штодзённыя пытаньні журналістаў падчас дыктатуры.

Параіць, што рабіць, амаль немагчыма. Але можна параіць, чаго не рабіць.

Першае — не нашкодзіць сабе. Другое — не нашкодзіць іншым. Трэцяе — не хлусіць.

Першыя дзьве прапановы пытаньняў звычайна не выклікаюць. Трэцяя зьдзіўляла. Але тлумачэньне задавальняла: прамаўчаць, не казаць усяго, што ведаеш, не ініцыяваць размовы, не дадаваць дэталяў, адрасоў, імёнаў.

Не дапамагаць злу.

## Загадка ці адгадка

Ня вер, ня бойся, не прасі — правілы жыцьця ў турме. Вер і ня бойся прасіць — правілы для волі.

Кожны раз, калі я прасіў немагчымае, яно адбывалася. Кангрэс ЗША павіншаваў Беларускую службу зь юбілеем. Былыя прэзыдэнты і дзейныя міністры чыталі па-беларуску імёны палітвязьняў. Нобэлеўская ляўрэатка, якая была адмовілася ад кнігі на Свабодзе, пагадзілася. Менскія ўлады далі залю ў цэнтры сталіцы, і трыюмфальная імпрэза ў Менску стала першым і адзіным публічным сьвяткаваньнем узнагароды.

А калі прасіў магчымае — павялічыць бюджэт, пашырыць штат, абсталяваць студыю, — не праходзіла.

Ёсьць нейкія іншыя правілы, якіх за чвэрць стагодзьдзя я так і не засвоіў. Загадка жыцьця.

## Золата ці брыльянты

Прасіце, і дасца вам — залатая формула.

Мне бліжэй іншая, алмазная: не прасіце — і не адмовяць.

## Дасьціпна ці дарэчна

Аўдыторыю нашмат лягчэй давесьці да сьлёз, чым расьсьмяшыць. Хоць здараецца і адваротнае, нават калі ня ставіш такой мэты.

Выклікаць сьмех няцяжка, цяжка рабіць гэта рэгулярна і дарэчна, а ня проста гоп-ца-ца. Нам часам удавалася: сольны дуэт «Саўка ды Грышка» прымушаў рагатаць уголас над падзеямі тыдня, да катарсісу весялілі «Невясёлыя карцінкі», фэйсбучныя дыялёгі «#давайпака» выклікалі колікі.

Калі страх мяняецца на сьмех, мяняецца ўсё: тайна аказваецца пшыкам, улада цыркам, цар блазнам. Пагроза не зьнікае, зьнікае здранцьвеньне, якое ёсьць першым і галоўным прадуктам страху. Сьмех — самы кароткі шлях зь няволі да свабоды. Было б толькі пачуцьцё, і ня толькі гумару.

## Размаўляць ці ігнараваць

Апазыцыйныя палітыкі любяць задаваць пытаньне: ці не азначае сам факт размовы зь нелегітымным кіраўніком яго дэ-факта прызнаньня. Для прафэсійнай журналістыкі пытаньне стаіць іначай: як захаваць кантэкст і ня даць дэмагогу апанаваць дыскурс.

З дыктатарам Беларусі я ніколі не гаварыў, хоць і сустракаўся зь ім у Авальнай залі Вярхоўнага Савету, калі той быў дэпутатам, а я хадзіў туды як сябра камісіі ў справах рэпрэсаваных. Ня выключана, што ён нават галасаваў за прапанову дэпутата Анатоля Вярцінскага ўключыць мяне ў камісію як прадстаўніка Мартыралёгу. Але я не рабіў зь ім інтэрвію цалкам сьвядома і нават патлумачыў прычыны ў друку на самым пачатку 1994 году.

«Калега-журналіст спытаў падчас сэсіі Вярхоўнага Савету, чаму я не бяру інтэрвію ў такога яркага дэпутата, як Аляксандар Лукашэнка. Маўляў, усіх запісваю, камэнтары гучаць на Свабодзе — чаму ж не пагаварыць і з Лукашэнкам?

— Лукашэнка мне не цікавы, — адказаў я тады.

— Але ж у цябе ёсьць прафэсійная адказнасьць перад слухачамі, ты мусіш быць аб'ектыўны, — запярэчыў калега.

Я выказаўся ў тым духу, што мая прафэсійная адказнасьць якраз і палягае ў тым, каго я выбіраю для інтэрвію. Увагай прэсы гэты дэпутат не абыдзены. Але, на маю думку, гармідар у галаве, блытанасьць, павярхоўнасьць меркаваньняў Лукашэнкі абясцэньваюць яго высновы і ацэнкі. Адказны журналіст аберагае сваю аўдыторыю ад дэмагагічнага засьмечваньня».

Праблема, аднак, была ня проста ў трасянцы ў мазгах аднаго чалавека. Ніводная праблема не існуе сама па сабе. Нічога ніколі не адбываецца адразу.

## Ігнараваць ці размаўляць

Само па сабе адразу ніколі нічога не адбываецца.

Месяц перад маёй антыдэмагагічнай публікацыяй, у сьнежні 1993 году, на парлямэнцкіх выбарах у Расеі перамог Уладзімір Жырыноўскі — крэатура КДБ і папуліст аж да карыкатурнасьці. Я прызнаваўся тады, на пачатку 1994-га:

«Цяпер, пасьля выбараў у Расеі, я гляджу на сытуацыю іначай. Вывад пакідаю ранейшы: журналісты маюць права і абавязак абараняць сваю аўдыторыю ад сэнтэнцыяў падобнай публікі. Аднак проста не заўважыць гэтую пароду, грэбаваць ёю, на жаль, не выпадае. Фэномэн Жырыноўскага сьведчыць, што кожны чацьвёрты дарослы чалавек ня мае нічога супраць хлусьні, дэмагогіі, цынізму. Савецкі чалавек у ідэале — духоўны люмпэн. Люмпэну патрэбныя такія самыя лідэры, як ён сам: беспрычынна агрэсіўныя, псыхічна няўстойлівыя, гатовыя ў любы момант разьдзерці кашулю, з унутранай нянавісьцю да “занадта разумных”. Не сацыяльная справядлівасьць, а сацыяльная зайздрасьць засьціць вочы — і яны гатовыя помсьціць усім за ўсё».

Далей я задаваў пытаньне: «Уяўляеце падобную асобу ў якасьці кіраўніка дзяржавы? Агароды па вокны абрэжуць ня толькі дэмакратам».

Пытаньне, як хутка высьветлілася, было не рытарычнае. Наконт кожнага чацьвертага высьветлілася ня так хутка — спатрэбіўся час, каб у Расеі давесьці прапорцыю да трох з кожных чатырох.

А вось у Беларусі, як засьведчыў 2020 год, гэта не ўдалося — у тым ліку і дзякуючы незалежнай журналістыцы.

## Акрэдытацыя ці прафанацыя

Як ні дзіўна, лягчэй за ўсё гаварыць з дэмагогам на роўных там, дзе быццам цяжэй за ўсё — на прэсавых канфэрэнцыях, дзе штукар-фальсыфікатар вядзе сваё паказальнае шоў і ўпэўнены ў публічным прызнаньні. Свабоду, як вядома, не даюць, а бяруць — нават калі гэта толькі адкрыты мікрафон. Асабліва, калі мікрафон. Гэта ня раз удавалася незалежным журналістам і журналісткам у Менску, пасьля чаго іх гадамі не запрашалі на такія сустрэчы або не давалі слова.

Пасьля другіх прэзыдэнцкіх выбараў журналіст Свабоды, акрэдытаваны на канфэрэнцыі, задаў галоўнае пытаньне пра транзыт улады: ці можа афіцыйны ўзурпатар гарантаваць, што будзе выконваць Канстытуцыю і ня пойдзе на трэці тэрмін. Адказ нагадваў вужаку на патэльні і адразу стаў навіной, якую цытавалі вядучыя міжнародныя мэдыі.

Гадоў праз пятнаццаць на такое шоў акрэдытавалі другога калегу, які славіўся тым, што мэтадычна і няўмольна дамагаўся адказу ад самых незгаворлівых суразмоўцаў. Калі яму далі мікрафон, ён спытаўся пра палітвязьняў і пачуў звыклую тыраду спрактыкаванага маніпулятара. Журналіст пачаў настойваць на адказе, ігнараваў пытаньні да сябе і пра сябе, спробы жартаў і панібрацтва, зноў і зноў патрабуючы адказаць па сутнасьці. Публічная дуэль цягнулася чатырнаццаць хвілін і сама была адказам. Дэмагог не перамог.

Больш нас не акрэдытоўвалі.

## Вайна ці мір

Дылема кампрамісу ўбудаваная ў любую арганізацыю, якая працуе на тэрыторыі несвабоды. Калі ў вас інфраструктура, людзі, сем’і, заўсёды ёсьць на што націснуць. Але гэта звычайная сытуацыя для незалежнай журналістыкі ў аўтакратыях (пры таталітарызьме журналістыкі не бывае, бо халуйства не прафэсія).

Вядомы амэрыканскі інтэлектуал Тымаці Снайдэр, аўтар кнігі «Пра тыранію: Дваццаць урокаў дваццатага стагодзьдзя» першым урокам ставіць напамінак не саступаць загадзя, апошнім — патрабаваньне трымацца да ўпору.

Так імкнулася паводзіцца незалежная беларуская журналістыка. Не заўсёды хапала прафэсіяналізму, ніколі не хапала кіслароду, але немагчыма было не захапляцца штодзённым гераізмам рэпартэраў, рэдактараў, фота- і відэаапэратараў, кіраўнікоў незалежных СМІ ў сталіцы і асабліва ў рэгіёнах.

Нават калі быў мір, яны былі на вайне.

## Мяняцца ці трымацца

Свабода ніколі не мяняецца на спакой ці выйгрыш у нечым іншым — толькі на несвабоду. Гэта і з уласнага досьведу...

## Учора ці сёньня

Пасьля 2020 году прэзыдэнцкая ўлада ў Беларусі дасягнула свайго найвышэйшага ўзроўню — фашызму без ідэалёгіі і партыі, і перасягнула яго — гэта ўжо фізіялёгія, нават батаніка. Цьвіль фашызму, як любая цьвіль, існуе ўсюды і заўсёды, але актывізуецца і распускае сьмяротныя плеці толькі пры пэўных умовах. Фэнамэнальная заява маладога прэзыдэнта ў 1995 годзе пра гітлераўскую Нямеччыну як узор для прэзыдэнцкай улады ў Беларусі была ўспрынятая як дзікая недарэчнасьць, вартае сьмеху глупства, выпадковая бздура выпадковага палітыка.

Павеяла замагільлем, але прамаўчалі вэтэранскія арганізацыі і кампартыя, набрала ў рот вады дзяржаўная прэса, не падалі ў адстаўку міністры і амбасадары, ня быў абвешчаны страйк, не скасавалі афіцыйны візыт у Францыю.

А пачалося ўсё з прэсы. Не прайшло і паўгоду ад клятвы выконваць Канстытуцыю, як на загад прэзыдэнта ў сьнежні 1994-га газэты выйшлі зь белымі плямамі замест антыкарупцыйнага выступу дэпутата Сяргея Антончыка. Праз тры месяцы прэзыдэнцкім указам быў незаконна звольнены галоўны рэдактар парлямэнцкай газэты, які праводзіў незалежную палітыку. У наступным месяцы, красавіку 1995-га, у Вярхоўны Савет было ўведзенае войска, дэпутаты апазыцыі зьбітыя, і парлямэнтарызм у Беларусі скончыўся. У траўні нелегітымны рэфэрэндум вярнуў сьмяротнае пакараньне, савецкія сымбалі, адсунуў беларускую мову і прысунуў Расею; у лістападзе Гітлер быў абвешчаны ўзорам.

Ніводзін гісторык не пагодзіцца з такой клясыфікацыяй: хіба ўсё пачалося не з увядзеньнем у 1994-м прэзыдэнцтва ў Канстытуцыю? З аднаўленьня ў правах камуністычнай партыі ў 1993-м? Ці раней, з адмены рэфэ-

рэндуму аб новых выбарах у 1992-м? Ці яшчэ раней, падчас вайны, якая падзяліла Беларусь на паліцэйскую і партызанскую? Ці падчас тэрору 1930-х? У 1921-м, калі краіну разарвалі на Захад і Усход? Ці з разгрому паўстаньня 1863-га? Падзелаў Рэчы Паспалітай? А, можа, з Каіна?

Можа, і так. Але мы адказныя за тое, што адбываецца на працягу нашага сьвядомага жыцьця.

Бо пачатак усяго заўсёды тут і сёньня.

## Штучна ці слушна

Першая ахвяра любой дыктатуры — мова. Узурпатар хоча называцца прэзыдэнтам, імітацыя выбарамі, вайна барацьбой за мір. Але і дэмакратыя — не тлумачальны слоўнік, дзе ўсё ясна расьпісана.

Расея спрабавала легалізаваць акупацыю ўкраінскіх тэрыторыяў, і на агульнарэдактарскай нарадзе абмяркоўвалі, ці можна слова «рэфэрэндум» браць у двукосьсе. Бо ўзяць азначала выказаць ацэнку, а радыё мусіць у навінах паведамляць факты, а не раздаваць ацэнкі. Амаль паўгадзіны аргумэнтаў, контраргумэнтаў, непахіснай прынцыповасьці, трыганамэтрычнай усебаковасьці і звышчалавечай аб’ектыўнасьці — нават штучны інтэлект, думаю, замкнула б. (Двукосьсе забанілі, узамен дадавалі грувасткія азначэньні пра акупаваныя тэрыторыі, незаконнасьць і непрызнаньне, але дапільнаваць такую стэрыльнасьць удаецца рэдка.)

Вядучая амэрыканская газэта паведаміла навіну зь Менску на пачатку 2022 году: «Беларускія выбаршчыкі на рэфэрэндуме абсалютнай бальшынёй галасоў ухвалілі зьмены ў Канстытуцыю, адмову ад нэўтральнага статусу...» Падазраю, што штучны інтэлект напісаў бы меншую лухту.

Амэрыканскі журналіст, чый подпіс стаіць пад навіной, неўзабаве апынуўся за кратамі ў Расеі. Белы Дом ужо больш за год дамагаецца ягонага вызваленьня.

Ніякай маралі тут няма, але сувязь ёсьць. Верагодна, штучная, хоць і ня надта інтэлектуальная.

## Баяцца ці вызваляцца

Журналіст Свабоды Алег Грузьдзіловіч піша ў сваёй кнізе «Мае турэмныя муры» (2023), як за кратамі яму дапамог не баяцца Вітольд Ашурак. Палітычнага вязьня Ашурка ўжо закатавалі ў турме, калі Алега арыштавалі. Яны не былі знаёмыя, хоць Алег ня раз браў у Вітольда інтэрвію па тэлефоне, калі таго затрымлівалі за акцыі ў памяць Кастуся Каліноўскага, пасьля экалягічных і палітычных пратэстаў.

Грузьдзіловіч скептычна ставіцца да турэмнага этыкету «ня бойся» — і ня бачыць нічога заганнага ў тым, каб баяцца, бо праблема ў тым, каб ты сам авалодаў сваёй боязьзю, а не яна табой.

Вызваляцца ад страху за кратамі Алегу дапамагаў успамін пра Вітольда. Ня ведаю, што можа быць большай данінай памяці і чалавеку.

## Забылі ці знайшлі

У 1989 годзе ў прадмове да маёй першай кніжкі «Зьдзек», пра сталінскія рэпрэсіі ў Беларусі, Васіль Быкаў нечакана назваў вяртаньне гэтай памяці подзьвігам. Што б ён сказаў пра «Картатэку Сталіна», дзесяцігадовую працу Сяргея Д., які падрыхтаваў 60 тысяч імёнаў ахвяраў, і гэты каталёг мы апублікавалі на сайце Свабоды ў 2013 годзе, да гадавіны сьмерці тырана. «Знайдзі сваіх» — дэвіз «Картатэкі» мацнейшы за прыгожы, але невыканальны лёзунг «Ніхто не забыты, нішто не забыта».

Хацеў бы я напісаць, што гэты мартыралёг Беларусі і ёсьць сама нацыянальная калектыўная памяць, але ў ім толькі кожны дзясяты арыштаваны, высланы, расстраляны. Аднак рэч нават ня ў гэтым.

Памяць заўсёды асабістая. І пытаньне заўсёды адно: вы знайшлі сваіх?

## Блізка ці высока

Уручалі прэмію Алесю Бяляцкаму — ня Нобэлеўскую, да якой заставалася яшчэ тры гады, а ад Радыё Свабода і Беларускага ПЭНу, за турэмную літаратуру. Я перад гэтым надрукаваў на сайце Свабоды рэцэнзію на ягоныя «Турэмныя сшыткі», адну з самых назіральных і дасьціпных кніг пра беларускія турмы. На ўручэньні ўзнагароды імя Францішка Аляхновіча, якое адбывалася ў Менску, Алесь шчодра казаў, што мой водгук — найлепшае, што пра яго кнігі калі-небудзь напісалі. Нядаўна, пры сустрэчы ў Бэрліне, я пераказваў гэтую кнігу Сьвятлане Алексіевіч, і яна вельмі зацікавілася, прасіла знайсьці ёй асобнік.

Я пра што: журналісту важна разумець каардынаты і сваё месца ў іх. Нават ня тое, што я пішу пра тых, хто піша пра сваю турму, адчуйце розьніцу. А пра тое, што і наша літаратура, і яе творцы, і барацьба за свабоду ў Беларусі, і яе лідары — насамрэч найвышэйшага сусьветнага ўзроўню. І паводле цаны, і паводле прызнаньня ў сьвеце, і паводле якасьці. І паводле зла, якому яны супрацьстаяць.

Гэта не азначае, што іх нельга крытыкаваць, — але трэба разумець, зь якой беспрэцэдэнтнай вышынёй мы маем дачыненьне.

## Звыш ці над

У 2020 годзе ў Беларусі нарадзілася звышжурналістыка: стрымы. Канечне, жывыя рэпартажы зь месца падзеяў — не беларускае вынаходніцтва, як і год выбараў — ня першае іх зьяўленьне. Але і тэрмін «звышлітаратура», вынайдзены Алесем Адамовічам напярэдадні галоснасьці, і сам жанр, адзначаны Нобэлеўскай прэміяй Сьвятланы Алексіевіч напярэдадні беларускай рэвалюцыі, узьніклі не на пустым месцы. На пустым месцы нараджаецца толькі пустата.

Ужо ў 2017-м, падчас пратэстаў супраць дармаедзкага дэкрэту, відэастрымы сталі выходзіць па-за межы інфармацыйнай зьявы, уцягваючы людзей і ўладу ў свой вір. Гэта было нешта іншае.

У 2020-м стала відавочна, што менавіта. Узброеная сучаснымі тэхналёгіямі журналістыка пераставала быць па-над схваткай — ня страчваючы аб’ектыўнасьці і бесстароннасьці, яна рабілася яе правадніком і самой падзеяй. Улады адчулі, што адбываецца нешта новае, але знайшлі толькі старыя словы: рука Свабоды, рука Захаду, правакацыі, журналісты падбухторваюць, арганізоўваюць, вядуць.

Але што насамрэч адбывалася, калі стрымы Свабоды і іншых незалежных мэдыяў прыцягвалі дзясяткі, а потым сотні тысяч гледачоў адначасна і мелі мільённыя прагляды? Грамадзтва пераходзіла ў стан звышправоднасьці, і інфармацыя станавілася рэчаіснасьцю. Узровень эмоцыяў быў аднолькавы ва ўдзельнікаў пратэстаў і назіральнікаў. Прастора зьнікала, час ператвараўся ў рэзананс.

Але апроч дыгітальных тэхналёгіяў была яшчэ адна рэч. Гэта былі рэпартажы ня зь месца падзеяў, а з будучыні.

Звышжурналістыка — заўсёды з будучыні.

## Тутэйшыя ці госьці

Каб не стракацець ініцыяламі, зразумелымі тузіну людзей, я стаў шукаць нейкае агульнае азначэньне для сваіх калег. Творчыя, інтэлектуальныя, яркія — сынонімаў шмат, але так кажуць шмат пра каго.

І толькі напісаўшы гэтую кнігу, празь небясьпеку назваць іхныя імёны, мне нарэшце адкрылася, што было агульнага ў сьвежадэмабілізаванага салдата, які адной левай мог зрабіць дыгітальную рэвалюцыю, і былога дэпутата, які яшчэ да парлямэнту адной правай, бо пісаў артыкулы ручкай, мог спыніць атамную станцыю. Якая формула зьвязвала матэматыка-альгебраіста, чыю аналітыку вывучаў Пэнтагон, і мовазнаўцаў, якія стваралі народныя рухі. Чаму рэпартэрка, якая ніколі не вучылася на журфаку, аднолькава свабодна вяла рэпартажы з кароўніка, нобэлеўскай цырымоніі і вулічных пратэстаў. Якім чынам інтэрвіюеры і вядучыя жывога этэру гаварылі зь лекарамі, вязьнямі і прэзыдэнтамі так, быццам самі сядзелі, хварэлі і кіравалі краінамі. Што выкавала рымскі стаіцызм вясковага хлопчыка — кіраўніка бюро, аб які разьбівалася ярасьць дыктатара, ягоных міністраў і спэцслужбаў. Адкуль браліся гісторыкі, якія замянялі акадэмічныя інстытуты, рэдактары, якія стваралі новую рэчаіснасьць, прадусарскія каманды, якія не спажывалі, а прадукавалі энэргію.

Мае калегі не былі маімі сучасьнікамі. Гэта былі госьці з будучыні. Яны былі ўжо ў будучыні, і таму маглі так. У рознай будучыні, хто далей, хто бліжэй, хто часьцей, хто радзей.

Магу толькі ганарыцца часам — які, дзякуючы ім, і я правёў у будучыні.

## Час ці якасьць

Памятаеце гэтую показку пра настаўніка і вучняў: столькі разоў ім тлумачыў, сам нарэшце зразумеў, а яны ўсё ніяк! Я столькі разоў карыстаўся паняцьцем «будучыня» ў гэтых нататках, што сам нарэшце зразумеў, пра што гаворка. Не пра пляны, не пра заўтрашнія праблемы ці перамогі, увогуле не пра час.

Пра якасьць. Пра зьмест і форму, хуткасьць і рэзананс, супрацю і гармонію. Пра якасьць як сэнс нашага адзінага жыцьця.

## Захад ці ўзыход

Журналістам на свабодзе я быў тройчы: у Беларусі падчас галоснасьці 1980–1990-х гадоў, падчас працы ў Афганскай службе Радыё Свабода ў 2005–2006 гадах і зноў у Беларусі ў 2020 годзе. Я маю на ўвазе ўладу над рэальнасьцю, якую словы маюць, калі нараджаецца свабода.

Свабода — заўсёды нараджэньне і ніколі ня статус-кво, стан, а ня ўмовы, яе зьмест заўсёды будучыня, і гэта адзіная гарантыя, якую мае мінулае.

Можна сказаць, што кожны з маіх трох разоў на свабодзе канчаўся яе паражэньнем. Рэваншам аўтакратыі ў Беларусі 1990-х, тэакратыяй талібану ў Афганістане, дыктатурай ночы ў Беларусі 2020-х.

А можна сказаць, што я тройчы прысутнічаў пры цудзе нараджэньня свабоды.

Бачыў, як узыходіць сонца.

## Газ ці тормаз

Не магу падзяліцца рэцэптам, як стаць самым доўгатрывалым дырэктарам у гісторыі амэрыканскага замежнага вяшчаньня, чвэрць стагодзьдзя. Неяк само выйшла, не заўважыў. Пашанцавала зь людзьмі, не было фатальных памылак.

Але пэўна не таму, што заўсёды імкнуўся да згоды. Калі вы пачынаеце ўсяляк пазьбягаць памылак, не рызыкаваць, трымацца кансэнсусу — вы нічога не дадаяце, падтрымліваеце статус-кво, але не ствараеце дададзенай вартасьці.

Кансэнсус — гэта тормаз. Без тармазоў, вядома, далёка не заедзеш, але не яны павінны дыктаваць кірунак і хуткасьць руху.

## Журналістыка ці жыцьцё

— Як вашая прафэсія журналіста паўплывала на вашае жыцьцё?

Такое пытаньне ў верасьні 2022 году мне задалі на лекцыі, зь якой я выступаў перад студэнтамі журналістыкі ў амэрыканскім унівэрсытэце.

І я мусіў прызнацца, што ня ведаю, як адказаць.

У 2022-м зьявілася дасьледаваньне шчасьця, якое брытанскія сацыёлягі правялі ў трох дзясятках краінаў, апытаўшы каля ста тысяч людзей. У выніку склалі сьпіс заняткаў і жыцьцёвых сытуацыяў, якія робяць людзей найбольш шчасьлівымі, па меры ўбываньня. На першым месцы каханьне і сэкс, апошняе, 40-е, месца ў сьпісе занялі хваробы, пакуты цела. А на 39-е, перадапошняе месца, рэспандэнты паставілі працу.

Я прачытаў і жахнуўся.

Маю веру ў чалавецтва вярнуў адзін таленавіты маладзейшы калега, якому я расказаў пра афронт перад студэнтамі.

Журналістыка, сказаў ён, гэта не прафэсія.

А й праўда. Прынамсі, ня толькі.

## Кідаць ці працягваць

Нобэлеўскі ляўрэат Эрнэст Хэмінгуэй казаў, што журналіст можа дасягнуць усяго, калі своечасова кіне журналістыку.

Нобэлеўскі ляўрэат Боб Дылан на пытаньне, чаму ён працягвае выступаць, калі ўжо голас не такі і гады ня тыя, адказаў, што гэта проста тое, што ён робіць увесь час.

Хэмінгуэй зрабіў пісаньне сьвятам, якое заўсёды з табой. Дылан засьпяваў *Blowin' In The Wind*: адказ, мой дружа, табе навее вецер...

Абодва маюць рацыю. Кожнаму звоніць свой звон.

## Успамінаць ці памятаць

Мне не стае мэмуараў беларускіх журналістаў, біяграфій, дзёньнікаў, якія адкрываюць гэтую прафэсію для цывільных.

Ігар Гермянчук, дэпутат незалежнасьці, лепш вядомы як легендарны рэдактар легендарнай газэты «Свабода», не пасьпеў напісаць мэмуараў — дні, якія пакінула яму сьмяротная хвароба, ён прысьвячаў клопатам пра сваіх журналістаў і іхную будучыню. Мы замовілі і выдалі кнігу пра яго, ягонае сталеньне, прыход да беларушчыны, яго сяброў з пакаленьня «Майстроўні», бясстрашную рэдактарскую працу («Спадар Свабода», 2020).

Неяк я спрабаваў намовіць напісаць успаміны Пятра Марцава, заснавальніка і рэдактара самага пасьпяховага незалежнага выданьня, «Белорусской деловой газеты» і тыднёвіка «Имя». Ён, верагодна, ужо быў ня ў стане, ішоў апошні год ягонага жыцьця — кнігу пра яго выдала таленавітая калега Саша Р. Гарэзьлівыя «Фрашкі да пляшкі» Севярына К. перадаюць студыйную атмасфэру Радыё 101,2 і віленскай «Нашай Нівы».

І гэта збольшага ўсё. Што я хацеў бы пачытаць — кнігі пра людзей, рэдакцыйнае жыцьцё, жарты, выклікі, канфлікты, іх вырашэньні, эксклюзівы, як апярэдзілі ўсіх, і за што сорамна, чым ганарацца рэпартэры, рэдактары, фатографы, прадусары. Пра БелаПАН і Алеся Ліпая, пра фэномэн TUT.by і Юрыя Зісера. Пра «Народную Волю» і «Нашу Ніву», «Беларускую газэту», «Свободные новости» з плюсам і без. Пра гарадзенскую «Пагоню», маладэчанскую «Рэгіянальную газету», «Брестский курьер», баранавіцкую сетку «Інтэкс-прэс». Пра надзвычайныя зьявы міжнароднай салідарнасьці — «Белсат», «Радыё Рацыя», «Балтыйскія хвалі», «Эўрарадыё». Пра працу ўласных карэспандэнтаў замежных выданьняў.

Я бачу цэлую бібліятэку. Яна нават мае назву.

## Ы ці я

Гадоў дзесяць таму я напісаў у слупок сваё вызначэньне свабоды — той, вялікай, якая пішацца з малой літары:

Свабода —
Гэта мова,
На якой Бог
Гаворыць з чалавекам,
А чалавек з Богам.
І абодва глуханямыя.
Ыя,
Ыя.

Яго надрукавалі на вокладцы адной маёй кніжкі, і на прэзэнтацыі адзін чытач спытаў: «“Ыя” — гэта пра глушылкі?» Я не пасьпеў адказаць, бо нейкая чытачка запярэчыла, што пра каханьне. Я ня стаў спрачацца, там сапраўды было водгульле радка Арсенія Таркоўскага пра «объяснение в любви глухонемых». Усе вершы пра гэта.

А наконт вялікай літары лепш было ў іншым тэксьце, з нагоды дня нараджэньня *Radio Liberation*, 20 траўня: «Свабода — гэта сьвята, якое заўсёды з намі».

## Гендэр ці аблічча

У вайны за свабоду ў Беларусі жаночае аблічча. Даўно асобнай кнігі вартыя беларускія журналісткі. Галоўныя рэдактаркі, нястомныя прадусаркі, бліскучыя мадэратаркі, інтэлектуальныя суразмоўніцы, бясстрашныя рэпартэркі. Яны былі заўважныя заўсёды — і калі працавалі на пратэстах, і АМАП расступаўся перад журналісткай зь мікрафонам, і калі рэпартэрку зацягвалі ў аўтазак пасярод жывога этэру. Калі давалі поўху міліцэйскаму сьледчаму, і калі цяпер няма зьвестак зь іх турмаў і калёній.

Лінія прафэсіі не праходзіць па гендэры, ня ён дыктуе рэдактарскія і мэнэджэрскія рашэньні. Але гендэр у Беларусі большы за фэмінітывы і паліткарэктнасьць.

Спытайце ў Сьвятланаў.

## Сіла ці слабасьць

Найбольш і найменш моцнымі нас робіць тое, чым мы даражым, любім больш за ўсё. Дзеля яго мы здольныя на подзьвігі, і пагрозу яму перажываем найбольш балюча. Але калі занадта пераймацца, дык цяжка кантраляваць сябе, і тады цябе пачынаюць кантраляваць іншыя — абставіны, падзеі, людзі.

Гэта не азначае, што ад таго, што любіш, трэба адмаўляцца, — але нельга забывацца, што тваё каштоўнасьці не абавязкова сугучныя зь іншымі.

Я, напраўду, хоць і памятаў, але забываўся. І таму магу сказаць кампэтэнтна, пераканана, зь веданьнем справы: і дзякуй Богу.

## Чытаць ці перачытваць

Адзін з найвялікшых аўтарытэтаў майго жыцьця, акадэмік Андрэй Сахараў сёньня перш за ўсё мяне ўражвае не вынаходніцтвам тэрмаядзернай бомбы ці касмалягічнымі прадказаньнямі, і нават ня цудам уставаньня з каленяў — ашаламляльнай адмовай ад мінулага і стварэньнем руху інтэлектуальнага і маральнага супраціву ў Савецкім Саюзе. Такую самую бомбу адначасна прыдумаў у Амэрыцы Эдвард Тэлер, і ператварэньне Саўла ў Паўла здараецца ня толькі ў біблійных прыпавесьцях.

Цяпер уражвае іншае. Бадай, найчасьцейшае асабістае выказваньне, якое сустракаецца на старонках «Успамінаў» Сахарава: «я памыляўся», «да майго сораму», «я ня меў рацыі», «я не зразумеў», «мая хіба»...

«Я стараўся ў гэты пэрыяд не адхіляцца ні на што пабочнае, у прыватнасьці, зусім ня слухаў заходняе радыё. Гэта прывяло мяне да буйных промахаў, пра што я пішу ніжэй». Так пра Чарнобыль. Гэтак і пра фізыку, і пра палітыку, і пра сям’ю, і пра сяброў — пра сябе. Я заўважыў гэта, калі перачытваў мэмуары другі ці трэці раз, гэта цяпер найперш кідаецца ў вочы, калі часам разгортваю старонкі кнігі.

Што ж, верагодна, кожны чытае пра самога сябе.

## Рэалізм ці магія

Я заўсёды лічыў кнігі нон-фікшн кульмінацыяй рэалізму, месцам, дзе рэпартаж пераадольвае час і робіцца літаратурай, але не перастае адпавядаць патрабаваньням журналістыкі. Так я думаў да апошняга дня сваёй працы на Свабодзе. У апошні дзень мая ўпэўненасьць калі і ня зьнікла бясьсьледна, дык радыкальна ўдакладнілася.

Адрасаваны мне ліст з Польшчы, з катэдры беларусістыкі Варшаўскага ўнівэрсытэту, быў датаваны 27 лютага 2023 году, перадапошнім маім днём на Свабодзе. Беларусісты дзякавалі за кнігу «Вянок Свабоды», якая дыгітальна ўтрымлівала ўсю нашую «Бібліятэку», і прасілі прыслаць іншыя выданьні: «У размовах падчас апошняй катэдральнай сустрэчы мы пераканаліся, наколькі мы захопленыя і натхнёныя гэтай кніжнай калекцыяй Радыё Свабода».

Трохі незвычайная моўная канструкцыя падзякі тлумачылася подпісам: доктар Анхела Эспіноса Руіс, гішпанка і беларуская паэтка.

Калі гэта і рэальнасьць, дык магічная.

## Палон ці вызваленьне

Сярод дзясяткаў прадмоваў, якія я напісаў для «Бібліятэкі Свабоды», некалькі сталі песьнямі. Адну я выконваю сам — рэп на дыску «Барды Свабоды», які выйшаў у 2010 годзе і сабраў сто аўтараў, што прыходзілі з гітарамі ў нашу студыю. Прадмова да «Галасоў Беларусі — 2022» зрабілася песьняй «Калыханка», якую сьпявае Лявон Вольскі. Але самай вядомай стала іншая песьня Вольскага, «Палон», на прадмову да кнігі «Тантамарэскі» (2019).

Лявон стварыў музыку і сьпяваў «Палон» спачатку сам, а затым зрабіў запіс з сапрана Маргарытай Ляўчук, які загучаў як опэрная рок-баляда. Потым ягоная каманда зьняла нават ня кліп, а відэафільм, з жывымі тварамі беларускай культуры і супраціву, мужнай інтанацыяй яраснага адчаю і анёльскай прыгажосьці.

Герой кнігі адседзеў шэсьць гадоў і ўжо выйшаў. А песьня аказалася прысьвечаная ня толькі ўсім, хто апынуўся ў турме і на вайне, але і тым, хто іх чакае.

Чакаць таксама подзьвіг. Дай ім, Божа наш нялітасьцівы, дачакацца.

## Верыць ці ведаць

У 1990 годзе, калі я пачаў стала выступаць у этэры Свабоды, гурт «Уліс» засьпяваў адну са сваіх самых вядомых балядаў, «Радыё Свабода», словы Фелікса Аксёнцава на музыку Славы Кораня:

*Радыё Свабода,*
*Мы твае хвалі і подых.*
*Не пакіне нас надзея.*
*Там, дзе няма цемнаты,*
*Ведаюць нас.*

Гэта загадкавая баляда, і таму яна праясьняе нешта, што іначай не вядома. Але што менавіта? Праз чвэрць стагодзьдзя пасьля напісаньня Аксёнцаў патлумачыць: «“Радыё Свабода” — выйсьце з сусьвету Оруэла».

У рамане «1984» словы пра сустрэчу ў месцы, дзе няма цемнаты, належаць галоўнаму герою Ўінстану Сьміту — ён іх прымроіў, а потым яны вяртаюцца зноў і зноў, але дакладнае значэньне застаецца няўлоўным. Аж пакуль ён не трапляе ў Міністэрства любові, дзе няма вокнаў і таму заўсёды гарыць электрычнае сьвятло. Катаваньне, занадта добра вядомае беларускім вязьням.

Аксёнцаў гэта адчуў і так казаў у начным этэры «Свабоды» яшчэ ў 2007 годзе: «Гэтыя радкі Оруэла заўжды выклікалі ў мяне нейкі сум, і заўжды, калі я чытаў гэта, мне хацелася перапісаць гэтую гісторыю, зрабіць яе сьвятлейшай, таму тут ёсьць яшчэ нейкі іншы пласт — гэта ня проста цытата з Оруэла, гэта спроба знайсьці сьвятло там, дзе герой Оруэла знайшоў толькі турму».

*Радыё Свабода,*
*Мы твае вусны і словы.*

*Ці павінен я быць шчырым?*
*Там, дзе няма цемнаты,*
*Слухаюць нас.*

Аксёнцаў, які называў сваёй рэлігіяй рок-н-рол, кажа пра Свабоду такое, што існуе па-за журналістыкай, у сфэры веры: «Радыё Свабода» — тое ж, што ў іншых сьветапоглядах «благадаць», «нірвана», «Дух Сьвяты» ці «сусьветны розум». Чалавек як увасабленьне Свабоды Выбару. Таму — хвалі радыё, таму — «вусны і словы» адвечнага. Тыя вусны і словы, што былі нам дадзеныя рок-н-ролам. Словы «слухаюць нас», «ведаюць нас» — тут набываюць адценьне «сапраўды ведаюць», «сапраўды слухаюць» па-за сусьветам «1984».

Я ня веру, што сапраўды. Ведаю.

## Было ці будзе

Калі на тым сьвеце сьвяты Пётра спытае, чым я найбольш ганаруся са зробленага на Свабодзе, я ня стану гаварыць пра дзясятак сваіх кніг і сотню выданьняў нашай «Бібліятэкі», пасады, узнагароды і рэкорды, а папрашу паказаць кароткае відэа.

Летам 2020 году нашая здымачная група ў Менску паехала да будынку дзяржаўнага тэлебачаньня, дзе сотні людзей пратэставалі супраць цэнзуры і выбарчай хлусьні на экранах. Калі пабачылі нашых журналістаў і фірмовы знак Свабоды — аранжавую паходню, яны раптам пачалі скандаваць: «Радыё Свабода! Радыё Свабода! Радыё Свабода!..»

Дваццаці-трыццацігадовыя, прыгожыя, сьмелыя, шчасьлівыя, вясёлыя, яны былі Беларусьсю будучага. Мае калегі, нашая праца былі будучыняй.

Не магу глядзець гэтае відэа бязь сьлёз. Прабачце.

## Мне ці не

Мы зайшлі ў хату, і гаспадар адразу паказаў мне на радыёпрымач: «Мая Свабода», — сказаў ён так, як кажуць пра нешта блізкае і дарагое. Дзядзьку было за семдзесят, прымач таксама быў вэтэранам.

Была восеньская раніца, туман, траву прыхапіла шэрань, але адчувалася, што дзень будзе сонечны. Мы з жонкай прыехалі ў невялікае мястэчка пад Менскам да яе бацькоў, а яны паабяцалі свайму добраму знаёмаму, даўняму слухачу Свабоды, сустрэчу са мной. Мястэчка было багатае на гісторыю, знакамітых людзей, у тутэйшым касьцёле хрысьцілі вялікага нацыянальнага паэта, некалі тут быў свой тэатар, гімназія, суд, яшчэ гучала прыгожая беларуская мова.

Мы ішлі па вуліцы, калі дзядзька ў акуратным, некалі сьвяточным гарнітуры, які чакаў ля весьнічак, павітаўся і запрасіў да сябе ў двор. Мы ўвайшлі, я працягнуў руку, гаспадар узяў, але не паціснуў — я не пасьпеў зразумець, што адбываецца, — а нахіліўся і пацалаваў.

Як мне дастала такту не адхапіць, не запратэставаць, не пакрыўдзіць шляхетнага чалавека — сам ня ведаю. Відаць, адчуў, што адбываецца.

Руку цалавалі ня мне.

Мільён гадоў таму я паспрабаваў запісаць партытуру свайго журналісцкага часу ў газэце ў 1982–1990 гадах і назваў яе «Перад свабодай». Я тады ўжо працаваў на Свабодзе і думаў, што думаю наперад, пра трыпціх: «Перад свабодай», «На свабодзе», «Пасьля свабоды». Мой выдавец і рэдактар Сяргей Д. аказаўся іншаплянэтнікам і выпусьціў кнігу пад назвай «У фіялетавай ночы вугал крыла». Так называлася кароткая навэла, якая прысьніла сябе мне, і я ўключыў яе ў тую кніжку сэрыі «Вострая брама». Яна была пра вайну на вуліцах Менску, што пачнецца праз дваццаць гадоў. Цяпер яна чытаецца як напісаная пасьля.
Намер раскласьці свабоду на трыпціх быў асуджаны ад пачатку, але ідэя першапачатковай назвы была правільная, бо мы заўсёды — перад свабодай.

## Сэлфі з усімі для аднаго

Партрэт і твар — розныя рэчы, тым болей — аўтапартрэт, нават калі гэта сэлфі. Асабліва калі гэта сэлфі. Але калі з усімі... Усё напісанае тут — праўда, у той ступені, у якой напісанае можа быць праўдай.

Пастанова скараціць траціну Беларускай службы ў Празе, афіцыйна — каб застацца ў рамках бюджэту рэдакцыі, стала апошняй рысай. На радыё быў прафіцыт бюджэту, анансаваліся дзясяткі вакансіяў, пачыналіся грандыёзныя праекты.

Калі магчымасьці нешта зьмяніць знутры былі вычарпаныя, упершыню за тры дзесяцігодзьдзі я стаў шукаць дапамогу звонку: прадставіў сваю пазыцыю інспэктарам Дзярждэпартамэнту, які праводзіў праверку радыё.

Але іхныя высновы публікуюцца ня хутка. У канцы 2022 году Беларуская служба атрымала найвышэйшую ўзнагароду амэрыканскага замежнага вяшчаньня, прэмію Дэйвіда Бэрка, другі раз. Падчас жывой лініі я напрасткі зьвярнуўся да старшыні Агенцтва глябальных мэдыяў, цытаваў Зяленскага: нам патрэбная амуніцыя, а не маральная падтрымка. Адказу не было.

Заставалася толькі ахвяраваць сваёй пазыцыяй.

У сьнежні мяне запрасілі выступіць у парлямэнце Чэхіі, расказаць пра Беларусь і нашых вязьняў, гэта была самая высокая трыбуна, зь якой я калі-небудзь прамаўляў. Я зачытаў па-чэску словы Вацлава Гаўла, якія ў сьнежні 2011-га на маю просьбу ён напісаў беларускім вязьням, гэта быў апошні допіс ягонага жыцьця, праз тры дні яго ня стала. *«Milí přátelé, přeji vám vše nejlepší a svobodu vaší zemi…»* У сьпікеркі парлямэнту, які некалі абраў Гаўла прэзыдэнтам, былі сьлёзы ў вачах. У мяне, верагодна, таксама.

На Каляды гаварыў зь сем'ямі нашых вязьняў, дапамагаў з падарункамі для іхных дзяцей.

Новы год сустракалі ўдваіх з жонкай — яна цяжка хварэла і ўжо амаль не ўставала. Гэта быў наш сорак шосты і апошні Новы год разам. Я ня ведаў, што больш ня будзе, нам заставалася менш за тры месяцы. Сьвета ганарылася Свабодай і была супраць майго сыходу, перажывала за вязьняў і іхныя сем'і, настойвала, каб я працягваў. Я думаю цяпер, што варта было сысьці раней — правёў бы зь ёй больш часу.

Люты 2023-га стаў апошнім месяцам маіх трох дзесяцігодзьдзяў на Свабодзе. Адбыліся ўрачыстыя праводзіны, з прамовамі, узнагародамі, пажаданьнямі ад начальства і калег з розных рэдакцыяў, тостамі, падарункамі, усё па найвышэйшым рахунку.

28 лютага я апошні раз выйшаў са сваёй найлепшай у жыцьці працы, каб апынуцца перад новай свабодай. Там, дзе няма цемнаты.

## Паказьнік асобаў


Абама Барак *303*
Агінскі Міхал Клеафас *117*, *118*
Адамовіч Алесь *89*, *95*. *251*, *252*, *253*, *337*
Аксёнцаў Фелікс *351*, *352*
Акуджава Булат *311*
Алег *9*
Алексіевіч Сьвятлана *52*, *54*, *74*, *85*, *94*, *95*, *96*, *98*, *99*, *100*, *101*, *103*, *104*, *115*, *122*, *212*, *253*, *336*, *337*, *346*
Алена Ц. *52*
Алесь *9*
Аліеў Ільхам *128*, *135*
Алілуева Сьвятлана (Сталіна) *39*, *40*
Андропаў Юры *45*, *252*
Андрусышын Багдан (Данчык) *34*, *36*, *37*, *39*, *42*, *145*, *255*
Андрусышын Паўло *39*
Андрусышына Юля (Каханоўская) *37*, *39*
Андэрс Уладыслаў *304*
Антаньёні Мікелянджэлё *288*
Антончык Сяргей *43*, *331*
Анэжка Чэская *314*, *315*, *316*, *317*
Апейкін Аляксандар *139*
Арыстотэль *110*
Ашурак Вітольд *334*

Байдэн Джо *161*
Бакацін Вадзім *45*, *46*
Бальцэровіч Лешэк *213*
Бандарук Кастусь *38*
Барадулін Рыгор *93*, *141*, *143*, *144*, *145*
Барыс П. (Пятровіч) *98*, *99*, *100*, *101*
Баэз Джоан *320*
Бін Лядэн Усама *115*
Бонэр Алена *60*, *209*, *213*
Бродзкі Іосіф *307*, *312*

Брыль Янка *52*, *251*, *253*
Брэдлі Бэн *42*, *61*, *194*
Бублікаў Анатоль *145*
Буйло Канстанцыя *56*, *57*
Букоўскі Уладзімір *213*
Бухвостаў Аляксандар *138*
Буш Джордж *79*, *210*, *211*, *213*, *303*
Буш Джордж старэйшы *316*
Бушлякоў Юрась *143*, *144*
Быкава Ірына *67*
Быкаў Васіль *50*, *52*, *66*, *67*, *68*, *69*, *71*, *89*, *95*, *109*, *142*, *145*, *251*, *254*, *255*, *301*, *335*
Быкаў Васіль, сын *68*
Быкаў Дзьмітры *213*
Бэрк Дэйвід *203*
Бэрман Гаўард *213*
Бэрнстайн Карл *61*
Бяляцкі Алесь *109*, *212*, *336*

Вайль Пётар *109*, *312*
Валенбэрг Рауль *78*
Валодзя Г. *53*
Валянцін Ж. *9*, *53*
Ванга *54*
Васіль З. *48*
Вашынгтон Дэнзэл *36*
Вінцук В. *53*
Волак Кен *213*
Вольскі Лявон *110*, *137*, *350*
Вранава Сьвятлана *73*
Вудвард Боб *61*
Вэрдзі *64*
Вярцінскі Анатоль *89*, *326*
Вячорка *49*
Вячорка Франак *71*, *168*

Гавэл Вацлаў *71*, *73*, *103*, *104*, *110*, *112*, *126*, *162*, *177*, *197*, *208*, *210*, *212*, *213*, *252*, *254*, *314*, *316*, *318*, *319*, *320*, *358*
Гангадзэ Георгі *306*
Ганчар Віктар *54*, *221*

Гарбачоў Міхаіл *45*, *60*
Гастэрт Дэніс *105*, *106*, *107*
Гашак Яраслаў *73*
Гедмін Джэфры *113*, *123*, *124*, *125*, *126*, *127*, *206*, *209*, *214*, *221*
Гейтс Боб *45*
Геніюш Ларыса *73*
Герасюк Іван *89*
Герман Аляксей *214*
Гермянчук Ігар *344*
Гершман Карл *206*, *207*, *208*, *209*, *210*, *211*, *212*, *213*, *214*
Гілевіч Ніл *55*, *89*
Гітлер *54*, *331*
Глюксман Андрэ *214*
Горгій *287*
Грузьдзіловіч Алег *18*, *19*, *22*, *81*, *136*, *162*, *184*, *206*, *223*, *224*, *234*, *236*, *256*, *334*
Грузьдзіловіч Марыянна *224*, *234*, *235*, *236*
Грушавы Генадзь *38*
Грыб Мечыслаў *49*, *87*, *88*
Грэм Кэтрын *61*, *194*
Губерман Ігар *310*
Гэгель *206*, *256*
Гэнкс Том *36*
Гэрыс Камала *185*
Гэсіёд *312*, *313*

да Вінчы Леанарда *108*
Дайн Том *60*, *106*, *107*, *108*, *109*, *113*
Далай-лама *110*, *125*, *210*
ДаСьлёз *111*
Даўлатаў Сяргей *312*
Дашкевіч Зьміцер *73*, *85*, *135*, *154*
Дашкевіч Наста *154*
Джобс Стыў *320*
Джойс Джэймз *38*, *95*, *111*, *221*
Дзюба Іван *213*
Дзяніс К. *49*
Донскіс Леанідас *213*
Драч Іван *213*
Друкер Пітэр *194*, *291*

Дубак Мішэль *112*, *113*, *114*
Дубоўка Ўладзімер *34*, *139*
Дука Домінік *314*
Дылан Боб *153*, *154*, *320*, *343*
ДэЛёз *110*

Ерафееў Віктар *214*
Ергавіч Міленка *213*

Жанна Л. *144*
Жантаўскі Міхаэл *318*
Жук-Грышкевіч Вінцэнт *34*, *304*
Жырыноўскі Ўладзімір *307*, *327*

Забораў Барыс *215*
Завадзкі Зьміцер *54*
Запруднік Янка *37*, 56, *215*
Захаранка Юры *54*
Земляны Ігар *48*
Зіедоніс Імантс *262*
Зінчанка Якаў *50*
Зісер Юры *344*
Зьміцер Б. *52*, *54*, *55*, *59*, *100*
Зяленская Алена *138*
Зяленскі Ўладзімір *76*, *139*, *357*

Іван А. *48*
Іван М. *51*
Іна *9*
Ірса Томаш *214*
Ірына А. *47*
Іясэліяні Атар *214*

Кавалёў Сяргей *209*, *214*
Казулін Аляксандар *84*, *85*
Казько Віктар *52*, *252*
Калесьнік Уладзімір *253*
Каліноўскі Кастусь *140*, *334*
Караткевіч Вольга *145*, *146*, *147*
Караткевіч Уладзімер *55*

Карзай Азізула *121*, *122*
Карзай Хамід *120*, *121*, *122*, *152*
Карпаў Анатоль *127*
Картэр Джэймз *304*
Каспараў Гары *127*
Кастусь Ц. *50*
Каткоўскі Ўладзімір *140*, *141*, *238*
Кафка Франц *72*, *73*, *104*, *272*
Каханоўская Яніна *37*
Кенан Джордж *175*
Кент Том *132*, *133*, *134*
Кенэдзі Джон *61*
Кіпель Вітаўт *37*, *215*
Кіпель Зора *37*
Кіплінг Рэд'ярд *115*
Кісялёў Яўген *136*
Кіт Барыс *215*
Клаўс Вацлаў *316*
Клінтан Біл *62*, *304*
Клоўз Кевін *40*, *41*, *42*, *43*, *44*
Кляра Асыская *314*
Колб Марвін *61*
Конквэст Робэрт *284*, *292*
Корань Слава *351*
Корбут Вольга *36*, *61*
Корн Стывэн *153*, *154*, *155*
Корці Марыё *301*
Корці Элена *301*
Коэн Леанард *189*, *191*
Крамплава Івэта *73*
Красоўскі Анатоль *54*, *221*
Краўчанка Пятро *266*
Круз Том *202*
Крэймэр Дэйвід *214*
Крэйнэр Лорн *214*
Ксэніяд *287*
Кудасава Наста *53*
Кузьнечык Алеся *16*
Кузьнечык Андрэй *15*, *16*, *17*, *59*, *162*, *196*, *206*, *219*, *220*, *223*, *230*, *232*, *256*

Кузьнечык Даша *16*, *17*
Кузьнечык Максім *16*, *17*
Купала Янка *37*, *191*, *255*
Купчыньскі Раман *306*
Кучма Леанід *306*
Куэльлю Паўлу *299*
Кэмпбэл Кім *214*

Лаеўская Валянціна *38*
Лантас Том *78*
Лапатка Якуб *215*
Лебядок Ягор *136*
Ленін *97*
Лібэрман Джо *209*, *214*
Ліпай Алесь (Ясь Валошка) *35*, *92*, *133*, *203*, *231*, *233*, *344*
Лосеў Леў *312*
Лосік Дар’я *14*, *15*, *29*, *81*, *82*, *321*
Лосік Ігар *10*, *13*, *14*, *15*, *29*, *77*, *80*, *81*, *82*, *162*, *178*, *180*, *206*, *238*, *256*, *321*
Лужынскі Міхась *215*
Лукашук Васіль *265*
Лукашук Марыя *125*, *248*, *253*, *264*
Лукашук Міхаіл *265*
Лукашук Сьвятлана (Сьвета) *1*, *37*, *235*, *358*
Лябедзька Анатоль *49*, *154*
Ляен Урзуля фон дэр *135*
Ляўчук Маргарыта *350*

Майсейчык Ян *215*
Мак’явэлі Нікалё *211*
Макрон Эманюэль *137*
Максімюк Ян *34*, *38*
Мальдзіс Адам *37*
Мараў Эдвард *61*
Маргуліс *106*
Марк Аўрэлі *206*
Маркецi Майкл *163*
Марозаў Павал *215*
Марозаў Паўлік *312*
Марцаў Пётар *344*

Маск Ілан *187*
Мікалай С. *49*
Міхалюк Лёля *215*
Міхась Д. *47*
Міхась С. *53*
Мулявін Уладзімір *145*
Мэлгаўпт Дэніс *214*

Надсан Аляксандар *215*
Ніксан *61*
Ніцшэ *206*
Ніязаў Сапармурат *301*
Новак-Езёраньскі Ян *304*, *305*
Нурэеў Рудольф *109*
Ньюман Дэйвід *182*
Нямцоў Барыс *109*

Орса-Рамана Ала *37*
Оруэл Джордж *149*, *294*, *351*
Освальд *140*, *160*

Павал В. *49*
Пазьняк Зянон *49*, *109*
Пак Майкл *180*, *181*
Паніёта Ўладзімір *138*
Пара Віялета *320*
Патарыдзэ Гульнара *113*
Патачка Ян *71*
Пашкевіч Алаіза *139*
Пеця С. *218*
Пётар А. *56*
Портнікаў Віталь *54*
Пратагор *287*
Пратасевіч Раман *155*
Прэсьлі Элвіс *129*
Пургурыдыс Хрыстас *214*
Пуцін *53*, *54*, *127*, *245*
Пушкін *127*
Пэіч Нэнад *147*, *148*
Пэрніцкі Томаш *74*

Пэтршычэк Томаш *70*, *74*
Пэхачак Павэл *314*, *316*

Равенскі Мікола *57*
Равэльлі Карлё *182*
Райс Кандаліза *209*, *211*, *214*
Раўд Рэйн *214*
Рос-Лэтынэн Ілеана *214*
Рапа Янада *140*, *141*
Руднік Галіна *39*, *40*, *56*
Рудэрман Аркадзь *129*
Румл Ян *72*
Руст Матыяс *111*
Рыч Вера *65*
Рэйган Роналд *79*, *80*, *182*, *206*, *246*, *248*, *258*, *304*

Сакульскі Ўладзімір *144*
Салазар *228*
Салжаніцын *44*, *258*
Сафія А. *82*
Сахараў Андрэй *60*, *133*, *213*, *348*
Саша Р. *344*
Саша У. *93*
Севярын К. *344*
Севярынец Павел *73*
Сікорскі Радаслаў *214*
Скарабагатаў Віктар *125*
Скарына Францішак *71*, *72*, *91*, *104*, *140*, *266*
Скачкоў *167*, *170*
Скот *216*
Снайдэр Тымаці *329*
Соза Мэндыш Арыштыдыш ды *227*, *228*, *229*, *231*, *232*
Сокал Ян *71*
Сокалава Францішка *71*
Сокалаў-Воюш Сяржук *39*
Сталін *39*, *40*, *175*
Станкевіч Вячка *30*, *32*, *33*, *34*, *38*, *40*, *41*, *42*, *44*, *215*, *271*
Станкевіч Джаэн *30*, *33*
Статкевіч Мікола *14*
Стругацкі Барыс *214*

Ст’юарт Карэн *159*
Сунь Цзы *165*, *166*
Сурвіла Івонка *145*, *215*
Сурвіла Паўліна *215*
Сўорц Дэйвід *214*
Сьвярсьцюк Яўген *214*
Сьміт Крыстафэр *214*
Сэнюх Чэслаў *300*
Сяднёў Майсей *34*
Сянькоўскі Юрка *34*, *35*, *36*
Сяргей Д. *335*, *356*
Сяргей Н. *95*
Сяргей Ш. *95, 141*

Тайсан Майк *290*
Талстой Леў *310*
Тарас Валянцін *142*
Тарас Віталь *142*
Тарашкевіч Браніслаў *37*
Таркоўскі Арсені *345*
Трамка Рычард *214*
Трамп Дональд *58*, *76*, *161*, *180*, *187*, *211*
Трымбл Джэфры *60*, *61*, *62*, *63*, *105*, *106*, *149*
Тэлер Эдвард *284*, *348*
Тэртуліян *169*
Тэтчэр Маргарэт *284*

Уласаў Аляксандар *37*
Урбан Ларыса *38*, *44*
Урбан Паўлюк *38*
Ўільямз Фрэнк *89*, *90*, *91*
Ўэлч Джэк *194*

Фасэл Дантэ *246*
Фішэр Джулі *170*
Фолкнэр Ўільям *149*
Фрыдман Мілтан *284*
Фрылэнд Хрысьця *13*
Фукуяма Фрэнсіс *127*, *206*, *209*, *213*, *214*
Фучык Юліюс *103*

Ханжанкоў Сяргей *83*, *160*
Хэмінгуэй Эрнэст *32*, *132*, *343*

Ціханоўская Сьвятлана *15*, *136*, *346*
Ціханоўскі Сяргей *14*, *15*
Цыцэрон Марк Тулій *220*
Цьвірка Ўладзімер *34*

Чаргінец Мікалай *67*, *68*
Чарняўская Юлія *95*
Чжан Мін *139*
Чэ Ціхан *99*

Чэрчыль Ўінстан *88*, *304*

Шаляпін Фёдар *39*
Шаляпіна Тацяна *39*
Шастаковіч Дзьмітры *254*
Шаўчук Юры *135*
Шварцэнбэрг Карэл *71*, *72*, *73*, *214*
Шпэнглер Тыльман *214*
Шушкевіч Станіслаў *38*, *49*, *154*, *256*
Шэксьпір *202*

Эдуард К. *48*
Эйзэнгаўэр *109*
Эйнштэйн Альбэрт *284*
Эспіноса Руіс Анхела *349*
Эўфрасіньня Полацкая *314*, *316*, *317*

Юрскі Сяргей *214*

## Пра аўтара

Нарадзіўся ў сям'і настаўнікаў у 1955, пасьвіў каровы на Берасьцейшчыне, вучыўся ў Менскім інʼязе, перакладаў, пісаў, здымаў, рэдагаваў, удзельнічаў, абіраўся, атрымліваў. З 1993 да 2023 працаваў на Радыё Свабода, апошнюю чвэрць стагодзьдзя дырэктарам, найдаўжэйшы тэрмін у гісторыі Амэрыканскага замежнага вяшчаньня. Таксама ўзначальваў Афганскую службу, дзе дасягнуў рэкорднай аўдыторыі, быў галоўным рэдактарам РСЭ/РС, стварыў «Бібліятэку Свабоды», вучыў беларускай мове прэзыдэнтаў Чэхіі і ЗША. У 2023 быў стыпэндыятам Нацыянальнага фонду дэмакратыі ЗША, вывучаў палітыку памяці.

Жыве ў Эўропе і ваколіцах.

## Summary

«Where There Is No Darkness: Radio Liberty» is a witty, grim, passionate story of free journalism in unfree societies, of dealing with the KGB, arrests of colleagues, American bureaucracy, budget torture and the paradoxes of audience love.

Aliaksandar Lukashuk was director of Radio Free Europe/ Radio Liberty Belarus Service from 1998 to 2023, the longest such term in the history of American international broadcasting (USAGM). During this time, he also acted as director of the Afghan Service from 2004 to 2006, setting an all-time listenership record for any US foreign broadcasting unit, and led RFE/RL as editor-in-chief in 2007/8.

He has authored a dozen books on Belarus and American history, including «The Adventures of ARA in Belarus» about the US humanitarian effort in Europe during the 1920s, and «Oswald in Minsk» about the life of the notorious American defector to the Soviet Union in the 1960s.

Aliaksandar Lukashuk's work has received multiple awards, from the Belarus PEN Center, the U.S. Agency for Global Media, and the U.S. Academy of Interactive and Visual Arts among others. His articles in English have appeared in American Purpose, the Hoover Digest, and the East European Constitutional Review as well as in books on democracy studies published in Europe and America.

In 2023, he was a Reagan-Fascell fellow at the US National Endowment for Democracy in Washington, DC, where he researched the politics of memory in the Post-Soviet space.

## Зьмест

### НА СВАБОДЗЕ

Пятніца, 15 ліпеня 2022. 05:09 ... 9
Перад турмой ... 11
За кратамі: Ігар ... 13
За кратамі: Андрэй ... 15
За кратамі: Алег ... 18
Пятніца, 15 ліпеня 2022. 08:00 ... 20
Нявыкрутка ... 21
Дарагая паўза ... 25
Пятніца, 15 ліпеня 2022. 06:00 ... 27
Маё начальства. Вячка Станкевіч ... 30
Мюнхэнскі фэст ... 34
Трымайся, Алесь ... 37
Маё начальства. Кевін Клоўз ... 40
Зараза КДБ ... 45
Такая любоў ... 47
Табурэтка для Свабоды. Пятніца, 29 ліпеня 2016 ... 51
Ровар ад Свабоды ... 57
Маё начальства. Джэфры Трымбл ... 60
Больш чым радыё ... 63
Анёлы Быкава ... 66
Як вам дапамагчы ... 69
Чэскія беларусісты ... 71
Няхуткая дапамога ... 74
Кангрэс думае пра Беларусь ... 77
Прывітаньне ад Рэйгана. Пятніца, 30 красавіка 2021 ... 79
Пятніца, 15 ліпеня 2022. 19:00 ... 81
Нашыя бюро: 1, 2, 3, 4 ... 84
Агностыка па-беларуску ... 88
Панарама эпіграмаў ... 92
*Nobel* і *Google* ... 94
Узяць тэлеграф ... 96
Дырэктар і яго месца ... 102
Прачуханка па-прэзыдэнцку ... 105
Маё начальства. Том Дайн ... 107
Хто сьмяецца апошні ... 109

Маё начальства. Мішэль Дубак ....................................................112
Палянэз для Афганістану ................................................................114
Маё начальства. Джэфры Гедмін ................................................ 123
Рэдактура галоўнага ...................................................................... 127
Чужыя нарады .................................................................................. 130
Маё начальства. Том Кент .............................................................. 132
Пятніца, 15 ліпеня 2022. 00:01–22:25 ........................................ 134
Уладзя, Віталь, Юрась, Валодзя, Анатоль, Вольга ...................... 140
Маё начальства. Нэнад Пэіч ..........................................................147
Раяль на галаву ................................................................................149
Швайцарская спакуса ....................................................................151
Маё начальства. Стывэн Корн .......................................................153
Душнае лета 2021 ........................................................................... 155
Зорна-паласаты сьцяг. Пятніца, 16 ліпеня 2021 ......................... 158
Маё начальства. Перадапошні-апошні прэзыдэнт .................... 160
Пераклад з кітайскай .....................................................................163
Занадта добра .................................................................................. 166
Жнівеньскі выбар ...........................................................................170
Доўгая тэлеграма. Гісторыя ..........................................................174
Доўгая тэлеграма. Перадгісторыя ................................................176
Доўгая тэлеграма. Філязофія ....................................................... 177
Доўгая тэлеграма. Выклікі ...........................................................178
Доўгая тэлеграма. Будучыня ........................................................181
Тэлеграмы не гараць ...................................................................... 184
Ніякіх «віцэ» .....................................................................................185
Катлета па-кіеўску .........................................................................189
Расчляненьне трупаў ..................................................................... 192
Сэкс па-аўстралійску ..................................................................... 195
Ці звольніў бы я сябе сам .............................................................. 196
Магло быць горш ........................................................................... 200
Праблема сьцяны ........................................................................... 202
Што сказаў Фрэнсіс Фукуяма ....................................................... 206
Сьвятло Гершмана. Пятніца, 24 сьнежня 2010 ............................ 207
Імёны салідарнасьці. Пятніца, 31 сьнежня 2010 .........................213
Ода галоўнаму бухгальтару ..........................................................216
Лацінская восень ............................................................................218
Памяці Джойса. Пятніца, 16 верасьня 2022 ................................ 221
Вызваленьне Алега. Пятніца, 16 верасьня 2022 ......................... 223

Дыпляматычны ланч. Пятніца, 16 верасьня 2022 ..................... 226
Трыццаць сёмае імя ..................................................................... 227
Што сказаў бы Соза ...................................................................... 229
Бардак. Пятніца, 16 верасьня 2022 ................................................ 233
Марыянна. Пятніца, 16 верасьня 2022 .......................................... 235
Дыханьне кніг ............................................................................... 236
Жыцьцё з памылкамі ..................................................................... 238
Каралеўскі тарыф ......................................................................... 240
Пятніца, 15 ліпеня 2022. 18:00 ....................................................... 243
Пятніца, 15 ліпеня 2022. 14:00 ....................................................... 247
Найлепшая праца ......................................................................... 249
Маё начальства. Адамовіч, Брыль, Быкаў .................................... 251
Апошняя пятніца, 30 верасьня 2022 ............................................. 255

**ВАКОЛ СВАБОДЫ**

Свабода ці свабода ....................................................................... 263
Радыё ці мама .............................................................................. 264
Дзякуй ці *thank you* ...................................................................... 265
Уезд ці выезд ............................................................................... 266
Рай ці вырай ................................................................................. 267
Сьвет ці сусьвет ........................................................................... 268
Там ці тут .................................................................................... 269
Мала ці многа ............................................................................... 270
Гарэлка ці віскі ............................................................................ 271
Словы ці справы .......................................................................... 272
Камуністы ці артылерысты ......................................................... 273
Палітычна ці карэктна .................................................................. 274
Ты ці вы ........................................................................................ 275
Цынізм ці гуманізм ....................................................................... 276
Кут ці выйсьце ............................................................................... 277
Мастацтва ці мода ......................................................................... 278
Кашмар ці мара ............................................................................ 279
Калі ці як ...................................................................................... 280
Аўтар ці рэдактар .......................................................................... 281
Джунглі ці пустыня ....................................................................... 282
Пісаць ці чытаць ........................................................................... 283
Шляхі ці тупікі ............................................................................... 284
Сьлёзы ці ружы ............................................................................. 285

Факты ці фэйкі ... 286
Фэйкі ці факты ... 287
Ёсьць ці няма ... 288
Шыла ці мыла ... 289
Зубы ці вуха ... 290
Стратэгія ці культура ... 291
Арганізацыя ці пустата ... 292
Сюжэт ці бюджэт ... 293
Мінус ці плюс ... 294
Больш ці лепш ... 295
Каратэ ці бокс ... 296
Цэнзура ці цэзура ... 297
«Ці» ці «і» ... 298
Філязофія ці альхімія ... 299
Плакаць ці сьмяяцца ... 300
Сядзець ці ўставаць ... 301
Любіць ці ненавідзець ... 302
Джордж ці Барак ... 303
Зьнізу ці зьверху ... 304
Сусед ці сябар ... 306
Авацыя ці прастрацыя ... 307
Страшна ці самотна ... 308
Раман ці паэма ... 309
Паліто ці куртка ... 310
Мінула ці засталося ... 311
Маральнасьць ці ветлівасьць ... 312
Анэжка ці Эўфрасіньня ... 314
Эўфрасіньня ці Анэжка ... 316
Сьмех ці сьлёзы ... 318
Дагарэла ці сьвеціць ... 319
Страты ці падзякі ... 320
Кветкі ці дзяўчаты ... 321
Хлусіць ці маўчаць ... 322
Загадка ці адгадка ... 323
Золата ці брыльянты ... 324
Дасьціпна ці дарэчна ... 325
Размаўляць ці ігнараваць ... 326
Ігнараваць ці размаўляць ... 327

Акрэдытацыя ці прафанацыя ........................................................ 328
Вайна ці мір ........................................................................................ 329
Мяняцца ці трымацца ........................................................................ 330
Учора ці сёньня ...................................................................................331
Штучна ці слушна ..............................................................................333
Баяцца ці вызваляцца ........................................................................ 334
Забылі ці знайшлі ...............................................................................335
Блізка ці высока .................................................................................. 336
Звыш ці над ..........................................................................................337
Тутэйшыя ці госьці ............................................................................ 338
Час ці якасьць ...................................................................................... 339
Захад ці ўзыход ................................................................................... 340
Газ ці тормаз ........................................................................................ 341
Журналістыка ці жыцьцё ................................................................ 342
Кідаць ці працягваць ......................................................................... 343
Успамінаць ці памятаць .................................................................... 344
Ы ці я ..................................................................................................... 345
Гендэр ці аблічча ................................................................................. 346
Сіла ці слабасьць ................................................................................. 347
Чытаць ці перачытваць .................................................................... 348
Рэалізм ці магія ................................................................................... 349
Палон ці вызваленьне ........................................................................ 350
Верыць ці ведаць ................................................................................351
Было ці будзе ........................................................................................ 353
Мне ці не ............................................................................................... 354

**ПАСЬЛЯ СВАБОДЫ**

Сэлфі з усімі для аднаго ..................................................................... 357

Паказьнік асобаў ................................................................................. 359
Пра аўтара ............................................................................................ 369
Summary ............................................................................................... 370

